Янка Сіпакоў



# ТЫЯ, ШТО ІДУЦЬ

Кніга
прытчаў



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1993



# ПАЖАР

У апошні час тут жыў адзін толькі Хатнічак.

А кажуць, што хату забрала з сабою бабка Яснея. Прыйшла пасля смерці і забрала.

Дзіўна так...

Усё жалеза, якое было і ў хаце, і на панадворку, вызваліў агонь. Ад дрэва вызваліў — дрэва да гэтага моцна трымала яго ў сабе, каля сябе, пры сабе і змушала працаваць. І здавалася, што гэты прымус вечны: зломіцца ці то згніе ручка ў малатка — новую зробяць. А тут усё тое, за што браліся чалавечыя рукі, што грэлі чалавечыя далоні, што шліфавалі чалавечыя мазалі, згарэла, агаліўшы адно жалеза — вунь колькі гэтага дабра валяецца на папялішчы! Быццам толькі яно адно і было ў жывой хаце.

Лапата, удзяўбнутая ў зямлю, тырчыць — яна і сама ўжо не помніць, навошта яе ўдзяўбнулі, калі яе ўдзяўбнулі, так даўно гэта было,— а цаўя няма: згарэла, як і трава, што колькі ўжо гадоў у рост чалавека падымалася, зелянела, жоўкла і ссыхала на падворышчы.

Сякера ляжыць на попеле — тапарышча згарэла, калода, у якую яна была ўдзяўбнутая, згарэла, а тапор, загартаваны ў агні да чырвані, ляжыць сабе, як і ляжаў да гэтага, і толькі вецер лётае сюдытуды праз вызваленую адтуліну, чапляючыся за жалезны клін, які яшчэ гаспадаром быў убіты ў тапарышча — каб не звальвалася сякера.

Каса ляжыць на вілах — не верыцца, што яе некалі так паклалі. Хутчэй за ўсё яна вісела недзе ў падстрэшшы, а агонь яе скінуў долe. Каса ёсць, банька ёсць, а касільна няма.

Усё адкрыў агонь, усе сялянскія сакрэты і клопаты выдаў, паказаў. Вунь валяюцца чыгункі і каструлі, конаўкі і вёдры, тазы і місы. Лыжкі валяюцца, качэргі і чапёлы валяюцца, клямары, прабоі і крукі валяюцца. Лямпа карасінавая — даўняя-даўняя такая — ляжыць на баку. І цуглі, і падковы ляжаць (як усё роўна і коні тут пагарэлі), нават плуг знайшоў агонь у схованцы,— коней, як бачыце, даўно ўжо няма, а вось гэтыя спадарожнікі іхнія яшчэ беражэ руплівы двор.

А колькі цвікоў падаставаў з дрэва агонь — вунь яны, таксама напаленыя да чырвані, роўныя і пагнутыя, здаецца, поўзаюць па мокрым попеле — акурат дажджавыя чарвякі. Здаецца нават, што яны варушацца. Не, гэта, мусіць, дождж капае на іх і змушае шавяліцца... Які там дождж — зірніце, самі варушацца! Во сіла дык сіла ў агні: бывае, ніяк нельга дастаць нават адзін цвік — пакутуеш, пакутуеш, ґнеш, гнеш яго, а тады і кінеш,— а ён у адзін момант усе падаставаў: грудамі ляжаць цвікі на папялішчы.

Абручы ад бочкі ляжаць. Клёпкі згарэлі, а абручы ўсё яшчэ ўпэўнена дыбяцца, быццам і напраўду вераць: яны да гэтага часу трымаюць тое, што некалі было бочкаю і што так не хацелася ім выпускаць са сваіх абдымкаў — сціскаюць пустату, а думаюць, што яшчэ маюць сілу над клёпкамі.

У гэтай бочцы, калі надакучала сумаваць аднаму ў хаце, а на двары была непагадзь, любіў хавацца Хатнічак — ляжаў у ёй, свістаў сабе пад нос і плёў з травы нейкія нікому не патрэбныя рэчы...

Клямкі, ручкі, завесы. Дзвярэй няма, а яны як асыпаліся ля самага парога былога, так і ляжаць. І нават замкнёны замок валяецца каля нядаўняга ганка — нібыта ўсё яшчэ сцеражэ дзверы, якіх няма, нібыта і зараз нікога не пускае ў хату, якой таксама няма.

І печ таксама не згарэла, самотна стаіць на папялішчы — толькі высокі цыбаты комін, за якім хаваўся ад людзей Хатнічак,— зараз стала відно, як крыва ён быў складзены,— жаласна і самотна трубіць у хмарнае, мокрае неба.

Дзіўна, печ беленькая, чысценькая, нават не задымленая — што, хата і напраўду гарэла без дыму?

Хутчэй за ўсё без дыму. Бо так згарэць, калі дыміцца, нельга — усё выпалала да попелу і нават ніводнай галавешкі на папялішчы не засталося. А што тут дзіўнага — вясна да травы стаяла сухая, дык хата абветрылася і ўспыхнула, як свечка.

А навокал папялішча буяе трава — дзядоўнік і маліннік, крапіва і асот буяе. Усё навокал зелена, і толькі тры квадраты сярод гэтай зелянiны чорныя — там, дзе стаяла хата, хлеў і лазня. Ды яшчэ абгарэлы куст бэзу, што рос, канечне ж, пад акном, ды дзве абвугленыя яблыні, што стаялі пры самай хаце,— на іх любіў гутацца Хатнічак: зачэпіцца нагамі за сук, павісне галавою ўніз і гутаецца.

Буяе, аж ірве зямлю трава, нібыта ёй не церпіцца хутчэй схаваць у зелянiне гэтыя чорныя плямы. Яна такая высокая, што засланіла сабою нават рослыя касацікі — жоўтыя і белыя кветкі. Здаецца, неўзабаве яе хопіць, каб схаваць нават сам даўгашыі комін.

І вось зацягне перастлелую зямлю трава; завянуць і выраджацца вяргіні, якія зараз цвітуць у былым гародчыку, нібыта сіляцца пазначыць, паказаць некаму, дзе стаяла хата; разбурацца ад дажджу і ветру, аплывуць грудаю гліны комін, печ, і тады ніхто, калі не быў раней, не пазнае, не здагадаецца, што тут калісьці радавалася сяліба.

Нават дзве катавіны — дзве каляіны ад колаў — зарастуць, зацягнуцца травою, і па іх не праляскочуць ніводныя калёсы...

Кажуць, што хату забрала з сабою бабка Яснея.

Яе святліца была апошнім жылым домам у некалі гаманкой і люднай вёсцы. Усе хаты — адны раней, другія пазней — паўміралі, бо нейкія нягоднікі прызналі іхнюю найпрыгажэйшую вёску неперспектыўнай. Бабка Яснея бачыла, як паміралі ці з'язджалі адсюль людзі, як паміралі, абвальваліся стрэхамі хаты — і тыя, што былі побач, у суседзях, і тыя, што стаялі далёка, на самых прыканцах вуліцы.

Неўзабаве яны засталіся толькі ўдзвюх: бабка Яснея і яе хата. І гаравалі ўдзвюх, калі цяжка і невыносна маркотна было восенню і зімою, і радаваліся, святлелі душою, калі на вясну большаў дзень, калі ўспаміналі, як яны абедзве былі маладыя і калі ў іх усё было, як у людзей: у хаце шчабяталі, смяяліся дзеці, каля хаты цвілі касацікі ды вяргіні, а на падворку кляпаў касу ці сек дровы таксама яшчэ малады гаспадар. Потым дзеці павырасталі, параз'ехаліся па свеце, а гаспадара, дзеда Шэраша, забралі ў вар'яцкі дом — ужо колькі гадоў дзед жыве там, даказвае ўсім, што ён плуг, і лаецца з кожным, хто не верыць у гэта. Бабка Яснея, пакуль была жывая, ездзіла да яго, вазіла яму са сваіх градаў гуркі і яйкі з-пад сваіх нясушак, хоць дзед і не пазнаваў яе і лаяўся, як і на ўсіх — мауляў, чаго гэтая сучка прыехала, што, і ёй спатрэбіўся плуг? — напраўду злаваўся, уцякаў ад яе, хаваўся.

Не доўга пасля смерці бабкі Яснеі хата пабыла адна. І сама яна сумілася без гаспадыні і ўсё прасіла забраць яе з сабою, ды і бабка Яснея, пэўна, мучылася там без свае гаротніцы — ні параіцца з кім, ні пагаварыць. Прыйшла аднойчы апоўначы і забрала хату з сабою — згарэла яна дашчэнту і так хутка, што нават у суседніх, жывых яшчэ вёсках ніхто не паспеў убачыць пажару.

Але ж падпаліць хату мог нехта і іншы.

Справа ў тым, што не адна бабка Яснея пасля таго, як забралі ў горад дзеда Шэраша, жыла ў хаце. Жыў яшчэ непрыкметна маленькі, нязграбны і зусім невідомы чалавечак, які быў на адзін твар з гаспадаром — як дзве кроплі вады падобны на яго. Але бабка Яснея, якая бажылася, што бачыла яго, казала, што ён падобны не на яе Шэраша, а на механошу з суседняга млына — такі ж белы, як абсыпаны ўсё роўна мукою. Спаў сабе Хатнічак, як цвыркун, за печчу і асабліва на вочы не паказваўся. А памагаць — памагаў. Чым мог і як толькі мог, памагаў — добрая такая душа ў яго была. А памерла бабка Яснея, і памагаць не стала каму. Праўда, пакуль што памагаў курам, якія асталіся (маніў іх: «села-села-села», і яны садзіліся); катам, якія асталіся (клікаў есці: «кыці-кыці-кыці», і тыя ішлі да яго), але ці намнога хапіла тых курэй і катоў, каб жыць ім адным без гаспадыні?

Вось тады і засуміўся Хатнічак.

Шабуршыць там за печчу, шабуршыць, потым выбежыць, па хаце і ўдзень паходзіць. Чаго ж хавацца, нікога няма, ніхто не

ўбачыць: пуста ў хаце, ціха ў ёй да жудасці. Тады ён з хаты выскачыць — ці праз акно зачыненае, ці праз дзверы замкнёныя. Патупае па падворку, а пасля далонню па сваёй белай няголенай шчэці на шчацэ правядзе, кепку сваю насуне аж на самыя вочы, узбярэцца на куст бэзу, што якраз пад акном расце, пагушкаецца, пагушкаецца на галінках, пасля на яблыню, што таксама ля хаты, пераскочыць, а з яе на суседнюю пераляціць. Вісіць, як кажан, галавою ўніз і думае, і ўспамінае.

Мінуўшчыну ўспамінае.

Успамінае, як гаспадары, калі пабудавалі гэтую новую хату, пераманьвалі яго сюды са старой — спадабаўся ім свой Хатнічак, які так памагаў у гаспадарцы. Чаго толькі яны не рабілі — і хлеб яму пакідалі, і малако ставілі, і латушку з куляшом падсоўвалі, і нават самагонкі гаспадар неяк наліў быў у конаўку, з якой, як ім здавалася, п'е Хатнічак.

І ён згадзіўся, перайшоў у новую хату.

Памагаў карове, лячыў каня, з дзяцей выганяў лякі. А колькі яму давялося паваяваць з Лазеннікам, пакуль, нарэшце, не выгнаў ён гэтага нягодніка з лазні. А то, ці бачылі вы яго, сядзіць на палку і то каменне пачне з печкі скідваць, то венік украдзе, то вадою гарачаю апырскае гаспадара ці малых дзяцей. А то ляшча ўліе голай бабе. Прагнаў ён Лазенніка тады не толькі з лазні, але нават і з вёскі прагнаў. Гаспадары яго пасля гэтага ласкава Дабрахотам, Дабражылам, Суседам, а то і Лагоднікам называць пачалі.

А цяпер во і ваяваць няма з кім. І памагаць няма каму. Не толькі ў хаце, але і ва ўсёй вёсцы, ва ўсёй акрузе няма ані чалавека. Каму ён патрэбен?

Чаго ў суме не наробіш! Кажуць, што Хатнічак з адзіноты нават запіў быў — бачылі, колькі на печы, за комінам, шкла панатрушчана — усё з бутэлек ад «Пшанічнай», «Маскоўскай» ды і ад віна нейкага недарагога.

Нап'ецца, а тады звесіцца з яблыні галавою ўніз, мумліць якую травіну ў бяззубым роце, а сам плача-плача горкімі слязамі.

Хадзіў ён хадзіў, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні шырокіх сваіх штаноў, па сядзібе, тупаў, тупаў без справы і сэнсу, паспрабаваў выкаціць з халоднай печы жарыну, а тады плюнуў на ўсё, узяў з прыкомінка карабок запалак, што засталіся пасля гаспадыні, чыркнуў адну і кінуў яе пад занавескі.

Ці паспеў хоць сам выскачыць? Ці, можа, згарэў? Не, Хатнікі, мусіць, не гараць. Яны абарочваюцца ў каго-небудзь іншага — у сабаку, у кошку ці ў змяю.

А можа, ён вунь глядзіць жабаю з-пад вялікага куста іван-чаю, які немаведама як з'явіўся і ярка зацвіў на папялішчы?

Але ўсё гэта, канечне, прыдумкі. Тыя, хто не верыць ні ў нячысцікаў, ні ў вурдалакаў, ні ў хатнікаў, смяюцца з такіх прыхамацяў. А Шэрашавы дзеці, дык тыя нават сцвярджаюць, што падпаліў хату бацька — уцёк з вар'яцкага дому, прыйшоў на сваю сялібу і чыркнуў запалкаю... Непадалёку, на грушыне, яны, кажуць, знайшлі нават

яго торбу, дзе было паўкаравая хлеба і ладны, надкушаны кавалак сала.

А іншыя смяюцца і з гэтага. Кажуць, што пажар зрабілі Шэрашавы дзеці: яны самі падпалілі бацькоўскую хату, каб атрымаць за яе страхоўку.

Нездарма ж усе апошнія гады дзед Шэраш, нягледзячы на сваё бяспамяцтва, рэгулярна, акуратна плаціў грошы за страхаванне хаты — ён і ў вар'яцкім доме ніводнага разу не забыўся пра гэта...



# КЛЕТКА

Кожнай сваёй клетачкаю ён адчуваў, якая цесная вязніца. У ёй нельга было павярнуцца — заржавелыя вярыгі, моцныя жалезныя пруты, быццам яны толькі і чакалі самага нязначнага руху, балюча ўпіваліся ў голае цела, круцілі, рэзалі цяглiцы, сціскалі рукі — здавалася, што клетка тады яшчэ болей меншала. Хацелася закрычаць ад безвыходнасці, завыць ад бездапаможнасці, але ён разумеў, што гэта не выратуе — Той, Хто Усё Бачыць, ніколі не даруе яму і адно толькі будзе радавацца, што вінаватаму так балюча, кепска і адчайна.

Што ж, парушыў законы свайго роду — цярпі. Ці не цябе гэта папярэджвалі: «Каханне ў нас забаронена»? Ці не цябе гэта перасцерагалі: «Не пажадай жонкі бліжняга»? Ці не табе цярпліва тлумачылі: «Нам не трэба дзяцей»? А ты, не слухаючы ірадаў, адмахваўся ад іхніх перасцярог і думаў, што ўсё абыдзецца, што цябе міне тое, што не мінала іншых.

І вось — клетка...

Гэта ж добра яшчэ, што яе паставілі вось тут, на гары, а маглі б, як іншыя, скінуць у прадонне ці затапіць у вадзе — колькі такіх, парожніх ужо, клетак валяецца зараз у прадоннях ці ржавее на дне азёр: чарвякі, драпежныя рыбы павыядалі лантухі, галодныя звяры лапамі нецярпліва падаставалі па кавалку тое, што было ў клетках, а косці, якія заставаліся пасля рыб і чарвякоў, пакрысе павымывалі хвалі, павыдзьмувалі вятры.

Дзіўна, такія пакуты трывае чалавек з-за гэтага кахання, а клетак у прадоннях і на дне азёр не меншае. Ён і сам бы, мусіць, каб давялося паўтараць жыццё, паўтарыў бы ўсё зноў, хоць ужо і ведаў бы, якія невыносна цяжкія для здаровага мужчыны вось гэтыя бездапаможнасць і цеснata клеткі.

А дзе ж, на якой гары стаіць яе вязніца, бо ён не сумняваўся, быў перакананы, што каханую пакаралі таксама — Той, Хто Усё Бачыць, жанчын ненавідзіць яшчэ больш, чым мужчын. А каго, што ён любіць? Відаць, толькі сваю ўладу над усімі людзьмі іхняга роду, ад якой сам аж п'янее.

Ён не ведаў, дзе паставілі клетку з яго любаю, але інстынкт падказваў яму, што яна недзе вунь у тым баку — там, дзе ўзыхо-

дзіць сонца: за дрымучымі лясамі, за багністымі балотамі, за глыбокімі цяснінамі. Дайсці туды не дойдзеш, туды можна толькі даляцець.

Дзе ўзяць яму крылы?!

І ён з журбою ўгледзеўся ў той бок, дзе была, як яму здавалася, Любча.

Дзьмуў халодны вецер — на вяршынях яны заўсёды халодныя і пранізлівыя; гэта ў лагчынах вятры бываюць цёплыя і ласкавыя, і як радасна там, калі яны дакранаюцца пяшчотнаю хваляю да разгарачанага твару.

Ён адчуваў, што пачынае стыць і сінець на гэтым сіберным ветры. І раптам вецер здаўся яму зусім цёплым, нават пяшчотным — ён дзьмуў, падалося, якраз з таго боку, дзе стаяла клетка з каханаю, і яму прымроілася, што наяве чуе панадны, неадольны, як мускус ці амбра, пах яе валасоў — такі забыты і такі жаданы. Ноздры яго па-звярынаму расшырыліся, ён прагна хапаў імі гэты вяршынны вецер і радаваўся яму.

Нібыта і напраўду ўбачыў Каханую: яе замутнелыя ад ласкі вочы; яе вільготныя, пульхныя, растуленыя для пацалунка вусны, яе найпрыгажэйшыя ў свеце грудочкі, якія так даверліва, так ласкава, як птушаняткі, торкаліся сваімі дзюбачкамі насустрач яго далоням...

Ён і зараз хацеў да яе.

Як выйсці з гэтай ненавіснай клеткі, каб увесь той цуд, які дакрануўся яго толькі аднойчы, паўтарыўся зноў?! Ён згодзен потым вярнуцца сюды, у гэтую клетку, назаўсёды, адно толькі б яшчэ раз адчуць, як знікае свет, а сам ты правальваешся некуды, перастаеш існаваць, і ад цябе застаецца толькі нейкае невыразнае ружовае воблака шчасця і насалоды, воблака забыцця. Цікава, куды, знікшы, дзяваецца на тую хвілю чалавек?

Зразумеўшы, што пазнаны цуд для яго ніколі ўжо не паўторыцца, што з клеткі яму не выйсці, ён і напраўду завыў па-ваўчынаму і ўсім сваім целам абсунуўся на жалезныя пруты — наколькі яны дазвалялі абсунуцца.

І раптам аж падскочыў ад нейкай яшчэ неўсвядомленай радасці: нага яго намацала нешта халоднае і круглае — пад падэшваю была гайка!

Канечне, радасць была дачаснай — што там значыць адна звычайная гайка ў гэтай рупліва выштукаванай вязніцы, але ўсё ж яна давала хоць нейкую невялікую надзею. Гэта ж як у тым красвордзе — часам бывае дастаткова адгадаць адно слова, каб лёгка затым разблытаць увесь красворд. Лёгкасці ў яго, ён разумеў, не будзе, але ўсё ж учапіўся і за такую надзею. Самае галоўнае зараз парушыць моц, стабільнасць клеткі, расхістаць яе ўстойлівасць. А пасля яна і сама пачне развальвацца: хутчэй за ўсё гэтаю гайкаю клетка якраз прыкручана да скалы.

Ён паспрабаваў яшчэ ніжэй, чым толькі што, абсунуцца ў клетцы, каб дастаць да гайкі рукамі, але не змог — клетка, нібы сарочка, была скляпаная якраз на яго цела, на яго памер, ад рухаў яна,

здавалася, стала яшчэ цяснейшай, сціскала яшчэ мацней. Абдзіраючы аб пруты рукі, ён спрабаваў усё ж дацягнуцца да гайкі, але, калі ўбачыў, што гэта не атрымаецца, бездапаможна апусціў галаву і сцішыўся.

Нага ўсё яшчэ трымала пад сабою гайку, нібыта баялася, што згубіць яе і тады не знойдзе наноў, ці то, накрываючы, хавала ад іншых — каб ніхто не змог адабраць.

Ад хвалявання пальцы спацелі, гайка нагрэлася, і яна ўжо зараз не так халадзіла нагу.

І раптам вялікі палец на назе міжволі, сам па сабе, намацаўшы рубежык на гайцы, пачаў тоўхаць у яго — спачатку паволі, а потым усё мацней і мацней. Але гайка не паддавалася, не адкручвалася,— скрануць яе з месца было немагчыма.

Тады ён абхапіў мутэрка двума вялікімі пальцамі на нагах, заціснуў між імі жалеза як наймацней і паспрабаваў круціць наноў. Рабіць гэта яму было нязручна, але не вельмі цяжка, бо ён, удыхнуўшы напоўніцу паветра, мог павіснуць на рэбрах клеткі, зусім вызваліўшы для працы ногі.

Аднак гайка ўсё роўна не паддавалася.

Жалеза моцнае, але цярпенне і настойлівасць чалавечыя яшчэ мацнейшыя.

Зараз і час і прастора зніклі для яго. Вецер знік. Холад знік. Душа знікла. А можа, яна перакінулася ў гайку, бо менавіта ў гайцы зараз засяродзілася для яго ўсё — і час, і прастора, і душа.

Ніхто не ведае, колькі ён працаваў — некалькі дзён ці некалькі стагоддзяў,— ды хто ж будзе ведаць, калі ён сам гэтага не разумеў і не помніў.

І нарэшце не вытрымала жалеза — гайка скранулася з месца. Ад радасці ён, не выпускаючы гайку з пальцаў, пачаў круціцца з ёю ў клетцы, не адчуваючы, не звяртаючы ўвагі на тое, як да крыві раздзіраюць яго цела жалезныя пруты.

Працаваў ён, як кажуць, знімагі, але праца пасоўвалася вельмі марудна.

І ўжо, калі амаль адкруціў гайку, калі ўжо заставалася зусім мала, каб яна саскочыла са шруба і пакацілася па падлозе клеткі, ён раптам адчуў, што пальцы чамусьці саслізгваюць з гайкі. Угнуўшы галаву — наколькі дазволіла цесната,— зірнуў на свае ногі і жахнуўся: увачавідкі яго пальцы пакрываліся рагавіцаю, ператвараліся ў шурпатыя, нязграбныя кіпцюры, а ногі ўсё танелі і танелі, спадабляючыся птушыным.

О, вар'ят, ты і напраўду паверыў, што Той, Хто Усё Бачыць, дазволіць табе вызваліцца з клеткі?!

Кіпцюры слізгалі па гайцы, і зараз ужо і думаць было недарэчна, што імі нешта можна адкруціць.

Але ж у яго ёсць рукі! Ён паспрабаваў падняць іх угору, аднак гэта яму не ўдалося. Тады Пакараны, выкручваючы далоні, ухапіўся абедзвюма рукамі за пруты вязніцы, сціснуў іх, ды так моцна, што

аж пабялелі пальцы, і пачаў расхістваць клетку ў бакі. Але яна стаяла моцна — нават і не думала скранацца з месца.

І зноў жа прайшло невядома колькі часу — можа, гады, і можа, стагоддзі.

Устойлівасць і напраўду моцная, але настойлівасць, канечне ж, мацнейшая за яе: клетка нарэшце захісталася — спачатку ціха, паволі, ледзь заўважна, і пасля ўсё шырэй і шырэй. Неўзабаве яна ўжо была ў такой вібрацыі, што, здавалася, нават ён сам, каб і захацеў, не змог бы нічога змяніць. Гайку, аказваецца, ён адкруціў да канца, і толькі не хапіла маленькага руху, каб яна скацілася са шруба. Зараз мутэрка звалілася доле, выкацілася з клеткі, заскакала па камянях і паляцела ў прадонне.

Ён апантана, нібы мядзведзь у звярынцы, трос і хістаў клетку. Яна рыпела, скрыгатала, вібрыравала, пакуль нарэшце не грымнулася вобземлю — на другі бок ад прадоння — рэха, здаецца, пакацілася па ўсім наваколлі, пераскокваючы з вяршыні на вяршыню.

Ён быў упэўнены, што гэтае рэха пачула і Яна.

Клетка ляжала на баку. І ў ёй нязручна ляжаў ён сам — так яму было яшчэ горай, чым стаяць.

Пакараны паспрабаваў вызваліць рукі, каб лаўчэй узяцца за пруты, паспрабаваў паварушыць імі і не змог — замест рук у яго бездапаможна матляліся ля плячэй маленькія, як кульцяпкі, крылы — голенькія і неапераныя, нібы ў птушанятка, якое толькі што вылупілася з яйка.

Той, Хто Усё Бачыць, адабраў у яго і рукі.

Але крылы раслі. Яны ўсё большалі і большалі, запаўняючы сабою ўсю прастору, якая яшчэ аставалася каля яго. У клетцы зрабілася зусім цесна — немагчыма было нават дыхаць, нібыта крылы якраз і раслі для таго, каб толькі задушыць яго.

Ён ляжаў на баку, і адно крыло было якраз пад ім: яно расло, нібы знарок сцелючыся пад яго, каб яму не было мулка ляжаць на жалезных прутах. Другое нібы накрывала зверху.

Паступова ён пачаў выпростваць верхняе крыло. Гэта было цяжка — пер'е чаплялася за пруты, тапырылася, камячылася, але ўсё ж удалося прасунуць кончык крыла паміж прутамі. Хоць яму і балела каля пляча, там, адкуль расло гэтае новае дзіва, ён усё ж не спяшаючыся,патроху высоўваў крыло за клетку — усё далей і далей. Пер'е трашчала, выскубалася, падала на скалы і, падхопленае ветрам, кружыла над цяснінамі. Але ён не звяртаў на гэта ніякай увагі: ёсць такая магчымасць, няхай хоць адно крыло пабудзе на волі!

Калі ён высунуў усё крыло за клетку і сам, каб нішто не замінала яму, аж прыціснуўся плячом да прутоў, здзівіўся, убачыўшы, якое яно вялікае. Паспрабаваў узмахнуць ім і ўзрадаваўся: крыло было тугое і моцнае, кожны яго ўзмах аж падымаў клетку. Тады ён пачаў ім, як веерам, махаць часцей, падграбаючы пад пер'е больш паветра. Ён памагаў крылу ўсім целам, і нарэшце яго намаганні падаравалі радасць — клетка, пагрукаўшы прутамі аб каменне, усё-такі ўзнялася і стала на сваю ж аснову — як і стаяла да гэтага.

Дык чаму радавацца? Ён усяго толькі вярнуўся да таго, з чаго пачынаў: на скале стаіць моцная клетка, а ў гэтай клетцы закратаваны ён.

Але ж зараз ён ужо мае крылы!

Другое крыло вызваліў і прасунуў між прутамі клеткі хутчэй і прасцей — вопыт, хоць і горкі, быў зараз яго памочнікам і дарадцаю.

Узмахнуў абодвума крыламі — якой цацачнаю здалася між імі клетка! — і адчуў, што вось зараз паляціць. І нават паверыў у гэта, і ўзрадаваўся гэтаму — нейкая пяшчотная-пяшчотная хваля нібы пагладзіла сэрца,— але тут жа засмуціўся, успомніўшы Таго, Хто Усё Бачыць: наіўны, хіба ён дазволіць табе паляцець?!

Хоць і сам Пакараны не з тых, хто баіцца ківу, аднак усё ж разумеў, што з могучамі змагацца марна. Тым больш чакаць ад іх спагады.

Валадар жа, здавалася, быў абыякавы да яго — нібыта і не сачыў за ім, нібыта ўжо даў вінаватаму волю: рабі што хочаш.

І ўсё ж закуты, глыбока ўдыхнуўшы паветра, вольна і шырока ўзмахнуў крыламі. Клетка заскрыгатала, але не адарвалася пакуль што ад камення: з другога боку яна была моцна прыкута да скалы. Пакараны сабраў усе свае астатнія сілы — верхнія пруты ўрэзаліся яму ў плечы — замахаў крыламі мацней, настойлівей.

Паветра спрасаваў тонкі, трывожны і жудаваты гук — так звычайна звініць напятая струна перад тым, як парвацца.

Унізе нешта зарыпела, затрашчала, загрымела, і ён сам не заўважыў, як апынуўся ў небе.

Клетка адарвалася разам з кавалкам скалы, і з яе зараз сыпалася, атрасалася ў прадонне каменне, цвікі, выдраны з жывым цэмент, ашчэпкі дошак, гайкі і шрубы.

Ён ляцеў над непраходнымі лясамі, ён спяшаўся над непралазнымі балотамі, ён лунаў над змрочнымі цяснінамі, і яму здавалася, што сэрца разарвецца ад гэтай радасці, ад гэтай волі, ад гэтага палёту: неўзабаве ён убачыць Яе.

Ну і што, што яна ў клетцы таксама, ну і што, што яны не змогуць быць разам — хіба можна аб'яднаць у адну дзве асобныя клеткі?! Затое ён будзе неўзабаве бачыць яе, чуць яе голас, дакранацца да яе...

Злітасціўся над ім усё ж Той, Хто Усё Бачыць, зразумеў, мусіць, што ніякай яго віны няма: якая ж, ці чуеце, віна — кахаць? Гэта ж тое самае, што і проста дыхаць паветрам, проста жыць.

Ляцець доўга, але калі ляціш з радасцю і надзеяй, гэта заўсёды коратка.

Кахаць у клетцы, магчыма, насалода, калі сустрэча толькі мроіцца, але яшчэ большая насалода, калі яна ўжо, як ява, зусім блізка.

Колькі ён ляцеў, ніхто не ведае — можа, дзень, а можа, зноў жа стагоддзе.

Але нарэшце ён убачыў такую ж, як і яго, скалу, а на ёй цёмную кропку. І душою адчуў, што гэта яна, яго каханая. Стомленыя

крылы зноў падужэлі, замахалі мацней, нецярплівей, настойліва махалі ад таго часу, пакуль нарэшце не паставілі сваю клетку побач з клеткаю каханай.

Яна спалохалася. Адхінулася, наколькі можна было, ад пярэдніх прутоў і вачыма, поўнымі жаху, глядзела на яго.

— Любча, не пазнаеш? То ж я, Сінявок,— спрабаваў ён сказаць каханай, але яна як усё роўна не чула яго і тымі ж спалоханымі вачыма пазірала ў клетку.

Яму здалося, што Каханая штосьці спрабуе засланіць нагамі. Прыгледзеўся і ўбачыў, што засланяе яна дзіця, якое поўзае па падлозе клеткі.

— Любча! Гэта ж мой сын! — забулькатала ў яго ў горле, і ён прасунуў крыло ў іхнюю клетку, каб пагладзіць малое — колькі пяшчоты было зараз у Сінявока да іх абаіх. Але Каханая ў жаху ўціскалася ў пруты, каб гэтае крыло не дастала яе і сына.

— Дай лапушухны, сынок,— папрасіў ён.

Але яго і зараз ці то не пачулі, ці то не зразумелі.

Дзіця ж, мусіць, інстынктыўна працягнула ў яго бок ручаняты. І той жа час маці спалохана закрычала:

— Сынок, асцерагайся! Гэтая вялізная драпежная птушка задзярэ нас з табою!

Яна не пазнала яго.

— Я не птушка. Я Сінявок, твой Каханы,— зноў, спрабуючы ўсё растлумачыць, што ёсць сілы закрычаў ён, але Любча яшчэ ў большым жаху адхіснулася ад яго другога крыла, якім Сінявок хацеў пагладзіць яе.

Ён зірнуў на свае кіпці, зірнуў на свае крылы, убачыў сваю дзюбу і тады ўсё зразумеў: не, ён для яе проста птушка. Вялізная, невядомая і страшная птушка. І тое, што ён гаворыць да іх, яны таксама не разумеюць: птушынай мовы людзі не ведаюць, а чалавечая не атрымліваецца ў яго.

Дзіцячыя ручкі цягнуліся да травіны за клеткаю. Дык вось куды малое цягнулася! Не да яго, а да травы!

Дзіця дастала травіну, сарвала яе і панесла ў рот...

Сэрца сціснулася ад болю і жалю. Яго сын есць траву! О Божа! О Той, Хто Усё Бачыць! Не нада мною злітуйся, над бедным дзіцём злітуйся! За што яно пакутуе, дзіця, народжанае па каханні, ад кахання і для кахання?!

У расчуленні і замілаванасці ён крылом прыгнуў некалькі травінак да клеткі, але малое спалохана ўбрала ручку за пруты і само схавалася за матчыны ногі.

Ён адчуў, як знібее, трымціць і плача ад жалю сэрца. Божа мой! Яго баіцца роднае дзіця! Ён не можа памагчы роднаму сыну!

Яму захацелася тут жа паляцець, нарваць самай сакавітай травы, назбіраць самых спелых ягад, натрэсці дзікіх яблык і ўсё гэта прынесці малому і пакласці ў клетку. Але чым нарвеш? Чым назбіраеш? Крыламі? Кіпцямі? Як чым? Дзюбаю! Але навошта? Сыну нельга расці — удваіх у адной цеснай клетцы яны не памесцяцца.

Яго вынослівасць скінецца бядою.
Яго юнацтва знішчыць яго сталасць.
Яго здароўе задушыць і самога сябе, і маці таксама...
Ён спяшаўся ад вялікіх пакут, а прыляцеў на яшчэ большыя пакуты.

Зразумеў, што лепей было б стаяць там, на сваёй скале, і нічога не ведаць пра сына — проста марыць удалечыні пра Каханую, успамінаць пра яе цнатлівыя драбніцы,— чым вось так мучыцца, перажываць, бачачы яе спалох, і злавацца на сваю бездапаможнасць.

Пакуты, пакуты... Вечныя пакуты... Жыве чалавек у пакутах і памірае з імі ж.

І тут зусім побач нехта зарагатаў.

І тады Сінявок зразумеў, што гэта Той, Хто Усё Бачыць, асудзіў яго вось на такія, яшчэ большыя, садысцкія пакуты. Ці не ён гэта ўсё прыдумаў, бо навошта ж тады яшчэ, калі не для гэтых пакут, Valadar так лёгка дазволіў яму ўзляцець і пакінуць сваю зненавідную скалу, якая адсюль ужо бачыцца як паратунак: толькі б стаяць на ёй у клетцы і нікуды не ляцець.

Зараз ён яшчэ больш ненавідзеў Таго, Хто Усё Бачыць.

Закапаў дождж. Ён імкліва, туга, як парасон, з шумам і лопатам раскрыў адно крыло і беражна накрыў ім клетку з жонкаю і сынам — няхай прывыкаюць і да крыла, і да яго самога.

А сам задумаўся.

Калі ёсць пакуты, трэба, как было і выйсце з іх.

Калі ёсць тупік, трэба, каб і сцежка ад яго нарадзілася.

Птушка задумалася. Не зважаючы на дождж, які ліў як з вядра, мокрая і нашатыраная, бездапаможная і рашучая, яна думала...

Не будзем і мы замінаць ёй — няхай думае...



# СВОЙ УСЯМУ

Ён заўсёды з'яўляўся тут раніцаю і надвечар.

Шырокія, тугія крылы пругка гналі да зямлі восеньскае, мокрае і халоднае паветра, і ад яго, як ад вінта верталёта, прыгіналася не толькі трава, але і варушыліся апошнія, пажоўклыя ўжо, лісты на кустах і дрэвах.

Ён плаўна, не спяшаючыся, падымаючыся крыху вышэй, праляратаў над гэтаю адзінокаю хатаю, якая самотна стаяла між вялікіх плодных садоў, дзе надзіва бучна радзіла ўсё, што расло тут,— яблыні і слівы, вішні і грушы, маліна і ажына, парэчкі і агрэст.

І якое б сонца ні асвятляла яго крылы і вокны хаты — ранішняе, у якім столькі радасці і надзеі, ці вечаровае, у якім ужо адна толькі шчымлівасць і роздум,— яму заўсёды чамусьці было трывожна над хатаю, над гэтым дваром. Яшчэ здалёку ён неспакойна ўзіраўся ў абрысы хаты, намагаючыся адгадаць, што ж яшчэ знікла на гэтым пакуль што дагледжаным падворышчы.

Спачатку гэта была звычайная, дыхтоўная, як і ва ўсіх руплівых гаспадароў, хата. За яе моцна трымаліся сенцы, адрыны, хлявы, дрывотні — таксама дагледжаныя і клапатліва выштукаваныя.

Ён аднекуль ведаў, што ў хляве заўсёды рохкалі двое ці трое сальнікаў, у каморы стаяў цэлы лазбень мёду, за засланкаю ў печы — латушка з куляшом ці чыгунок з локшынамі — ужалелымі хатнімі макаронамі, а ля парога кожнага, хто заходзіў, чакалі конаўка з вадою і чысты, белы, крамяны ручнік-выціральнік.

Усё і зараз было тут дагледжана, у хаце нехта, мусіць, жыў, хоць бусел ніколі не бачыў нікога на двары, не заўважаў, каб над хатаю віўся калі дымок, каб нехта выходзіў з сянец, рупіўся на дрывотні, нёс ваду ці выганяў карову з хлява. Заўсёды тут было ціха, бязлюдна і дрымотна.

Але сцежкі ад хаты ішлі ва ўсе бакі — і да студні, і ў хлеў, і ў сад, і на сенажаць, дзе расла прыгожая, зялёная-зялёная атава. І што яшчэ большае дзіва — траву нехта касіў: бусел якраз і прылятаў увечары на тыя свежыя пракосы, каб павыбіраць з-пад іх папрытоеных, мокрых і халодных, жаб.

А пасля, неяк яшчэ на самым пачатку лета, убіўся сюды віхор — саду ён не зачапіў, яблыкі як налівалiся, так і засталіся налівацца,

а вецер прайшоўся адно па хлявах. Ён быў такі моцны, што садраў не толькі ўсю салому з хлявоў, але паскідаў з іх кроквы і латы, нават насцеленыя дошкі і жэрдкі, на якія звычайна ўскідваюць сена, што не ўлезла ў адрыну, пападымаў і паскідаў доле, на зямлю.

Убачыўшы назаўтра ўсё гэтае разбурэнне, бусел жахнуўся, што натварыў тут віхор. Але яго шчэ больш уразіла, што ў такім дагледжаным, ахайным хляве, аказваецца, нікога не было,— ён стаяў парожні і быў такі хутчэй за ўсё даўно.

З гэтага часу і пачаліся дзівоты.

Неўзабаве параскіданыя абы-як кроквы і латы зніклі — як усё роўна іх хто прыбраў. Не відно было і дошак, што ў першы дзень валяліся на траве.

А яшчэ праз нейкі час буслу, калі ён пралятаў над дваром, здалося, што хлеў быццам бы паменшаў — як усё роўна са зруба нехта зняў верхні вянец. Прыгледзеўшыся ўважлівей, пільней, убачыўшы мох, якім імшылі калісьці хлеў і які застаўся зараз на ніжніх, неразабраных і не скінутых са зруба бёрнах, ён начыста пераканаўся: хлеў напраўду разбіралі і разбіралі хутчэй за ўсё на дровы.

Але хто гэта рабіў, калі ніводнага чалавека паблізу бусел у апошні час не бачыў, і навошта, скажыце, каму спатрэбіліся тыя дровы, калі ніколі тут не палілася ў печы і ніколі не ішоў дым з коміна?

Хлеў увачавідкі знікаў — з кожным днём ён усё ніжэў і ніжэў, нібыта садзіўся,— той, хто яго разбураў, здымаў па бервяне, але рабіў гэта з вялікай настойлівасцю, штодзённа.

Калі ад хлява асталіся толькі вялізныя камяні, што ляжалі пад чатырма вугламі (хтосьці нават смецце — розныя там трэскі, абломкі, ашчэпкі, пляскатыя кавалкі моху — пападмёў), бусел ужо з нецярпеннем чакаў, што ж будзе далей.

Цяпер ужо, летучы над дваром, ён перш-наперш углядаўся ў адрыну — ці не пачата і яна? — але тая некалькі дзён трымалася, стаяла нечапаная. Аднак не доўга. Ужо не віхор, а нехта іншы паскідаў з яе салому, зняў латы і кроквы — што ж, усё правільна: паколькі няма хлява, то не трэба і адрына — хто ж будзе есці тое сена, якое схавае, каб не замачыць на восеньскіх дажджах, пуня?

І ўжо калі ўсё той жа невідомы нехта паўбіраў салому і падмёў ля адрыны, калі зніклі першыя вянцы яе зруба, бусел з жахам зразумеў, што тая загадка, якая не давала яму спакою, праўдзівая: хата і праўда сама сябе есць!

Пачаўшы, як кажуць, з хваста, яна настойліва, няспынна зводзіць, нібы з'ядае бервяно за бервяном, вянец за вянцом, будыніну за будынінай. Той, хто не сочыць за дваром штодзённа, можа, нічога і не заўважыў бы, але ён бачыў усё. Яму толькі цікава было, як, калі справа дойдзе да самой хаты — няўжо дойдзе? — як тады яна будзе даставаць сама з сябе бярвенні і скідваць іх доле?

Адрына звялася нават хутчэй, чым хлеў, а дрывотня знікла сама па сабе — яе,па сутнасці,і не было, проста прастору паміж адрынаю і сенцамі накрылі шыферам, і гэта ўжо стала дрывотняю.

Нарэшце дайшла чарга і да сенцаў.

Здавалася б, знішчаць іх ужо будзе крыху цяжэй, чым есці адрыну і хлеў — хата ж і сенцы пад адною страхою,— але той, хто гэтым займаўся, перапілаваў латы паміж хатаю і сенцамі, роўненька зняў, як адрэзаў, свежую, жоўценькую, здаецца, толькі што пакладзеную салому і пачаў скідваць бервяно за бервяном.

Калі зніклі апошнія бёрны, вельмі ж ужо сіратліва, няўтульна і недарэчна стала вёдрам і каструлям, цабэркам і місам, квартам і конаўкам, якія стаялі ў сенцах — і на лавах, уздоўж сцен, і проста так, на падлозе. Іх, як нябожчыкаў, хутчэй хацелася хоць нечым прыкрыць, бо глядзець на іх, бездапаможных, было вельмі ж ужо балюча.

Няўтульна без сянец пачувалася і самой хаце.

Зараз бусел, пралятаючы над сядзібаю, з жахам чакаў, калі знікнуць першыя бярвенні з хаты. Але яны пакуль што не знікалі — хата стаяла ціхая і спакойная, нібыта ўсяго гэтага наслання каля яе і не было. І калі б вочы не мулялі рэшткі разбурэння, можна было б падумаць, што гэта бусел выдумаў ці такое, можа, яму проста прымроілася.

Аднак хата, што ні кажы, стаяла зараз адна — адкрытая ўсім вятрам, гаротная і безабаронная. Ніхто яе не чапаў, ніхто ля яе не азываўся.

Праўда, новыя пракосы на поплаве з'яўляліся, як і раней,— штодзённа, упарта і несупынна. Яму ўжо нават здавалася, што гэта нехта знарок косіць сенажаць для яго, каб яму было лягчэй лавіць жаб.

І гэтую раніцу хата была яшчэ цэлаю, нечапанаю. Ён, амаль не махаючы крыллем, зрабіў шырокі круг над ёю, спланіраваў на падворак, пахадзіў па ім. Памахаў, нібы размінаючыся, крыламі, якія ў ранішнім святле здаваліся то ружовымі, то блакітнымі, то залачонымі — так іграла ранішняе сонца. Потым спыніўся, склаў крылы, знерухомеў і задумаўся...

Сцепануўся ён нібы ад холаду і пацёр рука аб руку. Сказаў сабе: «Глядзі ты, якая раніца ядраная»,— і пачаў абуваць ссохлыя чаравікі — нічога, у ранішняй расе адыдуць, стануць мяккімі, не намуляюць ногі.

Зняў з цвічка на сцяне, якая была ў колішніх сенцах, пілу з дзвюма ручкамі, з нацягнутаю зверху іх вяровачкаю,— каб не гнулася, каб ёю можна было рэзаць аднаму,— скаціў з хаты першае бервяно, парэзаў яго, пакалоў тут жа, у былых сенцах, і, набраўшы бярэма дроў, пайшоў у хату. Запаліў у печы — пацягнула прыемным дымком і смажаным салам: дзед Цыпрук Бусел ужо смажыў сабе на сняданне яечню.

Праз нейкі час ён зноў выйшаў на двор, пакляпаў касу, тужэй перавязаў на ёй палец, каб не соўгаўся па кассю, і пайшоў на поплаў касіць — кожны вечар да яго ў агарод прылятае нейкі бусел і доўга шукае ў пракосах жаб.

Стаяла позняя восень. Ішоў дождж, было холадна і няўтульна.

Раптам у захмараным небе ён пачуў журботны жураўліны крык. Бусел падняў галаву, угледзеўся, услухаўся ў неба.

Ён убачыў птушак — яны ляцелі пад самымі хмарамі.

Яны трубілі — нібыта клікалі і яго ў дарогу.

Але ён раптам зразумеў, што сёлета з птушкамі нікуды не паляціць.

І яшчэ Бусел, здаецца, толькі вось зараз зразумеў, што гэта ён сам раніцою косіць траву, каб увечары шукаць жаб у сваіх пракосах.

Птушкі, якія ляцелі ў вырай, былі пералётныя, як кажуць, транзітныя.

Ён жа быў мясцовы, тутэйшы, свой гэтым кустам і лугам.

Усё яшчэ гледзячы на жураўлёў, ён раптам страпянуўся, шырока ўзмахнуў крыламі — тыя адно ўдарылі па пракосах, начапляўшы на сябе травы,— узняўся высока ў неба, дагнаў птушак, правёў іх за небакрай, а потым пакрысе адстаў ад выраю, павярнуўся і стомлена паляцеў назад — Бусел вяртаўся на свае паплавы... Да свае хаты.

Апошні Бусел вяртаўся да апошняй хаты.



# ЯШЧЭ Ў СТАТКУ

Яна сказала яму:

— Эй, смаркаты, хадзі са мною за камень.

Ён не быў смаркаты і таму не пакрыўдзіўся на яе за гэта.

Сонцапас — прыгожы, стройны, па-мужчынску добра складзены юнак, але ёй чамусьці падабалася называць яго смаркатым. У яго, здавалася, не было ніякай заганы, апрача адной — хлопец быў вельмі задумлівы, можа, нават задумлівей за ўсіх астатніх юнакоў і дзяўчат са свайго статка.

Яго называлі Сонцапасам, бо ён і сустракаў сонца, калі яно ўзыходзіла, і праводзіў яго ўвечары, калі чырвоны, вялікі і крыху страшнаваты ўжо шар стаяў у канцы зямлі — дзіўна, раніцою ён ніколі не быў такі страшны, а, наадварот, выклікаў пяшчоту і спадзяванне, абуджаў надзею на штосьці светлае-светлае, чыстае-чыстае.

А тут, пры заходзе, наводзіў жуд — ці ўзыдзе сонца назаўтра?

Узыход і захад люстраваліся ў ягоных вачах — вочы радаваліся, як нараджалася сонца, і заўсёды смуткавалі, калі яно памірала на ноч.

Значыць, яго звалі Сонцапасам, аднак яго можна было з такой жа самай падставаю зваць і Дрэвапасам, і Травапасам, і Каменепасам — вельмі часта яго, як роўнага, як свайго, бачылі ў гурце дрэў, заспявалі ў ласках з травою, лавілі за шчырымі, усхваляванымі размовамі з камянямі. Ён любіў усё, што было вакол яго, усё тое, што зараз мы завём жывою прыродаю, цешыўся дружбаю з дрэвамі, травінамі, камянямі...

І толькі адзін камень ён ненавідзеў.

Колькі вадзілі за той камень яе і колькіх вадзіла туды яна сама! І ён заўсёды, як і тое сонца, праводзіў яе вачыма і цярпліва чакаў, калі яна зноў будзе адтуль выходзіць.

Дзяўчына злавалася на яго за гэта, адганяла:

— Не глядзі на мяне так, смаркаты. Адвярніся!

Але ён усё роўна глядзеў на яе, і чым болей глядзеў, тым болей не мог адвесці вачэй.

Яму казалі:

— Сонцапас, навошта яна табе? Ты ж з ёю не справішся.

Але ён не разумеў тых, хто так казаў.

Што гэта значыць — не справішся?
Хіба глядзець у вочы ёй — гэта цяжка?
Хіба, каб любавацца ёю, трэба нейкая сіла?
Хіба кахаць яе нельга вось так, без нічога?

У статку яго лічылі крыху за дзівака і таму дазвалялі нават такія нязвычныя разважанні.

І ўсё ж пыталіся ў яго:

— А хіба ты не бачыш яе юр?

Ён глядзеў на яе вільготна-растулены рот, на яе вялікія, пажадлівыя, амаль цалкам вывернутыя вонкі, вусны і нічога эратычнага не бачыў, ніякай пажадлівасці не заўважаў. Гледзячы на вусны, ён бачыў толькі вочы, а ў іх знаходзіў нешта тое, чаго не бачылі ніхто з тых, з кім яна хадзіла за камень.

Ён кахаў Добрыцу і бачыў толькі яе душу — тую, якой яна і сама, можа, не адчувала ў сабе, але якая свяцілася, жыла на самым дне вачэй.

Праходзілі дні, міналіся месяцы, змяняліся гады.

Заходзілі з ёю за камень і выходзілі з ёю з-за каменя розныя людзі, зноў мяняліся і зноў заходзілі і выходзілі, а ён усё цярпліва чакаў яе і заўсёды з замілаваннем глядзеў, калі яна, стомленая, але надзіва шчаслівая, праходзіла каля яго.

Тыя, хто быў з ёю за каменем, вельмі ж ужо выразна, па-сучаснаму, як бы гэта зрабілі зараз і мы, круцілі ля скроні ўсёю пяцярнёю, строілі розныя ўхмылкі, паказвалі яму язык, прыстаўлялі пальцы да носа, смеючыся, не тоячыся называлі дурнем, а ён усё стаяў і стаяў, глядзеў і глядзеў, чакаў і чакаў.

З-за каменя ўзляталі то дзявочыя рукі, то мужчынскія ногі, але ён не бачыў гэтага — ён бачыў толькі яе вочы, а за імі — яе душу.

Яна клікала і яго:

— Смаркаты, правядзі і ты мяне за камень.

Але ён не ішоў — яму здавалася, што там яго чакае нейкае расчараванне, небяспека і калі ён пойдзе туды, камень разбурыць нешта вельмі і вельмі важнае, дарагое яму.

Але яна ўсё ж не пакідала надзеі спакусіць яго:

— Смаркаты, а я так люблю бусяцца!

І сваімі пажадлівымі, яшчэ больш вывернутымі вонкі, вуснамі знаходзіла яго рот, пры ўсіх моцна прытулялася да яго сваім голым, гарачым целам і цалавала яго, цалавала. Ён адчуваў, якія прыемныя яму яе вільготныя вусны, прымаў нават яе язычок, таксама вільготны і пажадлівы, але зноў жа бачыў толькі яе вочы, і нават глыбей і далей вачэй.

Часам яна сама клікала яго да сябе: «Паглядзі!»,— і, не саромячыся, што вакол былі людзі, стаяла перад ім, круцілася і прыхарошвалася — голая перад голым,— затым клала адну яго руку сабе на грудку, а другую — на чорны трохкутнічак, які ў іхнім статку ўсе называлі пчаліным роем.

Грудка пад яго пальцамі трымцела ад хвалявання, дзюбачка ласкава торкалася ў руку, рой валасінкамі сцішана, сарамліва казы-

таў далонь, яму гэта, адчуваў, было прыемна, яму рабілася неяк п'янліва і млосна, але ён і зараз імкнуўся бачыць толькі яе вочы, думаць толькі пра яе душу.

Яны стаялі некаторы час не варушачыся, як памерлі ўсёадно, а затым яна нехаця, але з сілаю, ужо рашуча адпіхвала яго ад сябе, і нібыта са злосцю, нібыта помсцячы яму за нешта, казала:

— А ведаеш, калі б я жыла ў дваццатым стагоддзі, я б абавязкова стала прастытуткаю.

Ён не разумеў яе. І словы Добрыцы былі незразумелыя, і разважанні — таксама...

— Хочаш у будучыню? А чаму табе не падабаюцца нашы дні, Крылатка?

Дзяўчына мела прыгожае імя — Добрыца. Але ўсе ў статку звалі яе Рылаткай — мусіць, усё за тыя ж тоўстыя, вывернутыя вонкі, вусны. І толькі для яго яна была Крылаткаю. Можа, таму, што пры кожнай сустрэчы з ёю яму здавалася, што ў яго пачынаюць шуршэць, распрамляючыся за спіною, невідомыя крылы.

Яна крыху падумала, а потым адказала:

— Не, мне і ў нашым стагоддзі добра. Асабліва мне ў ім падабаецца прамікуітэт.

— А што гэта такое? — наіўна глядзеў на яе Сонцапас.

— Гэта таксама слова з дваццатага стагоддзя. Яно прыйдзе да нас пазней. Вось так наша жыццё ў статку назавуць людзі, якія будуць жыць пасля нас.

Крылатка зноў задумалася:

— О, каб я нарадзілася ў дваццатым стагоддзі! У мяне было б многа грошай, была б свая віла, свая машына. А за камень я хадзіла б толькі з бізнесменамі ці з капіталістамі. Ці, на благі канец, з рэкеціламі...

Убачыўшы, што ён усё роўна не разумее, пра што яна гаворыць, растлумачыла:

— Ай, гэта зноў словы з дваццатага стагоддзя.

Ёй здавалася, што менавіта яна не ў час нарадзілася, а на самай справе не з таго стагоддзя якраз быў ён. Хаця і дваццатаму веку яны абое не былі б лішнія. Толькі ён — да сексуальнай рэвалюцыі на Беларусі, яна — пасля яе.

— І ўвогуле, смаркаты, там бы ў мяне такіх, як ты, нібы карасёў на почапцы, было б. На рубель сотня.

Паказвала яму язык, хапала за руку каго-небудзь з тых, хто быў побач, і цягнула за камень.

Але зараз ужо яе ўсё больш і больш гарнула да Сонцапаса. Выйшаўшы з-за каменя, яна абавязкова шукала гэтага хлопца. Ды і яго ўжо хвалявала яе голае цела — гледзячы на яе вусны, на яе грудкі, на густы «пчаліны рой», ён ужо бачыў не адны толькі вочы...

І ўсё ж аднойчы здарылася тое, чаго ён так баяўся.

Яна сказала яму:

— Сонцапас, а пайшлі са мною сходзім за камень.

Здзівіўся — яго ўжо хвалявала нават яе голас.

Але за камень ён не пайшоў — зараз юнак чамусьці ўзненавідзеў яго. Ён узяў Добрыцу за руку і павёў яе ў другі бок — за шырокі, як стог сена, куст...

Выйшлі яны адтуль толькі праз месяц. Выйшлі зусім іншымі. Ён нешта новае займеў, але нешта і страціў. Яму здавалася зараз, што яна для яго памерла — тая, ранейшая.

А ён для яе нарадзіўся — зараз ужо Крылатка ні з кім, апрача яго, не хацела хадзіць за куст...

Неспазнаныя шляхі твае, каханне!

Што аб'ядноўвае людзей і што разлучае іх, што прымушае трымцець сэрца і што пакідае яго абыякавым, што кідае чалавека ў абдымкі і што выштурхоўвае з іх — як выштурхоўвае корак маладое, неспакойнае віно?

Хто адкажа нам на гэта?

Мусіць, ніхто. Мусіць, нават сам Бог, які і паслаў нам гэтыя самыя страшныя і самыя салодкія пакуты, нічога не ведае і нічога не зможа адказаць.



## ЯК СПАКАЙНЕЙ?

Яго паклікалі першы раз. З-за стала падняўся высокі, малады яшчэ і, здаецца, зычлівы чалавек у строгай форме, падаў сваю надзіва цёплую руку і сказаў:

— Слухайце, у нас тут неспакойна, страляюць. Вазьміце, калі ласка, зброю.

І паказаў вачыма на наган, які ляжаў на паперыне,— відаць, гэта была загадзя падрыхтаваная распіска, дзе трэба было толькі паставіць свой подпіс.

— Навошта мне зброя? — спытаўся запрошаны.

— Ведаеце, з ёю вам будзе спакайней. Наган — сябра чалавека. Большы нават сябра, чым сабака. Абароніць ад любога. Усяго толькі націсніце курок, і вы яшчэ не паспееце пачуць стрэлу, вораг ужо забіты. А бандытаў, ворагаў у нас, самі ведаеце, многа.

Той, каго запрасілі, быў доктар. І для яго людзі дзяліліся не на сяброў і ворагаў, бандытаў і небандытаў, а на хворых і здаровых. Ды і асноўным сэнсам яго працы было лячыць, ратаваць ад смерці чалавека, а не забіваць яго. Якая розніца, хто хворы — вораг альбо не вораг?! Хворага, параненага трэба спачатку вылечыць, а потым ужо, калі ён вінаваты, судзіць. Ён яшчэ ў інстытуце кляўся быць верным гэтаму прынцыпу. І парушыць сваю клятву доктар не мог.

— Не, наган мне не трэба. Ён не паможа ў маёй працы,— рашуча адмовіўся доктар.

— Як гэта не паможа? — шчыра здзівіўся той, хто запрасіў.— Усім дапамагае, а вам не паможа?

— Мае ворагі — мікробы, бацылы, вірусы. Як я па іх буду страляць? І колькі патронаў трэба, каб іх усіх зжыць са свету? Іх жа мільярды. І куды, скажыце, цэліцца, каб забіць сухоты? Каб забіць язву страўніка? Каб хоць параніць самага страшнага бандыта — рак? Можа, вы мне падкажаце?

Чалавек у форме быў не дурны, разумеў, што з яго здзекуюцца, але стрымаў сябе — бачыце, і на раённым узроўні сярод пазначаных уладаю ёсць дастойныя людзі! — і гаварыў да доктара вельмі спакойна, нават сяброўскім тонам:

— Але ж вы да хворых ездзіце і ходзіце ў самыя далёкія вёскі. Ходзіце адзін. Гэта ж добра, калі па вас фурманку прышлюць ды

вазак добрай сілы пападзецца. А край жа наш пушчанскі. Навакол — пушча: і там, і там, і там. Лясы несхадзімыя. Перастрэнуць бандыты, заб'юць, дык і канцоў ніхто ніякіх нідзе не знойдзе.

— А навошта ім забіваць доктара? Яны ж разумеюць, што, забіўшы доктара, забіваюць і тых хворых, якіх ён лечыць.

— Глядзіце, глядзіце самі, але ж...

Шчыра кажучы, ён і сам баяўся хадзіць па цёмных пушчанскіх дарогах і сцежках у гэты неспакойны час. Аднак і браць наган у энергічнага маладога чалавека яму чамусьці вельмі не хацелася. Ды і дзе яго насіць? Хіба ў дыпламаце, дзе ляжаць усе медыцынскія прылады?

— Не, наган мне не патрэбны. Мая зброя заўсёды са мною,— і доктар раскрыў дыпламат, у якім былі акуратна складзены стэтаскопы, шпрыцы, прыбор для вымярэння ціску крыві і іншыя патрэбныя доктару рэчы.

— Глядзіце самі, але я раіў бы вам усё ж добра падумаць,— незадаволена развітаўся чалавек у строгай форме і падаў, як здалося доктару, ужо зусім халодную руку.

Вяртаўся ён у вёску, дзе знаходзіўся яго фельчарска-акушэрскі пункт, і ўсё думаў, чаму з такою настойлівасцю соваў яму ў рукі наган чалавек у строгай форме?

Дарога зноў жа ішла праз густы і цёмны лес, але ён, як заўсёды, супакойваў сябе, стараўся не думаць пра небяспеку.

Аднак у самай глыбіні пушчы яго перастрэлі трое ўзброеных бандытаў.

— Зброя ёсць? — строга спытаўся адзін з іх, мусіць, старшы.

— Нічога ў мяне няма.

Старшы падазрона зірнуў на яго і загадаў хаўруснікам:

— Абшукаць!

Шукалі яны вельмі ўважліва, перамацваючы кожны рубчык адзення, быццам у рубчыку можна схаваць тую зброю, а ён радаваўся, дзякаваў богу і сабе за тое, што адмовіўся, што не ўзяў у раёне наган,— усё роўна б во зараз знайшлі, ды і як бы ён страляў з таго нагана ў трох адразу? Яны вырвалі з яго рук дыпламат, вывернулі ўсё, што было ў ім, на дарогу, у пыл.

— Няма,— расчаравана сказалі хаўруснікі.

— Не можа гэтага быць,— раззлаваўся старшы.— Няма, значыць, дрэнна шукалі. Абшукаць зноў!

Але і пасля другога вобыску яны нічога не знайшлі — як можна знайсці тое, чаго няма?

— Вось што,— са злосцю сказаў старшы,— матай адсюль. Ты нас не бачыў, і мы цябе таксама. Але калі толькі недзе вякнеш, расскажаш пра нашу сустрэчу, крыўдзіся на самога сябе... Зразумеў?

І хутка зніклі за дрэвамі. Ён пасабраў з дарогі прылады — падумаў, што трэба будзе, як толькі вернецца дамоў, іх перакіпяціць нанова,— выграб з пылу ампулы з лякарствам, каробачкі з таблеткамі, усыпаў усё гэта, зноў склаў у дыпламат і паціху, не баючыся

нічога, пайшоў пушчанскаю дарогаю — а чаго яму яшчэ баяцца цяпер, калі тое, што ўсіх палохае, ужо адбылося: ён сустрэўся з бандытамі...

Праз нейкі час яго і другі раз выклікалі ў раён. Той жа малады чалавек у строгай форме гэтак жа прыветліва ўстаў з-за стала і зычліва паціснуў яму руку. Яго далонь і на гэты раз была надзіва гарачаю — здавалася нават, што ў чалавека высокая тэмпература.

Але сёння ўжо малады чалавек у строгай форме гаварыў з ім неяк паблажліва, і тон яго размовы быў павучальны, нават бацькоўскі — нібыта ён быў стары, мудры і вопытны, а ўвесь белы ад сівіны доктар — усяго толькі някемлівы хлапчук, які нічога не разумее і якога трэба выхоўваць ды выхоўваць, ставіць абедзвюма нагамі на правільны шлях.

— Вось вы ўсё ўпарціцеся і ўпарціцеся, не хочаце браць наган. Ды зразумейце ж вы ўрэшце, што гэта для вашай жа карысці. Я хачу, каб вам было спакойна.

— А мне спакайней без нагана,— супраціўляўся доктар.— Зброя — гэта заўсёды, як громаадвод: яна прыцягвае да сябе зброю. Разумееце, куля шукае кулю...

Ён бачыў, што чалавек у форме нічога не слухае і не разумее — яго турбуе толькі адзін клопат: як усучыць яму гэты злашчасны наган. Па вачах было відаць, што адна гэтая думка свідруе яго мозг, шукае нейкае выйсце.

— Але ж куля і абароніць ад кулі. Я чуў, што вас ужо перапмалі ў пушчы бандыты. А каб у вас быў наган...

Яго ўразілі, скаланулі гэтыя словы.

— Чулі, кажаце? — перапытаў ён.

Пра тое здарэнне ў пушчы ён нікому не расказваў. Да таго ж ніхто не бачыў, як яго на дарозе перастрэлі бандыты...

Хто ж расказаў пра сустрэчу і вобыск?!

Не маглі ж прыйсці ў раён самі бандыты і прызнацца чалавеку ў строгай форме: «Мы злавілі ў пушчы доктара і абшукалі яго!»

— Чулі? — паўтарыў ён.— Скажыце, калі ласка, адкуль вы ведаеце, што мяне перапмалі ў пушчы?

Малады чалавек схамянуўся, зразумеў, што сказаў нешта лішняе, але тут жа ўзяў сябе ў рукі і неяк загадкава, намякаючы на тое, што не пра ўсё ён можа гаварыць з доктарам, адказаў:

— Мы ўсё ведаем. Але справа не ў гэтым. Мы проста рупімся пра вашу бяспеку. А з наганам — вы як у бога за пазухай. Зразумелі? Дык вось распішыцеся во тут і забірайце наган,— і пальцам падсунуў яму распіску.

Але наган і на гэты раз ён не ўзяў — здагадваўся, падсвядома адчуваў, што бандыты пяроймуць яго ў пушчы і сёння.

Так яно і было.

Яшчэ здалёку заўважыў, што на тым жа самым месцы ў пушчы стаяць трое ўзброеных людзей і, канечне ж, чакаюць яго.

— А, стары знаёмы,— яшчэ не даўшы яму падысці, сказаў старшы.— А сёння ты ўзброіўся?

— Не,— падышоўшы да бандытаў бліжэй, спакойна адказаў доктар.— Я ж вам ужо казаў, што зброя доктару не патрэбна: ён лечыць людзей, ■ не забівае іх.

— Абшукаць! — загадаў старшы.

Зараз ужо чалавек быў зусім спакойны — прывык да рабаўнікоў, ці што?! Ціха стаяў, паслухмяна падымаў рукі, пакуль яго абшуквалі, спакойна глядзеў, як вытрасаюць у пыл усё з дыпламата — толькі злаваўся, што будзе яму лішняя работа — кіпяціць шпрыцы зноў.

— Няма,— разгублена паведамілі старшаму хаўруснікі, усё яшчэ гледзячы сабе пад ногі, у пыл, быццам спадзеючыся ўбачыць у апошні момант тое, чаго шукалі і да гэтага часу не знайшлі.

— Упарты, аднак, ядрона вош! — нібы сам сабе, зазначыў старшы і, крыху падумаўшы, загадаў:

— Плыві адсюль і помні нашы словы, што сказалі табе першы раз. Ведай, язык твой, калі будзе доўгі, можа пацалавацца з куляю.

Доктар прамаўчаў. Зноў зграб усё вытрасенае ў дыпламат і паволі пайшоў па дарозе далей.

Па ім стрэлілі — пэўна, каб папалохаць. Стралялі, мусіць, вышэй галавы, бо ён толькі ўбачыў, як наперадзе зашамацелі, зашасталі, нібы ад дажджу ці ад граду, кусты, як пасыпалася адсечанае кулямі лісце.

Ён не азірнуўся. Ішоў спакойна і чамусьці без страху — заб'юць дык заб'юць.

Але болей бандыты па ім не стралялі.

Яго паклікалі ў раён і трэці раз.

Малады чалавек у строгай форме быў ужо не такі прыветлівы, але затое яшчэ больш настойлівы.

— Ніяк не зразумею вас, доктар. Мы тут так клапоцімся пра ваша жыццё, думаем, каб вам было спакойна, а вы ўпарціцеся. Ды зразумейце ж вы, што з наганам вы кум каралю. Ніякая пушча вам не страшная!

— Ну добра, вось вазьму я ваш наган. А калі я яго згублю. Што мне за гэта будзе?

— Не магу вас нічым суцешыць,— шчыра прызнаўся чалавек у строгай форме.— Самі ведаеце, што...

І паклаў перад ім крыж-накрыж свае пальцы, а каб доктару было яшчэ болей зразумела, дадаў:

— Турма.

— А калі ў мяне яго адбяруць?

Малады чалавек разрагатаўся:

— Не смяшыце мяне! Як гэта можна ва ўзброенага чалавека адабраць наган? Ён жа зараджаны і страляе. Той, хто ўздумае такое зрабіць, рызыкуе жыццём. Аддаваць жыццё за наган? Які дурань пойдзе на такое?! Мёртваму ж наган ужо не спатрэбіцца...

— Але ўсё ж, калі адбяруць, што мне будзе?

— Таксама турма,— не задумваючыся, адказаў малады чалавек.

— Дык а навошта мне тады здаўся гэты ваш наган, калі за яго мяне ўсё роўна пасадзяць?! — узлаваўся доктар і рашуча змахнуў рукою зброю — наган з грукатам бразнуўся на падлогу.— Сам бяры і насі, смаркач! Дзе хочаш і куды хочаш!

І, грукнуўшы дзвярыма, выйшаў з кабінета. Думаў, будуць лавіць, вязаць, але даганяць яго ніхто не стаў — мусіць, малады чалавек на нешта яшчэ спадзяваўся.

У пушчы доктара сустрэлі ўсё тыя ж узброеныя бандыты.

— Абшукаць! — без лішніх слоў загадаў старшы.

Калі хаўруснікі, якія абмацвалі яго, разгублена развялі рукамі, старшы не на жарт раззлаваўся:

— І на гэты раз не ўзяў, сволач!

Падумаўшы, старшы спытаўся ў іншых:

— Што будзем з ім рабіць?

— У расход,— у адзін голас адказалі двое.

— Ага, расстраляем, але з выдумкай. Вось у мяне зброя, якой ты не хочаш браць, а ў цябе — твая зброя, у якую ты верыш,— і старшы паказаў наганам на яго дыпламат.— Значыць, страляемся мы з табою на роўных, на дуэлі — твая зброя, мая зброя. У мяне ў нагане адзін патрон. Пераможаш гэты патрон — жыві, памрэш — туды табе і дарога. Абараняйся, доктар! — крыкнуў ён і стрэліў амаль ва ўпор.

Але ўсё ж доктар паспеў засланіцца дыпламатам. Куля, прабіўшы вечка, ударылася ў штосьці жалезнае, можа, у стэтаскоп, зрыкашэціла і толькі чыркнула яму па плячы.

— Значыць, твая зброя мацнейшая,— разгублена сказаў старшы і, нібыта і яму самому не хацелася забіваць доктара, загадаў падначаленым: — Няхай жыве. Пайшлі!

І бандыты зніклі за дрэвамі.

Доктар ішоў дадому, і да яго свядомасці, прастрэленай, здаецца, навылёт, зараз выразна даходзіла, што малады чалавек у строгай форме, які так настойліва соваў яму ў рукі наган, канечне ж, быў заадно з бандытамі і вось такім чынам хацеў памагчы ім зброяю.

І яшчэ нібыта абуджаны стрэлам,— да сёння яму здавалася, што ўсё гэта адбываецца не з ім, а з кімсьці іншым,— зразумеў, што не было б у яго ні другога, ні трэцяга разу, калі б у той свой першы прыход у раён згадзіўся ўзяць наган.



## ТУМАН

Кожную ноч ён дамагаўся яе.

Яшчэ звечара, як толькі пачынала цямнець, ён з'яўляўся ў хаце. Як, якім чынам з'яўляўся, яна не разумела, але праз нейкі час ведала: ён, невідомы, тут, у пакоі, каля крэсла, у якім раней ёй было так зручна і прыемна сядзець. У прыцемках жанчына не бачыла яго, але адчувала пэўна, што ён ужо нячутна ходзіць па пакоі, абмацвае падлогу, дыван, шукаючы яе.

Крэсла яна зараз не любіла і не садзілася на яго нават удзень — здавалася, што і пры сонечным святле (а сонца ў пакоі было многа, яно ламілася сюды аж праз тры шырокія акны!) нехта пільна і настойліва сочыць за ёю.

Крэсла стаяла пасярод пакоя, на дыване, перад тэлевізарам, і той, хто дамагаўся яе, аточваў крэсла і абдымаў яе самую з усіх бакоў: куды ні павернеш галаву, усюды натыкаешся на яго халаднавата-вільготную ўвагу і ласку.

Таму крэсла яна зараз абыходзіла, хоць у ім і вельмі добра было глядзець тэлевізар — натаміўшыся за дзень на працы, зручна ўсядзешся ўвечары, расслабішся, дасі волю рукам, нагам, усяму целу, супакоішся, ды так і не заўважыш, калі, сцішаная і дрымотная, заснеш.

Зараз яна, павячэраўшы,— дарэчы, ён ніколі не з'яўляўся, калі яна вячэрала, прыбірала са стала, мыла посуд ці займалася яшчэ якімі хатнімі справамі — асцярожна, нібы баючыся сустрэцца з ім у цесным калідорчыку, праходзіла ў свой пакой, уключала тэлевізар, а сама, падклаўшы пад спіну падушку, садзілася на канапу, якая апошні час была ёй і за пасцель — спала яна на канапе, штовечар разбіраючы яе, хоць побач стаяў нечапаны, з гарою падушак на ім, ложак,— і, падкурчыўшы пад сябе ногі, збоку, хоць гэта было і вельмі нязручна, глядзела які-небудзь фільм і напружана чакала яго прыходу.

І якая б цікавая ні была перадача, яна не замінала жанчыне адчуць, калі ён з'яўляўся ў пакоі. З жахам і заміраннем сэрца яна ўслухоўвалася, як ён ужо клубіцца каля крэсла, як спрабуе знайсці яе там і, не знаходзячы, здзіўляецца і нават злуецца: што здарылася, чаму яе няма? Потым неахвотна пакідае крэсла — відаць, і яму яно,

утульнае і выгаднае, даспадобы — і пачынае па ўсёй хаце шукаць яе. Абмацвае, як сляпы, ножкі стала, абыходзіць трумо, слізгае па тэлевізары, а яна, уся сцяўшыся, дрыжыць, разумеючы, што ён вось-вось знойдзе яе і, халаднавата-нахабны, нарэшце, падпаўзе да ног і рук.

Куды яна толькі не хавалася ад яго, штовечар мяняючы месца перад тэлевізарам, але ён абавязкова знаходзіў: а куды, скажыце, можна надзейна схавацца ў цеснай аднапакаёўцы ад яго заляцанняў?!

Падпаўзаў ён заўсёды паволі, не спяшаючыся, і гэта было для яе яшчэ страшней і істэрычней.

Праўда, можна было б устаць і запаліць святло, але яна гэтага не рабіла — ведала, што святло не дапаможа. Раней запальвала, аднак ні спалохаць, ні адагнаць ці нават убачыць яго электрычнае святло не памагала: уключыш,— нічога не відаць, а целам адчуваеш, што ён побач, што нікуды прыхадзень і не збіраецца ўцякаць.

Спачатку яна многа чаго рабіла, каб пазбавіцца ад гэтага насланн. Грэбліва махала перад сабою рукамі, спрабавала нагамі адпіхнуць таго, хто прыхінаўся да яе, але хіба можна змагацца з тым, каго не бачыш: колькі ні махай у пустаце рукамі, ніякай карысці ад гэтага няма — не праходзіла і хвіліны, і яна зноў адчувала, што ён як лашчыўся, так і лашчыцца да яе. Спрабавала крычаць, лаяцца на яго, але і ■ гэтага крыку таксама ніякай карысці: а пра якую карысць можна гаварыць, калі нават не бачыш, як на таго, Невідомага, на каго сварышся, дзейнічае твой крык?

Спрабавала змагацца з Невідомым і іншым шляхам. Затыкала дзіркі ў дзвярах, шчыльна заклейвала вокны, нават замочную адтуліну забівала. Але як для звычайнага паветра, ды яшчэ, можа, пылу і пяску, няма ніякіх перашкод, так і для Невідомага ўсе яе старанні былі смешныя і дарэмныя.

Так здарылася і на гэты раз.

Яна павячэрала, памыла посуд, прыйшла ў свой пакой, уключыла тэлевізар і асцярожна, абмінаючы і крэсла і канапу, нібы баючыся чаго, села на непрыбраную яшчэ з раніцы пасцель — спала гэтую ноч у ложку, спяшаючыся на працу, не паспела яго прыбраць — і раптоўна зразумела, што ён ужо тут і чакае яе менавіта на ложку.

Ён адразу ж папоўз па нагах — яна адчула, якім пушыстым ад гэтага стала цела: кожная пушынка, кожная валасінка падымалася на гэты дотык, і ёй самой здавалася, што нейчыя далікатныя і ласкавыя далоні пяшчотна гладзяць яе. Гэта было непрыемна, і яна зноў жа грэбліва і мітусліва махала ля ног рукамі, нібыта спіхвала з іх чыесьці далоні, але яны, не зважаючы на гэта, рабіліся ўсё ласкавейшымі і ўсё больш настойлівымі.

Яго было так многа, што не хапала рук, каб абараніцца ад няпрошанай ласкі. Ён казытаў яе за вухам, гладзіў бровы, нібы пальцамі, далікатна кратаў яе вусны, хадзіў за спіною — там, дзе кацінае месца, пажадліва лашчыў грудзі, і яны, як ні дзіўна, адгукаліся на гэтую кунегу — насцярожваліся, папурышчаліся, як ад холаду віна-

градзінкі, і яна спалохана адчувала, які ім прыемны гэты бессаромны дотык.

Яна ўжо ляжала на коўдры, махала рукамі і нагамі, спрабуючы адпіхнуць таго, хто быў з ёю, ёй было страшна і брыдка, гідліва і агідна ад яго непрыстойных дамаганняў.

Але на Невідомага гэта не дзейнічала: ён ласкава, прагна, нібы і не бачачы пратэсту, гладзіў, лашчыў, цалаваў яе так настойліва, што раптам, міжволі ўсе яе злосць і асалода, агіда і радасць, абурэнне і цікавасць, страх і жаданне сабраліся ў адным месцы, і яна, адно толькі ўскрыкнуўшы,— нібы ў апошні раз, нібы паміраючы — правалілася ў нейкае шчымліва-адчайнае забыццё.

Прачнулася ад спеваў — у пакоі ўсё яшчэ працаваў тэлевізар і нейкі фальклорны ансамбль весела, як усё роўна здзекуючыся з яе, іграў вясельныя песні.

У хаце нікога не было. І каб не скамечаныя, вільготныя, нібы ад поту, просціны, можна было б падумаць, што сюды і напраўду ніхто не заходзіў, а ўсё гэта ёй толькі прыснілася.

Устала, хістаючыся, як п'яная, падышла да тэлевізара, са злосцю выключыла яго і пачала слацца нанач.

Цяпер ужо кожны вечар яна чакала сустрэчы. Старалася не затрымлівацца на працы, адразу бегла дадому, спяшалася наўсхапа павячэраць, каб хутчэй узабрацца на непрыбраны яшчэ з раніцы ложак. Садзілася і чакала, калі заклубіцца ля яе Невідомы...

Але ён зараз не прыходзіў.

І чым болей яна чакала, тым нястрымней было жаданне, каб тое забыццё паўтарылася наноў.

Зараз яна ўжо любіла таго чалавека, які знарок прыкінуўся туманам, каб толькі пабыць з ёю, пабачыць яе, дакрануцца да яе.

Яна кахала таго мужчыну, які дзеля яе прымаў такія пакуты — лез у хату праз шчыліны, шчаміўся праз замочную адтуліну, адно каб нагледзецца на яе, набыцца з ёю.

Праз нейкі час ёй здалося, што яна зацяжарала. Пайшла да доктара. Той аказаўся грубым, нявыхаваным тыпам. Агледзеўшы яе ўважліва, доктар зарагатаў:

— Ты што, звар'яцела, баба? Якая цяжарнасць?! Ты ж нявінніца. У цябе ж нават дзявочая цнота не парушана. Ідзі дамоў і не тлумі мне галавы.

Але яна не паверыла доктару. Пайшла да знахаркі. Тая, і не аглядаючы яе, завойкала:

— Авой-вой-вой, ты цяжарная. Па вачах бачу. І цяжарная ад нейкага незразумелага, таемнага кахання. Авой-вой-вой, і народзіш ты ці то бога, ці то чорта — людзі ад такой сілы не нараджаюцца.

Пачуўшы гэта, жанчына горка, наўзрыд заплакала, забілася ў сутаргах, зайшлася ў адчаі: яна хацела, яна марыла, яна прагла нарадзіць усяго толькі чалавека...



# НАПЕРАД, НАПЕРАД

Яны настойліва, рашуча ішлі наперад: высока над зямлёю падымалі пярэднюю частку цела, дзе былі і галава, і вочы, і рот, выгіналі яе, зноў як можна далей ставілі на траву, а потым падцягвалі ўжо ўсё астатняе тулава — зрэшты, так ходзяць, здаецца, усе чарвякі.

Навокал толькі і чуваць было шастанне сківіц, шамканне ратоў — яны імгненна пераціралі ўсё, што траплялася на шляху: траву, лісце дрэў і нават маладыя, зялёныя яшчэ парасткі на невысокіх кустах.

Пасля іх заставалася роўная паласа голай, выедзенай амаль да чарнаты зямлі, на якой ужо, каб хто і хацеў, не знайшоў бы ніводнай травінкі, ніводнай жывой пупышкі, гатовай хоць калі-небудзь зазелянець і даць новы парастак.

Паласа была шырокая і роўная, нібы прасечаная ў траве, і ніводзін з суродзічаў, што ішлі ў гэтым зладжаным руху, не асмельваўся, нават падумаць не мог пра тое, каб адарвацца ад агульнай плыні, каб звярнуць убок, хоць менавіта ўбаку вабна зелянела нечапаная трава, якую шукалі для іх і па якую вялі іх натхнёныя — усе наперадзе — вадары.

Сустракалася на іх шляху дрэва — абміналі дрэва, паўставала нечакана перад імі хата — абыходзілі хату, з'яўлялася шырокае асфальтаванае шасэ — смела ўспаўзалі на яго, не зважаючы на тое, што многія гінулі пад коламі машын, ператвараліся ў мокрае месіва — усе астатнія, што ішлі ўслед за імі, падцягваліся, і за дарогаю зноў ужо выраўнівалася звыклая паласа між зялёнай руні. Здаралася чыгунка — пераадольвалі і чыгунку: настойліва лезлі на насып, на шпалы, на рэйкі, смела кідаліся пад самыя колы цяжкіх саставаў, якія аглушальна грукацелі высока-высока над імі. Цягнікі на нейкі час разрывалі, расчлянялі плынь, нібы разразалі вялізнага якога чарвяка, але цягнікі праходзілі, і плынь зноў зацягвалася, як рана, рабілася роўнаю, жывою і, пругка пакалыхваючыся, ненасытна ўгрызалася ў новы масіў зялёнай травы.

Наперад! Наперад! Наперад!

Думаць не трэба, нічога вырашаць — таксама не трэба: тыя, што ідуць наперадзе, і думаюць і вырашаюць за сябе, за цябе і за ўсіх.

Ідзі, як усе, еш, як усе, бо там, наперадзе, куды цябе вядуць, самая лепшая ў свеце трава!

Ежа! Ежа! Ежа!

А ён раптам, нечакана для самога сябе, пачаў думаць сам. І спалохаўся гэтага, і задрыжаў ад страху — а што, калі гэтыя яго думкі пачуе — ці хоць бы здагадаецца пра іх — хто-небудзь з суседзяў, якія вакол яго паспешліва, хапатліва працуюць сківіцамі?!

Жах! Ён вырадак, ён ненармальны, ён не такі, як усе,— ён думае!

І тут жа выразна адчуў,— нібыта нечакана адкрыўся ў яго нейкі новы слых,— як шумна з'ядаюць траву суплыннікі. Справа і злева, спераду і ззаду з'ядаюць. Даўнім інстынктам, якім прырода надарыла кожнага свайго чарвяка, адчуў, які ён неабсяжны, гэты іхні рух наперад. Шамканне ратоў даносілася да яго з самых, здаецца, недасяжных краёў плыні, і ён разумеў, як няблізка, калі паспрабаваць, скажам, ісці, да тых абмежкаў. Наперадзе ўпэўнена ўгрызаліся ў нечапаную зеляніну вядучыя, ззаду даядалі тое, што асталося ад шчаслівейшых суплыннікаў, аслабелыя вядзёныя, акрайныя, канцавыя, а ён адчуваў, як яму зараз далёка і да тых, і да другіх.

Ён быў якраз пасярэдзіне.

І раптам яму захацелася зірнуць зверху на ўвесь іхні рух, каб убачыць адразу і пярэдніх і канцавых, каб згледзець, ці многа суплыннікаў ідзе паабапал, з абодвух бакоў.

І ён, пераадольваючы страх, адчуваючы, як усё ў ім раптам пахаладзела ад жуду, выбавіўся з агульнай плыні і палез на высокую, роўную і моцную травіну, якая пакуль яшчэ жывая стаяла перад ім: з гэтай плыні можна было выбрацца толькі ўгору, бо яму, заціснутаму з усіх бакоў, пра нейкае іншае выйсце не варта было нават і думаць.

Калі ён узлез як не на самую вяршадзь травіны, у яго аж дух заняло ад волі і прасторы. Здаецца, ведаў і да гэтага, што рух іх незвычайны, але які ён вялікі, смяльчак убачыў толькі адсюль, з вышыні. Як сягала вока, усюды былі толькі яны, чарвякі: пярэднія губляліся ў смарагдавай траве аж на самым небасхіле, заднія ледзь відаць былі на чорнай ужо, дашчэнту аб'едзенай зямлі.

І яшчэ яму раптам здалося, што ззаду, там, дзе яны прайшлі, трава паабапал голай палосы і зелянейшая, і гусцейшая, і больш сакаўная, чым наперадзе, і ён не ўтрымаўся, крыкнуў:

— Браты! А ці туды мы ідзём?

Чарвякі яго не пачулі. Хоць ён сам і спалохаўся свайго крыку — такі моцны быў гэты кліч. І яшчэ яму стала чамусьці няёмка за самога сябе.

Значыць, і ён, хоць і пачаў ужо думаць, кліча суродзічаў усяго толькі да лепшай травы? І ён ужо гатовы павярнуць рух на зелянейшыя гоні, павярнуць плынь наадварот. Але ж тады апошнія стануць першымі... Чакай, чакай, а ў гэтым ужо нешта ёсць!

Але куды павядуць саслабелыя і галодныя акрайнікі? Усё да той жа травы?.. Ды і ўвогуле, які сэнс іхняга руху. Самая лепшая трава ў свеце? Толькі каб добра наесціся? Толькі дзеля гэтага яны і ідуць,

пакідаючы за сабою столькі ахвяр на шасейных дарогах і чыгуначных пуцях?

Смяльчак палез яшчэ вышэй — каб убачыць, ці далёка адышліся вадары. Але травіна не вытрымала, пачала згінацца — ці то для самай вярхоўкі была зацяжкаю ягоная вага, ці то сцябліну паспелі ўжо надгрызці суродзічы — і ён разам з ёю ўпаў доле. Спачатку на спіны іншым, а затым праваліўся пад іх — ім пад ногі, ім пад прыскі.

Па смельчаку, утоптваючы яго ў бруд, прапаўзлі мільёны сурыннікаў, не звяртаючы ўвагі, хто пад імі, чаму пад імі, навошта пад імі, і ён, канаючы, адно толькі дакараў сябе, што не трэба было яму рабіцца разумнейшым за іншых, не трэба было пачынаць думаць: усё роўна ніхто яго не пачуў, а быў бы, як усе, застаўся б жывы і зараз бы радаваўся сакаўной і жаданай траве, якая заўсёды прыемная насалода для рота.

Яго кліч, здавалася, і праўда ніхто не пачуў — вадары былі далёка, а тыя, хто паўзлі побач, знарок не схацелі чуць: у іх не было часу думаць, ім трэба было як мага хутчэй наесціся — набрацца моцы, каб не адстаць ад агульнага руху.

Але няпраўда! Сказанае слова не паміраe. Кліч, аказваецца, пачулі, і праз нейкі час ужо ў трох новых месцах тры новыя смельчакі падняліся на высокія травіны і што ёсць сілы крыкнулі:

— А ці туды мы ідзём?

Вадары і на гэты раз нічога не пачулі. А вось тыя, што былі побач, спалохаліся: чакайце, чакайце, дык а чаго ж яны хочуць, куды нас заклікаюць?

А што, калі праз нейкі час гэты кліч пачуюць ужо дзесяткі, а затым і тысячы? А што, калі ўсе павернуцца, памяняюць свой рух — яны ж стопчуць нас, падушаць: тыя, што наперадзе, вядома ж, мацнейшыя за тых, хто апошні. Калі мацнейшыя наперадзе — нам спакайней, а калі ззаду — небяспечней: хто вытрымае іх націск?!

І суродзічы ўчынілі смельчакам самасуд — яны знарок падгрызлі мурожыны, і калі тыя ўпалі, рашуча, нават шчыльней прыціскаючыся да зямлі, прапаўзлі па мёртвых, з асалодаю ўтоптваючы, як прасуючы, іх у бруд: падумаеш, гэткія разумнікі знайшліся.

І баязліўцы былі не вінаватыя: проста яны, як і ўся іхняя плынь, паходзілі з племя рабоў.

А рабы не дазваляюць сабе такой раскошы — думаць, што яны вольныя.

І шырокая, магутная плынь паплыла далей, угрызаючыся ў ярка-зялёную сцяну густой і сакаўной руні. Заднія спяшаліся дагнаць пярэдніх — карцела і ім некалі пасправабаваць нечапанай зелявіны...

А зараз мне хочацца памяняць ракурс.

І тое, што мы бачылі з сярэдзіны, выпукла і ўзбуйнена, вачыма чарвякоў, убачыць вачыма чалавека...

— Глядзі, глядзі, куды яны паўзуць, гэтыя малечы?

Адзін малы хлапчук паказваў пальцам сабе пад ногі, дзе тоненькім струменьчыкам паўзлі малюпасенькія чарвякі.

— Куды трэба, туды і паўзуць,— мудра, па-даросламу адказваў яму другі — ужо крыху большы хлопчык.

— У іх жа, вядома, ёсць нейкая мэта, драбнюкі некуды спяшаюцца. Цікава, а ці ўмеюць яны думаць?

— Думаюць толькі людзі, а чарвякі проста жывуць,— вяртаў на зямлю філосафа практык.

— А чаму яны вось гэтых затапталі?

— Кінь ты — затапталі! Слабыя былі, самі здохлі.

Хлапчукі глядзелі на чарвякоў, якія ўжо крыху адышліся, і нават не здагадваліся, што вось зараз між іх хтосьці, пачаўшы думаць — моўленае слова не памірае,— рашаецца, асмельваецца зноў узлезці на самую моцную травіну і крыкнуць: «А ці туды мы ідзём?!», каб адразу ж упасці разам з ёю пад ногі суродзічам, якія бязлітасна ўтопчуць яго, ужо нежывога, у бруд і свае ж экскрэменты.



# ЯМА

Яны даганялі яго.

І калі ўжо зусім не аставалася сіл, калі ногі падгіналіся самі сабою, а ў роце было суха і горка ад небяспекі і доўгага бегу, калі ён ужо, здавалася, чуў нават тупат тых, хто гнаўся за ім, нечакана для сябе ўцякач заўважыў гэтую ямачку. Дабег да рэдкага пералеску, схаваўся за ядлоўцавы куст, што неспадзеўку ўзнік перад ім, азірнуўся, каб убачыць, ці далёка пагоня, і тады вочы з надзеяй спатыкнуліся аб яе. Ямачка была нешырокая і, як яму здавалася, неглыбокая, акурат па фігуры, нібы знарок выкапаная для яго, і чалавек, не задумваючыся, нават не помнячы таго, што робіць, адразу ж ускочыў у яе — мусіць, у надзеі, што тыя, хто даганяе, прабягуць міма і не заўважаць. Усё роўна ў яго не было ніякага іншага выйсця — наперадзе, ён ведаў, цямнела прорваю глыбокае прадонне, і там, унізе, на самым дне, шумела, ды так, што аж тут было чуваць, крутая горная рака.

Ямачка ж была яму як пасланае кімсьці збавенне, выратаванне.

Чалавек уціснуўся ў яе з галавою, нацягнуў на сябе зверху галінку, якая, нібыта знарок зламаная для гэтай мэты, ляжала ля ямачкі, схаваў руку і прыслухаўся: ці даганяюць яго? Але навокал было ціха, ніхто за ім не бег, быццам у пагоні было толькі таго і клопату, каб загнаць уцекача ў гэтую яміну і тут пакінуць аднаго — нідзе не дзенецца, пасля возьмем.

Пасмялеўшы, ён паварушыўся, каб усесціся, умасціцца зручней, і неспадзеўкі паехаў уніз — спачатку паволі, а потым усё шпарчэй і шпарчэй, усё набіраючы і набіраючы хуткасць. Аказваецца, ямачка была глыбокаю, берагі яе — няроўныя, і вострыя камяні, якія вытыркаліся са сценак, балюча драпалі яму рукі і калені, спіну і грудзі, раздзіралі — ён чуў, што яно трашчыць,— адзенне.

Як нечакана паехаў уніз, так нечакана і спыніўся: тут, мусіць, яма павузела, і гэта стрымала яго рух.

Чалавек, прысільваючыся, схіліўшы галаву набок, зірнуў угору — неба было так далёка, яно сінела светлаю крапкаю над ім.

Паспрабаваў паварушыцца яшчэ — а можа, зноў паедзе ўніз? — але не змог: яго, нібыта які клін, заклініла ў ствале. Падумаў, што, можа, трэба паспрабаваць выграбацца наверх, але і гэта было не-

магчыма: рукі моцна заціснуты з усіх бакоў, і ён не можа імі нават паварушыць, не тое што вызваліць зусім.

І тады чалавек зразумеў, што апынуўся ў каменным мяшку, з якога яму, відаць, ніколі не выбрацца — ці не таму, дагнаўшы да ямы, яго ніхто не стаў шукаць.

Ад безвыходнасці яму стала жудасна, ад гэтай жахлівай думкі зрабілася холадна — адчуваў, як падымаюцца валасінкі на руках і нагах, як папурышчыцца цела — ці то і праўда ад холаду, ці то ўжо ад страху.

Вядома, ён баяўся, што яго, калі вылезе, зловяць тыя, хто даганяў, але яшчэ болей баяўся назаўсёды астацца ў гэтай каменнай дзірцы, якую сам, нібы тромб, заткнуў сабою, баяўся выпетрыць, высахнуць, памерці тут і праз гады асыпацца на дно ямы прахам і пылам.

Знізу, здаецца, крыху паддзьмувала, і ад гэтага нараджалася нейкая невыразная надзея: дык ствол жа, мусіць, скразны, падвейны...

Сядзець, нічога не робячы, было невыносна.

Хацеў зноў дастаць рукі, што былі заціснуты паміж целам і сценкамі проймы, каб падняцца вышэй, дзе трохі прасторней, але не змог — пры кожным руху, пры кожным кратанні цела пад сваім жа цяжарам яшчэ болей заклінька́лася ў ствале.

«Адсюль ужо не выберашся ніколі,— нібы падказаў яму хто, і ён міжволі паўтарыў гэтыя словы ўголас і ад сябе дадаў: — То ж трэба так прымітыўна і ганебна злавіцца».

Невясёлыя думкі нараджалі яшчэ сумнейшы адчай.

Дык што, няўжо гэта ўжо канец тваёй барацьбе? Канец тваім пакутам і надзеям, твайму страху, што цябе некалі высачаць і зловяць? Навошта тады было столькі мітусіцца, столькі спрачацца, змагацца, калі ўсё роўна ўвесь свет зараз звузіўся для цябе да памераў вось гэтай цеснай шчыліны, у якой ты неўзабаве задыхнешся і знікнеш назаўсёды — разам з тым, што ведаеш і помніш?

Ён быў апошні са свайго народа, хто яшчэ помніў, хто яны такія, ведаў казкі і песні, якія ведалі яго дзяды і прадзеды, дзяды і прадзеды гэтых дзядоў і прадзедаў. Ён яшчэ жыў сваёй роднай моваю, хоць яму і не было з кім пагаварыць на ёй — як цяжка ў сабе насіць, хаваючыся, гэты балючы скарб, разумець, якая гэта найвялікшая каштоўнасць, якое багацце, і не мець магчымасці пахваліцца перад усім светам: а вось які я багаты, вось якая прыгожая ёсць у мяне мова!

Адных, хто шчыра радаваўся сваёй мове, перадавілі заваёўнікі, пасадзілі на кол, пазасоўвалі ў турмы і астрогі, адкуль ніводзін з іх не вернецца — заваёўнікі ведаюць, што гэта значыць, калі хоць адзін з тубыльцаў будзе помніць, хто ён такі на гэтай зямлі. Іншыя, трохі хітрэйшыя, прыкінуліся, што яны нічога не ведаюць і не помняць, ды так шчыра прыкінуліся, што неўзабаве і самі паверылі ў сваю ману і ўжо напраўду не адгукаліся на роднае слова. Жылі няўцямныя, рабілі ўсё, што ім загадвалі найды, спявалі іхнія песні, як свае,

расказвалі сваім дзецям чужыя паданні і былі шчаслівыя ў гэтым бяспамяцтве.

Тыя ж, хто і нарадзіўся пры забыцці, думалі, што так і трэба — у іх не было памяці, яны не ведалі, як было раней, ім падабалася, іх задавальнялі і мова, і песні, і легенды заваёўнікаў.

І што яму было асабліва прыкра і балюча: свае суайчыннікі, суродзічы, якіх ён, азлаваўшыся, зваў часам смуродзічамі, памагалі заваёўнікам высочваць яго, і тое, што яны павінны былі абараняць, шанаваць, яшчэ шчырэй за чужынцаў утоптвалі ў бруд, змешвалі з гразёю.

Як лёгка і проста хваліць і ўзвышаць усё чужое, і як цяжка і небяспечна заступацца за сваё, роднае...

Балюча насіць у сабе скарб і не карыстацца ім!

Балюча ведаць, які ты багаты, калі ўсе толькі і пераконваюць цябе, што ты самы бедны на зямлі!

Калі яму станавілася зусім цяжка і горна, ён вырываўся ў лес і там адводзіў сваю душу. Дрэвы, якія тысячагоддзямі слухалі гаворку і песні стольніх пакаленняў тутэйшых, не забыліся іхнія словы, уважліва слухалі і яго. Сціхалі, задумліва шумелі кронамі і галінамі, нібыта падпяваючы, нібыта гамонячы з ім — на яго ж роднай, забытай усім народам мове.

Там, у лесе, яго і забралі. Калі ён спяваў. Праўда, далі скончыць песню — мусіць, заслухаліся самі, мусіць, і словы, і мелодыя зачаравала і іх саміх.

А скончыў — павыходзілі найды з-за кустоў адразу з усіх бакоў:

— Ну, ну пакажы, што яшчэ такое, небяспечнае і забароненае, ты хаваеш у сваёй душы?

І яму нічога не аставалася, як прызнацца ў вялікай крамоле: на сваёй роднай зямлі ён і праўда спяваў свае родныя песні.

Яму скруцілі рукі і завезлі на чужыну — на вось гэты голы скалісты востраў у моры. Яго не пасадзілі адразу на кол — хацелі, пэўна, высветліць: ён апошні, хто ведае свае песні, ці ў краі астаўся яшчэ хто такі ж.

Яго дапытвалі, але ён нічога не сказаў. Ды і што ён мог сказаць, калі і сам нічога не ведаў! Хоць яму часам, калі бываў у лесе, і здавалася, што нехта яшчэ, акрамя дрэў, уважліва слухае яго словы і песні. Той, хто сачыў за ім, хаваўся за дрэвамі і ніколі не выходзіў на прагалы. Часам здавалася, што ён заўважаў хлапчука, які мільгаў за лісцем і паспешліва знікаў. Яму нават трызнілася, што гэта быў і чалавек і дрэва адначасова: адчуеш, што нехта шуршыць у лісці, падкрадаючыся бліжэй, а зірнеш — на тым месцы ўсяго толькі стаіць дрэва. Не ведаў, гэта было напраўду ці яму толькі так здавалася, але быў перакананы, што той, хто слухае, гэтак жа, як і дрэвы, разумее яго мову.

Ён чамусьці верыў, што хлапчук быў у лесе і тады, калі яго злавілі. Адно не разумеў, як малы не папаўся чужынцам, калі яны так пільна прачэсвалі ўсе гушчары і хмызнякі. Хаця што ж тут разумець — а можа, ён на той час станавіўся дрэвам?

А раптам ён і прывёў найдаў сюды, у лес? Не, гэтую думку чалавек адразу ж адагнаў як няпраўдзівую: калі б хлапчук хацеў зрабіць гэта, то зрабіў бы намнога раней — столькі ж гадоў ён слухаў казкі і песні, паданні і легенды, якія апошні тутэйшы расказваў дрэвам, трошкі спадзеючыся, мусіць, і на яго маладую памяць.

На востраве чалавека трымалі вальней: мусіць, ведалі, што адсюль нікуды не ўцячэш. І праўда, якая радасць з таго, што ён уцёк?! Замест волі — вось гэты цесны каменны мяшок, дзе па часе спархнееш разам з песнямі і паданнямі, якія ведаеш.

Яму здалося, што ў шчыліне зрабілася зусім цёмна. Зноў, перасільваючы боль, павярнуў галаву крыху набок, зірнуў угору і напраўду не ўбачыў ні самой дзіркі, ні неба ў ёй.

«Завалілі каменем, нягоднікі!» — падумаў, як закрычаў, ён, і яму адразу ж стала не хапаць паветра — вязень пачаў задыхацца.

Але дзірачка неўзабаве зноў адкрылася, і тады ён здагадаўся, што нехта заглядвае ў яе — мусіць, тыя, што за ім гналіся, цікавяцца, ці папаўся ён у яму, і мяркуюць, як яго даставаць з гэтае цеснае шчыліны.

Неба ў адтуліне то знікала, то зноў з'яўлялася. Гэта пачало ўжо раздражняць, і ён застагнаў ад болю і бездапаможнасці. І тады зверху пачуўся спакойны хлапечы голас:

— Гэта я. Я слухаў вас часта ў лесе. Расказвайце ўсё, што ведаеце. Я разумею нашу мову. І ўсё запомню.

Ён зразумеў, што гэта хлопчык-дрэва пакінуў свой родны лес і ўслед за ім нейк прымчаўся сюды, на каменны востраў. Ці не ён гэта стаў ядлоўцам, за якім вязень схаваўся ад пагоні, ці не ён адламаў ад сябе галінку і паклаў яе каля яміны, каб гнаны мог прыкрыцца ёю?

Апошні тутэйшы крыху памаўчаў, нібы раздумваў, нібы выбіраў, з чаго пачынаць, а потым даверліва загаварыў:

— Запомні, хлопча, наш народ шчыры і добры, сумленны і працалюбівы, спагадлівы і справядлівы, мудры і цнатлівы. Ён вечна быў і вечна будзе на зямлі...

Спачатку голас яго быў нямоцны, зашэрхлы ад доўгага маўчання, пераселы ад хвалявання, але з кожным словам ён станавіўся ўсё ўпэўней і ўпэўней, супакойваўся, рабіўся роўны і гучаў вольна і нязмушана.

Дні і ночы, тыдні і месяцы расказваў вязень усё, што ведаў пра свой народ, пра яго веліч і славу, пра яго нягоды і засмучэнні, пра яго ворагаў і дабрадзеяў, пра яго годнасць і чысціню.

І ўвесь гэты час наверсе было ціха — толькі ядловец задумліва шумеў над самаю ямаю, нібы ўбіраючы ў сябе, як жыццядайны сок, кожнае яго слова...

Мiналі дні і ночы, а ён не заўважаў іх.

Мiналі тыдні і месяцы, а ён не адчуваў гэтага.

Забыўся, што трэба есці, трэба піць — нібыта і яго жывіла ўвесь гэты час радасць, магчымасць расказаць некаму ўсё, што ён ведаў пра свой народ і сваю зямлю.

І толькі скончыўшы ўсё, падаставаўшы з усіх куткоў памяці нават дробязі, якія па часе, ён разумеў, не будуць дробязямі; толькі пажадаўшы хлапчуку-ядлоўцу сваё апошняе: «Хвала і анёл табе на дарогу», вязень убачыў, як схуднеў сам — зараз яму было ўжо зусім прасторна ў шчыліне.

Адчуў, што знізу мацней пададзьмувае вецер, што ён зябка ходзіць між сценкамі ямы і целам, і ўзрадаваўся — дык яма ж гэта і напраўду скразная! А калі ўбачыў, што з-пад ног прабіваецца святло, усцешыўся яшчэ болей: там, унізе, выратаванне! Значыць, яма хутчэй за ўсё выходзіць у нейкі грот, вымыты за стагоддзі морам,— яму здалося нават, што чуе далёкі, але такі выразны пошум хваль.

Зразумеў, што выратаванне яго не ўверсе, а ўнізе, і ліхаманкава, абдзіраючы рукі аб каменне, пачаў, наколькі можна было, шырыць каля сябе пралаз. Каменне, хоць з цяжкасцю, але паддавалася, крышылася, падала ўніз — ён чуў, як доўга ляцелі, стукаючыся аб сценкі, драбкі і друзачкі, а потым глуха шмякаліся на дно грота.

Вязень працаваў многа і доўга, і нават знемагаючы, усё роўна ўпарта без роздыху, знімагі поркаў пальцамі каменне, стараючыся голымі рукамі выкалупаць яго з цвёрдай пароды. Яму хутчэй хацелася на волю — туды, дзе грот, дзе марскія хвалі, дзе жыццё.

Нарэшце намаганні ўзрадавалі яго: каменне здалося. Паветра ў западзіне завібрыравала, як у аэрадынамічнай трубе, і ён, сухенькі і выпетраны, але надзіва шчаслівы, паляцеў на зманлівае святло.

Наперадзе былі воля і жыццё.

У прыступе эйфарыі ён яшчэ паспеў крыкнуць угору: «Я выратаваўся, хлопча!», верачы, што малы ўсё яшчэ стаіць ядлоўцам над ямаю.

Вязень пакуль не ведаў, што тыя, хто гнаўся за ім, бязлітасныя, каварныя людзі і хітрэйшыя за яго ў барацьбе.

Ён яшчэ не ведаў, што і гэтая яма — адна з іхніх катавальняў на востраве-турме, і на дне яе, менавіта ў гроце, яго чакае востра зацеслены кол.

Не ведаў, што і ляціць ён якраз на гэтае вастрыё — нягоднікам мала яго злавіць, ім яшчэ хочацца паздзекавацца, нацешыцца, адчуць асалоду ад пакут і мучэнняў сваёй ахвяры.

Канечне, найды маглі б яго пасадзіць на кол адразу, але тады і радасць нягоднікам была б меншая — дык навошта ім абмяжоўваць свае ўцехі?!

Шляхі твае, о Божа, нязведаныя.

Нам здаецца часам, што мы набліжаем волю, а на самай справе мы накладаем на сябе новыя вярыгі.

Нам здаецца, што мы ўратоўваем жыццё, а на самай справе спяшаемся туды, дзе нас чакае смерць.

Ратуючыся, мы паміраем.

А можа, і паміраючы, вартыя жыцця, застаюцца жыць вечна?

Бо не толькі жыццё, але і смерць хутчэй за ўсё скарб ёсць.

І падман — таксама.



# ПАРТРЭТ СОНЦА І МОРА

Сонца падымалася з мора — ён глядзеў, і гэта яму ніколі не надакучала.

Сонца заходзіла ў мора — ён глядзеў, і гэта таксама яго заваарожвала, нібыта вось-вось павінна была раскрыцца нейкая таямніца.

Ён даўно думаў пра гэтую далікатную еднасць — святла і вады,— хацеў зразумець, ахапіць яе розумам, а потым калісьці, можа, і ўвайсці ў яе, стаць пасярод — з аднаго боку мора, з другога — сонца.

І яшчэ яго даўняю і ці не заўсёднаю мараю было напісаць партрэт сонца і мора — разам: спасцігнуць іхнюю еднасць і паказаць яе іншым.

Таму ён і прыехаў сюды, на поўдзень, на паліняла-жоўты і той жа час сакавіты, зялёна-магнолісты поўдзень, падоўгу сядзеў ля мора, глядзеў, як нібыта самі сабою коцяцца спакойныя і, адчуваў, дужа пругкія, быццам рыбіны, хвалі, слухаў іх уніклівы шум, калі яны, дасягнуўшы берага, абмывалі і так ужо мокрыя каменьчыкі, робячы іх яшчэ прыгажэйшымі, і думаў, што, мусіць, яму і на гэты раз не ўдасца здзейсніць сваю мару — напісаць партрэт хоць бы, да прыкладу, аднаго мора.

Хіба можна намаляваць жывое мора?

Яно такое ж няўлоўнае, як, скажам, трымценне пальмавага лісця ад дотыку лёгенькага-лёгенькага ветрыку,— якім ён заўсёды захапляўся, заўсёды дзівіўся, але ніколі не браўся гэта маляваць,— хто адважыцца паспрабаваць спыніць такі момант, перанесці яго на паперу, але так, каб лісцё, і намаляванае, трымцела на аркушы, без ветру.

У простым і зразумелым часам месціцца ўсё складанае і невымоўнае.

Неяк, лежачы на пляжы, вачыма да пяску, ён глыбока выдыхнуў паветра і, убачыўшы, як ад нейкага невядомага цэнтра вельмі ж прыгожа, веерам пабеглі ва ўсе бакі пясчынкі, здзівіўся, узрадаваўся нечаканаму адкрыццю, але тут жа і засмуціўся: гэта ж таксама нельга намаляваць. Такі рух непадуладны фарбам, словам, нават гукам: перад нейкаю пясчынкаю бездапаможнае ўсё — мастацтва, літаратура, музыка.

Тым больш перад такою незразумелаю веліччу, як мора,— ды яшчэ разам з сонцам — ён губляўся.

Мора мастак заўсёды ўяўляў сабе толькі жывым. Так думаў пра яго і так хацеў намаляваць.

Ён ведаў, што ў мора, як і ў чалавека, бывае добры і кепскі настрой, свае радасці і свае турботы, засмучэнні. Часам яно было задумлівае і мудрае, а часам гарэзлівае, як дзіця. Сяды-тады заўважаў, нават адчуваў фізічна яго трывогу. Зрэдзьчас бачыў, што ў вады была бяссонная ноч, і зараз яна, шэрая ад недасыпу, дрэмле, не зважаючы на такое асляпляльнае сонца.

Ён хацеў зразумець, разгадаць мора і тады, калі яно, у роздуме, засяроджанае, дыхала роўна і спакойна — хвалі адна за адною, як грудзі расслабленага чалавека, то падымаліся, то апускаліся: удых — выдых, удых — выдых...

Хацеў зразумець і тады, калі яно ў часе шторму разлютавана і ашалела, нейкае ўсё жоўтае і страшнае, кідалася на любога, хто асмельваўся падысці да яго блізка,— каб схапіць смеляка, змыць з ног, пацягнуць па пяску і гальцы і запіхнуць пад грозныя, уздыбленыя хвалі-валы, што з грукатам абрынаюцца на бераг.

Ён часта сядзеў пры вадзе, глядзеў на паверхню мора, спрабаваў дабрацца — не вачыма, а думкаю,— да самага дна, каб хоць нешта акрэсліць і зразумець.

На пляжах многія сядзяць на беразе: адны палошчуць ногі ў вадзе, другія ловяць рукамі хвалі, трэція, як і ён, сядзяць, здаецца, бяздумна, а на самай справе тужацца ўсвядоміць тое ж самае, што і ён: дык што яно ўрэшце такое, гэтае мора?

Хлапчукі тыя часцей за ўсё кідаюць у ваду каменьчыкі проста так — чый далей бултыхне ці весялей заскоча пліскаю, і радуюцца потым, калі ён доўга гупае з хвалькі на хвальку. І мора не злуецца на іх — нібыта і не зважае на гэтыя дзяцінныя забавы.

Але аднаго разу ён бачыў, як мора выходзіць з сябе, бялее ад злосці.

Вялікі дзяцюк з крыху дэбільным тварам заняўся быў тым жа, што рабілі і дзеці. Цэлага паўдня ён сядзеў на беразе і метадычна, абыякава, бяздумна кідаў у ваду вялікія, як валуны, камяні — каля сябе хлопец павыбраў ужо ямкі і зараз даставаў, сцягваў, а то і прыносіў каменне з далечыні. Мора цярпела яго забавы доўга, а потым сабрала вялікую, высокую хвалю і наводліў пляснула ёю ў твар дзецюка — той і апамятацца не паспеў, як ужо, далёка адкінуты ад берага, ляжаў на гальцы. Падхапіўся, пабег яшчэ далей і ўсё спалохана азіраўся — ці бяжыць за ім той, хто толькі што так балюча яго ўдарыў. Адбегся, сеў там на пяску і ўжо болей да мора цэлы дзень не падыходзіў — мусіць, зразумеў, што зрабіў мору балюча, што мора раззлавалася на яго: адкуль жа яшчэ было ўзяцца той моцнай хвалі, калі вада перад гэтым была надзіва ціхая і спакойная-спакойная, нават ласкавая.

Раней мастак вельмі любіў ранішнія купанні. Прыходзіў сюды яшчэ да ўсходу сонца і цешыўся спакоем соннага мора і той урачыс-

тай цішынёю, якая стаяла навокал. Людзі, што ўжо купаліся, плылі ціха-ціха, не гаварылі між сабою — толькі галовы тырчалі, нібыта яны і не плывуць, а проста так трымаюцца на вадзе,— ніякіх узмахаў рук, пырскаў. Ды і на беразе таксама перагаворваліся як не шэптам — каб не парушыць гэтую цішыню.

У яго ж у гэты час настрой бываў заўсёды вельмі няроўны і змяняўся ад поўнай ціхмянасці і пакорлівасці да неўтаймаванасці і агрэсіўнасці — калі ўзыходзіла сонца, яму чамусьці хацелася крычаць, махаць рукамі, уздымаць такія пырскі, каб у іх не было відаць ні мора, ні сонца, ні яго самога.

Але пасля таго здарэння з дзецюком, ён зразумеў, што мору гэта непрыемна, і раніцаю купаўся ўжо без ранейшага азарту і настрою, баючыся зрабіць яму, як жывому, балюча. Разумеў, што мора тады яшчэ спіць, і не хацеў будзіць яго дрымотнага, заспанага,— проста ўявіў, што і ў ім самім, сонным, нехта купаецца на досвітку...

Цяпер ужо заўсёды, заходзячы ў хвалі, ён прасіў прабачэння ў мора, а выходзячы, дзякаваў яму за радасць і асалоду, якія яно падарыла,— можа, і насуперак сваім жаданням.

Аднойчы на марскім беразе надвечар ён застаўся адзін.

Стаяў і ўсё, як фотамайстар, хацеў з'яднаць у адзін кадр мора і сонца. Чамусьці ведаў, што гэта яму сёння ўдасца, і аж трымцеў ад нецярплівасці...

Садзілася сонца, і мора чакала яго і ў нястрыманасці сваёй аж прыпадымалася, здаецца, над небасхілам, хоць само было надзіва ціхае і звонку выглядала зусім спакойным.

На самай жа справе яно вельмі хвалявалася. Ён адчуваў нават яго дрыжыкі, неспакой і ўнутранае трымценне. І, здаецца, усё, што ў ім было,— рыба і планктон, медузы і ракавіны, водарасці і каменьчыкі,— таксама адчувалі гэта.

І само сонца, здаецца, ахапіла нецярпенне: і яно хацела, жадала, прагла хутчэй дакрануцца да мора. І калі ўжо яны былі зусім блізка адно да аднаго, нібы нехта невідомы, але настойлівы, падказаў яму: глядзі ўважліва і нічога не прапусці. І ён убачыў, як мора нечакана выпуклілася, выкруглілася, выгнулася і сваёю самаю верхняю мясцінаю нецярпліва падалося да сонца, як і сонца, таксама пачало выпінацца, выкругляцца да яго...

І калі яны дакрануліся, хваляванне ахапіла і яго самога. Зараз і ён трымцеў гэтак жа, як трымцелі дрэвы і воблакі, вецер і каменьчыкі на беразе.

Сонца паволі ўваходзіла ў мора. І мора з радасцю і ласкаю прымала яго ў сябе, лашчыла, атуляла, гладзіла і, нецярпліва выгінаючыся ўсё бліжэй і бліжэй, хавала ў свае воды, у свае глыбіні...

Ён ведаў, што ўсё гэта міраж, што так не можа быць — сонца ж на самай справе заходзіць зараз вельмі далёка і ад мора, і ад самой зямлі. Але гэта было наяве, і ён нават не сумняваўся, што насуперак усёй логіцы і сусветнай практыцы, насуперак усім законам сонца вось зараз заходзіла менавіта ў мора!

Калі схавалася нават маленькая, апошняя крапка святла, якая толькі што, як іголка, калолася ў вочы, ён выразна пачуў ці то нейкі ўздых, ці то сапраўдны стогн.

І тады для ўсіх наступіла супакаенне, нават аблягчэнне. Стала ціха-ціха і дрымотна: нідзе нічога не варушылася. Мора, схаваўшы ў сабе сонца, ляжала ціхае, маўклівае і стомленае — яно, здаецца, засынала...

І тады ён пачуў нейкі выразны голас — нібыта нехта плыў да яго з боку мора.

— Ты ўбачыў тое, чаго нельга бачыць людзям. Напішы гэта альбо забудзься зусім. Але калі зможаш напісаць адчутае, звар'яцееш ці памрэш. Памрэш геніем.

Аднак чалавек быў проста баязлівы.

Ён нічога не напісаў, а хуценька выкінуў усё, што ўбачыў, з галавы, вызваліўся ад нейкіх міжвольных думак, якія трывожылі яго, і не звар'яцеў.

І застаўся жыць. І звычайна, як і раней, працаваць.

Вечным няўдачнікам.

Бо ўся звычайная праца чалавека, як сказаў прапаведнік, для рота яго, а душа гэтым не насычаецца...



# КАТАВАННЕ НА СТАЙНІ

— Ну!

Яны стаялі адно насупраць аднаго і, баючыся падняць вочы, глядзелі сабе пад ногі, у гной, у мокрую, перапрэлую і пацёртую салому.

Перад імі грозна хадзіў Ён, гнеўна паляскваючы пугаўём па халявах добра нашмальцаваных ботаў.

Навокал, усунуўшы галовы ў парожнія яслі, хрумсталі падабраным, ці не мінулагоднім яшчэ, сенам коні,— быццам і коней удзень знарок загналі ў стайню толькі для таго, каб яны ўбачылі ўсё, што неўзабаве мелася адбыцца. Стаеннікі раздражнёна махалі хвастамі, адганяючы мух і сляпнёў, якія наляцелі і сюды, у халаднаватую крыху канюшню.

Было тут таксама вельмі многа людзей — з плёткамі, нагайкамі і бізунамі, з прутамі, вожкамі і лазою. Адны, сумленныя і сарамлівыя, як і самі вінаватыя, няёмка апускалі долу вочы: ім хацелася ўцячы, збегчы адсюль, а іншыя, больш жорсткія, нецярпліва пераміналіся з нагі на нагу, узрушана, з асалодаю чакаючы відовішча — ой, што зараз будзе, што будзе...

— Ну! — настойліва паўтарыў Пан і так ляснуў бізуном, што здалося: у стайні нехта стрэліў.

Яны ж стаялі, як і да гэтага, і ўсё яшчэ глядзелі сабе пад ногі. Першая падняла вочы яна — прыгожая, у белай кофтачцы і блакітнай станістай спадніцы, уся — велічная і артыстычная.

— Любы мой,— прашапталі яе збялелыя вусны, якія дрыжалі, нібы ад холаду.

Адважыўся нарэшце адарваць вочы ад гною і ён — малады і прыгожы хлопец у зрэбным адзенні, моцны, дужы і такі мускулісты, нібыта ён толькі што вярнуўся з конкурсу па атлетызму. Падняў вочы і тут жа апусціў іх зноў — не вытрымаў цяжкага, налітага крывёю і злосцю, позірку Пана.

— Ну! — скрывіў вусны Пан.— Чаго ты баішся? Дагэтуль не баяўся, а цяпер табе чамусьці страшна стала... Ну!

І ўзмахнуў дратаванкаю — кароценькая такая пуга, несамавітая, яна рассекла цела і пад адзежынай: на штанах адразу ж паказалася кроў. Яна, убачыўшы гэта, падалася была да яго:

— Родны мой!

Ніхто, здаецца, не пачуў, як зноў свіснула пуга, але ўсе ўбачылі — і на блакітнай спадніччы ўвачавідкі пачаў цямнець і пашырацца тоненькі напачатку шрамок.

Тады і ён падняў вочы, растуліў моцна сцятыя — нібы склееныя — вусны, прашаптаў:

— Харошая мая...

І на палатняных штанах з'явіўся новы пісяг.

— Слаўны мой...

І на блакітнай спадніччы ўзнік яшчэ адзін шрам.

Але Пану гэтага было мала. Ён патрабаваў нечага большага.

— Ну! — усё бліжэй і бліжэй падступаўся ён да вінаватых.

І ўжо людзі, якія стаялі навакол,— тыя, што былі менш сарамлівыя і больш нецярплівыя: вельмі ж хацелася ім відовішча! — пачалі — спачатку нясмела, а потым усё смялей і смялей — падштурхоўваць асуджаных адно да аднаго. Бачачы, што Пан якраз гэтага і патрабуе, лёкаі паваліл і яго і яе ў гной, пад самыя конскія ногі і хвасты.

— Ну! — усё яшчэ разлютавана шыпеў Пан.

Але яны ляжалі побач, у гнаі, і, нібыта нікога, апроч іх, не было тут, адно толькі паўтаралі:

— Каханы мой...

— Каханая мая...

Тады лёкаі — вельмі шчырыя памочнікі Пана — пачалі цягаць яго і яе па стайні — блакітная сукенка так выпацкалася ў гной і бруд, што зараз ужо нельга было здагадацца, якога колеру яна была да гэтага.

А Пан усё стаяў на сваім:

— Ну!

Лёкаі, каб яшчэ больш дагадзіць Пану, расшпілілі на яе грудзях кофтачку — не расшпілілі, а ў нецярпенні разадралі яе,— знайшлі яго брудную, усю ў гнаі, руку, засунулі жанчыне запазуху, паклалі на белыя-белыя, чыстыя-чыстыя грудзі. Зараз ужо і яны сталі брудныя — з іх сцякалі гноевыя пісягі.

Яе руцэ лёкаі таксама знайшлі месца.

А Пан усё патрабаваў:

— Ну!

Але ў адказ нічога не бачыў і не чуў, апрача ласкавага і цнатлівага:

— Ласкавы мой...

— Пяшчотная мая...

Зразумела, не толькі Пан нечага чакаў, але чакалі і лёкаі.

Яны задралі на жанчыне спадніцу, з мужчыны сілаю пачалі сцягваць штаны — доўга валачылі яго па гнаі і жыжцы, пакуль нехта не здагадаўся расшпіліць папружку. Сілаю змушалі іх, але вінаватыя супраціўляліся, і ў лёкаяў нічога не атрымлівалася.

Зараз ужо іх білі ўсе — плёткамі і нагайкамі, прутамі і пугамі, бізунамі і лазою. Прыбаўлялася пісягоў і ад панавай дратаванкі, але

як яны цямнеюць, наліваючыся крывёю, зараз ужо на брудным, выкачаным у гнаі адзенні не было відаць.

— Мілы мой,— і больш нічога не чуваць.

— Мілая,— і ўсё.

І тут раптам здарылся нешта такое, што здаецца неверагодным і паводле звычайнага жыцця і звычайнай логікі не павінна было здарыцца ніколі.

Яны самі прыпаўзлі адно да аднаго, самі кінуліся ў абдымкі і, не зважаючы ні на кога, задыхнуліся ў страсным, здавалася, вечным, быццам апошнім, пацалунку.

Бруд і здзек, гной і абраза, плёткі і катаванні нарадзілі — о дзіва! — страсць. Ды такую, што зараз ужо ніхто не мог яе ні стрымаць, ні тым болей — уціхамірыць.

Коні махалі над імі хвастамі, грукалі ля іхніх галоў капытамі,— яны не зважалі на гэта.

Іх білі плёткамі — усе, хто стаяў побач і хто быў крыху далей,— яны не адчувалі гэтага.

Іх затоптвалі ў гной, закідвалі саломаю, а яны не бачылі гэтага.

— Жаданы мой,— шаптала яна і ўпэцканымі ў гіду рукамі пяшчотна і цнатліва лашчыла яго, дакраналася пальцамі да броваў і цалавала ў зашэрхлыя вусны, што пахлі гноем і нечым незразумелым, нібы забароненым.

— Жаданая,— адказваў тым жа і ён, цалаваў яе вочы і грудзі, да якіх яшчэ нядаўна баяўся дакрануцца сам і толькі ўздрыгваў, калі змушалі гэта рабіць, калі клалі на іх яго брудныя рукі.

Убачыўшы ўсё гэта, Пан разгубіўся — дасюль патрабаваў еднасці, а тут раптам спалохаўся.

— Разняць! — загадаў ён.

Але хто можа гэта зрабіць, хто зможа разняць, разлучыць, раздзяліць дваіх — яе і яго,— калі яны раптам сталі адным?!

Аднаго чалавека не разнімеш!

Лёкаі паспрабавалі разлучаць і ў жаху адбегліся ад іх як мага далей.

— Адзіны мой,— толькі і чуваць было яе дыханне.

— Адзіная мая...— як рэха, паўтараў і ён.

Паспрабаваў расцягваць іх за рукі і сам Пан. Дзе там! Закаханых, як сіямскіх блізнят, можна было зараз, мусіць, толькі разрэзаць, раздзяліць хірургічным спосабам.

Разлютаваны, з вачамі, чырвонымі ад шалу, ён даў волю дратаванцы. Дружна далучыліся да яго і лёкаі — чаму ж не сагнаць ахвоту, чаму ж не пасцябаць безабаронных, калі ёсць дазвол нават самога Пана.

Але Пан раптам спыніўся.

— Хо-о-о-піць! — як вар'ят, закрычаў ён.

Тыя, хто больш сумленны і менш цікаўны, адразу ж кінулі сцябаць і адышліся. А тыя, хто хацеў як найлепей услужыць Пану, хто зацята сцябаў пакараных, зняважаных і пасля загаду, пасмакавалі

самі панавай дратаванкі — Пан не даравaў нікому, хто не выконваў яго загадаў.

Пан яшчэ якую хвіліну пастаяў каля закаханых, няўцямна, невідушчымі вачыма паглядзеў на іх, затым ашчэрыўся ўвесь паваўчынаму і з гартанным крыкам, як нейкая гарыла ці макака, бокам, скрывіўшыся, нібыта бег на чацвярэньках, кінуўся прэч са стайні. Ён бег, усё азіраўся і, паказваючы пальцам у бок тых, што ляжалі ў гнаі і брудзе, дзіка крычаў:

— Пачвары! Сволачы! Святыя!

І, завываючы, дадаваў:

— Забойцы-ы-ы! Ка-а-т-ы!

Неўзабаве з таго боку, дзе стаялі Панавы харомы, пачуўся дзіўны гук — нібыта стрэл. Некаторыя лёкаі падумалі, што гэта Пан, як і тут, на стайні, стрэліў пугаю-дратаванкаю, але больш уважлівыя зразумелі: не, пуга ляскае не так, так страляе толькі пісталет сістэмы Макарава.

Тыя, што былі бліжэй да Пана, кажуць, пачулі нават, як ціўкнула куля,і ўбачылі невялічкую дзірачку на скроні, з якой адразу ж паказаў сваю абыякавую галоўку нечаканы чырвоны чарвячок.

Пан не выцерпеў, не вынес самога сябе, не змог зразумець самога сябе, не схацеў дараваць самому сабе, што так зняважыў каханне яшчэ нядаўна блізкіх яму людзей.

А ў гнаі і мокрай саломе ўсё яшчэ ляжалі яны. Ляжалі нерухома, і ўсім здавалася, што яны задаволеныя, хоць і вельмі стомленыя, збітыя і ўшальмаваныя. Але той, хто б уважліва прыгледзеўся да іх, убачыў бы, што закаханыя плакалі: яны былі зараз такія чужыя між сабою і люта ненавідзелі ўжо адно аднаго.

Неўзабаве мужчына і жанчына са злосцю і агідаю адпіхнуліся рукамі і адпаўзліся ў розныя куткі стайні. І там ужо далі волю сваім абражаным, нестрыманым слязам...

Жанчына была жонкаю Пана, а мужчына — яго конюхам. Перад гэтым катаваннем Пан заспеў іх на стайні, калі тыя, схаваўшыся за коней, цалаваліся...

А яшчэ раней яны ўсе трое вучыліся ў адным савецкім інстытуце на адным факультэце, на адным курсе, сябравалі і абодва юнакі бегалі за адною дзяўчынай.

Адзін хлопец стаў потым Панам, і дзяўчына выйшла за яго замуж, а другі — панавым конюхам.

Але гэта было яшчэ ў часы перабудовы, за некалькі гадоў да рэстаўрацыі капіталізму на Беларусі.

Дзіўна, Пан дабіваўся абразы, а як убачыў усё — застрэліўся.

Конюх і Панава жонка праглі кахання і блізкасці, а як атрымалі — зненавідзелі адно аднаго, плачуць.

О, хто зразумее калі гэтых людзей...

І іхнія трохкутнікі, шматкутнікі, у якіх столькі надзей і радасцей, гора і пакут...



## ДАРОГА

Ён стаяў, глядзеў на ўсе вочы і шчыра зайздросціў людзям, што ехалі па шашы.

Каля яго з шумам і форсам, фанабэрліва пафыркваючы, праносіліся перапоўненыя грузавікі і аўтобусы, лімузіны і матацыклы, легкавыя аўтамашыны і трактары з прычэпамі. Нават ваенныя «студэбекеры» — і адкуль яны толькі ўзяліся сёння! — і нашы пасляваенныя трохтонкі, як новыя, паспешліва, жвава газавалі між усімі. Нават іхняя ўжо крыху абшалушаная фарба і несамавіты выгляд на фоне бліскучых, новенькіх «вольваў», «мерседэсаў» і «таёт» ніколькі не заміналі святочнаму настрою, а, наадварот, падкрэслівалі масавасць свята — туды едуць усе.

Людзі, якія ехалі на прыбраных машынах, умаеных і абвітых дзеразою, таксама былі святочныя, радасныя і ўзбуджаныя. Развяваліся на ветры шматкалёрныя жаночыя сукенкі, у кузавах і прычэпах між сцягоў сядзелі ўрачыстыя, як у прэзідыуме, мужчыны ў чорных строгіх пінжаках з шырокімі латамі ордэнскіх планак, дурэлі дзеці — дзецям што, ім абы куды-небудзь ехаць...

І ў аўтобусах было шумна і весела, тамігралі гармонікі, бухалі бубны, пілікалі скрыпкі, спявалі шчаслівыя людзі. Некаторыя нават спрабавалі скакаць — у кузавах машын і ў трактарных прычэпах.

Там стаялі на нагах, ні за што не трымаючыся, задаволеныя, нібы на падпітку, музыкі і над галовамі тых, хто сядзеў, шырока расцягвалі мяхі гармонікаў — было нават дзіўна, як яны, калі машыны прытармажвалі, не падалі і не перапынялі мелодыі.

Людзі былі шчаслівыя, што нарэшце яны едуць, і ў нецярплівасці, нават у нейкай эйфарыі прыспешвалі машыны — мы едзем, едзем, едзем, хутчэй, хутчэй, хутчэй...

Машыны, нібы дражнячыся, прытармажвалі каля яго, але тут жа, уключыўшы большую хуткасць, зрываліся з месца і весела каціліся далей, пакідаючы яму толькі воблака дыму, пылу, чаду і смуроду.

Людзі, таксама, мусіць, дражнячыся, махалі яму галовамі, вабілі пальцамі, запрашалі ў кузавы, падавалі нават рукі.

— Чапляйся! Паехалі з намі!

Але ён стаяў і толькі паціскаў плячыма — навошта? куды?

Хоць яму і самому ўжо было цікава: куды ж гэта ўсе, такія шчаслівыя і радасныя, узнёслыя і святочныя, едуць, і што там урэшце за рай такі, што адтуль ніхто не вяртаецца назад? Дарога гэтая і рух на ёй быў толькі ў адзін бок, а паколькі нікому — ніводнаму чалавеку і ніводнай машыне — не захацелася вярнуцца назад, там і напраўду, мусіць, не жыццё, а суцэльнае свята.

Зараз ён ужо асмялеў і пытаўся ў людзей сам:

— А куды ж вы едзеце?

— На кірмаш! — крычалі яму з адных машын.

— У светлую будучыню! — дадавалі з другіх.

Цікава, раней мы будавалі светлую будучыню толькі для нашчадкаў, а зараз, аказваецца, туды ўжо можна ехаць і самім?

Гэта яго, шчыра кажучы, трохі здзіўляла і насцярожвала. Хіба можна ў светлую будучыню ехаць вось так улегцы — без рэчаў, без багажу, лёгка апранутым: ускінуў на плечы пінжак — і паехаў? У тую ж будучыню едзеш не на дзень ці два, а назаўсёды. Як жа можна так абыякава, безадказна адносіцца да паездкі?

А з машын яму тлумачылі:

— Нам сказалі з сабою нічога не браць. Усё там будзе! Там жа рай для ўсіх!

Ну, добра, у светлай будучыні ўсё будзе. Але ж і на кірмаш з голымі рукамі не едуць. Там жа трэба нешта прадаваць. Няўжо ўсе збіраюцца толькі купляць?

І ўсё ж, не зважаючы на сумненні, яму і самому закарцела ехаць разам з гэтымі людзьмі, разам з імі радавацца, весяліцца і спяваць. Аднак калі раней, дражнячыся, незнаёмаму чалавеку падавалі рукі, то цяпер, убачыўшы, што ён усур'ёз збіраецца залезці да іх у кузаў, людзі адварочваліся, круцілі ля віскоў пальцамі: ты што, маўляў, вар'ят — мы столькі напакутаваліся, столькі нахадзіліся, столькі напрасіліся, столькі ў чэргах настаяліся, пакуль нас узялі ў гэтую дарогу, пусцілі на машыны, а ты ўсё хочаш зрабіць вельмі хутка, без аніякіх клопатаў.

Зразумеўшы, што ніхто зараз яму рукі не падасць, ён сам, калі машыны прытарможвалі блізка, спрабаваў ускочыць на падножку, хапаўся за барты, але шчаслівічыкі, што ўжо ехалі, білі яму па руках, паслаблялі, расшчэплівалі яго пальцы, спіхвалі назад — яны не хацелі пацясніцца, не хацелі, каб ён, звычайны чалавек, зраўняўся з імі, вылучанымі, ужо амаль багамі, і так лёгка трапіў туды, куды яны даўно і доўга збіраліся.

Цяпер ужо і шафёры, нібы адчуваючы яго сур'ёзныя намеры, знарок, не тармозячы, аб'язджалі тое месца, дзе ён стаяў.

Але сам рай, куды ўсе едуць, куды спяшаюцца і машыны і людзі, стаў ужо назойліваю ягонаю ідэяю — ён абавязкова мусіць туды трапіць, як бы цяжка і складана гэта ні было.

Чалавек адышоўся ад дарогі і прыкінуўся, што працуе ў полі — ці то капае бульбу, ці то садзіць што. Зараз ужо ні машыны, ні людзі не зважалі на земляроба — займаецца чалавек сваёю працаю,

то хай і займаецца. А калі дарога супакоілася, прывыкла да яго, ён зноў выйшаў на шасэйку.

Там, як і да гэтага, у абвітых дзеразою машынах, смяяліся шчаслівыя людзі, ігралі гармонікі, бухалі бубны. Зараз ужо ён рабіў выгляд, што глядзіць на ўсё спакойна, не выдаючы сваіх сапраўдных намераў. Але калі побач з ім параўняўся невялікі аўтобусік з шырокім бамперам, што тырчаў ззаду, ён не задумваючыся ўскочыў на яго.

І ўжо ўскочыўшы, зразумеў, што ехаць будзе вельмі цяжка і небяспечна: ззаду не аказалася ніводнага выступу, ніводнай зачэпкі, за якую б можна было трымацца рукамі. Павадзіўшы далонямі па абшыўцы і не знайшоўшы ніякай скабы, ён прыціснуўся да аўтобуса і шырока раскрыленымі рукамі абняў яго, як свайго самага лепшага сябра. На ўсіх выбоінах, калі аўтобус падкідвала, ён мог, канечне ж, зляцець, аднак заўсёды ўтрымліваўся і радаваўся: хоць і кепска, але ўсё ж едзе!

Машыны, што імчалі ззаду, сігналілі шафёру — маўляў, паглядзі, што ў цябе ззаду робіцца, каго ты вязеш у светлае будучае, але ён ці то не чуў, ці то не разумеў, што сігналяць менавіта яму.

Вось так, абдымаючы аўтобус, прытуліўшыся да яго шчакою, чалавек з вялікаю рызыкаю ехаў сам не ведае куды.

Праз нейкі час яго ўбачылі ў задняе акно пасажыры аўтобуса, узбуджана тыцкалі праз шкло пальцамі, паказвалі іншым, нешта спалохана гаварылі, ківалі галовамі, абураліся,— быццам здарылася штосьці вельмі і вельмі страшнае. Затым адсунулі бакавое шкло на абодвух вокнах і, высунуўшы як надалей рукі, спалохана білі чалавека па пальцах, але ён цярпеў і трымаўся.

І ўсё ж яго ссадзілі. Калі яны праехалі пост дзяржаўнай аўтаінспекцыі, ён, скасіўшы вока, убачыў, як замітусіліся міліцыянеры, як пачалі паказваць гумавымі палкамі ў яго бок, як, спяшаючыся, пачалі заводзіць матацыклы. Неўзабаве яны дагналі аўтобус і спынілі яго. Цікаўны злез з бампера сам — убачыў, што тут ужо нікуды не дзенешся, ніяк не ўцячэш.

Дапытвалі яго сур'ёзна — усё высвятлялі, ці не шпіён ён які? Чалавек зацёкшымі, здранцвелымі ад доўгага напружання рукамі паказваў ім усе свае дакументы, але яму не верылі.

Міліцыянеры доўга і даходліва тлумачылі, што туды, куды едуць усе разадзетыя, як на кірмаш, як на свята, людзі, яму пакуль яшчэ рана:

— Ваша чарга не дайшла. А дойдзе — вас знойдуць, вам скажуць, вас запросяць. І нават на машыну ўзлезці дапамогуць. А вы што — без чаргі хочаце? Майце ж цярпенне...

Але, відаць, і яны не хацелі з ім важдацца, афармляць справу — узялі і адпусцілі. Паставілі тварам у другі бок — не ў той, куды ехаў,— далі каленам пад седаўку і адпусцілі.

І цікаўны пайшоў назад. Насустрач яму, як і да гэтага, ехалі святочныя машыны, але ён не звяртаў ужо на іх увагі. З машын зноў

махалі рукамі, нешта крычалі, грымаснічалі, крыўляліся, прыстаўлялі пальцы да носа, але ён не зважаў і на людзей.

Ён думаў пра тое, што пачуў на пасту аўтаінспекцыі. Адзін міліцыянер, нібы выпадкова, сказаў другому:

— Глядзі ты, аж да самага кантрольна-прапускнога пункта дабраўся.

Абодва міліцыянеры — і той, што гаварыў, і той, што слухаў, не звярнулі на гэта ніякай увагі, а ён задумаўся: калі КПП зусім побач, значыць, ён недалёкі ад мэты, значыць, недзе блізка вароты таго зманлівага раю, які спакусіў столькі людзей і машын.

Зараз ён ужо цвёрда ведаў, што будзе рабіць далей. І таму, як толькі за паваротам знікла будка паста, ён збочыў з дарогі, адышоўся глыбей у лес, і па кустах і падлеску, па ажынніку і малінніку пачаў прабірацца наперад — туды, дзе за недалёкім КПП пачынаўся, на яго думку, рай. Што можа заблудзіцца ў лесе, ён не думаў — зусім жа побач гула шаша, там смяяліся і спявалі, і таму лепшага компаса яму і не трэба было: ідзі побач з гулам і ніколі не саб'ешся з тропу.

Ішоў ён спакойна, не спяшаючыся — не ведаў, што з першага паста пазванілі ўжо на другі, сказалі, што Цікаўны ідзе ў іхні бок, і папярэдзілі: калі не прыйдзе — яго трэба шукаць па трывозе.

Ісці было цяжка: наўзбоч дарогі цямнеў несхадзімы гушчар, і яму даводзілася з сілаю праламвацца праз яго. Чэпкія ажыннікі і маліннікі ў шматкі падралі пінжак, штаны, сарочку, і каб вось зараз хто ўбачыў чалавека, падумаў бы і напраўду, што гэта шпіён ці дыверсант які.

Неўзабаве спераду пачалі даносіцца невыразныя, прыглушаныя лесам чалавечыя галасы і сабачы брэх — відаць, гэта была ахова — і ён прыслухоўваўся, затойваўся і ішоў далей толькі тады, калі ўжо нідзе нічога не было чуваць.

Хутка Цікаўны ўпёрся ў высокую, метры на тры бетонную сцяну, якая, на першы погляд, недарэчна падзяляла гушчар. Пакруціўшыся, пахадзіўшы вакол, знайшоў зламаную (відаць, бураю) сукаватую лясіну, прыставіў яе да сцяны і па ёй узлез наверх. Хацеў спачатку скінуць лясіну нагою, а пасля перадумаў, перацягнуў на другі бок — ён жа, мусіць, адзін з усіх, хто ідзе і едзе ў рай, думае вяртацца назад — паглядзіць, як там і што, ды вернецца,— а лясіна тады, на зваротным шляху, ой як будзе яму патрэбна.

Ён, мусіць, спачатку думаў, што сцяна — адзіная тут перашкода, але, выйшаўшы да высокай, як у вальерах, жалезнай сеткі, зразумеў, што памыліўся. Пачаў быў адгінаць дрот рукамі, але спахапіўся — навошта? З таго боку сеткі не было ніякіх кустоў, а тут, у гушчары, лягчэй было падысці незаўважаным бліжэй да дарогі. І ён паміж сцяною і сеткаю, не выходзячы на чыстае, пайшоў да шашы.

Праз нейкі час ён ужо зноў выразна пачуў, як наверсе каля кантрольна-прапускнога пункта смяяліся і спявалі людзі, як ігралі гармонікі, бухалі бубны. Яму было чуваць, як лопалі на ветры шматлікія сцягі, і Цікаўны нават бачыў іх — рознакаляровыя, урачыстыя.

Бачыў і сам прапускны пункт — шырокія вароты, гасцінна расчыненыя на абедзве палавінкі.

Але ў гэтую радасць, гасціннасць і весялосць дамешвалася нешта іншае, толькі вось што — ён ніяк не мог пакуль зразумець.

Знайшоў зламаную драціну і, разгінаючы адна за адною петлі, пачаў расплятаць дзірку ў сетцы. Дрот быў спружыністы, дрэнна разгінаўся, але ўсё ж праз нейкі час Цікаўны зрабіў невялікі пралаз, праз які можна было перапезці на другі бок.

Пералезшы, чалавек стаў і нейкі час стаяў нерухома, баючыся адысціся ад сеткі — амаль каля яе, пакідаючы толькі невялікую стужку зямлі, пачынаўся глыбокі, як прадонне, абрыў.

Ён, усё яшчэ не адыходзячыся ад сеткі, падняў галаву ўгору, зірнуў на прапускны пункт з гэтага боку. І адразу ж, жахнуўшыся, заплюшчыў вочы. Думаў, гэта яму здалося, і варта толькі перачакаць з заплюшчанымі вачыма якую хвіліну, як міраж знікне. Але і ў другі раз адплюшчыўшы вочы, ён убачыў тое ж самае.

Адразу за варотамі кантрольна-прапускнога пункта дарога абрывалася, і з яе, нібы з ленты транспарцёра, сыпаліся ў прадонне людзі, машыны, гармонікі...

Людзі, якія напачатку не маглі ўцяміць, што з імі здарылася, падалі ў цясніну яшчэ з песнямі, са шчаслівымі ўсмешкамі на твары. Потым ужо, крыху праляцеўшы і ўсё зразумеўшы, у адчаі махалі рукамі, нібы спрабуючы зноў падняцца ўгору, узляцець да варот. Твары іх перакошвалі грымасы жаху і жуду, а шчаслівыя песні засядалі ў горле і выдыхаліся адно нечалавечым перадсмяротным крыкам — о-о-о-о-о!

Трымаючыся за сетку, ён асцярожна падышоў на самы край прадоння і зірнуў уніз: там, глыбока-глыбока, на самым дне цясніны ляжала вялізная куча металалому — грузавікі і аўтобусы, лімузіны і матацыклы: акурат так выглядаюць — ён сам гэта бачыў на здымках — звалкі, могільнікі аўтамашын у капіталістычных гарадах.

Людзей у прадонні ўжо не было відаць — такую яно мела глыбіню, што вока не вылучала з лому чалавека.

Ад жуду яго аж скаланула, і ён адчуў, як і пад ім абсоўваецца зямля. Цікаўны яшчэ мацней учапіўся за сетку і паспешліва, бачачы, як з-пад ног у цясніну скочваюцца, ляцяць камлыжкі, пабег да дзіркі, у якой было яго выратаванне.

Пералезшы назад і зноў пачуўшы бадзёрыя песні і шчаслівы смех па другі бок ад прапускнога пункта, ён разгублена думаў, што не заўсёды там рай, дзе нам здаецца, куды мы прагнем і хочам, куды з радасцю спяшаемся. І яшчэ думаў, як бы даходлівей сказаць вунь тым зарадаваным дурням, што наверсе, пра ўсё гэта, як папярэдзіць іх.

І разумеў, што такое немагчыма: нават калі б ён і знайшоў спосаб зрабіць гэта, яму б не паверылі. Маглі б абразіцца, падумаўшы, што іх падманваюць, маглі б раззлавацца на няпрошанага заступніка, а ў злосці, самі ведаеце, кожны чалавек небяспечны...

На сцяну зараз ужо ён узлез прасцей — па той самай лясіне, якую сам перацягнуў на гэты бок.

Перацягваючы яшчэ раз лясіну, ён раптам зірнуў уніз і як усё роўна спатыкнуўся, зрабіўся ўвесь нібы ватны: там, дзе, здавалася, была воля, стаяла міліцэйская машына і некалькі міліцыянераў, чакаючы яго,ківалі Цікаўнаму пальцамі:

— Ну, злязай, злязай да нас, галубок...

Дзе воля і дзе няволя наша? Дзе радасць, а дзе засмучэнне? Дзе мы будзем шчаслівыя, а дзе — гаротныя? Дзе нас чакае смерць, а дзе жыццё?

Хто, смертныя, загадзя ведае гэта?

Скажыце!

Скажыце і нам, пакуль бессмяротным...



## ПЛАСТЫЛІНАВЫЯ ЛЮДЗІ

Было мулка спіне, хацелася паварушыцца, павярнуцца на бок, але зрабіць гэта ён не мог. Знямелі, зацяклі рукі, іх таксама хацелася выпрастаць, выцягнуць, размяць, каб аж затрашчалі ў суставах, але і такое было яму не па сіле. Нейкі дзівакаваты, блазенскі картуз, які сілаю надзелі яму на галаву — здаецца, іх знарок рабілі нехлямяжымі,— насунуўся на самыя вочы, аднак паправіць яго таксама было немагчыма.

Скасіў позірк, агледзеўся з-пад картуза.

Навакол, як заўсёды, былі такія ж, як і ён, людзі. Толькі зараз чамусьці звярнуў увагу, што тут усе ляжаць і ніхто не сядзіць, тым больш не стаіць — быццам нехта баіцца: а што, калі раптам усе яны пастануць на ногі, нешта ўбачаць і зразумеюць,— іх жа тады ніхто ўжо не зможа ўтрымаць у пакоры і ціхамірнасці.

Побач хадзілі іншыя, жывыя, рухомыя, незразумелыя ім людзі, яны гучна гаварылі, яшчэ гучней смяяліся, але ўсё гэта абмінала тых, хто ляжаў: яны нічога не чулі, бо былі занятыя толькі сваёй, таксама незнаёмай жывым людзям сістэмаю зносін.

Яны былі чужыя між сабою — жывыя людзі і нежывыя, як усе пра іх думалі, істоты. Іхнія светы, здавалася, нідзе не сустракаліся, нідзе не перасякаліся, не перакрыжоўваліся.

Але ж нерухомыя поўнасцю залежалі ад рухомых.

Менавіта рухомыя стварылі іх.

Нерухомыя не хацелі гэтага і, як маглі, пратэставалі — яны не жадалі, каб іх рабілі людзі па сваіх капрызах і выдварах.

Яны не хацелі нараджацца вось так! А ўжо нарадзіўшыся, многія праглі быць іншымі і нецярпліва чакалі, калі іх пераробяць.

Часам Рухомыя — толькі так называлі жывых людзей асуджаныя на нерухомасць,— падыходзілі да іх, доўга разглядалі, нешта гаварылі — тыя ж, што ляжалі, толькі бачылі, як у іх адкрываецца рот, варушацца вусны ды і ўсё,— часам бралі ў рукі, часам нешта папраўлялі — палец, нагу, нос — і клалі зноў на ранейшае месца.

О, як яны, нягледзячы на свой пратэст, чакалі таго моманту, калі іх возьмуць у рукі! І якімі жаданымі, якімі мяккімі і ласкавымі тады здаваліся ім жорсткія, бязлітасныя пальцы! Яны з нецярпеннем праглі іх, чакалі іх і ў той жа час ненавідзелі.

Якое гэта было цяжкае насілле — чакаць. Здзек для ўсяго жывога. Ляжы і чакай, калі нехта падыдзе, паправіць табе галаву, пераробіць нагу, выцягне замлелую руку. А сам ты нічога гэтага зрабіць не можаш.

Словам, чакай, калі цябе пераробяць.

А перарабляць, як ім здавалася, у іх было што.

Рухомыя, нібы знарок, ляпілі Нерухомых заўсёды нейкімі нязграбнымі, нават страшэннымі, пачварнымі, апраналі ў самыя непрывабныя сярмягі ці лахманы, абувалі ў лапці, твары рабілі грубымі, непрыгожымі, а на галовы абавязкова насоўвалі брыдкія шапкі, быццам бы знятыя з пудзілаў. А ім жа хацелася выглядаць прыгожа і самавіта,— як і самім Рухомым. Асабліва былі незадаволеныя жанчыны: яны саромеліся і свайго вобліку, і свайго адзення. А якая жанчына не хоча быць чароўнаю?!

Асуджаныя на вечную нерухомасць, не маючы магчымасці хадзіць і сустракацца між сабою, на адзіноце дужа многа думалі — як кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце памагло. Яны неймавернаю сілаю волі змусілі мёртвы, нежыццёвы і непрыдатны для роздуму пластылін мысліць.

Вось і зараз ён, злеплены кімсьці наспех, ляжаў нерухома, побач, таксама нерухома, ляжалі іншыя, а каля яго скроні, ён адчуваў, пульсавала нейчая настойлівая думка. І ён нават ведаў, чыя яна, ведаў, што гэта абменьваецца інфармацыяй з суродзічамі вунь той пластылінавы чалавек, злеплены пад блазна ці прыдурка, што ляжыць далёка-далёка ад яго — на самым краі стала.

«Трэба нам нешта рабіць,— спакойна, не спяшаючыся, расшыфроўваў мозг сігналы.— З нас здзекуюцца, намі пагарджаюць, нас не лічаць нават за людзей. Нам не даюць думаць, вырашаць свой лёс — якімі, маўляў, мы злепім вас, такімі і жывіце».

Тут жа ў размову ўмешваўся другі голас — і гэта было падобна на перамовы розных радыёстанцый у эфіры. І новы голас быў таксама яму знаёмы — ён належаў пластылінаваму чалавеку, злепленаму пад хлебароба: магутныя кулачышчы, шырокія плечы, моцныя, мускулістыя босыя ногі. Яго зляпілі амаль што голым — знізу толькі крыху прыкрылі нейкім шарачковым рыззём. Чалавек і напраўду атрымаўся моцны і загартаваны — нягледзячы на тое, што тут і апранутым было зімна, ён ніколі не скардзіўся, што яму холадна, ніколі не прастуджваўся, не хварэў. Не замінаў яму і вузкі лоб, які знарок, для пацехі зляпілі яму Рухомыя, каб пасмяяцца і паздзекавацца з яго: пад гэтым вузкім ілбом віравалі такія мудрыя і натхнёныя думкі, што амаль усё племя Нерухомых міжволі прызнала яго сваім вадаром. Ён ведаў, што ім трэба рабіць вось зараз, сёння, але таксама разумеў, што іх чакае заўтра і што там ім спатрэбіцца ў першую чаргу. Яго думкі былі простыя і звычайныя, як сама зямля, хоць у іх і была такая глыбіня, якая часцей за ўсё прыхарошвае і робіць высакароднаю кожную мудрую прастату. Хлебароб не даваў нікому ніякіх загадаў ці парад — ён проста нібы разважаў сам з сабою, але яго хвалю лавіў кожны пластылінавы чалавек.

«Дык што ж нам трэба рабіць, каб вярнуць свой гонар, славу і самапавагу? Мусіць, трэба найперш стаць на ногі, утрымацца на іх, а затым навучыцца хадзіць».

А звычайны, шэранькі чалавечак, якога Рухомыя вылепілі царом, быў дужа прымітыўны, вёў сябе вельмі несамавіта і непрыстойна, выглядаў блазнам. Яго шыкоўнае царскае адзенне і карона на галаве неяк не стасаваліся з тым, што ён гаварыў і рабіў: крычаў на ўсіх, выдаваў дурныя загады, з якіх усе смяяліся, лаяўся, а пасля, пакрыўдзіўшы, абразіўшы ўсіх, чамусьці плакаў сам.

Ён жа, Хлебароб, адчуваў у сабе нейкую нерэалізаваную звышчалавечую сіламоц. Воляю і думкаю мог напоўніць свае пластылінавыя вены жывою сапраўднаю крывёю, а рукі і ногі — такою энергіяй, што яны, як яму здавалася, рабіліся жывымі і пачыналі рухацца. Не, для ўсіх іншых рукі-ногі нерухома ляжалі, як і да гэтага, на месцы, і толькі ён сам ведаў і адчуваў, што яны рухаюцца.

Сілаю волі прымусіў падысці да сябе аднаго з Рухомых — менавіта таго, хто, ён ведаў, паддаецца яго біялагічнаму полю, яго намаўленню, гіпнозу. Прысіліў узяць сябе ў рукі і ягонымі пальцамі пачаў рабіць самога сябе.

Найперш зняў з галавы блазенскі картуз. Потым пачаў папраўляць твар, надаючы яму годнасць і ўзнёсласць, рашучасць і ўпэўненасць.

Пальцы былі жорсткія, няласкавыя, але яму здаваліся прыемнымі і жаданымі: яны рабілі якраз тое, чаго ён і хацеў, чаго дамагаўся — ляпілі яго, ляпілі без насмешкі і здзеку.

Усё племя гэта зразумела, насцярожана сцішылася, і зараз пластылінавыя людзі ляжалі моўчкі, не перагаворваючыся. Маўчаў нават цар-блазан — не выкрыкваў глупстваў, не плакаў і не смяяўся. Усе, напружыўшыся, чакалі, што ж будзе далей.

А пальцы Рухомага ўсё яшчэ з натхненнем і асалодаю, з нейкай дуркаватай зацятасцюціскалі, мясілі пластылін і радаваліся, калі атрымліваўся прыгожы нос, шчырыя вочы, высокі лоб. Рухомы, сам таго не ведаючы і не хочучы, вось зараз сабе насуперак рабіў Вадара, вартага ўсяго абражанага і зняважанага племя.

А сам Вадар адчуваў, як напаўняецца сілаю і жыццём кожная клетка пластыліну, як векавечная мара столькіх пакаленняў вось зараз уваходзіць у яго аднаго.

Ад радасці ён, нечакана нават для самога сябе, міжволі скалануўся.

І адразу ж заціхлі, перасталі працаваць пальцы Рухомага. Яны, здаецца, таксама адчулі нейкую невядомую да гэтага сілу ў пластыліне, адчулі яе радасць і супраціўленне адначасова, і спалохаліся: у гэтай сіле і радасці нібыта была нейкая пагроза ім, Рухомым,— пластылінавыя людзі зараз ужо, зраўняўшыся з імі па руху, станавіліся нібыта раўнёю ім.

Рухомы хацеў пачаць разбураць з натхненнем створанага ім чалавека, паспеў ужо нават змяць яму правую руку і скамячыць

вуха, але Вадар зноў напружыў усю сваю волю і, узбудзіўшы біялагічнае поле, прымусіў яго спыніцца.

Рухомы трымаў зараз чалавека ў руцэ і не ведаў, што з ім рабіць далей. Ужо хацеў быў кінуць туды, на стол, дзе ляжалі астатнія, асуджаныя на нерухомасць, пластылінавыя людзі, але Вадар зноў сабраў сваю сілу волі і загадаў Рухомаму: «Не кладзі. Пастаў... Пастаў на ногі... Пастаў...»

Рухомы ўсё больш і больш трывожыўся — відаць, адчуў, што нехта кіруе ім і ўсё гэта ён робіць не па сваёй волі,— як у сне.

Зразумеўшы, што ў яго руках ужо не мёртвы пластылін, а жывая плоць, ён зусім спалохаўся і кінуў Вадара да суродзічаў — нават невядома было, ці то ён кідаў яго так, ці то ставіў. Можа, і ставіў, ды ў спудзе гэта атрымалася ў яго дужа рэзка, і Вадар ледзь не паваліўся, але ўсё роўна ўтрымаўся на нагах, устояў.

Вадар стаяў, пагойдваўся, ківаўся, ды так моцна, што здавалася, вось-вось перакуліцца, упадзе. Ніхто не ведаў, што яго пластылінавыя ногі сталі жывымі і ў руках ужо торгае, нібы дабраякасны, чужародны пластыліну, нарыў — нармальная чалавечая кроў. Ніхто не бачыў, як трымцяць ад нецярпення ногі, прагнучы найхутчэй зрабіць першы крок. Ніхто не чуў, як чалавек голасна, на ўсю планету сказаў: «Мы паспрачаемся яшчэ з вамі, жорсткія чалавечыя пальцы».

Пластылінавы чалавек — першы сярод суродзічаў — вучыўся хадзіць.



# ГАРМОНІК

Не ў самыя лепшыя для роднага краю часы ехаў я неяк па няўцешных яго дарогах, ішоў па амаль нежывых, зарослых дзядоўнікам і пустазёлам сцежках. Ехаў ад вёскі да вёскі, ішоў ад хаты да хаты.

Усюды было запусценне і глушыня.

У высокім бур'яне і густой стрыкучай крапіве стаялі пакінутыя хаты — вокны з павыбіванымі шыбамі, нібы пустыя вачніцы, абыякава глядзелі на мяне. Сцежкі, зарослыя перастоенай травою і быльнягом, ужо не запрашалі гасцінна да хат, і ад гэтага сціскалася сэрца, якое ўсё ж супраціўлялася і ніяк не хацела верыць у блізкасць нейкага жудаснага, немінучага канца.

Стрэхі былі раскрытыя, кузні стаялі дзіравыя, вёскі былі мёртвыя.

І таму, калі аднойчы напрадвесні паміж сціхотных, нямых, апусцелых вёсак, якія суміліся ў раскіслым, пачарнелым і васпаватым снезе, весела і залівіста зайграў гармонік, я не паверыў самому сабе, сярод дрымоты і цішыні, ад якіх аж закладала вушы, яго бесклапотнасць здалася залішне прарэзліваю і недарэчнаю. Спачатку думаў, што гэта мне ўсё ж трызніцца, але, прыслухаўшыся, пакруціўшы галавою сюды-туды, пераканаўся, што гармонік і праўду іграе недзе каля кароўнікаў: людзей не відно, а ён, чуеце, аж заліваецца...

Па вясенняй, раскаўзанай у чорную гразь дарозе, па каляінах, у якіх чвякала пад нагамі каша з зямлі, вады і снегу, паціху пайшоў у бок фермы, каб паглядзець, каму ж там гэтак весела.

Каля кароўніка на перакуленым пагнутым бітоне сядзеў адзінокі чалавек — мусіць, вартаўнік — і, не зважаючы ні на што, прыклаўшы галаву да гармоніка, засяроджана іграў. Мяхі шкрэбліся аб яго фуфайку, адкасанае вуха шапкі-аблавушкі звісала і матлялася, трапляла між мяхоў, але ён і на гэта не звяртаў аніякай увагі. Не перастаў дзядзька іграць і тады, калі я падышоў зусім блізка,— ці то напраўду не заўважыў, ці то зрабіў толькі выгляд.

Давялося кашлянуць, каб звярнуць на сябе ўвагу. Дзядзька адразу згроб, як задушыў, гармонік — той, незадаволена піскнуўшы, зусім сціх, а гарманіст угледзеўся ў мяне сумнымі, але насцярожанымі вачыма:

— Што, правяраць прыехаў? Круп сёлета мы не сеялі, гарчыца не ўзышла, сурэпку ўбралі без страт...

Ён здзекаваўся з мяне, і каб зняць у яго падазрэнне, каб перакапаць старога, што я ніякі не правяральшчык, прыцягнуў сюды ж другі бітон, што ляжаў пад страхою, перакуліў яго і паставіў побач з дзядзькавым. Сеў і як можна натуральней спытаўся:

— Іграеце?

— Іграю.

Дзверы ў кароўнік былі адчынены, і з іх выглядалі ўжо цікаўныя каровы.

— А каровы слухаюць?

— Слухаюць.

Па гэтых кароткіх адказах я зразумеў, што дзядзька не хоча са мной гаварыць. Каб неяк разварушыць старога, хоць сам і не куру, папрасіў у яго закурыць. Дзядзька дастаў з кішэні свой капшук з табакаю, і неўзабаве мы заслінілі і прыкурылі ад крэсіва дзве вялікія і тоўстыя цыгаркі — на любую доўгую размову хопіць.

— А дзе ж гэта страха ад кароўніка? — няўмела пыхкаючы цыгаркаю, спытаўся я.— Можа, віхор знёс?

Агульнае курыва, мусіць, як і агульная чарка, збліжае людзей — дзядзька загаварыў ахвотней, жвавей:

— Які там віхор?! Ундзека яны з'елі,— і паказаў жоўтым, пракураным пальцам на кароў, якія, выглядаючы з дзвярэй, нібыта слухалі нашу размову.

— А дзе сена?

— Таксама яны з'елі.

— Мала было?

— Дзівак ты, чалавеча. А хто ж яго многа накосіць, калі ў гэтых вёсках адны ундзека старыя ды крывыя асталіся, а ўсе іншыя, як вось і ты сам, у гарады паз'ехалі.

— Дык а чым вы іх зараз корміце?

Дзядзька неяк хітравата паглядзеў на мяне, але так нічога і не адказаў — адно толькі махнуў рукою.

— Што, і саломы не хапіла, і стрэх таксама?

— Дарагі чалавеча,— дзядзька зноў пыхнуў цыгаркаю,— ты, мусіць, і ў вёсцы ніколі не жыў. Адкуль жа ёй, той саломе, брацца, калі нашы палі толькі птушкі, што пралятаюць міма, угнойваюць. У нас між гаспадаркамі нават спаборніцтва было: хто болей на сваё поле птушак загоніць. Хто болей загнаў, той і багацейшы. А ты кажаш, салома...

Каровы, якія да гэтага маўчалі, раптам пачалі раўці — з кожным разам усё галасней і патрабавальней. Яны грукалі капытамі аб цэментную падлогу кароўніка, білі рагамі ў загародкі.

— Есці хочуць,— задумліва сказаў дзядзька.

Рыканне стала ўжо невыносным.

— Гэта толькі тыя шалеюць, якія пакуль на нагах стаяць. А тыя, што ўжо не падымаюцца, маўчаць. Ляжаць і маўчаць.

— А дзе ж старшыня? Што ён сабе думае? Чаму выйсця не шукае?

— А ён ужо не думае. Ён знайшоў сабе выйсце. Хадзіў, хадзіў, ездзіў, ездзіў усюды, шукаў, прасіў, а тады прыйшоў у кароўнік і на той вунь бэльцы павесіўся.

Каровы зараз раўлі дужа моцна — здавалася, што да іх далучыліся нават тыя, што ўжо даўно не ўставалі і даўно не падавалі ніякага голасу.

— Дык што ж вы з імі рабіць будзеце? — разгубіўся я.

— Анічога. Карміць буду,— упэўнена адказаў дзядзька і дадаў: — Час кармлення прыспеў.

— То ідзіце, я не буду вам замінаць.

— А не турбуйся, я і тут, седзячы ля цябе, пакармлю іх.

— А дзе ж ваш корм? — здзівіўся я.

— А ундзека ён. Хіба не бачыш? — і дзядзька паказаў на гармонік, які ўвесь гэты час стаяў на нейкай паламанай, скасабочанай скрынцы.

Дзядзька не спяшаючыся падсунуў да сябе скрынку, узяў у рукі гармонік, павольна ўскінуў рэмень на плячо, зручней усеўся на бітоне, шырока расцягнуў мяхі і зайграў.

Зноў мяхі шкрэбаліся па фуфайцы, зноў вуха аблавушкі завязкаю трапляла між імі — мяхі шчыпалі нават зарослую сівой шчэццю дзядзькаву шчаку, але ён, не зважаючы на гэта, іграў усё весялей і весялей — здаецца, гармонік нават сам выгаворваў: «Легко на сердце от песни веселой». У такт бесклапотнай песні варушыў губамі і дзядзька і прытупваў кірзавымі ботамі па раскіслай, перамешанай са снегам, зямлі — аж пырскі ляцелі ў бакі.

І дзіва дзіўнае — каровы паволі супакойваліся, пераставалі раўці. Яны зацікаўлена прыслухоўваліся да іграння, змаўкалі адна за адною, і неўзабаве ў кароўніку стала зусім ціха: ніводная з іх ужо не раўла, не біла аб цэмент капытамі, не круціла рагамі — усе, як зачараваныя, наставіўшы вушы, стаіўшы дыханне, слухалі дзядзькаў гармонік.

— Бачыш, яны ўжо ядуць,— падміргнуў мне дзядзька.— О, я прывучыў іх да гэтага корму. І ў кароўніку ціха, і надоі прыбаўляюцца.

Ад спакойных дзядзькавых слоў мне зрабілася чамусьці страшна, ад вясёлага яго грання мурашкі пабеглі ў мяне па спіне.

Я не стрымаўся. Падхапіўся з бітона і, ні слова не сказаўшы, нават не развітаўшыся з дзядзькам, пабег хутчэй ад гэтай жудаснай музыкі, ад гэтых галодных кароў, якія паддаліся на такі падман, ад гэтага дзядзькі, які ўпершыню ў свеце прыдумаў і зараз прымяняў такую жахлівую навінку — свой ідэятычны «корм».

Я спяшаўся, жадаючы, як можна хутчэй адбегчыся ад гэтага злавеснага кароўніка, дзе, як мне здавалася, усё яшчэ гайдаецца на бэльцы не зняты нікім старшыня гаспадаркі.

Адбегшыся крыху, азірнуўся і ўбачыў, як дзядзька падміргнуў самому сабе і сабе ж сказаў — нібыта пацвердзіў сваю здагадку:

— А яшчэ гаварыў, што не правяральшчык.

Чым далей я адыходзіў ад гэтага страшнага кароўніка, тым грамчэй і выразней чуў гукі гармоніка.

Гармонік іграў прарэзліва, як крычаў, а да зялёнай травы было яшчэ так далёка...

І я ўжо злаваўся на тое, чым яшчэ нядаўна цешыўся, і прагнуў таго, каля чаго раней праходзіў паблажліва.

І радаваўся таму, чым яшчэ толькі што засмучаўся, і засмучаўся тым, што ўчора яшчэ мяне радавала і прыносіла асалоду.



# ГУМНО

— Дабрыдзень!

Чалавек яшчэ раз азірнуўся і асцярожна прычыніў вароты:

— Здаецца, нікога за сабою не прывёў.

На двары ліў дождж — цёплы, летні, як з вядра. Чалавек зняў з сябе накідку, там жа каля варот абтрос яе, кінуў на кучу саломы, а сам падышоў да людзей:

— Давайце і мне якую работу.

Людзі працавалі: хто складаў у застаронку снапы, хто веяў на таку абмалочанае збожжа, хто затапляў у ёўні печку, каб перад малацьбою, перад чарговым пасадам прасушыць крыху жыта.

— Ты лепей раскажы, што там за варотамі?

— Там дождж.

— Гэта мы і самі бачым і чуем. І ведаем: дождж не тады ідзе, калі просяць, [illegible] тады, калі жнуць і косяць. Мы пра іншае пытаемся. Ён калі прыйдзе? Хутка?

— Можа, хутка, а можа, і не,— няпэўна адказаў той, хто з'явіўся.— Вы ж самі ўяўляеце, што зараз у вёсках робіцца. Усіх, каго злавілі, садзяць на фурманкі, а то і пешкі пад дажджом гоняць у мястэчка.

Праз мястэчка нечакана павінен быў праязджаць цар, і таму ў яго гонар у царкве ладзілі святочную службу. А каб цару не давялося ў адзіноце слухаць малітвы, па ўсіх навакольных вёсках лавілі людзей і сілаю змушалі ісці ці ехаць туды.

— Навошта мы ім? — абураліся людзі.— У нас жа зусім іншая вера — не такая, як у цара.

— І не такая, як у караля, але ж і таго нас прысільвалі вітаць.

З паўгода таму назад праз гэта ж мястэчка, але ўжо ў іншы бок, ехаў кароль. Ён таксама спыніўся, і ў яго гонар таксама была служба — толькі ўжо ў касцёле. Балабонілі, як звар'яцелыя, званы, а людзей зноў сагналі слухаць чужыя малітвы.

— Думаюць, калі ўжо да нас цар ці кароль завітае, дык мы ўсе рады будзем пастаяць разам з імі на іхняй малітве.

— Пастаяць-то можна было б, а то ў душу лезуць...

— І навошта ім наша душа? Сваёй мала, ці што?

— Хопіць, людзі, гаварыць. Давайце лепей працаваць,— рашуча сказаў раптам той, хто толькі што прыйшоў, і ўзяў у рукі савок.

Мужчына быў плячысты і моцны, праца ў яго добра выходзіла — рухі былі ўпэўненыя, зерне ляцела далёка, мякіна густа сеялася пад ногі — ім аж залюбаваліся жанчыны, якія насыпалі ў мяшкі чыстае збожжа.

Неўзабаве ў ёўні, якая палілася па-чорнаму, пацягнула дымком — там, у печы, разгараліся дровы.

Нехта перавязваў біла ў цапах, рыхтуючыся малаціць чарговы пасад, нехта папраўляў у ёўні цапкі, нехта прыбіраў з самага праходу сырамалотную салому, якую і малацілі нясушаную, каб скарміць яе потым жывёле.

Гумно стаяла далекавата ад вёскі — між лесам і хатамі.

Яно было прасторнае, хоць і не вельмі багатае. Усяго на чатырох сахах трымалася страха, але месца для тока, для малацьбы хапала. Накрытае яно было не пад шчотку, а ўсяго толькі пад колас, бо, каб пакрыць пад шчотку, трэба дужа многа саломы, а яе якраз і не хапіла.

Зараз ужо людзі працавалі моўчкі. Але было відаць, што кожны чалавек, хоць і маўчыць, думае, разважае, абураецца.

І праўда, навошта спатрэбілася чужынцам іхняя спрадвечная вера? Чаму яны хочуць яе сілаю адабраць? Чаму вырываюць з рук іхнія мшалы, а ім у рукі настойліва соваюць свае? Кідаюць мшалы ў вогнішча, а вернікам загадваюць: «Маліцеся па нашых». І што цікава — і каралі і цары загадваюць. Звычайна яны быццам бы ворагі між сабою, а як веру ў людзей адбіраць — такія ўжо сябры неразлучныя... Вадою не разліць.

Святароў арыштоўваюць, адмаўленцаў ссылаюць, вернікаў спакушаюць і спаскуджваюць душы ім: адмоўся ад свае веры, прымі нашу — мы табе зямлі дадзім, хату пабудуем. Самі людзей разбэшчваюць, а потым на нашых святароў усё звальваюць: маўляў, гэта ж яны распуснікі, яны сялян на грэх наводзяць.

І жывуць жа людзі! Тыя, што сваёй веры здрадзілі і прынялі, як хамут, чужую. Яна ім муляе шыі, яны круцяць незадаволена галовамі, імкнучыся хоць трохі аслабаніцца, але жывуць.

Вунь Смаргун. І хата ў яго ёсць, і зямля, і коні. Гаспадаром зрабіўся. За веру зямлю купіў. Прадаў веру — зямлю набыў.

А чым ім не падабаецца наша вера — праўдзівая вера нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў?!

Вунь і Дабрыту Вялікага спакушалі адрачыся. Смяяліся, пацяшаліся з яго.

— Каму ты молішся? Дзе твой бог?

Яны ў полі стаялі, ля жыта.

— Вунь ён,— адразу адказаў Святар і паказаў вачыма на колас, укленчыў, пачаў маліцца яму, класці коласу паклоны.

Яны зарагаталі — і царскія і каралеўскія слугі зарагаталі.

— Дурань ты! Які ж гэта бог? Гэта ж усяго толькі колас. Тады, можа, і вось гэты камень — бог?

— І камень бог,— згадзіўся Святар і пачаў маліцца каменю.
— Можа, і гэта бог? — і паказалі яму на дрэва.
— І гэта бог,— і пачаў маліцца дрэву.
— Дык, можа, і сонца — бог?
— І сонца — бог,— і пачаў маліцца сонцу.
— Чаму, дурань?
— Таму, што яны самі па сабе ніколі мяне не пакрыўдзілі, так, як можа пакрыўдзіць чалавек, а заўсёды толькі памагалі — і мне, і ўсім людзям. А Бог жа таксама павінен памагаць чалавеку.
— Ты паганец.
— Не, паганцы — вы, а я Дабрыта Вялікі.

Яго арыштавалі за апаганьванне веры і саслалі невядома куды. Вядома толькі, што некуды ў чужы край.

Людзі не змаглі стрымаць свайго гневу, крыўды і абразы — успыхнула паўстанне. Але тут, як заўсёды, супраць іх аб'ядналіся і тыя, і другія — і царква, і касцёл. Грэнадзёры і жаўнеры кіямі, бізунамі ды шашкамі змушалі людзей адрачыся ад бацькоўскай веры — колькі вернікаў пайшло ў чужыя краі ўслед за Святаром — Дабрытаю Вялікім.

«Чаму, ну чаму,— пакутліва думалі арыштанты, нервова круцячы зланцужанымі, сціснутымі да болю, кулакамі,— ну чаму нас хочуць прымусіць, каб мы мякалі ці чмякалі, калі мы ўмеем толькі акаць і якаць — так, як акалі і якалі ўсе нашы продкі. Навошта ім наша душа? На-во-шта?» — ледзь не крычалі яны.

Вернікі, мусіць, не ведалі тое, што ведалі іхнія ворагі: толькі са сваёю, [redacted] не [redacted] чужою душою чалавек астаецца чалавекам, а без душы — ён ужо ніхто, ён проста раб і ўжо не супраціўляецца ніякаму здзеку, ніякай абразе.

Жаўнеры і грэнадзёры разбурылі ўсе іхнія малельні, паўкідалі ў новыя вогнішчы і тыя старадаўнія мшалы, якія яшчэ зберагліся ў народа.

Але ж чалавеку нельга без бога. Трэба, каб у яго абавязкова свой бог быў!

У гумно прыходзілі ўсё новыя і новыя людзі. І ўсім ім знаходзілася праца — даўно ішлі дажджы, і хлебасеям трэба было ратаваць ураджай. Недзе пад вечар ужо тут, у гумне, стала цеснавата — сабраліся не толькі свае аднавяскоўцы, але і людзі з суседніх паселішчаў, акрамя хіба толькі тых, каго злавілі і пагналі ў мястэчка.

Людзі моўчкі працавалі, але здавалася, што маўчанне іхняе было нейкае зацятае. Усе нібыта нечага чакалі,— быццам нешта вось-вось павінна здарыцца...

І надвечар, калі пачало ўжо цямнець, у варотах гумна раптам стала зусім цёмна — у іх уехаў вялізны воз, наладаваны снапамі. Чалавек, што з лейцамі ў руках ішоў каля воза, скіраваў каня ў парожні застаронак і пачаў скідаць з воза і складаць да сцяны мокрыя снапы. Людзі спачатку глядзелі на яго, як паралізаваныя, баяліся нават паварушыцца, а тады кінуліся яму памагаць.

Людзі здагадваліся, што гэта Ён.

Калі быў пакладзены ў застаронак апошні сноп з воза, раптам чуваць стала, як зазванілі ў недалёкім мястэчку званы — там пачыналася святочная малітва ў гонар цара. Усе ўслухаліся ў яе. Спакойна стаяў ля пустога воза і спакойна слухаў званы і гэты чалавек.

Калі ж званы змоўклі, чалавек адышоўся ад калёс, зняў сваё мокрае адзенне, і ўсе ўбачылі, што пад ім гожае, сухое, урачыстае адзенне для адпраўлення малітвы.

Усе пазналі Яго і ўкленчылі перад Ім.

Гэта быў іх Святар, якога некуды звезлі нячысцікі — ці то жаўнеры, ці то грэнадзёры.

Перад імі стаяў сам Дабрыта Вялікі.

А ён у прыцемку абвёў усіх вернікаў ласкавым позіркам і сказаў:

— Умілаваныя! Я асвячаю наша хлебалюбнае гумно, і з гэтага часу яно ад сёння і давеку — наш святы храм.

А потым павярнуўся да гурбы толькі што навеянага, чыстага, буйнога зерня, якое залацілася нават у змроку, і заспяваў:

— Цябе, Божа, хвалім мы...

І ўсе таксама павярнуліся тварамі да збожжа і таксама паўтарылі:

— Цябе, Божа, хвалім мы...

Так пачалася першая малітва ў новым вясковым храме.

Аказваецца, і самае звычайнае гумно можа ператварацца ў храм — была б толькі вера.

Яны маліліся і не ведалі, што гумно ўжо ачапілі жаўнеры і грэнадзёры, а хтосьці са сваіх нявернікаў спрабуе падпаліць страху, якая, мокрая і сырая, не хоча пакуль што загарацца...

Значыць, калі ёсць вера, ёсць і небяспека.

Ну што ж, можа, так яно павінна быць заўсёды — свайго бога трэба выпакутаваць, не адрачыся ад яго і тады, калі разам з ім давядзецца ісці нават праз той бязлітасны агонь, які халодзіць кроў...

Бо вышэй свайго бога няма Бога.

Цябе, Божа, хвалім мы!



# ДВОЕ ДЛЯ ДВАІХ

Востраў і праўда быў казачны, прыгожы.

І самае галоўнае — неабжыты. Куды ні зірнеш, куды ні пойдзеш — нідзе ніводнай душы. Толькі дрэвы і травы, толькі мятлушкі і птушкі. Ды яшчэ мора, якое ласкава, па-кацінаму падкочвалася да ног адразу, як толькі закаханыя выходзілі на бераг. Аднак мора, як ім здавалася, было хоць і цікаўнае, але ж сляпое ад сонца, нічога не бачыла, і яны яго не саромеліся.

— Святлінка ты мая! — адразу расчулена выдыхнуў ён.— Я дарую табе вось гэты востраў! І прашу: будзь на ім царыцаю.

— Каханы мой! — прашаптала яна.— Я прымаю твой шчодры падарунак і загадваю: будзь заўсёды маім царом!

Божа мой, няўжо гэта ім і праўда так пашанцавала, няўжо яны прасвяткуюць тут увесь свой адпачынак, цэлы месяц пражывуць адны, без людзей?! Ніхто не будзе іх бачыць, ніхто ні пра што не будзе распытваць? Ніхто ні будзе сачыць за імі, ніхто не будзе замінаць, пасмейвацца альбо зайздросціць ім?

Дык гэта ж сапраўдны рай, які яны падаравалі самі сабе на цэлы месяц! Тым больш што ўцекачы нічым не рызыкуюць: надакучыць жыць у гэтым раі — вось маторная лодка, на якой яны і прыплылі сюды. Садзіся, заводзь матор і зноў вяртайся да людзей, ад якіх толькі што, шчаслівыя, збеглі.

Першы раз яны, абняўшыся так моцна, што між імі, здавалася, не памясцілася б і парушынка, павaліліся тут жа на пясок, толькі што выйшаўшы з лодкі, і задыхнуліся ў непрытомным пацалунку. Мора даставала да іх і пырскала ў твар, але яны не адчувалі гэтага, пясок шуршаў пад імі, але яны не чулі гэтага, пацалунак быў доўгі, а ім здаўся кароткім-кароткім,— як летняя ноч.

Другі раз закаханыя аб'ядналіся недзе на самай сярэдзіне вострава, у самай гушчэчы — нібыта і тут, на бязлюднай выспе, шукалі, дзе найлепей схавацца ад людзей, якіх тут не было. Жаданне прыйшло міжволі, неадольна, яны ўпалі на зараснікі шыракалістага папаратніку і забыліся на ўсё на свеце — нават невялікі мурашнік, які нечакана аказаўся пад імі, не замінаў ім быць шчаслівымі.

Спачатку, як і першы раз, падняўшыся, пачалі апранацца, але яна неўзабаве ўсміхнулася:

— А навошта, любы? Нас жа ўсё роўна ніхто не бачыць.

— А я? Я ж буду глядзець на цябе...

— То і глядзі. Твае вочы не глядзяць, яны лашчаць мяне. Гэтак жа, як і мае.

Зняла ўсё з сябе, што паспела ўжо адзець, і са смехам кінула яму:

— Трымай, Перанег!

Усё адзенне — і сваё, і яе, упярэмешку — ён павесіў на сук — баяцца ж, што яго нехта ўкрадзе, смешна, бо на востраве, апрача іх, нікога няма,— і яны засталіся такімі, якімі і прыходзяць людзі ў гэты свет і якімі, калі б не снег, мароз, дождж і вецер, павінны былі б, пэўна, астацца заўсёды.

У першыя дні яны ўсё ж саромеліся і адно аднаго, і ўсяго таго, што было вакол іх, а потым звыкліся і перасталі на гэта зважаць. У мора няма вачэй — яно не бачыць, у дрэў няма вушэй — яны не чуюць, а вось у красак, птушак і матылёў хоць і ёсць вочы і вушы, але неўзабаве і да гэтых вачэй і вушэй астраўляне прывыклі.

Даўжэй за ўсё іх трывожыла вялікае, жоўтае і, здавалася, бязлітаснае вока, ад якога нідзе не схаваешся,— сонца, але потым і з ім сцярпеліся, змірыліся: з сонцам трэба быць альбо зусім бессаромным, не хаваючы ад яго нічога, альбо дарэшты сарамлівым, не дражнячыся з ім нават самаю маленькаю лапінкаю голага цела...

Яшчэ былі свае вочы, але ў іх, як яна і гаварыла, апрача ласкі, замілаванасці і захаплення, ды яшчэ, мажа, пажадлівасці, нічога іншага не было, і зараз ужо яны не саромеліся сваёй голі: ён не адводзіў сарамліва вачэй, калі раптам позірк упіраўся ў набухлыя вінаградзінкі яе грудзей, якія імкнуліся да яго, а яна, не тоячыся, любавалася яго па-мужчынску добра складзенай — шырокія плечы, вузкі таз — фігураю.

Усё паветра вострава было настоена на іх каханні, і ўсё, здавалася, было тут падпарадкавана менавіта яму. Яны, як зачараваныя, нібы ў сне, узяўшыся за рукі, блукалі па выспе, і ў розных яе кутках толькі і чулася: «мілы мой», «мілая мая», «каханы мой», «каханая мая», «я твой» і «я твая». Усё тут было запоўнена толькі гэтымі прызнаннямі, быццам усе астатнія словы начыста пазабываліся ды яны, шчыра кажучы, былі б тут і непатрэбныя.

На мацерыку, у мітусні і заклапочанасці прымітыўных будняў, яны зрэдзь калі сустракаліся, хаваючыся ад людзей і якдзённасці, дарылі сабе кароткае свята, і зноў вярталіся ў будні і мітусню. А вось пра такую радасць закаханыя нават і не марылі.

Ён быў да трымцення закаханы ў яе, і яна таксама прагла яго шчыра і верна — пасля таго, як жанчыне падаравалі цэлы востраў, страсць яе апантана вырвалася на волю.

Таму мы прапускаем многія сцэны, дзе, хто, калі і колькі цалаваў каго, хто каго сціскаў у нецярплівых абдымках, як валіліся яны, шчаслівыя, дзе стаялі,— двое, як адзін чалавек,— у густую астраўную траву, і як, стомленыя, але пакуль не мёртвыя, усё яшчэ не

разлучаючы вуснаў, уставалі з зямлі, каб неўзабаве ўпасці на яе зноў.

Аднак усяго, мусіць, павінна быць патроху. А чаго многа — тое ўжо не свята: яно не так хвалюе. Зараз Перанег ужо ўспамінаў, з якім трымценнем глядзеў калісьці на яе каленка, якое спалохана выглядвала з-пад спаднічкі, і як хацелася яму пацалаваць ямачку на яе руцэ, якая так спакусна выбавілася з карункавых рукавоў беленькай кофтачкі.

Мусіць, пра тое ж самае думала і яна.

Аднаго разу Венера знікла, калі ён яшчэ спаў. Вярнулася і таямніча загадала:

— Заплюшчы вочы! У мяне для цябе сюрпрыз ёсць.

Ён зажмурыўся і адчуў, што яна нешта завязвае на яго клубах.

Гэта быў фігавы лісток — шырокі ліст звычайнага лопуха, начэплены на каснічок лазовай кары. Для сябе яна таксама пашыла набедраную павязку з травы і лісця.

Любуючыся гэтым адзеннем, яна, як дзіця, цэлы дзень радавалася сваёй прыдумцы і, задаволеная, смяялася:

— Дзікуны мы з табою, мілы мой Перанег. Туземцы.

Яна ў дадатак да ўсяго яшчэ прыдумала танец вострава, і яны зараз кожны вечар, шчаслівыя і ўзбуджаныя, танцавалі яго ля вогнішча. Гэта зноў часова паднавіла іх страсць, і закаханыя па-новаму, з ранейшаю сілаю нецярпліва кінуліся ў абдымкі і ўзрадаваліся найвышэйшаму ўзбуджэнню, якое пачало ўжо было патроху будзёніцца і цьмець.

І ўсё ж цяпер дрэвы і травы вострава радзей чулі іх захопленае: «мілы», «мілая», «кахаю».

А аднойчы, калі яны толькі падняліся з улежанай травы, Венера схавалася за кустамі і штосьці кінула яму адтуль:

— Апранайся.

Гэта былі яго штаны і сарочка — і калі толькі яна паспела прынесці іх сюды, дзе ім так хораша любілася!

Сама каханая таксама выйшла з-за кустоў у беленькай кофтачцы і ў чырвонай спадніцы, у якіх і прыплыла сюды.

Праз нейкі час, калі Перанег, адлучыўшыся на хвілінку ў глыбіню вострава, вярнуўся незаўважна, то ўбачыў, што Венеры не да яго: яна нагнулася над спакойнаю вадою ранішняга мора і нейкім агрызкам алоўка, знойдзеным, відаць, у кішэні спадніцы,— абавязковаю ўмоваю іхняга адпачынку было: не браць на востраў ніякай касметыкі,— з асалодаю фарбуе вейкі і бровы. Ён, каб не спужнуць яе, сеў непадалёку на зламанае дрэва і таксама з асалодаю пачаў сачыць за гэтаю мілаю жаночаю забаваю. Сядзеў, глядзеў, захапляўся каханай, але і сам адчуваў, як накочваецца на яго нейкая тугая хваля суму па ўсім тым, што засталося на мацерыку. Злуючыся на сябе, пачынаў разумець, што яму ўжо хочацца хутчэй адчуць тугую пятлю гальштука на сваёй раздуранай свабодаю шыі.

Недзе пад канец іхняга адпачынку пайшлі праліўныя дажджы, і на райскім востраве стала вельмі мокра, холадна і няўтульна. Яны

сядзелі ў будане, зробленым наспех, і адно ратаваліся ад кропель, якія ўсё роўна капалі на іх — будан працякаў,— і колькі яны ні спрабавалі яго латаць, нічога не атрымлівалася.

І тады Перанег злавіў сябе на чымсьці дужа непрыстойным: ён сядзіць і міжволі лічыць, колькі дзён ім яшчэ давядзецца быць на востраве.

Лічыла гэтыя дні і яна, бо аднойчы, нібы прадаўжаючы яго нявыказаную думку, спыталася:

— Колькі мы яшчэ будзем тут сядзець?

— Колькі захочам.

— Давай яшчэ дні са два пачакаем сонца...

— Навошта? — перапыніў яе Перанег.— Мы паедзем заўтра.

Шчаслівыя і супакоеныя, заснулі каханыя хутка і моцна — заўтра яны пакінуць гэты дажджлівы востраў і вернуцца ў такі мітуслівы і звыклы свет, па якім паспелі ўжо засумаваць.

Але сярод ночы нечакана прачнуліся — над востравам выў вецер і туга білі ў бераг хвалі: на моры быў шторм. Падхапіліся, выскачылі з будана і не згаворваючыся пабеглі туды, дзе стаяла ля берага лодка.

Лодкі ля берага не было.

Яны ўглядаліся ў апраметную цемру, усё спадзеючыся ўбачыць сваю лодку недалёка ад берага, аднак усё гэта было марна — шторм, мусіць, пакінуў іх, бездапаможных, тут назаўсёды. Калі б хоць бяда здарылася ўдзень і калі б хоць дзе далёка ўбачылі яны сваю лодку, то можна было б, не зважаючы на высокія хвалі і адлегласць, паспрабаваць даплысці да яе, а куды ж кіравацца зараз?

Яны дрыжалі, ім было холадна — можа, ад дажджу і ветру, а можа, ад страху. Ён прыгарнуў яе да сябе і адчуў, якая мокрая на каханай сукенка, што абляпіла яе стан, якое захаладалае цела. Але Венера нечакана адпіхнула яго ад сябе:

— Не чапай мяне.

Упала на калені і хапатліва пачалі шукаць рукамі калок, за які была навязана лодка. Поўзала па зямлі, вадзіла па пяску рукамі, але нічога не знаходзіла.

— Во, толькі ямачка засталася,— у роспачы крыкнула яна і падхапілася на ногі.

Яна падбегла да яго, і Перанег не паспеў апамятацца, як па шчацэ пляснула яе далонька.

— Мужчына мне называецца — калок забіць не ўмее!

І загаласіла, і запрычытала, роспачна і безнадзейна, стараючыся перакрычаць шум ветру і грукат хваль:

— Гэта ўсё ты! Ты вінаваты! Навошта ты прывёз мяне сюды?! Навошта? Я пытаюся: навошта? Я ніколі цябе не любіла. А зараз я ненавіджу цябе. Чуеш, ненавіджу!..

— Супакойся...

— Не хачу супакойвацца! Ты знарок мяне прывёз сюды, каб я тут задыхнулася! Ты зрабіў буру! Ты зрабіў шторм! Ты! Ты! Ты! — крычала яна, як усё роўна расстрэльвала яго.

Ён быў ашаломлены гэтым і ўсяго толькі змог адказаць Венеры:

— Каго я сюды прывёз?! Такая ж любы рай пеклам зробіць.

Яна сціхла, нібы папярхнулася, трохі памаўчала, а пасля Перанег пачуў спакойны, узважаны, упэўнены яе голас:

— Запомні, да гэтага мы яшчэ маглі з табою памірыцца. А зараз пераступілі ўжо тую мяжу, за якой міраюцца.

І знікла, як растварылася ў цемры.

Ён пашукаў яе, паклікаў і пакрычаў: «Святлінка! Святлінка!» — так яшчэ называў Перанег сваю каханую пры ласцы, але нікога не знайшоў і ніхто яму не адазваўся.

Шторм угаманіўся гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Сціх вецер, скончыўся дождж. Раніцаю свяціла сонца, і востраў зноў быў утульны, чысты, прыгожы.

Ён абышоў яго ўвесь, але яе нідзе не знайшоў. Вяртаючыся, зазірнуў у свой будан і там убачыў Венеру: яна ляжала на свежых галінках, адвярнуўшыся ад увахода. Пачуўшы яго крокі, ведаючы, што ён шукае менавіта яе, каханая нават не павярнулася — прыкінулася, што спіць.

Тады ўжо знік ён. Пайшоў на другі бок вострава і знік. Перанега не было дужа доўга, але яна яго не шукала.

Знайшоўся ён сам. Яшчэ здалёк было чуваць, як праломваецца Перанег праз гушчар, як трашчыць пад яго нагамі падлесак — ён праз увесь востраў нешта валок сюды, на гэты бераг, дзе стаяў іх будан. Венера выйшла з будана і з нецярплівасцю чакала: што ж ён такое цягне?

Перанег прынёс сюды плот, змайстраваны амаль голымі рукамі, і спусціў яго на ваду — дзівак, навошта валачы яго праз гушчар, калі можна было проста па вадзе прыплысці з таго боку вострава на гэты, абагнуўшы густыя астраўныя зараснікі.

— Мілы мой, дарагі мой, адзіны мой,— адразу кінулася яна Перанегу на шыю і пачала цалаваць у зарослыя шчокі, у потны твар, у акрываўленыя, усе ў сіняках, рукі, абдымала яго і гладзіла па ашмоццю, якое нядаўна яшчэ было адзеннем.

Венера зноў стала ранейшаю Святлінкаю і першая скочыла на плот.

Яна зноў любіла яго. На гэты раз ужо за тое, што Перанег вярнуў, дарыў надзею, якая ўрэшце можа злучыць яе нанова з мітуслівым, але такім звыклым і такім жаданым тут, на востраве, светам, з зямлёю.

Ён спакойна, нічога не гаворачы, зламаў дзве алешыны, выстругаў з іх вёслы ножыкам, які выпадкова застаўся ў кішэні — усё астатняе знікла разам з лодкаю,— і таксама ступіў на плот. І яны, нецярпліва махаючы сырымі, а таму і цяжкімі вёсламі, ад райскага вострава, якім нядаўна так захапляліся, спяшаючыся, паплылі ў адкрытае мора.

Паплылі шукаць звычайнай зямлі.

Той зямлі, дзе сварацца і злуюцца, зларадніча́юць і зайздросцяць, пляткараць і плачуць.



# ЗАЛОЖНІК

Яго вялікасць дужа не любіў сонечных дзён.

Бо варта было толькі яму выйсці на ярка асветленую вуліцу, адразу ж з'яўляўся і гэты Насмешнік.

— Здароў, Індык,— з'едліва вітаўся ён і, нахабна падміргнуўшы, пытаўся: — Ну, як жывеш-маешся?

Чамусьці ён заўсёды называў яго гэтак — Індык.

Іншыя згіналіся перад Царом у паклоне і пашане, з хваляваннем, самлелымі вуснамі шапталі: «Ваша вялікасць», «Ваша высокасць», «Ваша правялебнасць», а Насмешнік, нібы знарок здзекуючыся, цвёрда трымаўся свайго — Індык, і ўсё.

І калі б Цар і напраўду быў надзьмуты і важны, як Індык, то хай бы сабе здзекаваўся. А то ж самадзержац атрымаўся не з горшых, любіў нават, просты і звычайны, пешкі хадзіць па гарадскіх вуліцах без аховы. Цар, спакойны і задумлівы, мала гаварыў і амаль не смяяўся — настойліва хацеў зразумець і вялікі свет увогуле і асобна кожную маленькую казяўку ў ім.

Можа, гэта яго рабіла падобным на індыка?

— Ну што, усё думаеш? — назаляўся Насмешнік.— Пустое гэта дзела! Ты ж сам, пэўна, ведаеш, што пра гэта казаў адзін з вялікіх стырнавых: «Колькі ні думай, імператарам усё роўна не станеш». Хаця хто яго ведае... Ты ж во і думаў, і імператарам стаў... Ды і сам стырнавы — таксама...

Яго правялебнасць злаваўся на Насмешніка, спрабаваў пярэчыць, але той не даваў уставіць нават і слова.

— Ты думаеш, што твая мяккацеласць каму-небудзь трэба? Думаеш, яна ўратуе свет? Дзівак! Ты ж бачыш, што зараз час для нахабнікаў і прайдзісветаў. Для нягоднікаў зараз самы спрыяльны час, а ты хочаш здзівіць усіх сваёй прыстойнасцю і ціхмянасцю.

Тады Яго правялебнасць, ведаючы, што спрачацца з Насмешнікам — марная справа, нервова азіраўся па баках, шукаючы хоць якога-небудзь ценю, і паспешліва хаваўся пад казырок бліжэйшага пад'езда ці пад якое купчыстае дрэва. Насмешнік знікаў, і Цар мог крыху супакоіцца, перавесці дух.

Але ж, колькі ні стой у цені, некалі ўсё роўна давядзецца зноў выходзіць на сонца.

А выйдзеш — Насмешнік ужо тут як тут, ужо круціцца пад нагамі:

— Ну, што, абхітрыў мяне, Індык? Выкусіў дулю? Запомні, ніколі табе гэта не ўдасца. Мы з табой звязаны назаўсёды, на ўсё жыццё: куды ты, туды і я. Хоць табе часам і ўдаецца пазбавіцца ад мяне. Але запомні — гэта ўсё часова, ненадоўга. З'явіцца сонца — з'яўлюся і я. Сонца — мой сябра, а твой — вораг. І ведай: ніхто, нават Цар, не можа зрабіць так, каб сонца заходзіла часцей, чым яно ўзыходзіць.

Напачатку Цар цярпеў Насмешніка — ён быў яму за блазна,— а потым узненавідзеў яго, пачаў баяцца, а той, адчуваючы гэта, усё болей і болей лез у душу, назаляўся і даймаў Яго высокасць сваімі недарэчнымі роспытамі, кпінамі і здзекамі.

Калі толькі з'яўлялася хоць маленькая плямка святла, ён узнікаў разам з ёю і спяшаўся як мага хутчэй выгаварыцца — баяўся, што не паспее і павітацца:

— Здароў, Індык!

Нават у самы поўдзень, калі сонца стаяла, здаецца, над галавою, нельга было збавіцца ад яго: хоць Насмешніка амаль і не было відаць, недзе аж з-пад ног, з-пад чаравікаў, ён крычаў Цару:

— Ну што, выкусіў? Я тут, з табою. Ну, як ты царствуеш? Як табе служыцца? Служыш, канечне, усім? Не, не памыляюся — і Цару таксама даводзіцца служыць. Гэтага не паважаеш, а служыш яму, гэтага ненавідзіш, а запабегаеш перад ім, гэтаму не верыш, а кланяешся ў самыя ножкі. Бо яны паставілі цябе! Хіба так можна, Індык? Дзе ж твая годнасць, Ваша вялікасць?!

Тады Цар не вытрымліваў гэтых абраз, зрываўся з месца і бег куды вочы глядзяць — абы толькі ў цень.

Але разам з ім бег і Насмешнік.

— Куды ты выпрудзіўся? — пацяшаўся ён з-пад ног.— Ад мяне ж ты не ўцячэш. Я — гэта ты. Таму мне і баліць, калі ты, прыкідваючыся сумленным, думаеш адно, гаворыш другое, а робіш трэцяе.

Цар рэзка спыняўся, нібыта спатыкнуўшыся аб нейкую невідомую перашкоду, і раззлавана, раз'юшана, не помнячы сябе, пачынаў моўчкі таптаць нагамі Насмешніка. А той, быццам гэта і не яго топчуць, смяяўся:

— Што ты робіш, Індык? Ты думаеш, гэтым нешта зменіш? Ты ж добра ведаеш, што, топчучы мяне, сябе топчаш. Сябе піхаеш, сябе тыцкаеш чаравікамі. У твар тыцкаеш, у нос піхаеш... Дурань ты, Ваша вялікасць!

І рагатаў на ўсю вуліцу.

Цар нібы цверазеў і, бачачы ўсю недарэчнасць свайго шалу, свайго лютавання, спыняўся, паволі азіраўся навокал, і калі вочы натыкаліся на які цянёк, паволі, ужо не спяшаючыся, пад абразлівыя папрокі Насмешніка, валокся туды.

Таму Яго высокасць вельмі любіў гуляць па горадзе ў пахмурнае, дажджлівае надвор'е. Забываўся на свайго насмешніка, супакой-

ваўся, расслабляўся і радаваўся, што ніхто не крычыць на яго, ніхто не сварыцца і не дакарае.

Але як толькі запальвалі ліхтары, Насмешнік, доўгі, цыбаты і нават пачварны, з'яўляўся зноў:

— А я ўжо тут. Куды ты зараз ад мяне будзеш уцякаць?

Цар на вачах адразу сумнеў, змрачнеў і ўжо без настрою кіраваўся ў бок свайго палаца, а паперадзе, ці, можа, ззаду, ці, можа, з якога боку, мяняючы месца ў залежнасці ад святла, ламаючыся на дрэвах і на шматпавярховых дамах, цягнуўся і яго кат. Той бубніў нешта сабе пад нос, але Яго вялікасць не чуў што — галава Насмешніка была далёка і высока, і таму словы даходзілі зусім невыразна.

У царскіх пакоях ён таксама не запальваў святла, сядзеў у поцемках: як толькі пстрыкнеш выключальнікам, Насмешнік, радасна страсянуўшы галавою, ужо і крычыць з падлогі:

— А вось і я. Дык што мы з табою ўвесь вечар будзем рабіць?

— Не назаляйся. Не перашкаджай мне жыць і кіраваць дзяржаваю.

— Я табе? Хіба раб можа перашкодзіць жыць цару? Тым больш — правіць краінай?

— Скажы, што ты ад мяне хочаш?!

— Разумееш, ты ўвесь няшчыры. І твая прастата, дабрата — усяго толькі гульня. А я хачу, каб ты, Ваша вялікасць, быў сумленным чалавекам. Хоць і ведаю, што цароў сумленных не бывае. Цару, перш чым стаць царом, трэба некаму абавязкова прадаць сваю душу — богу ці д'яблу. Але паколькі жаданні і памкненні богавы заўсёды высакародныя, ён не прымае такіх дарагіх падарункаў. А ўсе вашы душы, якімі цары раскідваюцца направа і налева, забірае сабе д'ябал. Уяўляеш, якая ў яго калекцыя вашых душ?!

— Замоўкні зараз жа! Чуеш, замоўкні! А то...

— Што «а то»? Што ты мне зробіш, а то? Што?

— Заўтра цябе арыштуюць... Я загадаў.

— Напалохаў. Ой напалохаў! Няўжо ты і праўду такі дурны?

— Па цябе заўтра прыйдуць ка́ты.

— Разумееш, Ваша светласць, хоць яно і лепей было б, мусіць, памерці, чым жыць вось так, як жывём мы з табою, але ж... Але ж раскажы, як ты гэта зробіш? Як знішчыш мяне? Усіх іншых табе вельмі лёгка забіць, а мяне як закатуеш? Я ж твой цень!

Цар хуценька падхапіўся, падбег да выключальніка і выключыў святло. Ужо хацеў быў узрадавацца, што нарэшце, хоць на ноч, збавіўся ад нахабніка, але раптам убачыў, што ў пакоі нехта варушыцца. Паківаўся сам, і той, хто быў у хаце, таксама пачаўківацца. З вуліцы праз акно свяцілі ліхтары, і на супрацьлеглай сцяне выразна цямнеў яго цень.

— Ну што, нічога не атрымліваецца? — хіхікнуў Цень.

— Атрымаецца! — у злосці сказаў Цар, кінуўся да акна і паспешліва зашморгнуў шчыльныя занавескі.

У пакоі стала зусім цёмна і зусім ціха.

— Ну, што я табе казаў? Атрымалася!

Але на яго радасныя словы ніхто не адгукнуўся.

Цар сеў на канапку, паклаў нагу на нагу, абапёрся локцем на калена, ашчаперыў галаву рукою і глыбока задумаўся.

А і праўда, як Насмешніка змогуць арыштаваць царскія каты? Як змогуць яго пакараць? І як яны будуць зжываць са свету Цень — задушаць, расстраляюць, павесяць? Пасадзяць на кол ці спаляць жывога? Але як?

Ну, скажам, злавіць Цень яшчэ можна. Ён дапаможа катам — выведзе яго на сонца, запаліць святло ў пакоі ці яшчэ што-небудзь прыдумае.

Але як катаваць цень? Ён жа сам, Цар, абавязкова павінен прысутнічаць пры гэтым катаванні, бо калі не будзе яго, не будзе і ценю. Ён абавязкова павінен глядзець сам, як Ягонаму Ценю будуць заганяць іголкі пад кіпцюры, як будуць заціскаць пальцы ў дзвярах, як будуць біць і здзекавацца. Дык а ці не будзе балець яму і самому, ці не будзе і ён разам з ценем страчваць прытомнасць ад пакут?

А калі пакладуць Цень на калодку, а над ім бліснe катаў тапор? Што будзе адчуваць тады ён сам, Цар?

Раптоўна зразумеў, што для таго, каб злавіць і знішчыць цароў Цень, трэба абавязкова злавіць і знішчыць самога Цара.

Яго вялікасць хуценька падняўся з канапы і ўключыў святло. І тут жа заварушыўся побач Насмешнік:

— Ну што, Індык, усё думаеш? Што прыдумаў?

— Зрабіў адкрыццё.

— Цікава, якое?

— Што за сённяшнім днём абавязкова наступіць заўтрашні.

А раніцою, калі ў пакоі, выконваючы царскі загад, прыйшлі каты, ён не дазволіў ім адкрываць шторы:

— Шукайце так.

Каты пачалі скардзіцца, што нічога не бачаць. Ён дазволіў ім адкрыць шторы, а сам на гэты час выйшаў з пакояў.

Цар зразумеў, што, ратуючы свой Цень, ён ратуе самога сябе.

І яшчэ зразумеў, што, калі адсякуць галаву яго Ценю, у Цара пасля гэтага не будзе на чым насіць карону...



# АДЗІН З НАС

Ён быў якраз з тых, на каго часцей за ўсё звяртаюць увагу багі і каго звычайна не заўважаюць людзі.

Неба — мой бацька, думаў ён. Зямля — мая маці, верыў ён. У мяне няма ні мінулага, ні сённяшняга дня, ні будучыні, засмучаўся ён.

Так думаў і так разважаў, але пра гэта на зямлі ніхто не ведаў, ніхто не здагадваўся.

Ён жыў між людзей і да канца не быў відзён ім.

Ён жыў небам, хоць і хадзіў па зямлі.

Ён працаваў, як усе, пра нешта рупіўся, бегаў, мітусіўся, таўхаўся між іншых, злуючыся, што ў крамах няма чаравікаў ці цыгарэт, радуючыся, што яго пакуль не пасадзілі ў турму ці на кол. Але нешта яму карцела большае, да нечага ён, стомлены якдзённасцю, прыслухоўваўся.

Адчуваў, што ён, звычайны і маленькі, на самай справе намнога большы, каб не сказаць увогуле — зусім вялікі.

Усе ведаюць, што вакол нас — бязмежжа, але ніхто не ведае, што ў нас саміх — яшчэ большае бязмежжа.

Тое, што відаць усім,— кропля, а тое, што павінны былі ўсе бачыць,— нябачна нікому.

На зямлі ён быў чалавекам, хоць ведаў, што ў нейкім іншым вымярэнні стане богам.

І ўсё ж што ён большы за самога сябе, чалавек зразумеў толькі тады, калі памёр.

Калі, сцішаны і бязмоўны, узняўся раптам сам над сабою, вырваўся з сябе і, лёгка ўзляцеўшы пад самую столь, зірнуў адтуль на сваё тленнае цела, распластанае на ложку. Яно было такое мізэрнае, лядашчае, вартае жалю, што памёрлы і сам засмуціўся, убачыўшы цела збоку як староннi чалавек: няўжо ён усё сваё жыццё жыў у ім, няўжо яму, такому вялізнаму і моцнаму, хапала яго, няўжо ён дзень пры дні здавальняўся гэтым?

Стала прыкра і няёмка, што яго, жывога, усе бачылі менавіта такім, у гэткай кволай, немачнай абалонцы, і таму, разлучаны з целам, узрадаваўся, калі раптам, як ветрам, сарвала з-пад столі, і ён імкліва паляцеў кудысьці (акурат так, як і пісалася пра гэта ў газе-

тах) па нейкай цёмнай і, здавалася, зусім бясконцай трубе — усё далей і далей ад усяго таго, што яшчэ нядаўна, яшчэ ўчора, было ім самім, ягоным целам.

Труба здавалася дужа вузкай, але ў ёй было чамусьці прасторна і вельмі ўтульна. Труба была цёмная, аднак гэтая цемрыня не замінала яму бачыць усё,— яна, нібы падсвечаная кімсьці ці чымсьці, праменілася сама па сабе. А наперадзе, як нейкая пупышка святла, як нейкая прыцягальная зорка, зманліва свяцілася, пульсавала, клікала да сябе, і — о дзіва! — туды ў нецярпенні імкнулася ўся яго істота, хочацца сказаць, усё яго цела, але цела зараз не было, яно, распластанае, асталося недзе далёка-далёка на мулкім ложку, і, відаць, таму яму зараз было так лёгка, хораша і нязмушана.

Ляцеў і ўсё спрабаваў разабрацца, што ж гэта за шлях, па якім ён кудысьці нясецца, але імклівасць руху і яркія малюнкі свайго жыцця, што паспешліва ўзнікалі ў свядомасці, хутка гаслі, змяняліся новымі — у іх ён бачыў сябе ў розных узростах: ад дарослага да дзіцяці — не давалі яму магчымасці засяродзіцца і нешта зразумець.

І раптам яскрава ўспомніў, што гэтую дарогу ён ужо ведае, што яна яму не чужая, што ён ужо некалі ляцеў па ёй — толькі ў іншым кірунку. І зразумеў, што шлях гэты — адваротны нараджэнню чалавека і вяртаецца ён па ім да свайго пачатку — нібыта ў матчына лона.

Калі крапка святла зусім наблізілася, калі ўжо нырнуў у яе галавою, а яна, нібы сапраўдная пупышка, лопнула, вывернулася і выкінула яго ў нейкае іншае вымярэнне, ён аж зажмурыўся ад асляпляльнага святла, якое рэзала вочы, і адчуў сябе вельмі спакойна — як дома. Яго быццам бы люляла, гучала нейкая далёкая, ледзь улоўная, але ласкавая-ласкавая музыка. Аднак здзівіла не гэта, а іншае: які ж вялікі і неабдымны стаў ён і які маленькі зрабіўся свет, у якім чалавек толькі што пялёхкаўся, боўтаўся, варушыўся.

Зямля зменшылася зараз для яго да памераў мачыны, але, нягледзячы на такое дзіва, ён вельмі выразна бачыў на гэтай мачыне кожнага чалавека: хто чым займаецца, хто куды ідзе, хто куды едзе.

Спачатку з цікавасцю назіраў за гэтым людскім мурашнікам — калі быў там, унізе, на зямлі, сярод іншых, ніколі не заўважаў, што чалавечы рух такі хаатычны: людзі спяшаюцца, стукаюцца адзін у аднаго, разбягаюцца ў розныя бакі — акурат узбуджаныя атамы.

І яшчэ ён зразумеў, што самы асноўны клопат у людзей — баяцца. Яны баяцца ўсяго — баяцца, каб не захварэць, каб не памерці, каб не выгналі з работы, каб не пасадзілі ў турму... Каб, каб, каб...

Баяцца — ці не гэта і ёсць звычайнае чалавечае жыццё?

Калі надакучыла назіраць за ўсім мурашнікам адначасова, пачаў разглядаць паасобных людзей, стараючыся разгадаць іх таямніцы. Захацелася пабываць дома, пабачыць, як плачуць, як гаруюць па ім родныя. І варта было толькі падумаць пра гэта, як перад самымі вачыма з'явілася ягоная кватэра.

Яго цела на ложку ўжо не было — відаць, за гэты час паспелі завезці на могілкі. На балконе ляжалі зваленыя абы-як лаўкі, якія засталіся хутчэй за ўсё пасля памінальнага стала.

Жонка, проставалосая, у хатнім халаціку, сядзела на канапе. Але яна была не адна — побач з ёю сядзеў яго лепшы таварыш, сябра іхняй сям'і. «Нічога няма дзіўнага, прыйшоў суцешыць прыгнечаную горам удаву»,— падумаў ён.

Сябра часта наведваўся да іх. Часцей за ўсё пасля працы. Прыйдзеш, а ён ужо сядзіць, з жонкаю размаўляе ў гасцёўні ці на кухні яны каву разам п'юць. І шахматы каля яго ляжаць.

«Згуляем?» — падміргваў яму сябра. «Павячэраю, тады»,— звычайна адказваў ён. Яны гулялі ў шахматы вельмі часта, і гэта не выклікала ў яго ніякага падазрэння.

Зараз шахмат не было відаць. Дзівак, а навошта яны без цябе? Каб суцяшаць несуцешную ўдаву? А яна ж у шахматы ніколі не гуляла...

І ўсё ж яго насцярожвала, што сядзяць яны чамусьці вельмі блізка — нага да нагі. І яшчэ болей здзівіла, што з-пад халаціка цікаўна, нават непрыстойна вытыркнуліся яе голыя каленкі, каўнерык на грудзях расшпілены дужа рызыкоўна, а жонка не саромеецца гэтага — хоць і знаёмы, але ж у хаце чужы чалавек! — і не спяшаецца хутчэй захінуцца, прывесці сябе ў парадак.

— А дзе твае шахматы? — усміхнулася яна.

— Выкінуў. За дзесяць гадоў надакучыла прытварацца. Я хачу любіць цябе, не хаваючыся за шахматы.

Звычна абняў, звычна пацалаваў яго жонку — тая шчыра адгукнулася на пацалунак, пачала сама, спяшаючыся, шукаць, лавіць яго вусны. Неўзабаве яны падняліся і, абняўшыся, пайшлі ў іншы пакой.

Ён з абурэннем, грэбліва адпіхнуў ад сябе сваю кватэру, а калі яна змяшалася з усімі іншымі клеткамі мурашніка, застагнаў.

Дзесяць год! Дзесяць год, прыкідваючыся сябрам, нягоднік прыходзіў гуляць з ім у шахматы! І ён не раўнаваў яго да жонкі. Хоць людзі і казалі: «Прыгледзься, чалавеча, ці ўсё добра ў тваёй сям'і».

У злосці, няўцямна слізгануў вачыма па мурашніку, не спыняючыся, не слухаючы, што там гавораць, пераводзіў позірк з адной групы людзей на другую, раздражнёна мітусіўся па ўсёй зямлі, пакуль нарэшце не натыкнуўся на нешта знаёмае: гаварылі пра яго зямную працу.

Наблізіў да сябе гэтую частку мурашніка і ўбачыў, што перад ім — менавіта яго ўстанова, яго аддзел, яго пакой, дзе ён столькі гадоў працаваў разам вунь з тымі людзьмі,— нават яго стол яшчэ вольны, ягонае месца пакуль не занятае: садзіся і закасвай рукавы.

Ну, ну, цікава, пра што ж яны там гавораць?

— Прыкідваўся вялікім спецыялістам: маўляў, я ўсё ведаю і ўмею, а сам жа быў такі шэры, такі звычайны мэнээсік. А думаў пра сябе, як пра...

Міша, няўжо гэта ты? Няўжо ты? Той самы Міша, які заўсёды глядзеў мне ў рот, і варта было толькі сказаць слова, як ты адразу ж прызнаваў яго мудрым і геніяльным, паўтараў дзе трэба і дзе не трэба і ўвесь час маліўся на мяне — вядома, побач са мною і табе было зацішней у гэтым звар'яцелым свеце.

— Ну, як табе не сорамна,— сарамаціў таварыша па працы іншы голас: чакай, чакай, чый гэта? — Увесь час лізаў яму рукі, а цяпер бог ведае што нясеш на чалавека. Ты ж ведаеш, што пра мёртвых гавораць альбо добра, альбо зусім маўчаць. Дык вось, каб ты ведаў — гэта быў выдатны спецыяліст, цудоўны кіраўнік, разумны чалавек.

— А ты ж з ім увесь час спрачаўся, сварыўся...

— Таму і спрачаўся, што ён мудры быў. З ім цікава было спрачацца. З табой жа не паспрачаешся.

Малайчына, Аляксей! А я ўвесь час меў яго за ворага. Не даваў мне ніводнага слова сказаць. Як толькі скажу што, адразу аспрэчвае. І я ўжо хацеў Аляксея за няўжыўчывасць звальняць з працы. А яго, аказваецца, трэба было павышаць...

А дзе ж Агнежка — яшчэ адна ўпартая? Усё спрачалася, усё ёй было не так. Як яна яго ненавідзела! Агнежка, дзе ты?

Убачыў ён дзяўчыну ў адгароджаным шафамі кутку, дзе яны звычайна распраналіся, дзе жанчыны прыхарошваліся, падфарбоўвалі вусны. Яна стаяла, закрыўшы твар рукамі і, здаецца, плакала. На ёй была чорная сукенка, і чорная хуста хавала яе светлыя-светлыя валасы. Агнежка сумілася па некім, і да яго не адразу дайшло, што смуткуе яна па ім. А калі дайшло, ён адразу ж загадаў ёй: «Не плач. Ідзі да людзей. Смейся і весяліся разам з імі». І яна паслухалася яго ўнутранага голасу, выцерла насовачкаю вочы і пакорліва пайшла ў кабінет.

Дык вось яно што! Яна не ненавідзела яго, яна яго кахала!

І ён, расчуліўшыся, асцярожна пагладзіў яе па валасах. Дзяўчына страпянулася і з крыкам: «Ён вярнуўся! Ён побач!» — падхапілася з крэсла.

Але на Агнежку ніхто не звярнуў увагі: мужчыны ўсё яшчэ абгаворвалі свайго былога начальніка. Да таго ж да яе дзівацтваў у апошнія гады ўсе, здаецца, прывыклі.

— Экстрасенсам прыкінуўся. Празарліўца з сябе разыгрываў,— не супакойваўся Міша, былы сябра.

— Дык Сямаш і праўда быў відушчы,— пярэчыў яму Аляксей, былы вораг.— Помніце, у гарах?

Ён і сам памятае той выпадак. Тады яны былі ў адпачынку ў гарах. Усім аддзелам. І выбралі, здавалася, вельмі надзейнае і ўтульнае месца для адпачынку. Але ён рашуча запратэставаў: тут нельга!

І да канца стаяў на сваім. Бо, сам не разумее, як і чаму, выразна бачыў вялізны невідомы камень высока ў гарах, ведаў аднекуль, што той неўзабаве сарвецца і пакоціцца ўніз — адчуваў нават лінію, нібы нехта прачэрчваў яе, па якой ён будзе каціцца, і месца, дзе ўпадзе.

Сямаш надзіва яскрава бачыў тое, што адбудзецца пасля, мозг, яго энергія апярэджвала рух каменя, і чалавек настойліва дамагаўся, каб палатку перанеслі ў іншае месца. З яго пасмяяліся тады, але палатку ўсё ж перанеслі. І якое было здзіўленне, калі ўночы ўсе раптам прачнуліся ад страшэннага грукату — камень і праўда ўпаў якраз на тое месца, дзе стаяла спачатку палатка.

— Простая выпадковасць,— пасміхаўся і зараз былы сябра Міша.

Тады не вытрымала Агнежка, падхапілася і закрычала:

— А калі ён Ядзіных дзяцей дапамог знайсці, таксама выпадковасць?

І гэты выпадак Сямаш таксама добра помніў.

Той дзень да яго ў кабінет прыбегла разгубленая, расхваляваная Ядзя і папрасіла адпусціць яе з працы на нейкі час — згубіліся дзеці, двое сутак іх шукаюць і ніяк не могуць знайсці.

Нечакана і для яго самога запрацаваў раптам мозг, нешта нібыта дзынкнула, і ўслед за гэтым яму адкрыліся шырокія краявіды, неабсяжныя далягляды — нібыта знарок нехта паказваў іх.

І тады ён увачавідкі ўбачыў дзяцей, нібыта сам быў там, ішоў поплеч з імі. Палявая дарога. Злева рэчка. Справа лес. Наперадзе драўляны масток. А па дарозе, узяўшыся за рукі, стомлена тэпаюць двое малых — хлопчык і дзяўчынка.

Ён апісаў Ядзі мясцовасць, спытаўся, ці ведае яна нешта падобнае.

— А як жа,— здзівілася жанчына.— Гэта ж дарога да мае маці ў вёску.

Паехала і дагнала дзяцей — яны, аказваецца, самастойна выбраліся да бабулі ў госці.

— Не смяшы, Агнежка, людзей. Хіба ты ўсур'ёз вeрыш у гэтую лухту?

— Самі вы лухта! — абурылася дзяўчына.

Ён з удзячнасцю зноў пагладзіў яе па валасах, а сам адчуў, як закіпае ў ім нейкая злосць на былога сябра: і праўда, экстрасенс называецца — не мог разгледзець побач з сабою такога нягодніка!

Скіраваў на Мішу свой пільны позірк і ўбачыў, як у таго страсянулася галава. Ён павёў вачыма ў другі бок — і галава тарганулася ў той жа самы кірунак: былы сябра рэагаваў на кожны яго рух, на кожны позірк.

Ён узрадаваўся гэтаму адкрыццю і сказаў сам сабе:

— Ну пачакайце ж! Я з вамі яшчэ разбяруся, нягоднікі! Пачакайце! І да цябе, былы сябра, дабяруся, і да цябе, таварыш з шахматамі...

Здаецца, многія яго знаёмыя і сябры паднялі ўгору галовы — мусіць, пачулі гэты голас, але ніхто не мог зразумець, адкуль ён ідзе.

Ён яшчэ крыху паблажліва паздзекаваўся са свайго былога сябра — той, як марыянетка, выконваў усе яго загады.

— Марыянеткі! — радаваўся ён.— Усе яны, мае ворагі, што засталіся на зямлі, зараз мае марыянеткі.

Але неўзабаве спахмурнеў:

— Што гэта я раблю? Я ж ужо бог, а паводжу сябе, як самы звычайны, прымітыўны чалавек. Шукаю асалоду ў помсце. А я ж павінен мець радасць толькі ад дабраты. Не павінен зважаць на дробязі, бо дробязі для мёртвых ужо не існуюць. Дробязі — гэта кайданы жывых.

Хто яго ведае, чым ён быў на зямлі і чым не быў. Што зрабіў і што абавязаны быў зрабіць.

Ён не павінен замінаць людзям займацца сваімі справамі, не павінен падглядаць, сачыць за імі, бо падглядаць за суродзічамі — цяжкі вырак чалавека.

У багоў іншае жыццё.

У багоў звычайна бываюць большыя і важнейшыя клопаты, чым у звычайных, смертных людзей,— проста жыць...



## ВЫГНАННЕ ДЭМАНАЎ

— Чалавек грэшны, нават калі яго ніхто і не вучыць граху. Вы асляпілі вочы свае, а сэрцы ператварылі ў каменне — не бачыце вачыма, не разумееце сэрцам. Хіба можна рабіць нешта добрае, калі самі злыя? Хіба можна быць святым, калі думкі нашы далёкія ад святасці? Дык выкіньце ж толькі па адной парушынцы са сваіх вачэй, і вы ўбачыце горы гнілога смецця, якое будзе курадыміць за вамі.

Яны ціха стаялі перад ім — яшчэ спакойныя і, здавалася, ні ў чым не вінаватыя. Стаялі моўчкі — ніхто ні з кім не перагаворваўся, ніхто ні на кога не глядзеў.

Бездакорны накінуў на галовы ім нейкую шырокую, невыразнашэрую посцілку — усе галовы аказаліся пад ёю — і казаў далей:

— Хіба можа благое дрэва выспеліць добры плод? А добрае — дрэнны? І вы, хто ў граху і спакусе, плачце і галасіце над злыбедамі вашымі, што ідуць на вас... Багацце ваша згніло, вопраткі вашы з'едзены моллю... Золата ваша паржавела, іржа іх сведчыць супраць вас і з'есць цела вашае, як агонь...

Пад посцілкаю было ціха — ніхто не варушыўся і ніхто, здавалася, нават не дыхаў — так уважліва, пільна і насцярожліва ўсе слухалі Бездакорнага.

— Цяжка нехта з вас мучыцца? Няхай моліцца. Весела каму? Няхай псальмы спявае. Прызнавайцеся адзін перад адным у сваіх правіннасцях і маліцеся адзін за аднаго, каб паздаравець. Многае зможа настойлівая праўдзівая малітва.

Пад посцілкаю, там, дзе былі галовы, выпукляліся, як купіны, грудкі. Яны ўжо заварушыліся, сёй-той нават пачаў шморгаць носам.

— Хрыстос мучыўся за нас сваім целам, то і вы спавядайцеся гэтай жа думцы, бо той, хто мучыцца целам, перастае мучыцца душою, перастае грашыць. Каб рэшту часу пажыць ужо не паводле чалавечых слабасцей, а паводле божае волі. Бо хопіць і таго, што ў мінулым жыцці вы паступалі па падказцы паганаў, ходзячы ў нячыстасці, пажадлівасці, п'янстве, банкетаванні, піцці і легкадумным служэнні нячысціку.

Прасцірадла паступова спаўзала з галоў — пад ім ужо некаторыя вернікі пачалі сутаргава торгацца, курчыцца ў канвульсіях.

Голас Бездакорнага быў усё яшчэ спакойны і абыякавы.

— Усе людзі грэшныя. У кожнага чалавека ўсяліўся нячысцік. Яны жывуць з ім да пары да часу і не адчуваюць гэтага. Паколькі для дэманаў не існуюць прастора і час, яны пранікаюць у душу і сэрца чалавека і ўнушаюць яму свае д'ябальскія думкі. Эпідэмія душэўных хвароб запаланіла зямлю. Асабліва страшны загадкавы від вар'яцтва — апантанасць. Хворыя адчуваюць, што яны — гэта не яны, што ў іх усяліўся нехта чужы і варожы. Яны крычаць і гавораць ад імя дэманаў, а па начах здаровыя ў жаху чуюць іх скавытанне і рогат.

Бездакорны на хвіліну змоўк — нібыта задумаўся. Паправіў накідку, усцягнуў яе зноў на галовы, з якіх яна з'ехала. Казаў далей:

— Сутнасць кожнага нячысціка — мана. У нежыцяў няма свайго твару, свайго аблічча, яны заўсёды пазычаюць іншыя. Бывае, што нават воблік анёла прымаюць. Дык яны ж, нячысцікі, і напраўду некалі былі анёламі, але не змаглі захаваць сваёй годнасці і сталі анёламі бездані. Усе свае анёльскія якасці — звышчалавечыя веды і магутнасць — яны паставілі на службу злу. Памятаеце, нават да святога Францыска Асізскага нячысцік з'явіўся ў выглядзе Хрыста. І толькі калі той, насуперак сваёй высакароднасці, пачаў папросту лаяцца, мацюкаць паганага, Ілжэ-Хрыстос у жаху кінуўся наўцёкі, пакінуўшы пасля сябе чужы, нікчэмны дух і брыдкі пах серы. Дык выганяйце ж з сябе нячысцікаў, выганяйце д'яблаў, выганайце спакуснікаў і ліхаў! Выганяйце, выганяйце, выганяйце!

Людзі перад Бездакорным, скідаючы з сябе посцілку, заторгаліся яшчэ мацней, і гэтыя іх рухі былі самі па сабе падобны на нейкі д'ябальскі танец — усе рабілі нешта рознае, але рабілі гэта аднолькава, быццам на сеансе экстрасенса.

— Ой, ой,— завойкаў пад самаю рукою Бездакорнага малады яшчэ чалавек з худым і цёмным тварам.— Мне блага.

— Вінаваты? — як не ў самае яго вуха крыкнуў Бездакорны.

— Здаецца, не... Здаецца, не...

— А д'ябальскае зелле курыў?

— Ну, курыў, ну, курыў!

— А д'ябальскае малако піў?

— Ну, піў, ну, піў!

— Нячысцік табе віно падносіў, таму і рукі твае трасуцца.

Апантаны здзіўлена глядзеў на свае рукі і крыўляўся яшчэ болей.

— Прызнавайся, у чым выглядзе д'ябал прыходзіў да цябе?

— Ну з сябрам я піў. Ну з сябра-а-ам!

— Нячысцік у аблічы сябра спойваў цябе... Чуеш, нячысцік! — яшчэ прарэзлівей закрычаў Бездакорны.— Ачышчайся! Ачышчайся хутчэй!

Малады чалавек раптам упаў на калені, пачаў поўзаць вакол Бездакорнага, пачаў рохкаць па-свінячы і брахаць па-сабачы.

— Бачыш, колькі ты, грэшны, д'яблаў у сабе насіў? Свіннямі і сабакамі выходзяць яны з цябе!

У гэты час ужо амаль усе торгаліся ў сутаргах.

Чалавек сярэдняга веку — сівы, тактоўны, прыстойна апрануты — хацеў быў непрыкметна падацца да дзвярэй, але ўладны голас Бездакорнага вярнуў яго зноў да апантаных людзей, якія яшчэ ў большым шале нідзе не маглі знайсці сабе месца.

— Д'ябальскае рабро ў табе іграе. Кажуць жа і людзі і багі — на сівізну чорт ласы... Як венікамі, трасуць вамі, людзі, нячысцікі. Страсайце ж іх з сябе, страсайце! — ужо як не лямантаваў Бездакорны.

І раптам гэты сівы, прыстойны чалавек пачаў страсаць з сябе нешта нябачнае, што нібыта замінала яму, а затым упаў на брудную падлогу і ўзяўся качацца па ёй, робячы дужа непрыгожыя рухі, выкрыкваючы нецэнзурныя словы. Але ніхто не звяртаў на яго ніякай увагі — усе былі заняты сваімі нячысцікамі.

І тут Бездакорны заўважыў маладую, прыгожую жанчыну, якая стаяла крыху збоку, пасміхалася з усяго, што бачыла, і неяк не зусім упэўнена паўтарала:

— А я ні ў чым не вінаватая. А я чыстая.

Ён рукою паклікаў яе бліжэй і загаварыў спакойным голасам:

— Чалавек грэшны, калі нават яму і здаецца, што ён бязгрэшны. І ты грашыла. І ты зналася з нячысцікам. Прызнавайся!

— Не, я чыстая, не, я не вінаватая.

— Усе крычаць, што яны не вінаватыя. Усе енчаць: не я, не я... А хто ж тады так засмеціў зямлю?!

— Не я, не я...

— Бачыш, не ты. А нячысціка хто цешыў?

— Нікога я не цешыла.

— А ў кампаніях многа смяялася?

— Ну, смяялася,— ужо няўпэўнена, нібы раздумваючы над нейкаю незразумелаю віною, адказвала жанчына.

— А на вечарынках з асалодаю танцавала?

— Ну, танцавала...

— Дык гэта ж нячысцік рагатаў у табе, гэта ж д'ябал змушаў цябе скакаць і весяліцца,— вініў жанчыну Бездакорны.

Тая зараз ужо маўчала. Дзе і падзелася яе ўпэўненасць — яна толькі плюскала вачыма і нервова азіралася па баках.

— А смутак безвыходны ў цябе бывае? Весялосць нестрыманая? Скажы — бывае?

— Ну, бывае... Ну, бывае...

— З нячысцікам ты спазналася, і ён змушае цябе і сумаваць, і цешыцца...

— Ой, я не вінаватая...

— Прызнайся, ён прыходзіў да цябе? — ужо ў самае яе вуха крычаў Бездакорны.— Прыходзіў, я пытаюся? Пад выглядам мужчыны прыходзіў? Ці, можа, у аблічны сатыра? Рагаты такі, хвастаты, з капытцамі... Прыходзіў ці не?

— Ну, прыходзіў... Ну, прыходзіў... Ой, пры-хо-дзіў...— загаласіла жанчына.

— І ён лашчыў цябе? Прызнавайся! — Бездакорны ўжо крычаў так голасна, нібыта ён гаварыў гэта не толькі да яе аднае, але і да ўсіх тых, хто прыйшоў на гэтую споведзь.— Адказвай, лашчыў ці не?

— Ну, лашчыў... Ой, ла-шчыў...

Твар жанчыны раптам скрывіўся, яна пачала грымаснічаць і закалацілася ў потарзе — яшчэ мацней і раз'юшаней, чым тыя, што ўжо тузаліся даўно.

— Ой, гару... Ой, га-ру...— толькі і паўтарала яна.

А Бездакорны ўзмахнуў рукамі, і накідка зноў затрымцела над галовамі.

— Ачышчайцеся! — крычаў ён да ўсіх.— Выганяйце з сябе нячысцікаў! Выганяйце спакушальнікаў і ліхаў, вераломнікаў і ненашаў, хітруноў і злоснікаў, перакрутаў і спрытнюг! Вызваляйцеся ад д'ябальскіх выкрутасаў! Вызваляйцеся!

На людзей, якія ў шале, цяжка было глядзець. Яны крыўляліся, сутаргава, нібы эпілептыкі, калаціліся і перасмыкаліся, качаліся па падлозе, хадзілі на чацвярэньках, поўзалі, стагналі, крычалі, плакалі, лаяліся, брахалі па-сабачы, вішчэлі па-свінячы, бляялі па-авечы — так цяжка выходзілі з іх нячысцікі.

А над усім гэтым чуўся цяпер ужо спакойны голас Бездакорнага — ён церушыўся, спадаў на тых, хто пакутаваў, здымаючы, паслабляючы іхні боль:

— Ачышчайцеся! І паможа вам бог! Памятаеце ў Евангеллі? Калі Ісус выйшаў з чоўна, зараз жа пераняў яго чалавек з магільніку, апанаваны нячыстым. Ён меў жыллё ў магілах; і ніхто не мог яго звязаць нават ланцугамі, бо многа разоў скоўвалі яго путамі ды ланцугамі, але ён разрываў ланцугі і разбіваў путы, і ніхто не меў сілы супакоіць яго; заўсёды ўначы і ўдзень ён быў у горах ды ў магілах, крычучы і б'ючы сябе каменнем. Угледзеўшы ж Ісуса здалёку, прыбег ды пакланіўся яму і, закрычаўшы моцным голасам, сказаў: што Табе да мяне, Ісус, Сын Бога Усявышняга? Заклінаю Цябе богам, не муч мяне! Бо Ісус казаў яму: выйдзі, дух нячысты, з гэтага чалавека. І спытаўся ў яго: як імя тваё? І ён сказаў у адказ: легіён імя маё, бо нас многа. І дужа прасіў яго, каб не высылаў іх вон з стараны тае. Пасвіўся ж там ля гары вялікі гурт свіней. І прасілі яго ўсе дэманы: пашлі нас у свіней, каб нам увайсці ў іх. Ісус ураз жа дазволіў ім. І нячыстыя духі, выйшаўшы, увайшлі ў свіней, і кінуўся статак з кручы ў мора; было ж іх каля дзвюх тысяч; і патанулі ў моры. Хай і з вас выходзіць нячыстая сіла. Хай і яна ўсяляецца ў сабак і кошак, у коз і свіней...

Праходзіў час, і людзі паступова супакойваліся. Ужо не так яны біліся і курчыліся, не так вылі і крычалі. Сёй-той цяжка ўздыхаў, пацепваўся, сёй-той, стомлены, ледзь стаяў на нагах і, заплюшчыўшы вочы, хістаўся, як п'яны.

— Вы сталі здаровымі. Ідзіце туды, хто адкуль прыйшоў, і не грашыце болей. Вам няма чаго баяцца цяпер, трэба толькі верыць. Бо, памятаеце, Бог казаў: «Той, хто верыць у мяне, будзе рабіць

справы, якія і я раблю». Толькі вера ўратуе вас ад новых заган і грахоў. Бо дэманы якраз і паразітуюць на вашах грахах. Беражыце ж душы ад нечыстаты! Запаўняйце іх, прыбраныя і падмеценыя, чысцінёю і добрымі намерамі, каб не вярнуліся ў іх д'яблы. Бо калі яны вернуцца, іх будзе болей, чым было да гэтага. Бо калі д'яблы зноў апануюць вашы душы, адкуль іх выгналі, яны будуць яшчэ болей злыя і асатанелыя. Не пакідайце ж ні на хвіліну вашы душы пустымі!

І раптам Бездакорны заўважыў маладога чалавека — спакойнага, прыстойнага, уважлівага, які стаяў крыху зводдаль і насмешліва назіраў за ўсім, што адбывалася перад ім. Бездакорны падышоў да яго і ціхім, але ўпэўненым голасам запытаўся:

— Сын мой, а што адчуваеш ты?

— Нічога,— шчыра адказаў малады чалавек.

— Чаму ж тады ты смяешся, калі іншыя плачуць?

— Таму што смешна. І яшчэ таму, што плачуць не ўсе, каму варта плакаць.

— Сын мой, тваё няверʼе палохае. Яно ад таго, што ў цябе ўсяліўся самы хітры і самы каварны нячысцік, самы вераломны д'ябал. Ты, мусіць, самы грэшны між усіх! — закрычаў Бездакорны і яму, як нядаўна жанчыне, у самае вуха.— Прызнавайся!

Але чалавек быў надзіва спакойны.

— Мне няма ў чым прызнавацца,— адказаў ён.— А ведаеце, хто самы грэшны між намі? — І, не чакаючы адказу, выдыхнуў: — Вы!

Бездакорны збялеў, у яго пачалі нервова перасмыкацца правая шчака і вока.

— А самы галоўны нячысцік мучыць вас саміх! Дык скажыце, хіба ж можа дэман выганяць дэмана?!

Бездакорны неспадзявана сам забіўся ў канвульсіях, пачаў раптам непрыстойна рагатаць.

— Прызнавайся,— малады чалавек перайшоў на «ты» і ўжо крычаў з усяе сілы на таго, хто толькі што ўшчуваў іншых.— Прызнавайся, што менавіта ты знаешся з нячыстаю сілаю!

— Ой, знаюся! Ой, зна-ю-ся...— па-воўчы завыў Бездакорны.

— Выганяй жа з сябе нячысціка,— яшчэ галасней закрычаў малады чалавек.— Ачышчайся!

І Бездакорны нечакана як пераламаўся пасярод, упаў на падлогу, курчыўся і крычаў нешта, качаўся, стагнаў, як і ўсе іншыя, цёрся жыватом аб дошкі, нібы рыба, што ідзе на нераст,— быццам хацеў разадраць яго, каб хутчэй выпусціць з сябе нячыстую сілу. Енчыў і ўсё прамаўляў:

— Ой, вінаваты... Ой, вінаваты... Ой, гару...

Жыццё тваё, Божа, шырэйшае за звычайнае жыццё, калі ў ім і грэшнікі, і святыя могуць вось так лёгка паядноўвацца і ўжывацца ў адным чалавеку.

І калі самымі святымі часам аказваюцца не тыя, хто пра гэта гаворыць, а тыя, хто ў гэта верыць.

Вернікі часцей за ўсё бываюць святымі.



## АБ'ЯВА Ў ГАЗЕЦЕ

«Шукаю чалавека, якому для поўнага шчасця не хапае толькі мяне. Па задыяку ён — Леў, народжаны ў год Дракона. Па гараскопу — Зямля, здольная аддаваць сваю энергію, бо я — агрэсіўнае Паветра, згоднае сілкавацца ёю. Мужчын, якія не ўмеюць плаваць, курыць, вадзіць машыну, кіраваць яхтай і моцна сядзець у сядле, у якіх няма зброі і якія не валодаюць замежнымі мовамі, прашу не хваляваціца і дарэмна не турбаваць мяне».

І хоць ён па задыяку быў усяго толькі Авечкаю, народжанаю ў год Мышы, і хоць ён не ўмеў ні плаваць, ні курыць, ніколі не сядзеў у сядле, ужо не кажучы пра замежныя мовы і тым болей пра зброю, усё ж яму чамусьці здалося, што гэтая жанчына — ягоны лёс. Яму чамусьці імпанавала і падабалася вось такая актыўная напорыстасць незнаёмай маладзіцы, яе самаўпэўненасць і нават пагарда — магчыма, яго, ціхага, спакойнага, непрыкметнага чалавека, якраз і цягнула да яе тое, чаго не хапала яму самому.

Хоць, шчыра кажучы, гэтым аб'явам ён не верыў. Асабліва яго дзівілі мужчыны: «Я здаровы, як бык, хачу жанчыну». Ды і жанчыны таксама пра тое ж: «Мне семнаццаць гадоў, але выглядаю я значна маладзей...» Іншая кабеціна так распіша свае дабросці — яна і «шчырая, прывабная, ласкавая, чароўная, любіць хатнюю ўтульнасць», яна і «знешнасцю і інтэлектам не пакрыўджана, недахопаў не мае», яна і «ўмее смачна гатаваць, уся — жаноцкасць, элегантнасць, цудоўная гаспадыня», што нават дзіву даешся, чаму ж такая цаца ўжо разведзена ці да гэтага часу яшчэ не выйшла замуж.

Ён і сам спакусіўся быў на адну такую аб'яву. «Спакойная. Сціплая. Спагадлівая. Не ханжа. Пяшчотная. Хачу зрабіць шчаслівым мужчыну, які адгукнецца мне».

«Хачу зрабіць шчаслівым мужчыну»... Гэта ж вам не жартачкі! Які мужчына ўстаіць перад гэтымі словамі? Хто адмовіцца ад такой надзеі — быць шчаслівым? І ён таксама захацеў, каб яго зрабілі памысным. І таксама, як, мусіць, і многія іншыя мужчыны, паслаў ліст абаненту. І якое ж было яго здзіўленне, калі на сустрэчу прыйшла яго нядаўняя жонка, з якой ён змушаны быў перад гэтым развесціся — з-за няўжыўчывасці яе характару.

Гэтая жанчына не хавала сваёй агрэсіўнасці. І яму вельмі захацелася спадабацца ёй, спакусіць яе, але ён не ведаў, як гэта зрабіць.

І ўсё ж, выбраўшы сваё самае лепшае фота, паслаў яго той, што дала аб'яву ў газету. І — о дзіва! — яна выбрала менавіта яго! Пачалася зацікаўленая перапіска, і яны яшчэ да сустрэчы шмат што ведалі адно пра аднаго — праўда, у асноўным толькі добрае, бо каму гэта захочацца прызнавацца ў сваіх больках незнаёмаму чалавеку!

Але ў лістах — адно, а пры сустрэчы — іншае.

Пры сустрэчы ён зразумеў, што не спадабаўся ёй, а то і ўвогуле расчараваў жанчыну — ціхі, сарамлівы, непрыкметны, звычайны — не такі, як у лістах. Яна старалася не паказваць свайго раздражнення, але ёй гэта амаль не ўдавалася. Прыгожая, у самым сваім росквіце, з фігураю Сабрыны і тварам Сандры, як яна сама пісала ў аб'яве, «крепка словом, делом и телом», жанчына з іранічнаю ўсмешкаю, нават не запрасіўшы яго сесці, здзекліва спыталася:

— А што ж вы ўмееце?

— Нічога,— шчыра прызнаўся ён.

— Не ўмееце плаваць і вадзіць машыну? — нібы здзівіўшыся, пагардліва падняла яна левае брыво.— Не можаце кіраваць яхтай і сядзець у сядле? І адважыліся прыйсці да мяне?

— Адважыўся,— невыразна буркнуў ён у адказ.

Яна пацiснула плячыма.

— Шпрэхэн зі дойч?

Ён, хоць і вывучаў некалі ў школе нямецкую мову, хоць і ведаў, пра што яна гаворыць, аднак не адгукнуўся, зрабіў выгляд, што нічога не разумее.

— Ай сі кэт? Інгліш?

Англійскай мовай ён не займаўся зусім, таму не трэба было нават прыкідвацца.

— Франсэ? — настойліва дапытвалася жанчына.

— Не, я не француз.

— А французскі каньяк п'яце?

— Не.

Яна грэбліва ўсміхнулася і пагардліва пахітала галавою.

— Ну, я спадзяюся, вы хоць курыце?

— На вялікі жаль, не куру.

— Тады ідзіце,— і шырока адчыніла перад ім дзверы; стаяла і чакала, калі ён выйдзе з хаты: яна выганяла яго!

Але ён не спяшаўся. Стаяў, таптаўся на месцы, шукаў, што б яму такое прыдумаць, каб абразіць яе ці хаця б самому выйсці з кватэры менш абражаным, аднак нічога разумнага ў галаву не прыходзіла.

Ён вінавата ўсміхнуўся і тут жа, нібыта ў яго ў гэтую хвіліну ўсяліўся які нячысцік, дурасліва пажартаваў:

— А хочаце, я зараз землетрасенне вам устрою?

Яна не вытрымала, зарагатала:

— Вы? Землетрасенне? Не смяшыце людзей!

Яе рогат нарадзіў у яго, мяккага і памяркоўнага, вялікую злосць і нейкую зусім не зразумелую ўпартасць — ён чамусьці быў упэўнены, што гэта ў яго зараз атрымаецца.

Ён выцягнуў уперад правую руку, напружыўся ўвесь і загадаў:

— О, прыходзь, землятрус!

І сам здзівіўся, адчуўшы, што па руцэ і праўда пайшла нейкая сіла, нейкая энергія — яна нават шчыпала, паказытвала, як электрычны ток, кончыкі пальцаў, а ў роце ад яе зрабілася металічна,— так непрыемна бывае ў тралейбусе, калі нечакана пстрыкне замыканне ў дугах.

І тут жа заблішчалі маланкі, загрымела навокал і захадзіла пад нагамі падлога. Ён толькі бачыў, як хістаюцца пад столлю люстры і як падаюць з падаконнікаў гаршкі з кветкамі.

Ён і сам спалохаўся. А жанчына стаяла белая, як палатно: дзе і падзеліся яе грэблівасць, красамоўства і гумар.

Мужчына паволі апускаў руку і адчуваў, як нехаця вяртаецца па ёй назад, некуды ў сваю ранейшую схованку, тая нечаканая, ужо вызваленая, сіла. І яшчэ адчуваў, што варта толькі яму зноў падняць руку, як яна радасна пабяжыць у другі бок, на волю, каб зноў грымець, бліскаць, хістаць дамы, уздыбліваць зямлю, пабяжыць туды, дзе, мусіць, яе натуральнае жыццё.

Землятрус аціх. Жанчына пакрысе супакойвалася. Спалох ужо мінуўся, і кроў зноў прылівала да яе твару.

— Не, мне не трэба такі моцны мужчына,— усё яшчэ гледзячы на патрэсканыя ад землетрасення шпалеры, нібы раздумваючы, сказала яна.— Мне б толькі каб ён машыну вадзіць умеў... І ўсё...

— Не, машыну я вадзіць не ўмею.

— Тады прабачце,— і недвухсэнсоўна развяла рукамі.

І як толькі ён выйшаў на лесвічную пляцоўку, адразу ж, спяшаючыся, нібы баючыся, што не паспее, моцна грукнула дзвярыма і зачыніла іх на ўсе зашчапкі.

Ну і жанчыны! Ніхто іх, відаць, ніколі не зразумее. Мала можаш — кепска. Але калі ты і многа можаш,— таксама дрэнна. Ім трэба, каб ты мог адно столькі, колькі б хапіла для звычайнага жыцця і звычайнага шчасця.

Каб умеў вадзіць машыну і прыгожа сядзеў у сядле...

Ён выйшаў з пад'езда і жахнуўся, што нарабіў тут яго землятрус. Уся зямля была паўздыблена, пабіта расколінамі, палохала глыбокімі ямкамі-праваламі, нібыта яе толькі што бамбілі.

У адной з ямак сядзелі «Жыгулі» — яны праваліліся туды амаль напалавіну. Багажніка не было відаць, толькі лабавое шкло зырка адбівала не па-восеньску шчодрае сонца.

Мужчына чамусьці здагадаўся, што гэта менавіта тая машына, якой шукаюць гаспадара.

Міжволі, яшчэ сам не ведаючы чаму і навошта, саскочыў у яміну, пастаяў там крыху, а пасля ўпёрся рукамі ў багажнік і пачаў разгойдваць машыну. Тая раскалыхвалася спачатку нясмела, пакрысе, быццам нехаця, а потым паддалася ўсё ж ягонай сіле і настойлі-

васці — праз нейкі час ён выштурхнуў «Жыгулі» з правалу і выкаціў на роўнае месца.

І тут, як успомніў што — ён, які ніколі не кіраваў машынаю, зараз ведаў у ёй выключна ўсё. Лёгка адчыніў дзверцы, сеў за руль, знайшоў ключ запальвання, прафесійна павярнуў яго — машына завялася, ажыла, затахкала: яна была ўжо не новая, але на ёй можна было яшчэ ездзіць.

З форсам газануўшы, умела, спрытна абмінаючы ямкі і расколіны, праехаўся па двары, вырулiў на вуліцу, зухавата развярнуўся там — нібыта ён усё сваё жыццё толькі тое і рабіў, што вось так разварочваўся,— і, яшчэ крыху пакатаўшыся, вярнуўся назад. Паставіў машыну навідавоку, пад вокнамі, і вылез з яе...

Нехта ззаду мякка, даверліва паклаў руку яму на плечы, пяшчотна правёў далонямі па валасах.

— Мілы,— пачуў ён шчыры, усхваляваны шэпт.— Я ў захапленні... Ты вельмі прыгожа водзіш машыну...

Здалося нават, што поплеч стаяла не яна — такія ласкавыя былі яе далоні.

— А я так люблю хуткасць,— летуценна прызналася жанчына.

Ён рэзка павярнуўся, убачыў яе замілаваныя вочы, затуманеныя пачуццёваю смугою, зняў яе рукі са сваіх плячэй і рашуча, шпарка, не азіраючыся, пайшоў з двара: тут усяго толькі любілі хуткасць і прыгожую язду, а не яго самога...



# ПЕРАД ГІЛЬЯЦІНАЙ

Усе яны — ахвяры, і толькі адзін застанецца жыць.

— Значыць, вы сцвярджаеце, што кожны з вас — Правадыр, і Правадыр сапраўдны. А іншыя — несапраўдныя, салганыя. Ну, добра, напачатку паверым вам усім. Хоць і разумеем, што між вамі можа быць толькі адзін Вадар. Іншыя — хлусня, мана, падман, і з імі разбярэцца пасля гільяціна. Дык хто ж сярод вас бясспрэчны? — Вярхоўны Суддзя абвёў усіх учэпістым, дапытлівым позіркам, потым замоўк, задумаўся.— Панове,— неўзабаве прахапіўся, як прачнуўся, ён.— Вось перад вамі дзяржаўны сейф. Ключ ад яго, як вы ведаеце, будзе толькі ў Сапраўднага Правадыра...

«Нарэшце! З гэтага і трэба было пачынаць! — Бясспрэчны Правадыр аж затрымцеў ад радаснага хвалявання і ў нецярпенні сціснуў у кішэні ключ ад сейфа, ды так моцна, што той умомант зрабіўся мокры ад спацелай рукі.— Ну, ну, нікчэмныя самазванцы, пакажыце, [redacted] што маеце вы?»

І сам таропка, спяшаючыся, выхапіў [redacted] кішэні сапраўдны ключ.

Якое ж яго было здзіўленне, калі такія самыя ключы падаставалі і ўсе астатнія Правадыры-самазванцы. А Вярхоўны Суддзя не здзівіўся — спакойным голасам ён вёў дазнанне далей:

— А зараз хто з вас адамкне сейф?

Сапраўдны Правадыр быў перакананы, што зрабіць гэта зможа толькі ён адзін, і таму зараз ужо не спяшаўся да сейфа. З паблажлівай усмешкаю глядзеў на тых, хто, нецярпліва сарваўшыся з месца, кінуўся да замкоў, загадзя выстаўляючы наперад рукі з ключамі,— уяўляў, як яны, не адамкнуўшы, расчараваныя і спалоханыя, у адчаі, з жахам будуць адыходзіцца ўбок.

Але першы ж самазванец лёгка і проста адчыніў і зачыніў зноў ягоны — ягоны! — сейф. Правадыры па чарзе, а то і без чаргі падыходзілі і без лішняга клопату адмыкалі і замыкалі замкі — адно толькі весела ляскалі дзверцы. Тады Сапраўдны не на жарт спалохаўся — а што, калі раптам ключы падмянілі, і гэтым, сваім, які лічыць праўдзівым, ён сам нічога не зможа адчыніць? — і з усіх ног, распіхваючы самазванцаў у бакі, пабег да сейфа. Недарэчы ўспомніў пра гільяціну і таму дрыжачымі рукамі, усё ніяк не трапляючы, доўга не мог уставіць ключ у адтуліну. Не, сейф і яму, як і іншым,

таксама адчыніўся лёгка і хутка. Ён, узрадавана ляснуўшы дзверцамі, зачыніў яго і выцер з ілба халодны пот — значыць, пакуль што гільяціна чакае не яго.

Дзіўна, з гэткай жа самай лёгкасцю адчынялі і зачынялі сейф амаль усе. Праўда, некалькі самазванцаў, доўга і марна поркаючыся, так і не змаглі даць яму рады. Іх адразу ж ачапілі стражнікі з алебардамі і кудысьці павялі — хутчэй за ўсё на гільяціну: маўляў, а што тут чакаць, чаго разбірацца, калі зараз усё і так зразумела.

Прэтэндэнтаў на бясспрэчнага Правадыра паменела, але іх усё роўна аставалася яшчэ мнагавата, і таму высвятленне ісціны было пакуль што наперадзе.

Адкуль з'явілася ў дзяржаве столькі Правадыроў?

На Краіну Правадыра нечакана напалі моцныя, узброеныя да зубоў, ворагі. Яны, асабліва не разбіраючыся, бамбілі і абстрэльвалі ўсё спрытна: дзіцячыя сады і ваенныя заводы, жылыя раёны і аэрадромы, бамбасховішчы і атамныя электрастанцыі. І асабліва палявалі за Правадыром. Уся відомая і невідомая, уся звычайная і незвычайная, электронная, разведка была скіравана на тое, каб высачыць яго і знішчыць. Усе шматлікія бетаніраваныя бункеры былі пад пільным наглядам: чакалі, у якім ён з'явіцца.

Вось тады яму самому і прыйшла ў галаву такая небяспечная, як на сённяшні розум, думка — знайсці падобных на сябе людзей і засяліць гэтымі двайнікамі ўсе свае бункеры: паспрабуй разбярыся, у якім знаходзіцца ён, Сапраўдны. Пасабралі з усёй краіны падобных і тварам, і целам людзей, апранулі іх, як Правадыра, у каго была барада — пагалілі, у каго не было вусоў — наклеілі, і вось ужо адзін з іх сустракаецца з доблеснымі войскамі, другі выступае па тэлебачанні, трэці — прымае замежных дыпламатаў. Двайнікі хадзілі і ездзілі смялей, іх спецслужбы маглі лёгка забіць, але не рабілі гэтага, бо патрэбен ім быў толькі Сапраўдны Правадыр.

Можа, дзякуючы і гэтай хітрасці, яны ўсё ж перамаглі ворагаў. Аднак жаданая перамога не радавала яго так, як хацелася б — самазванцы менавіта ў мірны час пачалі сеяць смуту.

Двайнікі так папрывыкалі да сваёй ролі, што ўжо кожны з іх напраўду лічыў сябе Правадыром. Правёўшы, да прыкладу, нараду ў генеральным штабе ці сустрэўшыся з замежнымі дыпламатамі, хто, скажыце, не паверыць, што ён і ёсць Сапраўдны Правадыр? У мітусні і хаосе нялёгкіх дзён ці то па яго віне, ці то па віне тых, хто павінен быў сачыць за гэтым, раптам сама сабою знікла мяжа паміж ім і двайнікамі, і ўжо нават ахова пачала блытацца, у якім бункеры знаходзіцца Сапраўдны, а дзе — яго запаснікі. Гэта дало ўпэўненасці самазванцам, і зараз ужо кожны з іх нахабна, пагардліва сцвярджаў, што Сапраўдны — толькі ён, а ўсіх астатніх трэба адразу ж арыштаваць і абясшкодзіць, бо яны не даюць Правадыру нармальна спраўляць свае штодзённыя дзяржаўныя абавязкі.

Вось тады і сабраўся гэты паважаны суд, каб высвятліць праўду, а ён, Адзіны і Бясспрэчны, апынуўся ў турме — разам з самазванцамі, сутыкнуўся з тым жа, што і да іх, недаверам.

Пасля няўдачы з сейфам, на які вельмі ж ужо разлічваў Вярхоўны Суддзя і які, шчыра кажучы, павінен быў адразу ўсё паставіць на сваё месца — ключ, маўляў, адзін, і ён знаходзіцца ў сапраўднага Правадыра — сітуацыя ўскладнілася: доказы знікаюць, а самазванцы астаюцца нявыкрытыя.

Зараз час уступаў у свой незвычайны адлік, дзе ніхто нікому не верыць і ніхто нікога не ратуе.

Шаноўны суд вырашыў на вочную стаўку па адным выклікаць усіх міністраў, а таксама іншых чыноўнікаў з акружэння Правадыра — хто, як не яны, лепей за ўсё ведаюць яго і станоўчыя і адмоўныя якасці! Сапраўдны ўважліва глядзеў ім у вочы, хацеў убачыць у іх ранейшую ліслівасць, адданасць, дагодлівасць, але тыя праходзілі паўз яго, не ўшанаваўшы нават самым звычайным позіркам, ужо не кажучы пра ўвагу. Адзін з іх, здаецца, міністр культуры, пайшоў быў у ягоны бок, але ўбачыўшы шырокую, шчырую і прыязную ўсмешку, адразу ж павярнуўся і рушыў да нейкага самазванца — не, маўляў, гэта не Правадыр, бо ў Правадыра ён ніколі не бачыў такой усмешкі: Яснавяльможны звычайна прымаў міністра культуры незадаволены, раздражнёны, злосны — маўляў, і гэты яшчэ на такое глупства, як культура, грошы просіць...

Правадыр зразумеў сваю памылку, але выправіць яе зараз ужо не было ніякай магчымасці — усмешку ж назад не вернеш.

Ён, неспазнаны, спахмурнеў. Такіх было многа. Аднак, на радасць, тых, каго не заўважыў ніводзін міністр, дзякаваць богу, пакуль што не выводзілі стражнікі — міністры маглі памыліцца, тым болей што ролі іхнія зараз памяняліся: раней яны былі толькі просьбітамі, а зараз іх саміх просяць спазнаць вунь колькі Правадыроў адразу!

Прывезлі ў бункер дзяцей Сапраўднага. Яны, заўсёды ўпэўненыя, шумныя і гарэзлівыя, зараз няёмка і спалохана ціснуліся адно да аднаго, нібыта яны і не дзеці Правадыра: перад імі гэтулькі татаў, а сярод іх трэба выбраць толькі аднаго, роднага. Усе таты ў вайсковай форме, а гэтая форма і так усіх робіць падобнымі адзін на аднаго, а тут яшчэ двайнікі...

Якая цяжкая адказнасць звалілася на дзіцячыя плечы! Доўга дзеткі разглядалі татаў, доўга вывучалі іх, але ніяк не маглі адважыцца падысці да каго-небудзь. І ўсё ж спачатку нясмела, а затым усё жвавей і жвавей знайшлі розных татаў: кожны аблюбаваў свайго, і ніводзін — бог мой, за што караеш! — не выбраў яго, сапраўднага. Нават старэйшы, які ўсё прынюхваўся,— ён сам пачынаў курыць, і яму вельмі падабаўся пах табакі з бацькавай піпачкі — нічога не пачуў і таму выбраў зусім іншага чалавека. А Сапраўдны Тата зараз з крыўдаю і зайздрасцю глядзеў, як самазванцы трымалі на руках і каленях яго дзяцей, як лашчылі іх, гладзілі па галоўках, як тыя даверліва, пяшчотна туліліся да чужых дзядзькоў, і ў яго душы спеў бунт: «Я, я, нягоднікі, Сапраўдны Правадыр! Навошта вы прыкідваецеся, што не ведаеце гэтага?!» Яму хацелася кінуцца на самазванцаў — несумленных і хцівых,— пабіць іх, пакалашмаціць,

спаўна сплаціўшы за абразу, адабраць дзяцей, параскідаць суддзяў, прыгразіўшы ім самім гільяцінаю, але ён, напружваючыся ўвесь, як струна, стрымліваў сябе: за спіною стаялі стражнікі з алебардамі — самі яны вопытныя, сякеры ў іх, ён ведаў, наточаныя, адно махне ёю — і няма галавы.

Самае апошняе слова пакідалі за жонкаю — яна ж ведае мужа і, вядома, не памыліцца!

Жонка ўвайшла і гэтак жа, як і дзеці, разгубілася: столькі мужоў і сярод іх трэба выбраць сапраўднага, аднаго.

Вярхоўны Суддзя дазволіў Правадырцы задаваць Правадырам пытанні. І Сапраўднаму гэта спадабалася — канечне, лепей яго ніхто не зможа адказаць на жончыны пытанні!

І яна пачала як быццам бы допыт:

— У сапраўднага Правадыра пад левым саском павінна быць randaўка.

Ён ужо зноў злараднічаў, прадчуваючы перамогу: ну, ну, пакажыце, крывадушнікі, свае randaўкі!

Але ўсе самазванцы з ахвотаю паднялі вайсковыя сарочкі і выставілі напаказ левыя саскі. О божа! Ва ўсіх пад саскамі былі такія ж, як і ў яго, randaўкі!

Здаецца, здзівіўся не толькі ён, але і яна.

— А як мой муж дзякаваў мне за абед?

«Знайшла што пытацы!» — раззлаваўся на жонку Правадыр. Тут ён быў такі ж неарыгінальны, як і ўсё чалавецтва. Хіба цяжка здагадацца? Ды і чулі ж, напэўна, многія...

І праўда, усе дружным хорам адказалі: «Дзякуй за абед, што пад'еў дармаед».

Жонка разгубілася і ўжо не ведала, пра што пытацца далей. Ёй падказаў Вярхоўны Суддзя:

— Ну, а можа, што-небудзь інтымнае, са спальні.

Правадырка спачатку зачырванелася, а затым пацішэлым голасам спыталася:

— А як клікаў мяне муж да сябе?

І раптам увесь бункер аж скалануўся ад салаўінага пошчаку. Здавалася, што ўсё гэта адбываецца не тут, у цесным каменным мяшку, а недзе над рэчкаю, вясною, у вольным салаўіным царстве.

Было ў Правадыра і праўда такое дзівацтва: на ложа кахання клікаў ён жонку салаўінаю песняю. Але адкуль яны гэта ведаюць?! Няхай у сталовай іх нехта мог падслухаць, а ў спальні ж, ён спадзяваўся, яны былі толькі сам-насам. Няўжо ўсе гэтыя самазванцы былі ў яго спальні?!

Ад такой думкі Правадыра кінула ў холад. А можа, ад таго, што ён зразумеў: гэта ўсё, гэта канец — жывому з гэтага абсурду яму не выбрацца.

Праўда, крыху з'явілася надзея, калі Вярхоўны Суддзя прапанаваў Правадырцы падысці да мужчын бліжэй і ўважліва іх разгледзець. Калі жонка стаяла каля яго, ён умольна глядзеў у такія родныя, такія блізкія, такія свае вочы і спадзяваўся, нават верыў,

што зараз жонка яго пазнае — столькі ж яна абдымала і цалавала «свайго Правадырочка»! — але тая некалькі разоў прайшла побач, як чужая, і яе позірк амаль зусім не затрымаўся на ім. Адзін раз, праўда, яму нават здалося, што жонка пазнала Сапраўднага, ён хацеў кінуцца да яе і ўжо закрычаў: «Гэта ж я! Гэта ж я!», але тут жа ўсе астатнія самазванцы таксама залямантавалі: «Гэта ж я! Гэта ж я!», і яна спалохана адхіснулася ад яго і пайшла, як пабегла, далей.

— Глядзіце ўважліва,— спакойным голасам папярэджваў жанчыну Вярхоўны Суддзя.— Не спяшайцеся. Ваша слова — апошняе. Каго вы выбераце, той і будзе Сапраўдным Правадыром.

Некалькі разоў яшчэ яна моўчкі праходзіла каля Правадыроў, пільна ўглядаючыся ў твары.

Нарэшце шчаслівa кінулася аднаму з іх на шыю:

— Любы мой, родны мой, дарагі мой! Я рада, што хоць напаследак пазнала цябе!..

Яна лашчыла яго бровы, цалавала ў вусны, гладзіла па валасах.

Самазванец, якога прызнала Правадырка за мужа, стаяў праз чалавека ад Сапраўднага Правадыра. Яснавяльможны зразумеў, што вось гэта ўжо напраўду ўсё — ён адчуў нават на сваёй шыі вострахалодны дотык нажа гільяціны.

— О сучка! — моцна, у адчаі вылаяўся ён.

Жонка нехаця адарвалася ад Самазванца, павярнулася да Вярхоўнага Суддзі і сказала:

— А мой муж, дарэчы, ніколі не лаяўся. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што я не памылілася.

Правадыр, абражаны і няўцешны, памкнуўся быў наперад, каб задушыць нягодніцу сваімі рукамі, але перад вачыма з двух бакоў неспадзеўкі з'явіліся дзве востразаточаныя алебарды стражнікаў, і ён застаўся стаяць на месцы.

— За што ты мяне так?! — прастагнаў Сапраўдны, але Праваддырка, лашчачы Самазванца, якога яна толькі што зрабіла Правадыром, не пачула гэтага.

Іх, усіх астатніх, ачапілі стражнікі і павялі яшчэ ніжэй, у падзямелле — чакаць, калі падрыхтуюць гільяціну.

Вайна скончылася, і мірнаму часу зноў патрэбен быў толькі адзін Правадыр.

Сапраўдны і ў падзямеллі яшчэ спрабаваў пратэставаць, колькі разоў азвярэла грукаў кулакамі і нагамі ў моцныя дзверы камеры, крычаў: «Я, я Сапраўдны Правадыр», але на яго ўжо ніхто не звяртаў увагі — наглядчык адчыніў быў вочка, зірнуў у яго і зноў моўчкі зачыніў: крычы сабе тут колькі ўлезе, ніхто цябе ўжо не пачуе.

Яго лёс і час апынуўся зараз нібыта ў нейкай парожняй, глухой прасторы, дзе ўжо ніхто нікога не чуе і ніхто нікому не патрэбен.

Жывым з мёртвымі не па дарозе. Хоць мёртвыя пакуль што яшчэ і жывыя. А жывыя — ужо мёртвыя.

Цела, якое аднойчы ўкралі жывыя,— таксама мёртвае, і ў другі раз яно не можа памерці.



# СЛАБЫЯ І МОЦНЫЯ

І была некалі краіна, у якой дружна жылі і добра сябравалі моцныя і слабыя. Слабыя спрадвеку кармілі моцных, а моцныя рабілі выгляд, што толькі дзякуючы менавіта ім жывуць і кормяцца слабыя.

Усім здавалася, што так яно заўсёды было і заўсёды так будзе.

Але па часе моцныя пазадзіралі насы і пачалі звысака, пагардліва пазіраць на слабых, а тыя, адно толькі ўкленчваючы перад імі, дзякавалі і дзякавалі за клопаты ды за хлеб-соль — ім і напраўду здавалася, што кормяць іх моцныя, хоць самі яны якраз і прыносілі ўсё, што тыя пілі і елі.

Моцныя вельмі ганарыліся сваім становішчам, паходжаннем, лёсам, велікаваннем. Праз нейкі час яны нават дадумаліся да таго, што слабыя толькі замінаюць жыць, што ім, абраным, даводзіцца ўтрымліваць такі гурт дармаедаў, якія адно тым і займаюцца, што ядуць ды плодзяцца.

— Госпадзі-людзі, што ж вы робіце?! — пачалі былі ўшчуваць дзівакоў Мудрацы, але зараз ужо іх ніхто не слухаў — у бязглуздыя дні слухаюць не Мудрацоў, а нягоднікаў і прайдзісветаў.

Пачаліся стыхійныя мітынгі, на якіх аж заходзіліся ад шалу моцныя:

— Слабыя — смецце нашай краіны! Дакуль мы будзем іх цярпець? Ачысцім айчыну ад слабых! Далоў!

— Далоў! — люцелі ў адказ разгневаныя натоўпы.

І што дзіўна: слабыя і напраўду верылі моцным, няёмка пераступалі з нагі на нагу, вінаваціліся, каяліся — канечне ж, яны смецце, яны толькі замінаюць моцным шчасліва жыць, блытаюцца ў іх пад нагамі...

Знайшліся і сярод слабых такія, што разам з моцнымі, нават грамчэй за іх, крычалі сваім суродзічам: «Далоў!» — за час таварышавання і дружбы з моцнымі яны шчыра паверылі, што і самі моцныя і што гэтае «далоў» іх ужо не датычыцца.

А моцныя вар'яцелі ўсё больш і больш.

— Яны ганьбяць нас! Яны — наш сорам! Прэч слабых! Во-о-о-н! Каб за дваццаць чатыры гадзіны ніводнага слабога не засталося ў нашай дзяржаве! Чуеце — за дваццаць чатыры гадзіны.

— Госпадзі-людзі, што вы робіце?! — зноў жахнуліся Мудрацы, але і на гэты раз ніхто іх не пачуў і ніхто на іх перасцярогу не звярнуў ніякай увагі.

Назаўтра ў краіне і праўда не засталося ніводнага слабога — каго засеклі розгамі, каго павесілі, каго выслалі ў суседнія дзяржа- вы — падвялі да мяжы і піхнулі ў каршэнь на той бок,— хто сам уцёк.

І засталіся ў краі адны толькі моцныя.

Радасці не было ніякіх межаў. Моцныя, шчаслівыя і задаволеныя, святочна апранутыя, хадзілі па вуліцах, махалі сцягамі, смяяліся, весяліліся, спявалі песні, абдымаліся, цалаваліся — радаваліся з выпадку такой вялікай перамогі.

— Ура! Нарэшце мы адны! Як хораша без іх, як цудоўна, што слабыя не мазоляць нам вачэй! Якія ж мы малайцы!

І зараз не было ўжо каму ў роспачы спытацца: «Госпадзі, людзі, што ж вы робіце?!» — і Мудрацоў, гэтак жа, як і слабых, не асталося ва ўсёй краіне: іх таксама каго выгналі, а каго зланцужылі і пасадзілі ў вязніцы.

Да абеду яны яшчэ радаваліся. А пасля — пачалі непакоіцца. Увечары ўжо зусім спалохаліся: есці, аказваецца, ніхто ім не прынёс, ніхто нічога не падаў на стол.

Ноч сяк-так перабылі, а раніцою пачалі бунтаваць:

— Чаму нам не нясуць есці? Як? Нас ніхто не будзе карміць? А дзе ж нашыя слабыя?

Пачалі шукаць, але гэтыя пошукі былі, зразумела, марныя — у краіне не асталося аніводнага слабога. Нават тым, хто грамчэй за ўсіх моцных крычаў: «Далоў!» і думаў, што гэтая лютасць абміне яго, не ўдалося ўратавацца — яны пайшлі ў катавальні адразу ж за сваімі суродзічамі.

І пацягнуліся, запылілі па ўсёй краіне натоўпы моцных — галодныя, яны шукалі слабых, каб тыя пакармілі іх. Сустракаліся на дарогах, пыталіся:

— Ты слабы?

— Не, я моцны.

— А ты?

— Я таксама моцны.

Падазрона, недаверліва прыглядаліся адзін да аднаго, незадаволена нешта бурчалі сабе пад нос і разыходзіліся ў розныя бакі — бач ты, усе моцнымі парабіліся...

Часам даходзіла нават да боек. Гэта было тады, калі моцным здавалася, што яны сустрэлі слабога, а той, ці чуеце, падманвае іх, не хоча, нягоднік, прызнавацца ў сваім ашуканстве.

Узніклі нават асацыяцыі, групы, камітэты па выяўленні і лоўлі слабых, але і яны нічога пэўнага не давалі і не маглі даць — слабых, як высветлілася, знішчылі начыста. Бушавалі яшчэ настойлівей, як да гэтага, мітынгі. Хвалявала адно панічнае пытанне: «Хто ж нас будзе карміць?»

Але адказу на яго ніхто з моцных не ведаў.

І тады на краіну напаў нейкі незразумелы, яшчэ страшнейшы, чым СНІД, паморак. Людзі, якія толькі што былі зусім здаровыя, як кажуць, кроў з малаком, на вачах пачыналі худнець, твары іх выцягваліся, завастраліся, бляднелі, праз нейкі час яны ўжо ледзь перастаўлялі ногі і неўзабаве падалі, каб ніколі не падняцца.

Моцныя паміралі на вуліцах і плошчах, у хатах і агародах, на палявых дарогах і ў гарадскім транспарце.

Мор гэты быў бязлітасны і неадольны, ён нікога не шкадаваў і нікому не пакідаў надзеі.

Людзі паміралі ў чэргах ля хлебных магазінаў, цярпліва чакаючы тыднямі, што нехта спячэ і прывязе ім хлеб. Паміралі ў сталоўках, чынна седзячы за столікамі, задумліва, і надзеяй пазіраючы ў той бок, адкуль звычайна з поўнымі падносамі выходзілі слабыя. Паміралі дома, падалі галовамі пад самыя дзверцы перапоўненых халадзільнікаў, дзе пачынала псавацца ўжо ежа, і здагадацца, як іх адчыніць, не маглі — халадзільнікі заўсёды адчынялі і падавалі ім на стол толькі слабыя, таму ў моцных ніякага такога інстынкту за ўвесь час не з'явілася. Паміралі ў градах, упаўшы галовамі на крамяныя, мулкія агуркі ці ў куст памідораў — раздушаныя спелыя таматы вымазвалі чырвоным сокам мёртвыя твары, і гэты сок, бы жывая кроў, сам сабою цёк па шчыльна сцятых вуснах — моцныя як усё роўна знарок не хацелі расціскаць ратоў, нібыта пакрыўджана грэбуючы ежаю.

Хлебапякарні былі забіты мукою, у магазінах псаваліся паўфабрыкаты, палі шумелі вялікімі даспелымі каласамі, у садах аж згіналіся галіны ад смакоўнага цяжару, грады радавалі вока шматкалёрнасцю ласункаў, але ў краіне ніхто не ведаў, як і што рабіць з усім гэтым багаццем: слабых, якія ўсё ведалі, ужо не было, а Мудрацы, што засталіся дзівам і маглі б сёе-тое падказаць, сядзелі па турмах. Праўда, нехта падаў быў нясмелую думку, што іх трэба вызваліць з цэляў, але яго абвінавацілі ў здрадзе і адразу ж пасадзілі ў турму да Мудрацоў — маўляў, сядзі і маўчы: як гэта мы, такія разумныя, будзем пытаць у некага парады?!

А самі моцныя ні да чаго іншага не змаглі дадумацца, як толькі сваю хваробу і смерць патлумачыць вялікім сусветным паморкам.

А паколькі паморак — трэба падпарадкавацца лёсу і волі ўсявышняга. Моцныя перасталі шукаць слабых, перасталі думаць пра ежу і цярпліва, пакорліва пачалі чакаць сваёй долі. І паміралі гэтак жа цярпліва і пакорліва, з ціхаю, памірліваю ўсмешкаю на твары. Паміралі сем'ямі — старыя і малыя, бацькі і дзеці, дзяды і ўнукі.

І неўзабаве ў краіне стала ціха-ціха: у ёй не асталося, здаецца, ніводнага чалавека... Не чуваць было нідзе ні жаночай песні, ні мужчынскага голасу, ні дзіцячага смеху.

І ўсё ж адна сям'я асталася!

Гэта былі слабыя, якія так умела і шчыра прыкінуліся моцнымі.

А менавіта яны — толькі яны адны! — і ведалі, як і дзе дастаецца ежа.

Так слабыя вярнулі на зямлю племя моцных, заснавалі іх новыя паселішчы — якія ж яны слабыя, калі перахітрылі моцных!

Мусіць, слабых людзей у прыродзе не бывае.

Слабы — гэта ўсяго толькі недарэчны псеўданім, здзеклівая мянушка чалавека.

А сапраўднае яго імя было, ёсць і павінна быць заўсёды толькі адно — моцны.

Гэта добра, што слабыя сталі моцнымі.

Але кепска, што яны адразу ж пачалі шукаць сабе слабых...

Каб ужо тыя кармілі і даглядалі іх.

«Госпадзі,людзі, што вы робіце?!» — маглі б ускрыкнуць Мудрацы, але ніводнага з іх на той час не асталося нават у турмах...

А без іх хто дапаможа разабрацца, што лепей: слабыя моцныя ці моцныя слабыя?



# ЗОНА

— Можа, вернемся?

— Смяешся ты, ці што? Столькі пакутавалі, столькі гора зазналі, а зараз вяртацца?

Усё лета ішлі яны, туляліся па лясах і балотах, абыходзілі паселішчы, вёскі і гарады, хаваліся ад лішняга, чужога вока, начавалі на лапніку ў наспех скіданых буданах, елі што траплялася, а то і галадалі ўвогуле, уцякалі ад тых, хто гнаўся за імі, а зараз, калі воля, як ім здавалася, была ўжо так блізка, адмовіцца ад усяго, паставіць крыж на спрадвечнай мары, вярнуцца назад і павініцца перад тымі, хто здзекаваўся з іх?

З зоны яны выходзілі невялікаю групкаю чалавек, можа, на дзесяць — гэта якраз тая самая зручная для ўцёкаў кампанія: яна і не вельмі вялікая, каб вытыркацца — з ёю можна незаўважна ісці па небяспечных дарогах і сцежках, але і дастатковая, каб, калі спатрэбіцца, з гонарам абараніцца.

Між усяго гурту годна вылучаліся двое — Ён і Яна. Ірвідуб і Ружа. Яны якраз і падбілі ўсіх астатніх на гэтыя ўцёкі, і зараз, разумеючы, што менавіта на іх ляжыць увесь клопат і адказнасць за падбухтораных і зведзеных немаведама куды людзей, былі ім і за павадыроў, і за абаронцаў. І змоўшчыкі давяралі заступнікам, слухаліся, што параяць, што скажуць яны, бо іхняя думка і іхняе слова былі тут апошнімі.

Вось і зараз уцекачы сядзелі і чакалі, як адгукнуцца Ірвідуб і Ружа на размову, што ўзнікла міжволі, сама па сабе.

Пачала жанчына:

— І праўда, мы столькі ішлі. Хаваліся і туляліся. Мёрзлі і галадалі. Недасыпалі і пакутавалі. І зараз вяртацца? Куды і навошта? Мне здаецца, што крыж свой мы павінны данесці да канца. Нам выпала разведаць дарогу. Можа, па ёй потым услед за намі пойдуць і іншыя смелякі з нашага даверлівага народа, які спрадвеку жыве ў абрыдлай і зненавіднай зоне. Не можа ж быць, каб адсюль не было выйсця. Яно ёсць, і яно толькі наперадзе...

Ірвідуб уважліва слухаў каханую. Радаваўся, што яна думае гэтак жа, як і ён сам. Але пасля, калі Ружа сціхла, доўга сядзеў

задумаўшыся, маўчаў. Калупаў прутком зямлю перад сабою і маўчаў. Затым устаў, выпрастаўся, спытаў:

— Можа, хто думае інакш?

— Не, Ружа праўду гаворыць.

— То і пойдзем тады наперад.

Яны былі ўжо босыя і амаль што голыя — адзенне ашмоццем звісала з іх, аднак бегляκі не маглі разжыцца на лепшае: сумленне не дазваляла ўкрасці ці адабраць у каго якую-небудзь лайніну, а заходзіць у вёскі, якія траплялiся па дарозе, уцекачы баяліся. Так і ступалі яны босымі, азызлымі нагамі ў мокрую, раскаўзаную восеньскую гразь, якая цвякчэла пад падэшвамі, а зверху ім таксама не было чым прыкрыцца ад надакучлівага, нуднага і ўжо зябкага дажджу.

Змоўцы атрасалі з валасоў дажджавыя кроплі, уцягвалі ў каўняры мокрыя галовы, пацепваліся, спрабавалі сагрэцца, і ўсё ж зацята, настойліва ішлі наперад — якія нягоды і пакуты могуць спыніць чалавека, калі наперадзе ў яго воля?!

Уцекачы ішлі і ўсю гэтую ноч — уночы яны смялелі і ўжо не так баяліся, як удзень, калі кожны іх мог высачыць і злавіць. Пад раніцу беглякі ўбачылі калючы дрот і ўзрадаваліся: зразумелі, што менавіта за ім — воля, пра якую яны столькі марылі і якой гэтак трызнілі.

Адразу ж у разведку пайшоў сам Ірвідуб. А вярнуўшыся, нічым не змог парадаваць і ўсцешыць спадарожнікаў: калючы дрот стаяў пад высокім напружаннем, а таму нават думаць пра тое, каб зрабіць у ім дзірку і вырвацца на волю менавіта тут, было недарэчна.

Прайшоўшы яшчэ крыху наперад уздоўж дроту, людзі ўбачылі ўдалечыні нейкае незразумелае збудаванне, падобнае ці то на лазню, ці то на пральню, ці то ўвогуле на камбінат бытавога абслугоўвання. Калючы дрот, які, звужаючыся, з двух бакоў усутыч падыходзіў да памяшкання, нібыта паказваў, што іншага выйсця адсюль няма, што той, хто хоча трапіць за дрот, на волю, абавязкова павінен прайсці праз гэты будынак.

Уцекачы сабраліся ў невялікім бярозавым гайку, зарослым густым падлескам, дзе добра было затуліцца ад чужога цікаўнага вока, пахаваліся за кустамі, пачалі да ўсяго прыглядацца, усё вывучаць, каб нарэшце вырашыць, што рабіць далей.

Над будынінаю ўзвышаўся высокі комін, з якога ішоў дым. Злева, далекавата, але яшчэ ў зоне, віднелася ладная, двароў на сто, вёска — шэрыя хаты, накрытыя саламянымі стрэхамі, пужліва туліліся адна да адной. Адтуль да пабудовы ішлі людзі. Яны неслі пад пахамі тазікі і венікі, а таму ўцекачы напачатку і рашылі, што гэта звычайная лазня. Але назад вярталіся не ўсе, што ўваходзілі туды, і гэта насцярожвала тых, хто назіраў,— дзе ж дзяваюцца астатнія?

І дзіва — ні ля калючага дроту, ні ля гмаху-лазні — нідзе не было відаць ніякай аховы, ніякіх узброеных людзей — ні міліцыі, ні ваенных. Такое здавалася незразумелым, неверагодным — мусіць, усе спадзяванні ўскладаліся на высокае напружанне,— бо гэты дрот і гэтая будыніна, канечне ж, стаяць на самай мяжы, яны раз'ядноў-

ваюць волю і няволю. Дык хіба могуць ахоўнікі не сачыць за няволь-нікамі і не абараняць ад іх волю?! Хіба могуць яны ўсіх, каму заманецца, так лёгка выпускаць з зоны?!

Доўга ўцекачы назіралі за будынкам, за людзьмі, якія ўваходзілі туды і выходзілі адтуль, але ніяк не маглі адважыцца пакінуць сваю схованку. Канечне, сярод гэтых мясцовых людзей ім, босым і абшарпаным, не ўдасца астацца незаўважанымі, але ж, думалася, людзі, стомленыя, задумлівыя і абыякавыя, не будуць асабліва цікавіцца, хто яны і адкуль.

Змоўцы не ведалі, як і што з імі будзе там, калі ўвойдуць у будыніну, але былі перакананы, што шлях на волю ляжыць толькі праз гэтыя дзверы, якія хочаш ці не хочаш, ■ ўсё роўна давядзецца адчыняць.

Адважыліся выйсці са схованкі толькі бліжэй да вечара, калі людзей на пляцы перад лазняю паменела. Выходзячы, рабілі выгляд, што яны тут свае, што нічога не баяцца, ішлі з гонарам, нягледзячы на босыя ногі і ашмоцце на плячах, але тутэйшыя людзі, да якіх яны далучаліся, глядзелі на незнаёмых, як на дзівакоў ці як на вар'ятаў. У іх вачах уцекачы чыталі здзіўленне, спалох, нават жах: туды яны ідуць самі, па сваёй ахвоце, без прымусу?!

Без ніякіх перашкод змоўцы дайшлі да дзвярэй будыніны.

Толькі цяпер яны ўбачылі маленечкую шыльдачку, прыбітую над уваходам, дзе зусім дробнымі літарамі было напісана: «Санапрацоўка. Санпрапускнік», а яшчэ ніжэй, але ўжо большымі літарамі — «Праверка на вашывасць» — гэта ўжо можна было прачытаць нават не напружваючы вачэй.

Мясцовыя жыхары адчынілі дзверы — самі яны не змаглі гэта зрабіць, бо ў дзвярах не было ніводнае ручкі — і ўцекачы нарэшце апынуліся ў самым чэраве прасторнай лазні. Тугая вільготная пара ўдарыла ў твар, стала цяжка дыхаць — тут было горача, як у пральні, і гэтак жа, як і там, глуха гулі нейкія машыны.

Перад сабою ўцекачы ўбачылі доўгі рад турнікетаў-круцёлак, вельмі падобных на тыя, што стаяць у магазінах самаабслугоўвання — каб людзі і заходзілі і выходзілі толькі па адным. Каля турнікетаў цямнелі нейкія нехлямяжыя машыны, перад якімі спыняліся ўсе. Тутэйшыя даходзілі да іх, здымалі свой абутак, устаўлялі босыя ногі ў дзіўную нішу, націскалі на кнопку, і машыны пакорліва абувалі ўсіх у тапачкі. І толькі тады людзі праходзілі далей,— без тапачак у чэрава лазні турнікеты не прапускалі: спыняліся і не круціліся.

Ружа першая адважылася падысці да машыны і ўсунула ў яе чырвоныя ад холаду ногі. Націснула на кнопку — і вось яна, ужо абутая, бяжыць да Ірвідуба, каб пахваліцца: маўляў, зірні, якія прыгожыя тапачкі выдалі мне!

— А давай я і табе вазьму,— падахвоцілася яна, і не паспеў Ірвідуб стрымаць каханую, як Ружа была ўжо зноў ля турнікетаў.

Зняла свае тапачкі, зноў уставіла ногі ў выемку, націснула на кнопку, але машына была абыякавая: ніякіх тапачак яна не выдавала — мусіць, запомніла, што гэтыя ногі свой абутак ужо атрымалі.

Тады Ружа хапатліва, спяшаючыся, пачала націскаць адразу на ўсе, якія толькі былі, кнопкі. Машына шуршэла, тарахцела, грукала, а потым здрыганулася ўсім корпусам, уздыхнула, як чалавек, і заціхла.

Ён убачыў, што трывожна пачалі ўжо мігаць шматлікія рознакаляровыя — сінія, чырвоныя, зялёныя — сігнальныя лямпачкі, і кінуўся да каханай. Падаўшы ёй, разгубленай, тапкі, дапамогшы іх надзець, Ірвідуб крыкнуў:

— Бяжы хутчэй!

І сілаю праштурхнуў яе праз турнікет, рукою пасабляючы таму круціцца.

У санпрапускніку пачынаўся нейкі шум, нейкая валтузня. Ён агледзеўся. Усе ўцекачы паспелі атрымаць тапачкі, прабеглі кантроль і ўжо спяшаліся да адзіных дзвярэй, якія святлелі на выхадзе. Да іх, усё шукаючы яго вачыма, далучылася і Ружа.

На гэтым баку заставаўся толькі адзін ён. Ірвідуб зацкавана азіраўся па баках, паспешліва шукаючы выйсця. Убачыў ля суседняга турнікета жанчыну з тазам, якая вярталася, мусіць, дадому, кінуўся да яе, ашчаперыў абедзвюма рукамі, адарваў ад цэментнай падлогі, падняў угору і пачаў трэсці, страсаючы з яе ног тапачкі. Упаў таз, закружыўся, нарабіў грукату і звону — на іх пачалі ўжо ўсе здзіўлена азірацца,— а ён усё трос і трос незнаёмку. Калі тапачкі нарэшце ўпалі, паставіў босую спалоханую жанчыну зноў на цэмент, спяшаючыся, уссунуў на свае ногі яе тапачкі і што ёсць сілы кінуўся праз турнікет.

Тапачкі былі мокрыя, усцілка — слізкая: відаць, усярэдзіну трапіла мыльная пена. Ногі соўгаліся сюд-тут, шлёпанцы ўвесь час з'язджалі — яны былі без заднікаў,— але ён усё ж, нязграбна сунучы іх па цэментнай падлозе, пракульгаў праз турнікет.

Адна палавіна дзвярэй на выхад была яшчэ расчынена — другую спешна зачынялі і зашчэплівалі на шпінгалеты,— і ён, ведаючы, што гэта ў яго апошняя магчымасць вырвацца, ледзь не збіўшы чалавека, які браўся і за другую палавіну, сігануў у праём.

Ззаду ўжо крычалі і свісталі, і яму здавалася, што за ім гоніцца цэлая гайня ахоўнікаў, якіх да гэтага нідзе не было відаць.

За дзвярыма ўсё яшчэ мітусіліся ўцекачы, не ведаючы, куды бегчы далей — перад імі ўзнікла высокая пабеленая вапнаю сцяна, па версе якой ішоў зноў жа калючы дрот. Дзвярэй, якіх усе шукалі, ніхто не мог знайсці. Ён і сам, колькі ні слізгаў вачыма па калючым дроце, па сцяне, таксама нідзе не заўважыў якога-небудзь выхаду.

Раптам Ірвідуб убачыў, што непадалёку ад яго з суцэльнай сцяны надарэчна вытыркалася нейкая дужка. Ён хутчэй за ўсё інстынктыўна пабег туды і рвануў яе на сябе. І, як ні дзіўна, тая лёгка паддалася, і за ёю, абломваючы штукатурку, што тут жа кавалкамі асыпалася пад ногі, адчыніліся нешырокія дзверы. Ён, спяшаючыся, пачаў штурхаць у гэтыя дзверы сваіх спадарожнікаў, з якімі ўсё лета трызніў пра волю. Апошняй Ірвідуб выпіхнуў з зоны Ружу і ўжо сам хацеў падацца за ёю, як адчуў, што яго нехта ўчэ-

піста схапіў за ашмоцце. Ён азірнуўся — перад ім стаяла тая самая жанчына з тазікам, у якой ён строс з ног тапкі.

— Ніколі б не падумала,— скрушліва загаварыла яна,— што вы так абыдзецеся са мною. Мяне ніхто ў жыцці не крыўдзіў, а вы так абняславілі. Вы ж ведаеце, што гэтым вы загубіце мяне: у нас жа той, у каго няма тапак,— ніхто і нішто.

Ён мог ірвануцца і знікнуць у праёме дзвярэй — няхай бы апошняе ашмоцце адзежы аставалася ў руках жанчыны,— але штосьці ўсё ж стрымлівала яго.

Зірнуўшы ўважлівей на незнаёмку, ён зразумеў, што жанчына была вельмі ж падобная на яго родную сястру.

— Паўліна? — здзіўлена спытаўся ён.

— Ніякая я вам не Паўліна,— зазлавала тутэйшая.

— Дык чаго тады вы ад мяне хочаце? — ужо раздражнёна спытаўся Ірвідуб.

— Адзінае, чым вы можаце зараз загладзіць сваю віну, дык гэта ўзяць мяне замуж, ажаніцца са мною.

Яму здавалася, што яна гаворыць доўга і нудна, гаворыць лухту, а непадалёку ўжо свісталі, крычалі ўсё галасней і прарэзлівей, думаць не было калі, таму ён, не зважаючы на недарэчнасць патрабавання, згадзіўся:

— Добра, пабеглі хутчэй! Там разбяромся! Скачыце туды!

І пацягнуў жанчыну да дзвярэй. Тая заўпарцілася, пачала ўпірацца.

— Туды? — здзівілася яна, і ў яе вачах ён убачыў самы сапраўдны жывёльны страх.

— Туды? — няўцямна перапытала яшчэ раз жанчына.

— Канечне, туды! Там жа воля! Чуеце, во-о-о-ля!

— Там воля? — Вочы ў жанчыны яшчэ болей акругліліся, сталі вялікія, як у хворай на базедаву хваробу, і яна, выхапіўшы з-пад яго ног свае тапкі, у жаху, быццам ад ненармальнага, кінулася наўцёкі.

Ён, спяшаючыся, не вельмі задумваючыся над паводзінамі жанчыны з тазам, пераскочыў на той бок сцяны і шчыльна зачыніў за сабою дзверы — з гэтага боку ў іх была ўжо ручка.

Тыя, хто нарэшце вырваўся з ненавіснай зоны, радаваліся, як дзеці. Яны абдымаліся, цалаваліся, кружыліся, смяяліся, нават спрабавалі танцаваць — былі шчаслівыя, што нарэшце апынуліся на волі.

Убачыўшы, што Ірвідуб ужо таксама тут — пераадолеў санпрапускнік — да яго кінулася Ружа, абняла каханага за шыю, пацалавала ў вусны і радасна закружылася разам з ім.

— Мы на волі, на волі, на волі! Чуеш, на волі! — і тут жа асеклася і ўжо іншым, трывожным і насцярожаным голасам спыталася: — Зірні, а чаму гэта вышкі не ў той бок, а на нас глядзяць?

Вышкі і праўда, ашчэрыўшыся аўтаматамі і кулямётамі, падазрона глядзелі на ўцекачоў.

Неўзабаве да іх падышлі ўзброеныя людзі.

— Адкуль вы? — спыталі яны.

— З зоны.

Тыя, што цікавіліся, аж папярхнуліся.

— Адкуль, адкуль? — перапыталі зноў.

— З няволі,— упэўнена адказаў Ірвідуб.

— А куды ідзяце, што, калі не сакрэт, шукаеце?

— Волю шукаем. І мы яе, нарэшце, знайшлі.

— Адставіць жарцікі! — скамандавалі ўзброеныя і паблажліва растлумачылі: — Воля якраз там, адкуль вы прыйшлі. А тут зона. Вітаем вас у зоне строгага рэжыму!

— Як гэта — зона? — параскрывалі раты ўцекачы.— Тут жа воля,— усё яшчэ, хоць і не вельмі пераканана, не згаджаліся яны.

— Спыніць разгаворчыкі! — узлаваліся людзі са зброяй.— Выдаць зняволеным бушлаты!

— А можна нам назад? — няўпэўнена ўсміхаючыся, спрабуючы выкарыстаць усю жаночую прывабнасць і чароўнасць, спыталася Ружа.— Мы заблудзіліся, мы не вінаватыя...

І паспрабавала наблізіцца да дзвярэй, праз якія яны, радасныя і шчаслівыя, толькі што прашчаміліся. Але людзі са зброяй заступілі ёй дарогу.

— Стаяць! Рукі за галаву! — строга і сурова загадалі яны і тут жа раўнадушна дадалі: — Адсюль ніхто не выходзіць. Бо невінаватыя да нас не трапляюць!



## ЧУЖАНІЦЫ

Горад быў узбуджаны, здзіўлены і занепакоены.

У ім з'явіліся дзве незразумелыя, таямнічыя асобы жаночага полу, якія вялі сябе вельмі падазрона — хоць выглядалі незнаёмкі гэтак жа, як і ўсе іншыя жанчыны, па іх паводзінах было відаць, што яны не тутэйшыя, а быццам бы прыляцелі з нейкай іншай планеты.

Упершыню іх убачылі на ўскраіне горада на бруднай, неўпарадкаванай вуліцы. Яны стаялі пасярод гразкай лужыны, з асалодаю, як можна глыбей засоўвалі ногі ў чорны, быццам дзёгаць, глей, напружваючыся, выцягвалі іх адтуль зноў, задаволена ўслухоўваліся ў гучнае чвяканне і, радасныя, у захапленні сачылі вачыма, як ад іхніх модных чаравічак кавалкамі адвальваецца і хлюпае ў ваду густая, цягучая гразь.

І дзіўна — яны былі шчаслівыя! Гэты непрыемны кожнаму нармальнаму чалавеку занятак быў для іх нейкаю забаваю, нават святам. Канечне, прыляцелі аднекуль, калі звычайны, зямны бруд ім за такую цацку!

Спачатку на іх ніхто не звяртаў асаблівай увагі — дзівачацца, то хай сабе трохі і падзівачацца,— а пасля, калі ўбачылі, як яны кідаюць адна ў адну граззю і весела рагочуць, людзі пачалі прыпыняцца: зірніце, чым займаюцца дарослыя жанчыны...

Каля іх ужо сабраўся цэлы натоўп, але незнаёмкі не заўважалі гэтага — як і раней, гулялі, быццам дзеці, з граззю. І толькі калі пачулі, што з іх пацяшаюцца, здзекуюцца, а некаторыя дужа актыўныя мужчыны падкасваюць ужо калашынне, каб лезці ў лужыну — злавіць іх і адвесці ў міліцыю,— жанчыны страпянуліся і нечакана для ўсіх, хто назіраў за імі, зніклі — нібы растварыліся ў паветры. Толькі што былі — і іх ужо нідзе не відаць...

Сам па сабе гэты горад быў задумлівы, маўклівы, панылы і раззлаваны. Змрочныя, абураныя людзі ў асноўным стаялі па чэргах — парожнія магазіны, пустыя паліцы, недахоп усяго, без чаго не абысціся кожны дзень, развялі гараджан па чэргах і расставілі іх адзін за адным: маўляў, дыхайце кожнаму, хто перад вамі, у патыліцу! Людзі днявалі і начавалі ў чэргах, грэбліва перасварваліся між сабою, а то і пускалі ў ход кулакі. І для поўнай радасці ім, здаецца,

якраз не хапала вось такой сенсацыі — каб яе да пасінення абмяркоўваць потым у чэргах.

Па горадзе папаўзлі чуткі, што гэтыя жанчыны — прыхадні з космасу, што ў іх тысячы вачэй, а яшчэ болей рук, што яны хапаюць спрытна ўсіх мужчын — асабліва тых, хто спрабуе іх лавіць — і невядома дзе іх дзяюць — ці то знішчаюць, ці то перасылаюць на сваю планету.

Казалі нават, што тых, хто збіраўся лезці да іх у лужыну, паралізавала.

Мужчыны пахаваліся па хатах, не выходзілі з дому, і на вуліцах горада засталіся толькі жанчыны — нават у вінна-гарэлачных чэргах стаялі адны яны.

Жанчыны і ўбачылі іх другі раз. На аўтобусным прыпынку, у чарзе.

Дзень быў змрочны, мокры, хмурны. Ішоў дождж са снегам, было холадна ў рукі і ў душу. Жанчыны ўхутваліся ў хусткі, клялі і чэргі, і само надвор'е, і жыццё.

А яны — шчаслівыя-шчаслівыя! — смяяліся. Захопленым позіркам, шырока адкрытымі вачыма глядзелі вакол сябе, паказвалі адна адной усё самае будзённае, звычайнае, што траплялася на вока — «Глядзі, глядзі!», «А во, а во!» — і бесклапотна смяяліся. Іх усё радавала, усё захапляла.

І тут нечакана гараджанкі ўбачылі, што незнаёмкі дужа маладыя — амаль дзяўчаткі. Яны шчыра радаваліся, як самаму вялікаму цуду, звычайнай траві́не і захапляліся нязграбнай панельнай каробкай, нібыта гэта быў сапраўдны палац.

Але не гэта насцярожыла тутэйшых жанчын.

Незнаёмкі, як і ўсе іншыя, станавіліся ў хвост чаргі, аднак, калі тая падыходзіла і трэба ўжо было садзіцца ў аўтобус, яны нечакана саступалі месца тым, хто стаяў за імі, а самі зноў беглі ў самы канец — займаць новую чаргу. І зноў, шчаслівыя, смяяліся і радаваліся дробязям,— нібыта стаяць у чарзе і было іхняю мараю і сэнсам жыцця.

Калі жанчыны зрабілі так некалькі разоў, тутэйшыя занепакоіліся — а ці не апынуліся яны якраз побач з тымі дзівамі, пра якія гаворыць увесь горад? Спачатку, думаючы, што прыблуды будуць, як і мужчын, хапаць жанчын, усе ў жаху разбегліся, пакінуўшы на прыпынку толькі іх дзвюх. А потым, апамятаўшыся, асмялеўшы, кінуліся да чужаніц, з усіх бакоў атачылі іх — успомнілі, што незнаёмак трэба злавіць. Аднак як толькі жанчыны працягнулі да дзяўчат рукі, тыя зноў жа, нібы і перад гэтым у лужыне, бясследна зніклі, растварыліся ў паветры, а ўся чарга, здзіўленая і напалоханая яшчэ болей, стаяла і адно ва ўсе вочы няўцямна глядзела на тое месца, дзе толькі што смяяліся прыхадні.

Трэці раз іх таксама пазналі ў чарзе: незразумела, чаго ім так падабаліся чэргі?

У краме нічога не было, але чарга цярпліва і настойліва чагосьці чакала.

Увечары яны стаялі — таксама ў чарзе! — каля бруднай, разбітай вітрыны — нехта папусціў у яе каменем, і ад дзіркі, быццам промні ад сонца, ва ўсе бакі разыходзіліся зараз расколіны — стаялі ля вітрыны парожняга бакалейнага магазіна і аж паміралі ад шчасця. Паказвалі пальцамі на шыльду «Бакалея», дзе літара «Б» чамусьці не свяцілася, знявечыўшы зусім і само па сабе не вельмі прыгожае слова — «акалея».

Нават пабітае шкло і сапсаваная шыльда былі ім на радасць — у неонавым святле твары дзяўчатак гарэлі, вочы блішчалі, галасы аж перарываліся ад шчасця. І, канечне ж, сярод змрочных, сумных, абыякавых твараў гараджан зусім не цяжка было пазнаць чужаніц.

Злавілі іх зноў жа ў чарзе. Магазін быў зачынены, але каля дзвярэй стаяла вялікая-вялікая чарга — чаго чакалі, ніхто, канечне, не ведаў, аднак на нешта спадзяваліся ўсе, цярпліва, моўчкі пераносячы і холад, і восеньскую слату. Дзяўчаткі сталі ў самы хвост чаргі і пачалі, як і да гэтага, захапляцца ўсім, што бачылі перад сабою. Жанчыны спачатку цярпелі, сарамацілі іх — радасць і смех у гэтым змрочным горадзе была такой жа самай недарэчнасцю, як, скажам, і песні,— але дзяўчаткі, нібыта яны нічога не чулі, усё сакаталі і смяяліся. Гэта чаргу насцярожвала яшчэ болей, але яна як усё роўна чагосьці зацята чакала. Усё пачалося, калі да дзяўчатак падышлі новыя людзі.

— Вы апошнія? — спыталіся яны.

— Мы апошнія,— рагочучы, адказалі дзяўчаткі.

— А што даюць?

— Нічога.

— А што будуць даваць?

— Не ведаем.

— Дык чаго ж вы тады стаіцё тут?

— А проста так. Нам гэта прыемна,— шчыра адказвалі дзяўчаты і радасна смяяліся.

Тады чарга зразумела: чужаніцы! Іх за рукі і ногі, за сукенкі і за валасы схапілі адразу некалькі чалавек, ды так неспадзеўкі і моцна, што дзяўчаткі не паспелі і не змаглі растаць у паветры, як да гэтага.

— Ага, мы злавілі вас! Вы — іншапланяцянкі! — закрычалі на чужаніц з усіх бакоў.

— Не, мы звычайныя зямныя людзі,— дзяўчаты перасталі раптам смяяцца, зажурыліся — ой, якімі падобнымі сталі яны на ўсіх! — і здзіўлена пазіралі зараз на жанчын, што цесным колам, як абручом, сціснулі іх.— Мы такія ж, як і вы.

— Гэта зараз вы такія, як і мы. А чаго перад гэтым рагаталі? Вы што, не ведаеце, што ў нас не смяюцца? А чаго вы смяяліся?

— Бо нам смешна было!

— А чаго радаваліся?

— Бо радасна нам!

— А чаму вы такія шчаслівыя?

— Бо свята ў нас!

— Свя-тэ? — разгублена, насцярожана перапыталі ў дзяўчат, нібыта тыя вось толькі што сказалі нейкую жахлівую недарэчнасць, нават крамолу — людзі ведалі, што свят у іхнім горадзе не бывае ўжо дужа даўно, што на кожнага, хто нават усяго толькі сціпла ўсміхаецца, у іх глядзяць, як на самага апошняга дурня, а тут, ці бачылі вы, знайшліся прыблуды, якія нешта святкуюць.

— Якое свята? — настойліва дапытвалася ў іх чарга.

— Свята волі,— не задумваючыся, адказалі дзяўчаткі.

— Прышэльцы! Прышэльцы! У вогнішча іх! Бачыце, нават свята сабе нейкае выдумалі!

— Супакойцеся. Яно ж і ваша, гэтае свята. Проста вы, увесь час ходзячы з пахмурнымі тварамі, яго не заўважаеце і нават не падазраеце, што цешыцеся ім кожны дзень. А хіба вось так вольна, без прымусу хадзіць, як вы звычайна ходзіце, не баючыся, што нехта вам крыкне: «Назад! Нельга!» — не свята?! А хіба стаяць, дзе хочаш, рабіць, што хочаш, глядзець, куды хочаш і на што хочаш, і не чуць жахлівага, балючага, як нагайка: «Назад! Нельга!» — не свята?! Вольна дыхаць, вольна блукаць, вольна смяяцца, ні ў кога не выпрошваючы на гэта дазволу,— і гэта, вы лічыце, не свята?! Дык чаму ж вы не святкуеце, а ходзіце сумныя, змрочныя, незадаволеныя, злосныя? Святкуйце!

І дзяўчаты зноў, хоць іх і трымала столькі рук, увачавідкі растварыліся ў паветры — ніводнага каснічка ад сукенкі ці спаднічкі не асталося ў чэпкіх руках жанчын.

Канечне, ніякія яны не прышэльцы, гэтыя дзяўчаты.

Яны, адсядзеўшы свой тэрмін, выйшлі нарэшце з турмы і не маглі першыя дні нагледзецца на свет, нацешыцца воляю і нарадавацца жыццю без прымусу.

Дзяўчаткі проста паміралі ад свабоды!

І, відаць, таму не бачылі небяспекі, якую хавае ў сабе, здавалася б, звычайная чарга.

Мусіць, толькі турма можа нават чаргу зрабіць радаснаю, прывабнаю і жаданаю.

Але ж кожная чарга — ужо сама па сабе і ёсць турма.

Дзяўчаткі яшчэ не зразумелі, чаго іх так цягнула ў чаргу,— і, выйшаўшы на волю, яны засталіся ў турме: чарга, гэтак жа, як і турма, стварала ілюзію нейкага абавязку, нейкай уяўнай працы.

І іх, як таго папугая міжволі цягне ў клетку, цягнула ў чаргу — палятаеш, палятаеш, ды зноў за жалезныя пруты.

Безабароннаму так здаецца спакайней і надзейней...



# НЕШТА

У некаторым царстве, у некаторым гаспадарстве, а менавіта якраз у тым, у якім мы з вамі жывём ці, справядлівей будзе сказаць, ледзь мадзеем, жыў ды быў сабе чалавек, які вельмі хацеў набыць сабачку. А купіў чамусьці машыну. Ездзіць ён на гэтай машыне, а сам усё пра сабачку думае.

І вось аднаго разу азірнуўся ён неяк назад і бачыць: бяжыць услед за ім сабачка. Ну, можа, не зусім сабачка — кудлаценькае такое сабачанё. Машына едзе, і сабачанё бяжыць. Ушчыпнуў ён сябе за вуха, каб пераканацца, што не спіць, што гэта яму не здаецца, і бачыць, што не, не мірсціцца: і вуху балюча, і сабачка бяжыць.

Праўда, сабачка той не такі ўжо і выразны — калмаценькі нейкі, рэдзенькі: ці то гэта дым ад машыны клубіцца, ці, можа, пыл які завіваецца, але ж, як кажуць, даранаму каню ў зубы не глядзяць: які ёсць, такі і ёсць, калі бяжыць услед, то хай сабе і бяжыць.

Дужа падружыўся чалавек з гэтым сабачкам. Куды ні збіраецца, сядзе за руль, свісне яму і заводзіць машыну. І ён ужо тут як тут, ужо круціцца каля выхлапной трубы, ужо бяжыць, нюхаючы, услед за вароты. Ды так ужо блізенька бяжыць, нібыта баіцца, каб не адстаць, каб не згубіцца дзе-небудзь у незнаёмым месцы, на незнаёмай дарозе. Бывае, калі чалавек нечакана затармозіць, сабачка аж на капот багажніка ўзаб'ецца. Стукнецца аб бампер, заякоча, адскочыцца троху і зноў ужо бяжыць каля самага кола.

Вярнейшага сябра чалавеку і не трэба было шукаць. І больш надзейнага вартаўніка — таксама. Прыедзе ён у лес, паставіць машыну дзе ў хмызняку ці на палянцы, і сам пайшоў. Не баіцца, што яе нехта ўкрадзе — каля машыны ж застаецца такая абарона: сабачка хоць на выгляд і маленькі, несамавіты, але да машыны, ён верыў, нікога не падпусціць.

Куды толькі чалавек не ездзіў, і за ім заўсёды бег гэты неспадзяваны сябра і таварыш.

Але, як кажуць, усяму свой час.

Неяк чалавек азірнуўся і аж разгубіўся ад нечаканасці: ягоны сабачка бег не за ім, а даганяў чужую машыну. Тая звярнула з шашы на палявую дарогу, што праставала да недалёкага лесу, і сабача-

нё настойліва бегла за ёю: ці то яно абазналася машынаю і паблытала гаспадара з чалавекам, які сядзеў за чужым рулём, ці то, можа, рабіла гэта свядома.

Чалавек з'ехаў на ўзбочыну, спыніўся там, доўгі час сігналіў, а вылезшы з машыны, свістаў і спрабаваў клікаць сабачку, злуючыся на самога сябе, што да гэтага часу яшчэ не даў яму імя — вось і кліч цяпер, як хочаш! Сабачка ж не звяртаў аніякай увагі на яго намаганні, бег, нюхаючы, перабягаючы ад кола да кола за незнаёмым грузавіком.

Чалавеку здавалася, што сабачка ніколі не вернецца, але ён усё ж стаяў і цярпліва чакаў яго.

Сабачкі доўга не было. Аднак чалавек яго ўсё ж дачакаўся. Ён вярнуўся з нейкаю старою, дапатопнаю, разламанаю трохтонкаю, што, грукочучы бочкамі, праз нейкі час уз'ехала на шашэйку.

Вінячыся, падбег да гаспадара, не паднімаючы вачэй ад зямлі, круціўся ля яго ног — нібыта прасіў за нешта прабачэння. І чалавек, пажурыўшы крыху свайго сябра, так і не зразумеўшы, за што той вініўся, зноў сеў у машыну і паехаў,— яму здалося, што сабачка проста заблудзіўся, пераблытаў пахі і колеры і, як за сваёй, пабег за чужою машынаю.

Але пасля гэтага Жыгун — так чалавек зваў зараз сабачку — пачаў знікаць усё часцей і часцей. Едзеш, азірнешся, а яго ўжо і няма. Толькі што кудлаціўся за коламі, і ўжо знік, нідзе не відно. Здаралася, сабачкі не было па цэлым тыдні, а пасля ён з'яўляўся — стомлены, худы, нейкі ўвесь абшарпаны, абадраны, але па вачах было відаць — шчаслівы.

Аднойчы вясною, калі чалавек ездзіў у лес пускаць бярозавік і ўжо вяртаўся дадому, сабачка, які перад гэтым доўга адсутнічаў, дагнаў яго недзе на паўдарозе.

На гэты раз ён быў не адзін.

Гаспадар спачатку падумаў, што такое яму, як і даўней, пры першай сустрэчы, усяго толькі здаецца, але што ён ні рабіў, відзежа не праходзіла: за машынаю беглі двое сабачак — кожны ля свайго кола. Яны часам сутыкаліся, дакраналіся бакамі, мысамі, і было відаць, што такое дакрананне ім даспадобы, і робяць гэта сабачкі ці не знарок,— адбягаюцца адно ад аднаго, каб неўзабаве сустрэцца зноў.

Зараз ужо сабачка пачаў знікаць яшчэ часцей, і гаспадар амаль зусім не бачыў яго. Часам яны — зноў жа ўдваіх з сучачкай — даганялі яго машыну і, прабегшы колькі кіламетраў, патаўхаўшыся за яго багажнікам, незаўважна знікалі.

Ішоў час. Гаспадар сумаваў па свайму сябру, да якога ўжо так прывык, выходзіў на двор удзень і ўночы, свістаў, клікаў, але толькі вецер часцей за ўсё адказваў яму.

Сабачка на падворышчы з'яўляўся ўсё радзей і радзей, а пасля і знік назаўсёды.

Гаспадар чакаў, журыўся, аднак не злаваўся і не дакараў Жыгуна. Ён ведаў, што ў некаторым царстве, у некаторым гаспадарстве

зараз была самая вясна і што сабачка ў гэты час якраз шукаў сабе пару і хутчэй за ўсё знайшоў яе.

Што ж паробіш, калі прырода мацней самай моцнай дружбы, а нешта сваё, хай яно і з нейкага там няпэўнага дыму ці пылу, даражэй, бліжэй за чужое, хоць яно і з рэальнай, надзейнай плоці і думак.

Жыццё патрабавала свайго, і сабачка да чалавека не вярнуўся...

Затое засталася ў яго машына.



# ЗАМІРА

Ранішні пляж быў яшчэ пустынны.

Толькі адна якаясьці незнаёмая яму жанчына ў ярка-чырвоным халаце — мусіць, нядаўна прыехала — далёка, амаль пад самым пірсам, карміла бяздомных сабак — яны вялікаю гайнёю, таўхаючыся, шчэмячыся і скавычучы, кружыліся вакол яе. З другога боку пляжа, каля другога пірса — пляж якраз і знаходзіцца паміж гэтымі пірсамі — нерухома стаяла амаль незаўважная сярод камянёў адзінокая чайка: чайкі звычайна прылятаслі сюды пад вечар, чародамі, а гэтая наведалася раніцою і была адна. Цішуку дапамог заўважыць яе чорны і з выгляду рахманы малады сабачка, які невядома чаму адлучыўся ад гайні, абыякава бег па беразе каля самай вады, робячы выгляд, што яго тут нічога не цікавіць, а потым, калі чайка была ўжо зусім блізка, стрымгалоў кінуўся на яе. Тая не спалохалася яго, спакойна паднялася, праляцела над шчанюком і неўзабаве ўжо нізка кружылася пры беразе над самаю вадою, а сабака, відаць, у надзеі ўсё ж злавіць яе, кінуўся ў мора, нарабіў пырскаў і, атрасаючы мокрую пысу, мітусіўся па мелкаводдзі, спрабаваў дастаць да птушкі, не разумеючы, што яна ўсяго толькі дражніцца з ім.

Мора было зусім спакойнае.

Нават не цікавячыся, які сцяг развяваецца над пірсам — белы ці чорны,— было відавочна, што шторму няма і не прадбачыцца, што купацца сёння можна будзе не толькі ля берага.

На Каўказе ён адпачываў упершыню, і таму напачатку, як толькі прыехаў, яго здзівіла, што на флагштоку пад моцным ветрам трапечацца, ледзь не адрываючыся ад дрэўца, чорны сцяг. Тады ён яшчэ не ведаў, што сцяг папярэджвае пра шторм, і падумаў пра нейкую жалобу, здагадваючыся, прыдумваючы, што на тым месцы нехта, мусіць, утапіўся.

Зараз над пірсам вісеў, ледзь варушачыся пад леным ветрам, абвялы белы сцяг.

З-за гор ужо ўзышло сонца, а наперадзе, над бяскрайнім удалечыні морам, усё яшчэ вісела выразная, хоць ужо збляклая і паліняая, круглая, як кола, поўня.

Было яшчэ рана, паветра пакуль не нагрэлася, галька, настылая за ноч, студзіла босыя ногі, а ад мора, калі ён падышоў бліжэй,

дыхнула такою парнаю цеплынёю, што яму адразу ж захацелася ў ваду.

Заходзячы ў мора, Цішук убачыў, што разам з ім заходзіць і нейкая дзіўная святлівая яскаўка — сонца было ззаду, і, як усё роўна адламаная ад яго, паперадзе чалавека па самым дне, па плыткой хвалі бегла сонечная плямка. Праламіўшыся праз тоўшчу патрывожанай вады, яна трымцела і мітусілася, а таму здавалася прывіднай.

Ён плыў і бачыў, як перад ім, нібы вабячы і спакушаючы яго, мігцела, цвелілася яскаўка. На глыбокім, калі ўжо не відаць стала дна, калі здалося, што зямля правалілася, а ўнізе, пад ім, чарнела непраніклівая прорва, плямка нібыта адклеілася, адшалушылася ада дна, паплыла хутчэй, перагнала яго і пачала падымацца на паверхню. Неўзабаве наперадзе нешта булькнула, як усё роўна там вынырнула з глыбіні рыбіна, і ён убачыў Яе.

— Дзіла швідобіса! — павіталася яна і памахала яму рукою.— Добрае раніцы!

Гэта была Заміра. Яна заўсёды з'яўлялася вось так нечакана.

Зашуміць вецер, зашамаціць, кінецца на кусты, а адтуль ужо вернецца Заміраю.

— Ме ака вар! — усміхнецца яна.— Я тут!

Заварушыцца сонечная плямка, замітусіцца, завібрыруе, а толькі адвернешся — з таго боку ўжо чуваць:

— Міквархар!

Яна прыходзіла то рыбаю, то птушкаю, то дрэвам.

Сёння Заміра ўзнікла яскаўкай.

Цішук кінуўся даганяць яе, але чым хутчэй плыў, тым далела яна — паспрабуй дагані рыбіну! На шырокіх пакатых хвалях — нават не адчуваеш, што гэта хвалі: дыхае, гайдаецца мора, ды і ўсё — была відаць толькі адна яе галава, таму здавалася, што там, далёка, плыве ўжо не рыбіна, а сядзіць на вадзе чайка.

Заміра засмяялася і зноў памахала яму рукою.

— Міквархар! — гукнула яна адтуль і з радасцю паўтарыла тое ж самае, як ён і вучыў яе, па-беларуску: — Кахаю!

Яна была ў захапленні ад гэтага беларускага слова і заўсёды вымаўляла не саромеючыся, ведаючы, што яго тут ніхто не зразумее.

Да Цішука Заміра вярнулася сама і неўзабаве плыла ўжо побач з ім.

— Глядзі,— прамовіла яна і, прыгожа склаўшы вусны, ласкава падзьмула на ваду.

І на вадзе, якая, нягледзячы на тое, што мора дыхала, была спакойнаю-спакойнаю, з'явілася мноства пацерак — яны не танулі і не лопаліся, стаялі на паверхні, як на нечым цвёрдым, і промні, пераліваючыся, зіхацелі ў іх.

Лёгенька падзьмуў на ваду і ён, і перад ім таксама наўскоквала безліч бісерынак, якія раскаціліся ў розныя бакі і застылі, супакоіліся на паверхні.

Так і плылі яны ў адкрытае мора, гонячы перад сабою, нібы які статак дзіўных незямных істот, чародку цікаўных, засцярожлівых пацерак. Адны ўсё ж лопаліся ад іхняга руху, другіх яны падміналі пад сябе, але на іх месцы з'яўляліся новыя — нараджэнне пацерак забаўляла, і закаханыя з апантанасцю ўсё дзьмулі і дзьмулі на ваду.

На беразе, недзе ў падгор'ях ці, можа, і ў саміх гарах, пачуліся глухія, як плескачы, стрэлы.

— Страляюць? — здзівіўся ён.

— Не бойся, гэта не па нас. Гэта нашы людзі рупяцца, каб тым, хто вось зараз купаецца, было чым паснедаць.

— Проста, мусіць, палююць у горных лясах,— не згадзіўся ён з дзяўчынаю, але яна чамусьці не запярэчыла яму.

Не заўважылі, як адплыліся далёка ў мора. Бераг быў ледзь відаць, і таму ён, сцепануўшыся, сказаў:

— Заміра, вяртаемся!

І сам нырнуў, перавярнуўся пад вадою і паплыў назад.

Заміра ж уся яшчэ жыла морам, рухам, насалодаю. Ён убачыў, што ёй не спадабалася яго прапанова, яна праплыла яшчэ крыху наперад, а затым нехаця, паволі, вялікім кругам, пачала разварочвацца, каб плысці ўслед за ім.

На пірсе ўжо лябёдкаю спускалі белы катамаран, ужо раздзіраў спакойнае мора новенькі чырвоны катэр, а за ім, увесь у вадзяных пырсках, імчаў на водных лыжах загарэлы спартсмен.

Да берага Заміра не даплыла. Ён і сам не ведае, як і калі яна знікла: толькі што была побач, а ўжо нікога нідзе не відаць. Адно тая ж плямка святла, тая ж яскаўка правяла яго аж да самага краю вады.

Сама ж на бераг, зразумела, не выйшла.

Заміра заўсёды не толькі з'яўлялася, але і знікала нечакана.

Той дзень блакітныя медузы — ці то яны і напраўду былі блакітныя, ці то здаваліся такімі ад марской вады,— па нейкіх сваіх прыкметах адчуўшы набліжэнне шторму, сплыліся да самага берага. Праз іх ніяк нельга было прабіцца на чыстую ваду — вялікія і лабастыя, з сінімі крыжамі на макаўцы і гэткімі ж сінімі аблямоўкамі, яны, нібы марскія міны, прыліпалі да цела і, уджаліўшы чымсьці — чым і як яму было незразумела,— паволі, не спяшаючыся, пукатымі лбамі наперад ішлі ў глыбіню, ды так спакойна і абыякава, што здавалася, зусім не варушацца махры іхніх мантый.

Калі рука трапляла нечакана па медузе спераду, уражваў халодны, непрыемна гладкі, нібы цэлулоідны, лоб, здзіўляла мускулістая і пругкая маса, якая звычайна, у меншых асобін, бывае студзяністаю. Калі ж пальцы натыкаліся на няроўныя, карабацістыя, слізкія шчупальцы, рабілася вельмі агідна, і ён таропка, як ад нечага брыдкага, хутчэй адымаў руку.

Медузы былі падобныя на званы ці на парасоны, яму ж усе яны чамусьці нагадвалі атамны выбух.

Таму Цішуку недарэчна здавалася, што яны ў нечым вельмі вінаватыя. А калі адна з іх нахабна чыркнула яму па барадзе і,

апёкшы, ужо збіралася ўцякаць у глыбіню, ён, як калісьці ў дзяцінстве па носе сябрам, даў ёй пстрычку ў самы крыж. І дзіва дзіўнае — яе нібы паралізавала. Яна аслабла, расплылася, паднялася амаль на паверхню і ляжала зараз без аніводнага руху — як нежывая. А каля яго раптоўна з'явілася вельмі многа медуз — ці то яна паспела даць ім нейкі кліч, каб выручылі альбо хоць адпомсцілі за яе, ці то яны сплыліся сюды выпадкова. Медузы прыліпалі да цела і балюча джалілі — скура аж саднела ад апёкаў. Яны, здавалася, прыўзнімаюць яго з вады, нібы выштурхоўваючы на паверхню.

І тады з'явілася Яна.

— Навошта ж ты іх крыўдзіш? — яшчэ здалёку незадаволена спыталася дзяўчына.

Заміра плыла ў яго бок, і медузы быццам расступаліся перад ёю. Падплыла да пакрыўджанай — медуза, нібы мёртвая, усё яшчэ ляжала на паверхні,— дакранулася да яе рукою, і тая, як бы прачнуўшыся, паволі пачала сыходзіць на глыбіню.

Заміра і для яго расчысціла праход — на бераг ён плыў за ёю, па чыстай вадзе.

Выйшаўшы з мора, Цішук тут жа лёг на мокрае каменне. Адчуваў слабасць і дужа вялікую стому. Усё цела балела, саднела — як усё роўна нехта без шкадавання нахвастаў яго крапівою. Заміра сядзела побач і моўчкі вадзіла пальчыкамі па чырвоных плямах, якія асталіся ад апёкаў — здавалася, што на іх месцы вось-вось ускочаць пухіры. Ён таксама ляжаў ціха, задумаўшыся, а затым, як успомніўшы што, спытаўся:

— Заміра, а крапіва ў вас ёсць?

— Вядома, ёсць!

— Пойдзем пашукаем.

— Навошта табе крапіва? Хочаш, лепей лаўравішню пакажу? Алеандры, магнолію?

— Пакажы мне крапіву.

— Тады хадзем,— Заміра ўзяла яго за руку, ён лёгка падняўся на ногі і пайшоў за ёю, пругкай і вытачанай, як рыбіна,— нават дзіўна было, што яна чамусьці не ў вадзе, а крочыць поплеч з ім па пяску.

Дзяўчына павяла яго на тую алейку за бамбуковымі зараснікамі, па якой ён колькі разоў на дзень хадзіў на пляж і вяртаўся адтуль назад у санаторый.

Там, між кустоў вузкалістай пампаснай травы і дзіўных кактусаў, якія, нібы скавароднікі, ляпіліся адзін на адным, пад самшытавымі дрэвамі з маленькімі, як у чарнічніку, лісточкамі і пад шыракалістымі, нібы павыразанымі, кронамі інжыра шукалі яны крапіву і не знаходзілі.

А Заміра сцвярджала:

— Яна ёсць.

Супакойвала:

— Знойдзем.

Нарэшце знайшлі нейкую траву, падобную на крапіву, але гэта была не жыгучка — на лісці яны не ўбачылі натапыранага пуху, тых валаскоў, якія якраз і стрыкаюцца.

— Зірні лепей сюды,— гледзячы ўгору, паказала яна.

Ён таксама падняў вочы і адразу ж над несапраўднаю крапівою ўбачыў маленькае дрэўца. Гэта была магнолія. Яе ўпрыгожвала вялікая белая кветка, і ён нават сам сабе падумаў: глядзі ты, такая малеча, а ўжо цвіце, і потым зразумеў, што гэта чужая кветка — павітуха абвілася вакол магноліі і зацвіла якраз пасярод бліскучых, нібы памасленых кім, лістоў.

— А дзе крапіва? — з настойлівасцю вар'ята пытаўся ён.

— Будзем шукаць.

Каля нейкага невялічкага дрэўца з цёмна-зялёным лісцём яны натрапілі на дзялянку святаянніку, і ён узрадаваўся траве — яна ж расце і на яго лузе! Але Заміра, нібы знарок адцягваючы яго ўвагу, паказала:

— А гэта цытрус. Ты ніколі не бачыў, як растуць мандарынкі?

Ён, змусіўшы сябе, пільна ўгледзеўся на невысокае, быццам куст, дрэўца, па цёмна-зялёным лісці якога толькі што слізгануў позіркам, убачыў на ім яшчэ больш цёмныя плады, памацаў іх — цвёрдыя-цвёрдыя! — управіўся нават падумаць: «Калі толькі яны паспеюць?» і, крыху памаўчаўшы, усё ж зацята спытаўся:

— А дзе крапіва?

Заміра насцярожана зірнула на яго, сцепанулася і ці то спыталася, ці то, наадварот, адказала сама:

— Цішук, ты засумаваў па доме.

І знікла — нібы растварылася ў зарасніках калючых жавін.

А ён стаяў і доўга безуважна, няўцямна глядзеў на чыстыя, як сляза, кропелькі расы, якія сабраліся на вострых кончыках бамбуковага лісця, і быццам бы не бачыў іх.

Яе доўга не было. Ён ужо сумаваў без дзяўчыны і кожны дзень чакаў, што яна з'явіцца.

Але Заміра не вярталася — яму ўжо здавалася, што ён страціў яе назаўсёды: Цішук не ведаў ні яе прозвішча, ні дзе яна жыве, а таму шукаць дзяўчыну было тунна і безнадзейна.

Ён зноў жа сустрэў яе нечакана — калі ішоў уночы купацца.

Начныя купанні Цішук любіў, і як толькі надаралася цёплая ноч, не раздумваючы, ішоў на мора. Хадзіў адзін і нікога не баяўся. А тут выйшаў з бамбуковых заraснікаў і аслупянеў: на беразе моўчкі, не варушачыся, стаяла шмат людзей. Хто яны і чаму, сцішыўшыся, стаяць? Куды глядзяць, каго чакаюць? Нейкі час ён і сам баязліва прыглядаўся, а тады рашуча пайшоў да людзей — не заб'юць жа яны яго, не з'ядуць... Калі падышоў бліжэй, зразумеў, што гэта не людзі, і ледзь не рассмяяўся — нейкі жартаўнік наставіў стаўма абгладжаныя морам ствалы дрэў, што, выкінутыя папярэднім штормам, ляжалі на беразе...

Яму здалося — за адным з гэтых дрэў нешта мільганулася. Цішук не сумняваўся, хто там мог быць.

— Заміра! — ціха, ласкава паклікаў ён.— Дзе ты?

— Ака вар! — адказала яна і неўзабаве напраўду выйшла да яго, кінулася ў нецярпліва разведзеныя рукі...

Потым яны купаліся — адны на ўсё мора.

Вада здавалася зусім чорнаю, і таму дзіўна было бачыць, як у гэтай вадзе мітусяцца мірыяды яркіх іскрынак. Адны ўвачавідкі знікалі, другія тут жа нараджаліся, усе яны раіліся, кружыліся, мільгацелі, і яму мроілася, што гэта вялікая папуляцыя жывых светлякоў святкуе нейкае сваё свята. Мітуслівыя агеньчыкі аставаліся на руках нават тады, калі іх вымалі з вады,— глядзець, як сцякалі яны пасля разам з кроплямі, было вельмі цікава і нязвычна.

Усё яе цела было ў гэтых зваблівых іскрынках. Ён спрабаваў лавіць іх, пяшчотна здымаць з яе вуснаў, атрасаць светлякоў з плячэй. І хоць гэты занятак быў, канечне ж, смешнаваты і марны, яму было прыемна дакранацца да яе цела, і ён зацята маліў бога, каб чароўная ноч доўжылася ўвесь час.

За два тыдні адпачынку на поўдні амаль усе яго мазалі размякчыліся ў марской вадзе, злезлі, змыліся, і ён зараз адчуваў, як яму насалодна гладзіць далікатнымі далонямі яе пругкае, гарачае і ў вадзе цела. Адчуваў, што і ёй гэта прыемна — яна замаўкала, сцішана слухала яго рукі і ўздрыгвала адно тады, калі мазалі, тыя, што асталіся, усё ж чапалі, драпалі яе цела, але яму здавалася, што дрыжыць яна не толькі ад гэтага.

Ён зусім не памятае, дзе яны потым дзеліся.

Здаецца, яна поўнасцю ўвайшла ў яго, а ён — у яе.

Ачуўся Цішук на беразе. Па ім усё яшчэ мітусіліся іскаркі, і ён доўга не мог уцяміць, што гэта такое. І толькі потым разабраўся, калі ўбачыў, як шчыруе над морам поўня,— то ж яе святло іграе ў кроплях марской вады, што засталіся на целе.

Потым Заміра знoў знікла.

Ён купаўся, загараў і ўсё чакаў яе.

Нашэсце медуз пацвердзіла прыкмету — яны і сапраўды прывялі за сабою шторм. Праўда, невялікі, але ўсё ж мора тры дні бушавала.

У шторм і ён далёка не заплываў, і яна не прыходзіла.

А калі стыхія супакоілася, Цішук адчуў, як усе папярэднія дні яму не ставала волі, прасторы, сапраўднага руху, і ён адразу паплыў вітацца з маяком. Гэтую прагулянку ён любіў: заплываў далёка, кіламетры за тры, у мора, аж пакуль з-за мыса, з-за стромаў не паказваўся маяк, казаў яму «Добрай раніцы!» і, палюбаваўшыся, як той, нібы адказваючы яму, плюскае і ў раніцу светлавым вокам, вяртаўся назад. І на гэты раз, павітаўшыся з маяком, Цішук ужо збіраўся паварочваць да берага, калі неспадзявана, зусім нізка над ім праляцела чайка — хоць ты хапай яе за крыло! — і ўпала на ваду недзе ззаду.

І адразу ж адтуль, куды яна ўпала, пачулася:

— Дзіла швідобіса!

Ён азірнуўся — Заміра плыла да яго.

— Вось твая крапіва,— падплыўшы, працягнула яна руку з травою, але нейкая выпадковая хваля, што ўзнялася раптоўна на спакойным моры, пляснула яе па руцэ, выхапіла крапіву і панесла з сабою ўдалячынь.

— Пры чым тут крапіва? — засмяглымі, дрыжачымі ад хвалявання вуснамі прамовіў Цішук і ў вадзе абняў дзяўчыну.— Я засумаваў па табе. Ме шэн міквархм... Я цябе кахаю...

Ён нецярпліва абняў Заміру яшчэ мацней, прыціснуў да сябе так, што яна аж ускрыкнула, у шале цалаваў яе вочы, вейкі, валасы, шчокі, вусны і нават не заўважыў, што яны, абняўшыся, усё глыбей і глыбей апускаюцца ў мора — тонуць на самае дно...

Вынырнулі яны таксама адначасова, таксама абняўшыся. На паверхні яна вырвалася з ягоных абдымкаў і імкліва паплыла наперад.

— Даганяй! — адно толькі крыкнула яму.

— Куды ты?

— Адбіраць у мора тваю крапіву!

Яна, хуткая і пругкая, нібы рыбіна, плыла лёгка і жвава. Ён, як ні напружваўся, ніяк не мог яе дагнаць. Адлегласць паміж імі ўсё большала і большала. Нечакана падняліся шырокія хвалі — быццам нанова пачынаўся шторм. І калі адна хваля ўскідвала на свой грэбень яе, а другая — яго, было бачна, якая паміж імі ўвагнутая, шырокая і глыбокая, як прадонне, прастора — чамусьці з'явілася нават адчуванне, што яе ім ніколі не пераадолець. А яна плыла ўсё далей і далей і ўсё махала яму рукою — і яго клікала за сабой.

— Заміра, вяртайся назад! Міквархар! — крычаў ён ей, але яна, хутчэй за ўсё, ужо нічога не чула.

Неўзабаве дзяўчына ператварылася ў маленькую крапку. Над ёй кружыліся чайкі, многа чаек, і па іх узбуджаным лёце нельга было зразумець, ці то яны хочуць ёй памагчы, ці то, наадварот, цярпліва чакаюць, калі здарыцца нешта страшнае і непапраўнае...

Цішук, здаецца, наяве чуў, як яна крычала яму: «Ака вар!», з усяе сілы стараўся плысці хутчэй, але, нягледзячы на гэта, усё аддаляўся і аддаляўся ад яе.

Адчуваў, што ўжо выбіваецца з сіл, і разумеў, што Заміры ён не дагоніць.

І вось тады на зусім бязвоблачным небе ён убачыў нейкае дзіўнае і па форме і па колерах воблака, з якога звісаў, як рукаў, чорны і гнуткі хобат. Ён варушыўся, нібы шукаючы штосьці, імкліва спускаўся зверху ўніз і вельмі хутка набліжаўся да вады. І якраз у тым месцы, дзе лятаді чайкі і дзе плыла Заміра.

— За-а-мі-ра-ааа! — закрычаў ён з усяе сілы.— Смерч!

Яна, канечне ж, і зараз не пачула ягонага крыку, а ў гэты час хобат апусціўся да самай вады, і Цішук, адчуваючы, як халадзее сэрца, здаецца, увачавідкі ўбачыў, што зараз дзеецца ўсярэдзіне гэтай бязлітаснай віхуры...

Закруціўшы ў варонку ваду, смерч яшчэ пастаяў крыху на месцы,

а затым шпарка пашыбаваў у адкрытае мора — нібыта забраў тое, што яму трэба было, і пайшоў.

— Міквархар! — услед яму роспачна закрычаў Цішук і яшчэ доўга потым чуў, як рэха вяртала яму ягоны крык — хар, хар, хар...

І ён страціў прытомнасць.

Калі вярнулася памяць, калі адплюшчыў вочы, ніякага смерчу ўжо не было. На тым месцы, куды віхор апускаў свой хобат, стаяла першародная цішыня — ні чаек, ні Заміры Цішук там не ўбачыў. Мора было ціхае і спакойнае, і яму нават здалося, што ўсё гэта прыснілася. Ён толькі дзівіўся, што і самлеўшы не патануў: як ён мог утрымацца на вадзе?!

Цішук азірнуўся, і страх нанова скаваў яго — берага нідзе не было відаць! Вакол толькі мора, і ён адзін пасярод гэтай бязмежнай вады.

Куды плысці?!

Каб адагнаць страх, ад якога пачыналі дранцвець рукі і ногі, ён пачаў угаворваць сябе: «Не хвалюйся, супакойся, знойдзеш ты свой бераг... Даплывеш...»

І тады нечакана ўбачыў стракaзу. І ўзрадаваўся — значыць, бераг недзе блізка, бо стракозы далёка ў мора не залятаюць, і паплыў у той бок, куды паляцела і яна.

Плыў доўга і цяжка. Нарэшце заўважыў удалечыні нейкі белы прадмет на вадзе, а за ім — вузенькую, невыразную, прывідную, як міраж, палоску берага.

Калі падплыў бліжэй, убачыў, што той белы прадмет — гэта катамаран, які, нічога не баючыся, заплыў так далёка ў мора. На ім сцішана, забыўшыся на педалі, сядзелі двое закаханых. Яны цалаваліся — што ім педалі, што ім смерч! Закаханыя, калі ён нават падплыў да іх зусім блізка, не звярнулі на яго ніякай увагі. Не заўважылі яны чалавека і тады, калі ён, пялёхаючыся, цяжка ўзабраўся на пустацелы бак, калі катамаран пад яго цяжарам рэзка нахіліўся на бок — закаханыя ўсё яшчэ цалаваліся. І толькі калі Цішук, зручней уладжваючыся, неасцярожна дакрануўся мокрай рукой да дзявочай нагі, паненка спалохана ўскрыкнула, рэзка падхапілася і, паслізнуўшыся, ледзьве не ўпала ў мора.

Ён падтрымаў яе і ціхім, даверлівым голасам супакоіў:

— Не бойцеся мяне. Я не гвалтоўнік і не прывід. Я звычайны чалавек...

Ля берага ён цяжка, як мяшок, ссунуўся з катамарана. Упаў на пясок і на доўгі час зусім адключыўся.

Калі адплюшчыў вочы, ужо вечарэла. На пляжы ён быў адзін. Не лічачы чаек, якія смела хадзілі непадалёку.

Чайкі заўсёды прылятаді сюды надвечар. Падымалі галовы, калі да іх гаварыў хто, слухалі ўважліва, глядзелі ў той бок, але блізка не падыходзілі — стаялі пакуль на месцы. Затым заклапочана ішлі па пяску, па каменьчыках, шукаючы што-небудзь ядомае, што засталося пасля людзей. У вячэрніх прыцемках, калі яшчэ было сонца, але ўжо збіраўся пакрысе і морак, калі ўсё, і людзі, і камяні, станавілася

двухмерным, двухкалёрным,— з аднаго боку асветленае, з другога — цёмнае,— шэрыя чайкі губляліся між камянёў, і ўжо доўга трэба было прыглядацца, каб заўважыць іх.

Яму мірсцілася чамусьці, што сярод гэтых чаек абавязкова павінна быць Яна, але птушкі не заўважалі яго, былі нейкія абыякавыя і няўцямныя, і ён зразумеў, што памыляецца,— усе яны чужыя.

На пляжы ўжо сцямнела, а Цішук усё сядзеў і чакаў Заміру. Яму здавалася, што яна з'явіцца, як заўсёды, неспадзявана і скажа: «Ака вар!»

Паляцелі ўжо і чайкі да сваіх гнёздаў ці туды, дзе яны начуюць, а ён усё глядзеў на мора і чакаў, чакаў, чакаў...

Але Заміра не прыходзіла.

Тады ён рашуча ўстаў і пайшоў на пірс.

Была ўжо ноч.

Па жалезных усходцах, моцна грукаючы, ён падняўся на салярый і таропка накіраваўся ў самы яго канец — туды, дзе вісеў белы сцяг. Цішук з сілаю садраў яго, зняў сваю чорную майку з бязглуздым надпісам: «Taxi» і за кароткія рукавы прывязаў да дрэўца.

Раніцою, калі людзі прыйшлі на бераг, яны вельмі былі здзіўлены — мора спакойнае-спакойнае, ласкавае-ласкавае, а над пірсам трапечацца чорны сцяг, які забараняе купацца. Яны ажыўлена абмяркоўвалі гэта, смяяліся, паказвалі пальцамі на сцяг, злаваліся:

— Відаць, сп'яна вывесілі.

Пазней на працу прыйшлі тыя, хто абслугоўвае салярый, таксама ўбачылі яго майку, садралі яе, і над пірсам, як і мае быць, залунаў белы сцяг.

Але Цішук зноў пайшоў на пірс, шчыра расказаў пра сваю таямніцу і папрасіў хлопцаў, каб зноў пачапілі на флагшток ягоную чорную майку. Яны злаваліся, абураліся, глядзелі на яго, як на звіхнутага, аднак усё ж, відаць, у нечым зразумеўшы, здаліся...

Увесь дзень над ціхім і спакойным морам трапятаў чорны сцяг. Людзі супакоіліся і, ужо не зважаючы на яго, бесклапотна купаліся, смяяліся, весяліліся. Праўда, сёй-той, як раней і ён сам, выказваў здагадку, што ўсё гэта не проста так, што тут, мусіць, нехта ўтапіўся, калі над такім морам вісіць такі сцяг.

Ён жа сядзеў на беразе, няўцямна глядзеў некуды далёка за небасхіл і не купаўся — вада яму была зараз непрыемная. Да канца свайго тэрміну ён так і праседзеў на беразе, так ні разу і не ўвайшоў у мора.

...Самалёт прызямліўся вельмі мякка. Чыркнулі па пасадачнай паласе колы, і ён ужо, нібыта і не быў у паветры, звыкла пабег па бетонцы. Адразу стала дрогка — колы грукалі на кожным стыку пліт.

Самалёт спыніўся далекавата ад аэрапорта. Цішук выйшаў і, пакуль усе чакалі аўтобуса, які пазніўся, адышоўся ў бок ад натоўпу. І міжволі, яшчэ не ўсведамляючы, што ён шукае, пачаў прыглядацца

да травы на абочыне. Хадзіў, заглядаў нават за аэрадромныя збудаванні, шукаў за кустамі, за сігнальнымі агнямі.

І нарэшце знайшоў.

Стрыкаючы рукі, нарваў цэлы жмут крапівы, адхвастаў сябе ёю па вуснах, па руках. І, услухоўваючыся, як казыча абстрыканае цела, як набухаюць пухіры ад апёкаў, дзівіўся, што яму ўсё гэта дужа прыемна.

Пакуль ён шукаў крапіву, аўтобус прыйшоў і пайшоў — павёз пасажыраў туды, дзе выдаецца багаж. Яму давялося ісці аднаму, пешкі.

Жонка сустракала каля выхаду.

Яна кінулася да яго:

— А мы ўжо думалі, што ты не прыляцеў. Усе прайшлі, а цябе няма і няма.

Яго ўразіла гэтае «мы». Ён агледзеўся і побач з жонкаю ўбачыў маладога, пругкага мужчыну ў моднай куртачцы. Яна зразумела яго погляд, патлумачыла:

— Гэта Вася, наш супрацоўнік. Мы цябе на яго «таёце» сустракаем.

Жонка ўважліва прыгледзелася да яго твару, правяла пальцамі па вуснах.

— А гэта што ў цябе? — спыталася яна.

Цішук зразумеў, што пытаецца яна пра пухіры ад крапівы, і адказаў:

— Гэта сонечныя апёкі.

Пакуль чакалі багажу, ён уважліва прыглядаўся да іх абаіх. І ўсё ў адносінах жонкі і гэтага Васі яму не падабалася: і тое, як яны пераглядаліся між сабою, і тое, як і што гаварылі. Адчуваў, якімі блізкімі яны сталі за гэты месяц.

Таму, як толькі закружыўся транспарцёр, як толькі з'явіўся на ім знаёмы чамаданчык, Цішук хуценька падхапіў яго і ўпэўненым голасам сказаў, як загадаў жонцы:

— Я паеду аўтобусам.

І накіраваўся да выхаду.

Аўтобус ужо збіраўся адпраўляцца. Ён увайшоў у яго апошні і, убачыўшы недзе ззаду вольнае месца, не разглядаючыся, абыякава цюпнуўся на сядзенне. Міжволі слізгануўшы позіркам па суседцы, здрыгануўся: побач з ім сядзела Заміра!



## УСЁ, ШТО ПА ПАРЫ

Усе разумныя дружаць між сабою, усе дурныя — сварацца. Ну добра, няхай ужо чужыя гыркаюцца, а навошта ж родным грызціся?

А то здараецца, што нават самыя блізкія, тыя, што, як кажуць, з адных плячэй растуць, і то калоцяцца не на жыццё, а насмерць. Хоць павінны б дружыць і сябраваць.

— Ты левая! — грэбліва, са злосцю, нібыта ў нейкім вельмі жахлівым злачынстве абвінавачвае сваю родную сястру правая рука.

— А ты правая! — яшчэ з большай нянавісцю кідае ёй цяжкі вырак другая рука.

— Левая, левая! — назаляецца, дражніцца, насмешліва тыцкаючы ў бок сваёй копіі пальцам, правая рука.

— Правая, правая! — здзекліва адказвае ёй тым жа самым левая рука, нібыта гэта і ёсць самая жахлівая абраза, якую толькі можна прыдумаць, і разгневана, асатанела кідаецца на сястру: — Вось я табе зараз пакажу, вось я табе...

Счапляюцца, тузаюць адна адну, даюць тумакі, выкручваюць адна адной пальцы. І ніхто ім не падкажа, што, тузаючы сястру, кожная з іх тузае сама сябе, што той, якая выкручвае пальцы, баліць гэтак жа, як і той, што трывае. Ніхто не падкажа, а самі рукі, пэўна, не здагадаюцца, што яны, абедзве — як адна: ты — гэта я, а я — гэта ты. Цябе б'юць, а мне балюча.

Тузаюцца так рукі, тузаюцца, а тады — усё ж такі абедзвюм баліць! — за валасы напаследак хапаюцца. А пры чым тут валасы, спытаеце? А пры тым, што яны ўжо нібыта і не свае, як і тая ж галава, на якой растуць. Ірві іх колькі хочаш — рукам не баліць: хоць і роднае, але чужое.

І працаваць пры такой нязгодзе зусім немагчыма: адна рука нешта хоча падняць, а другая ў гэты час апускае, другая хоча апусціць — а той, што апускала, ужо, ці бачылі вы, падымаць заманулася.

Ногі і тыя сварацца між сабою.

Адна на адну наступаюць, адна адной выспятка спрабуюць даць. Брыкаюцца, нібы тыя коні.

Правая, да прыкладу, наперад хоча ісці, а левая яе настойліва назад цягне. А ў выніку абедзве на месцы стаяць — ні ў які бок

скрануцца не могуць, адно хістаюцца, як тыя дрэвы пад ветрам: туды-сюды, сюды-туды... Толькі што не рыпяць. А то і падаюць, калі нейчае жаданне бывае дужа няўсцерпнае, калі адна нага, скажам, зробіць намнога большы крок, чым другая.

Вось тады яны яшчэ мацней сварыцца пачынаюць.

— Ты — левая! — крычыць правая.

— А ты — правая! — злуецца левая.

— Ты мне падножку паставіла!

— А ты мне ўсе пальцы чаравікам адтаптала.

А вочы? Яны ж, здаецца, павінны, калі ўжо любяць — дык абодвума любіць, калі ненавідзяць — дык таксама двума адразу. А яны і не касавокія, а ў розныя бакі глядзяць. Адно любіць, другое ненавідзіць. Што адно любіць, тое другое ненавідзіць, і наадварот. І ўяўляеце, глядзяць адразу, а ў таго, на каго яны глядзяць, аж мароз па скуры ідзе, так жудасна робіцца. Нібыта яны якое магнітнае абурэнне выклікаюць. Уяўляеце, адно колецца, а другое лашчыць... Б-р-р! А праз нейкі час ужо тое, што калолася, лашчыць, далікатнае-далікатнае робіцца, а тое, што лашчыла, пахмурнее, і ў ім, аж цёмным, ужо нараджаюцца маланкі і нават, ці чуеце, гром грыміць...

І між сабою, як на нажах. Гэта ж добра яшчэ, што ў вачэй рук няма і пераносіца між імі хоць якая, але мяжуе, а то б яны адно аднаму даўно ўсе зрэнкі павыдзіралі. А так пазлуюцца, пазлуюцца, пасварацца, пасварацца, але нічога кепскага зрабіць не могуць: хоць і блізка, ды не дастанеш.

— А ты правае! — толькі і могуць адвесці душу адны.

— А ты левае! — толькі і могуць адказаць ім другія.

І вусны сварацца — іх жа таксама двое,— ды так зацята, што аж кусацца пачынаюць. Праўда, яны ўжо сябе не правымі і левымі абзываюць, а верхнімі і ніжнімі зневажаюць:

— Ах ты, ніжні слімак!

— Ах ты, верхні вусень!

Што вусны! Яны толькі паплямкаць і могуць.

А вось зубы — гэта ўжо страшней, калі яны сварацца: тады паміж імі пальца не кладзі — адкусяць! Аж ляскаюць ад злосці. І нішто ім перашкодзіць не можа — пераносіцы ж сваёй няма, якая б разлучыла і супакоіла. Хочаш ці не хочаш, а сварыцца мусіш: калі на цябе, да прыкладу, ціснуць зверху, ты і сам знізу паспрабуеш кусацца...

Гэта ж не тое, што вушы — не хочаш слухаць лухту нейкую — не слухай: ці то заткніся чым, ці то валасамі прыкрыйся. А ад аднаго вуха да другога, каб і хацеў, не дабярэшся: ног жа няма, рук таксама — не пойдзеш, не папаўзеш.

А яны, хоць і не бачацца ніколі, усё роўна зацята сварацца — завочна.

І бровы не адстаюць ад усіх — іх жа таксама пара. Сварацца! Ледзь што — так і прыпадымаецца адно брыво дугою і грэбліва таксама, нібыта звысоку кідае:

— Падумаеш, правае. Як надакучыла мне з табою ў суседзях быць! Ты ж дурнічка.

— Ад дурнічкі і чую! — злуецца правае — акурат нявыхаваная кабеціна.— А я б з табою, леваю, на адным полі...

Яно не дагаворвае, але ўсім зразумела, што брыво мела на ўвазе.

— А ты выскубленае! — агрызаецца левае.

— Пра што ты гаворыш? Лепей паглядзі, як цябе выскублі. Квадратна-гнездавым спосабам!

І так заядла сварацца, што нават нос не можа ўстрымацца — хоць ён і адзін, хоць у яго і няма з кім палаяцца, але ж таксама, не меней, чым у іншых, злосці накапілася.

Нос незадаволена чмыхае — у яго гэта цікава атрымліваецца: калі адно крыло ўдыхае нейкі водар, другое выдыхае яго. Праўда, часам з водарам удыхаюцца і іншыя пахі, але што ж ты паробіш — барацьба ёсць барацьба.

Цяпер уявіце сабе, што ўсё гэта сварыцца між сабою адначасова... Якая машына можа перанесці, здужаць такое?! А чалавек жа — таксама машына.

У чалавека такі стан называецца хваробаю — стрэс, нервы, launched пераtамленне, ці як там яшчэ? — і вядзе ён часцей за ўсё да бяды.

Памёр чалавек.

А тое, што было ў яго па два, і на мёртвым сварыцца: усё шукаюць, хто правы, хто левы, хто ніжні, хто верхні, хто выскублены, а хто не.

Сварліўцы і не здагадваюцца, што самі разбурылі чалавека — такую магутную машыну!

І яшчэ ім здаецца, што яны, кожнае паасобку, вечныя. Не разумеюць, што энергіі, якая па іх віне пакінула ўжо чалавека, не патрэбны ні рукі, ні ногі, ні вочы, ні вусны, ні вушы, ні якая-небудзь іншая лухта, якой мы, жывыя, надаём вельмі шмат непатрэбнай увагі.

Значыць, усё, што ў чалавеку па два, часам сварыцца між сабою.

Энергія не сварыцца ніколі, бо яна адна.

І таму вечная.

Як бы гэта растлумачыць усяму, што сварыцца?!

Божа наш, навошта ты дазваляеш нам сварыцца тады, калі дурні прыкінуліся разумнымі, а разумныя змушаны слугаваць ім?!



# АБСУРД

І вось так, ці чуеце, бывае ў жыцці.

Гармонік аж заходзіцца, аж якоча — вельмі яму весела і радасна. Тыя, што танцуюць, ледзь паспяваюць за ім, а ён усё прыспешвае іх, змушае кружыцца ўсё хутчэй і хутчэй. Нібы юркі, адно толькі таропка перабіраючы нагамі, каб не ўпасці, кружацца мужчыны, а вакол іх лятаюць, як невагомыя, жанчыны ў святочных рознакалёрных сукенках — шаўкі і крэпдэшыны, здаецца, выцеснілі паветра, запоўнілі сабою ўсю хату і, нібы тыя веера, павяваюць на разгарачаныя твары лёгкім, прыемным ветрыкам. Звіняць, шаргочуць шамкі на бубнах, яны таксама спяшаюцца, і таму здаецца, што гэта ў некага парвалася нітка з пацеркамі і тыя зараз, скачучы па падлозе, раскочваюцца ў розныя бакі. Пілікае скрыпка, ляскаюць абцасы і цокаюць абцасікі...

Сонечна! Светла! Весела! Святочна!

Смех і радасць усюды.

Вяселле ж!

Шчаслівыя маладыя таксама смяюцца. А каму ж, як не ім быць самымі шчаслівымі і самымі вясёлымі на сваім вяселлі?! Ім жадаюць светлай жыткі і дзяцей, вечнага кахання і багацця.

— Ну, пакажы, пакажы, Зміруха, які яна табе ручнік на змовінах падаравала?

— А навошта мне ручнік? — смяецца Змітруха.— Мне тое, што пад ручнікам, трэба!

І ўсе таксама смяюцца разам з ім.

— А ты яму, Вольга, па трое штогод раджай,— жартуюць госці.

— Што гэта вы, цёткі, жадаеце? Хто ж іх, такіх маленькіх, калыхаць будзе,— зычліва ўсміхаецца нявеста, а жаніх дадае: — А дзе ж я вам столькі калысак набяруся?

Садзяць маладую на дзежку, пакрытую вывернутым кажухом, садзяць на воўну, каб багатая была — касматае, значыць, багатае! — а самі ўсё страшаць:

— Ой прыйдзем мы, Вольга, заўтра ў клець, каб на тваю кашулю паглядзець.

— Спозніцеся,— жартуе нехта.— Сёння глядзіце.

Зноў усе рагочуць і крычаць:

— Горка!

Канечне ж, горка! Якое гэта вяселле можа абысціся без пацалунка! Ім і самім хочацца пацалавацца, але з прымусам — цікавей.

І вось маладыя ўжо адны ў крузе, яны пяшчотна абдымаюцца і застываюць у доўгім, шчаслівым і радасным, пацалунку.

А навокал іх госці спяваюць вясельныя песні:

Звіўся хмель з вольхаю,
Злюбіўся Змітрачка з Вольгаю.

Жаніх і нявеста, здаецца, не бачаць гасцей, не чуюць іх спеваў. А тыя аж заходзяцца каля іх:

Стукнула, грукнула на дварэ.
— Ой, паглядзі, маманька,
Ці не па мяне?

— Па цябе, дачушачка, па цябе.
— Схавай мяне, маманька,
За сябе!

— Не буду, дачушачка, хаваці,
Трэба цябе сёлета
Аддаці.

Та-ра-ра калёсачкі, та-ра-ра,
Ой, павезлі Вольгачку
Са двара.

Потым нехта спахопліваецца:

— Чакайце, а ці не здаецца вам, што яны завельмі доўга цалуюцца?

— Ага, зліпліся. Не разадраць. Заканчвайце хутчэй, а то вусны папсуяце... Не будзе чым есці.

— Яны ўжо самі не могуць...

— А давайце мы ім паможам!

Хапаюцца за жаніха і нявесту, цягнуць іх у розныя бакі. Маладыя нарэшце адрываюцца адно ад аднаго — вусны ад вуснаў, рукі ад рук, цела ад цела — і падаюць разам з жартаўнікамі ў круг.

Зноў стаіць такі рогат, што некаторыя аж за жываты хапаюцца.

І тут маладуха раптам пахмурнее.

— Я хачу туды,— ціха кажа яна жаніху.

— Тады пайшлі,— згаджаецца той і таксама робіцца задумлівы.

Яны выходзяць з хаты, дзе, ні на што не зважаючы, за спіною ў іх грыміць, як і да гэтага, вяселле — людзі смяюцца, спяваюць, радуюцца.

За імі выходзяць шаферы і шаферкі.

Дзіўна, але і ў іх паволі, паступова закрываюцца адкрытыя шчырым смехам раты, пахмурнеюць, прымаючы зажураны выгляд, толькі што вясёлыя твары, тухнуць вочы.

Яны моўчкі ідуць пасярод вуліцы. Смех і гоман вяселля ўсё далеюць і далеюць, усё цішэюць і цішэюць, пакуль, нарэшце, і зусім не знікаюць.

Яны ідуць нібы ў нейкім вакууме. Ні слова, ні зыку, ні голасу — як усё роўна хто выключыў гук.

Калі праз некалькі хат зварочваюць у расчыненыя веснічкі, скруха і жалоба гняце зусім засмучаныя твары.

Дзверы ў хату адчынены, і ўсе заходзяць туды, нібы правальваюцца ў якую цёмную яміну — цішыня тут стаіць такая, што аж ломіць ад яе ўвушшу.

Пакуль тыя, што зайшлі, прыглядаюцца да хаты, не чуваць ні гуку, ні ўсхліпу, ні шораху. Толькі ўсюды цемра, усюды крэп — чорныя хусцінкі, чорныя сукенкі, чорныя пінжакі. Як недарэчна выглядае тут белае вясельнае плацце маладой!

І раптам цішыня як узарвалася плачам.

— А мой жа ты сыночак! А мой ты саколік! А мой ты памочнічак! А хто ж нашай кароўцы сена накосіць? А хто ж нашай печачцы дроўцаў насячэ? А ты ж мне за свае дваццаць гадочкаў і здоўжыцца не паспеў. А я ж табой не налюбавалася яшчэ, не нарадавалася.

Маці ўпала галавою на труну і зайшлася ў бязгучным рыданні. Побач з ёю сёй-той таксама смаргаў носам, сёй-той ціха плакаў, а некаторыя ўжо, не хаваючыся, галасілі ўчуткі.

— А мая ж ты крывіначка! — зноў ачулася маці.— А навошта ж цябе адзелі, як пад вянец, сёння. А ты ж збіраешся зусім у іншую дарожачку.

Маладая выпадкова зірнула на сябе і адчула, як пачалі падымацца на галаве валасы: яе белая святочная сукенка стала зусім чорнаю!

Зараз галасілі ўжо ўсе — і тыя, што сядзелі ля труны раней, і тыя, што толькі прыйшлі. Плакаў жаніх, усхліпвалі шаферкі, рыдала, як не трацячы прытомнасць, нявеста.

І толькі нябожчык, малады і прыгожы хлопец, ляжаў ціхі і спакойны — зараз яму ўжо было ўсё роўна: плачуць ля труны ці смяюцца.

І, нібы адчуўшы гэта, нявеста выцерла раптам слёзы хусцінкаю і сказала жаніху — так ціха, што, здаецца, і на гэты раз ніхто яе не пачуў:

— Сходзім туды?

— Сходзім,— таксама аднымі вуснамі адказаў жаніх.

Яны паволі выйшлі з хаты, не спяшаючыся, мінулі веснічкі і пайшлі зноў вуліцаю — толькі ўжо ў другі бок. За імі цягнуліся шаферы і шаферкі. А за іхнімі спінамі аж разлягаліся плач, стогн, рыданне. Яны адыходзіліся ад жалобнай хаты, галашэнне ўсё цішэла і цішэла, пакуль і зусім не змоўкла. Затое з кожным крокам усё грамчэй і грамчэй чуваць былі песні і смех — гэта зноў вяртала іх да жыцця вяселле.

З вачэй паволі сыходзіла імгла смутку, весялелі твары, растуляліся сціснутыя ў адчаі вусны.

Каля самай хаты ў маладой нехта спытаўся:

— Вольга, а навошта гэта ты пераапранулася ў чорнае?

Яна зірнула на сваю святочную сукенку і нічога не адказала, адно толькі пацiснула плячыма: нявеста бачыла, як сукенка хоць і павольна, але ўсё ж увачавідкі святлее.

У хаце нічога не змянілася: тут было весела і шумна. Як і раней, залiваўся гармонік, бухалі бубны, шаргаталі шамкі, нібы рассыпаліся па падлозе абцасы і абцасікі. Людзі спявалі і рагаталі, радаваліся і весяліліся, і ніхто, здаецца, не ўбачыў, што маладых столькі часу не было на вяселлі.

— Вальс для жаніха і нявесты! — гучна абвясціў гарманіст, і яны, хочаш ці не хочаш, адны апынуліся ў крузе і мусілі танцаваць. Паплылі ў ціхім, пяшчотным танцы, і — дзіва дзіўнае! — гэты танец вярнуў ім весялосць і спакой.

Які шматмерны чалавек! У ім суседзяцца гора і радасць, плач і весялосць.

Калі яны скончылі танцаваць, нявеста, падбіраючы рукою падол, убачыла, што яе вясельнае плацце зноў стала белае, як і да гэтага.

Маладыя ўжо ўсміхаліся, і калі ім зноў закрычалі: «Горка!», шчыра абняліся і нязмушана, з асалодаю пацалаваліся.

Да іх вярнулася весялосць — яны нібыта забыліся пра тое, што бачылі ў іншай хаце, у іншым канцы вёскі — жаніх і нявеста зараз ужо спявалі і весяліліся разам з усімі.

Але праз нейкі час маладуха зноў шапнула жаніху:

— Пойдзем туды!

На гэты раз яна не пыталася, а сцвярджала, быццам загадвала, і жаніх адразу згадзіўся з ёю:

— Пойдзем.

І зноў той жа шлях з аднаго канца ў другі — ад нестрыманай весялосці да зацятага адчаю, тая ж мяжа пасярод вёскі, дзе заціхаюць смех і песні і нараджаюцца плач і галашэнне.

У хаце ўсё было як і перад гэтым. Ляжаў спакойны і абыякавы да ўсяго нябожчык, а над ім галасіла, залівалася слязамі маці:

— А мой ты сыночак! А на каго ж ты мяне пакідаеш...

Ёй падгалошвалі ўсе іншыя, хто знаходзіўся ў хаце.

На вуліцы нехта гучна засмяяўся, і гэта тут здалося нечым вельмі абразлівым, нават кашчунным. Твар у маці яшчэ больш пачарнеў, перакасіўся, і яна загаласіла гучней:

— А мой жа ты сыночак!

На гэты раз белая сукенка маладухі пачарнела зусім хутка — каб не адрозніваца ад іншых жалобніц, каб не вылучацца сярод крэпу.

Але, наплакаўшыся, нагаласіўшыся, нявеста зноў спыталася ў жаніха:

— Вернемся туды?

— Вернемся,— і на гэты раз, не спрачаючыся, падтрымаў яе малады.

А колькі было такіх вяртанняў за ўвесь вялікі-вялікі летні дзень! Калі тухлі вочы і калі яны загараліся, калі слёзы сціскалі горла і калі з таго ж самага горла вылятаў смех і прасілася песня, калі

белая вясельная сукенка рабілася чорнаю, жалобнаю, а затым зноў назвоч бялела.

Маладуха смяялася на вяселлі і плакала на хаўтурах. А што ж ты будзеш рабіць, як жыццё павернецца да цябе вось такім бязлітасным бокам!

Калі ўжо вяселле было зусім гатовае, калі ўсім родзічам паслалі тэлеграмы і запрашэнні, за дзень да чыну брат маладой паехаў на матацыкле па апошнюю скрынку гарэлкі і разбіўся ў дарозе.

Вось так і сутыкнуліся ў адной сям'і жалоба і весялосць, гора і радасць.

Выдавалі сястру і аддавалі брата. Сястру — замуж, а брата — зямлі і назаўсёды.

Вырашылі і вяселле, і хаўтуры рабіць аднячасова — у адзін дзень. Бо і нябожчыка ўлетку трымаць доўга нельга, і вяселле няма як адкладваць: і госці паз'язджаліся, і прадукты панакуплены — папсуюцца... Вядома, на вяселлі звычайна смяюцца, а маладая, вярнуўшыся аднойчы ад брата, не вынесла бесклапотнага, гучнага смеху гасцей і загаласіла гэтак жа, як маці над труною:

— А брацечка ж ты мой родненькі! А гэта ж я, дурніца, цябе загубіла!

Адразу сціхлі смех і песні, замоўклі людзі, спыніўся гармонік, перастала пілікаць скрыпка, супакоіліся шамкі, знямеў бубен. І ў гэтую хвіліну, мусіць, ніхто б не змог разабрацца, што тут спраўляюць — вяселле ці хаўтуры.

А маладая плакала ўсё гучней, усё адчайней.

Што ж, дзе плачуць, там, канечне, не смяюцца, а дзе смяюцца, там можна часам і паплакаць...



# ТЫСЯЧАГАДОВЫ ДЗЕНЬ

Чалавек глядзеў на кветкі і травы, якія пакуль што не ўбачыў і не засведчыў, не сістэматызаваў ніводзін батанік.

Чалавек глядзеў на дрэвы, якія не трапілі на вока ніводнаму прыродазнаўцу.

Не было тады яшчэ батанікаў і прыродазнаўцаў. Была толькі сама прырода. І чалавек — як працяг яе.

Рэкі цяклі ў іншы бок — якраз туды, адкуль яны зараз выцякаюць.

Сонца заходзіла менавіта там, дзе яно зараз узыходзіць.

Вецер не ўзнімаў бураў і ўраганаў, а, наадварот, ствараў цішыню і спакой.

Бо не было яшчэ розуму, які б усяму гэтаму вызначыў пэўныя межы і абрысы, які б усё назваў сваімі найменнямі: гэта рака, а гэта гара, гэта дрэва, а гэта камень.

Зелянелі аазісы, дзе ніхто не жыў, і гулі ад перанаселенасці пустыні: у аазісах — холадна, а тут нават і без апрання, зусім голаму чалавеку было цёпла.

І неба блакітнела вольнае ад самалётаў — крылы ў ім былі, але толькі птушыныя. Гэта потым ужо, у сваім новым жыцці, ён не будзе баяцца самалётаў і нават асмеліцца лятаць на іх. Апантана будзе даследаваць электрычны ток, а затым сам стане слынным электроншчыкам. І тады толькі зразумее, што зямля — гэта кішэня неба: яно складае туды ўсё, што лішняе і не патрэбнае яму.

Ён пакуль што яшчэ не ўмее гаварыць, а ўмее толькі глядзець, слухаць і думаць.

Хвілібуд нарадзіўся раніцою. Сонца ўжо было на небе, і ён не бачыў, як тое ўзыходзіць. Чалавек пакуль не ведаў, як называецца гэтае дзіва, і таксама не ведаў, што яно ўзыходзіць і заходзіць штодзень — думаў, заўсёды вісела і будзе вісець вечна на небе.

Прачнуўся, убачыў гэтае яркае, сляпучае кола на неабдымным блакіце і адразу ж зажмурыўся, а пасля і засланіў твар рукамі — яму здалося, што нейчае вока дапытліва і цікаўна глядзіць яму ў самую душу, ды так уважліва, так пільна, што аж мурашкі пачынаюць бегаць па спіне. Хвілібуд для сябе так і назваў гэтае пранізлівае дзіва — Вока. І зараз ужо першабытны чалавек не разлучаўся

з ім ніколі ці, наадварот, яно сачыла за ім усюды: той сядзіць — яно глядзіць, той ідзе — яно цікуе, той ловіць рукамі рыбіну — яно назірае, нібыта самому яму цікава, ці выслізне мокрая рыбіна з рук.

Вока не адпускала чалавека ні на хвіліну.

І нават забыўшыся на яго, нават не гледзячы ў той бок, ён ведаў, што Вока і зараз там, дзе яму трэба быць,— на небе.

Так і бавіўся час: ішлі дні, нібы секунды, ішлі гады, нібы хвіліны, ішлі стагоддзі, нібы гадзіны...

Усё яму трэба было пазнаваць упершыню.

Вось побач дрэва, але ён не ведае пакуль, што гэта дрэва. Нешта стаіць каля яго, і ўсё на ім варушыцца — значыць, гэтае нешта жывое, як і ён сам. Ён не ведае, што варушыцца лісце, і таму яму робіцца яшчэ страшней — калі жывое, значыць, яго трэба баяцца: ва ўсім жывым хаваецца небяспека!

Ён спалохана адбягаецца ад дрэва і з насцярогаю азіраецца назад — ці гоніцца хто за ім?

Дрэва стаіць на месцы, і Хвілібуд супакойваецца.

Але і наперадзе, куды ён, ратуючыся ад дрэва, ідзе, таксама неспакойна: там як усё роўна хто гаворыць. Хоць яму і страшна да таго месца небяспечнага набліжацца, аднак цікаўнасць бярэ верх — хоць і асцярожна, але ўсё ж падыходзіць бліжэй. І якое ж яго апаноўвае здзіўленне, калі там ён нікога не знаходзіць. Хоць гукі тыя ж самыя — бу-бу-бу-бу — гучаць яшчэ грамчэй. Пільней прыглядаецца і раптам сярод зялёнай травы бачыць нейкую светлую палосу. Яна гаворыць сама з сабою і таксама варушыцца. Значыць, жывая! Значыць, зноў небяспека. «Рака!» — узрадавацца б вадзе, калі б ён ужо ведаў і разумеў, што рака праз усё жыццё будзе яму за памочніцу.

«Змяя!» — насуперак усяму праносіцца ў яго памяці, хоць ён яшчэ не адчуваў, што гэта такое — змяя, але быццам хтосьці падказаў яе форму і найменне: бліскучае, паўзе і выгінаецца.

І Хвілібуд, не гледзячы пад ногі, штосілы бяжыць убок: адкульсьці ён памятае, што змяя можа ўджаліць!

Але раптоўна спераду на чалавека пікіруе нешта вялікае і крылатае — яно вось-вось заслоніць і вока, і ўсё неба каля яго.

«Птушка!» — зноў жа супакоіцца б яму, бо менавіта птушкі, травы ды рыбы і дапамогуць яму выжыць.

«Яшчар!» — зноў нібыта падказвае яму хто збоку, ён кідаецца ў супрацьлеглы бок і натыкаецца на дрэва, якое яшчэ нядаўна здавалася такім страшным і небяспечным.

І дрэва ратуе яго — птушка праляцела над самаю вершалінаю, так і не ўбачыўшы Хвілібуда. Дзівак, не ведае, што неўзабаве птушкі самі будуць баяцца яго!

Так у чалавека з'явіўся першы сябра — дрэва.

Раніца была ядраная, і пад кронаю яму стала неўзабаве холадна: сябра-то сябра, але з гэтай схованкі давялося выходзіць на сонца: халадэча выгнала.

Ён кіраваўся зараз у чацвёрты бок — на ўсход, да Вока: хораша і смела ісці наперад, калі за спіною маеш такога сябра, як дрэва!

Нішто, здаецца, не насцярожвала, а тут нечакана вырасла з травы нешта шэрае, круглае і вялікае. Хвілібуд стаў на месцы, нібы ўкапаны, і пачаў, не зводзячы вачэй, абачліва прыглядацца — каб паспець уцячы, калі тое нешта кінецца раптам на яго.

Аднак тое, што вырасла перад ім, не варушылася, не падавала ніякіх прыкмет жыцця, і Хвілібуд хоць і з асцярогаю, але ўсё ж падышоў і нават дакрануўся да яго далонню — калі не варушыцца, значыць, нежывое, значыць, яго не трэба баяцца.

Адчуў, што далоні і ўсяму целу гэты дотык спадабаўся: паверхня была цёплая, і нават вочы бачылі, як паруе ад яе цеплыня.

Пастаяў яшчэ крыху, падумаў, азірнуўся на дрэва — ці далёка будзе да яго бегчы, калі спатрэбіцца,— а потым махнуў рукою і палез на камень.

Гэта быў звычайны камень, адпаліраваны вятрамі і нагрэты сонцам. Хвілібуд зручна ўсеўся на ім, абвёў позіркам наваколле і зразумеў, што знайшоўся яму яшчэ адзін сябра — адсюль хораша ўсё было відаць, і новы прыяцель, канечне ж, дапаможа згледзець любую небяспеку.

Сагрэўшыся, Хвілібуд неспадзявана заснуў.

Прачнуўся ад нейкай незразумелай трывогі: нібыта нехта быў побач з ім! Нехта ласкава, далікатна дакранаўся да твару, гладзіў яго па валасах, казытаў цела. Ён азірнуўся, з надзеяй паглядзеў на дрэва, якое ўжо аднойчы ратавала яго, скасавурыўшыся, аднымі вачамі асмеліўся пасачыць, хто ж гэта, няпрошаны, прысуседзіўся тут. Але дзіва — нідзе нікога не было відаць. Ён яшчэ раз абвёў вачыма камень, паглядзеў, пашукаў каля каменя і зноў нічога падазронага для сябе не ўбачыў.

А валасы і пасля гэтага ўсё роўна нехта гладзіў!

Таму рабілася яшчэ страшней: нікога няма і нехта ёсць!

Хвілібуд адчуў, як самі па сабе падымаюцца ад жуду валасы на галаве, і ўжо саскочыў з каменя, каб уцякаць ад гэтага небяспечнага, як яму здалося, месца, але нечы голас — яму нават здалося, што гаворыць Вока — супакоіў яго: «Не бойся. Нічога страшнага няма. А валасы твае чапаюць сонечныя промні. Не палохайся іх. Яны таксама твае сябры».

Крыху счакаўшы і, мусіць, убачыўшы, што Хвілібуд ужо амаль супакоіўся, голас загаварыў зноў: «А зараз я хачу цябе пазнаёміць яшчэ з адным тваім сябрам. Ідзі наперад — туды, дзе спалохаўся ўпершыню, адкуль сюды прыбег».— «Я не запомніў»,— хацеў запярэчыць голасу Хвілібуд, але той супакоіў яго: «Не хвалюйся — знойдзеш. Ідзі насустрач сонцу, ці, як ты кажаш,— Воку».

І ён паслухмяна пайшоў. Неўзабаве чалавек ужо стаяў перад тою самаю бліскучаю змяёю, ад якой нядаўна ўцякаў. Яна і зараз варушылася, выгіналася, паўзла між кустоў, і яму зноў, як і тады, хацелася бегчы адсюль прэч.

Аднак голас быў няўмольны. «Запомні,— вучыў ён,— гэта твая памочніца. Яна будзе карміць цябе і абмываць. Беражы яе».

Голас змусіў яго пакратаць ваду нагою, а пасля, прывучыўшы, і самога прыняволіў увайсці ў раку.

Ды Хвілібуд той жа час выскачыў з яе: перад самым носам нешта пругкае, абдаўшы яго пырскамі, стрэліла ўгору, і не паспела яно зноў плюхнуцца ў ваду, як палахлівец быў ужо на беразе.

«Чаго ты гэтак упудзіўся? — прысароміў чалавека Голас.— Гэта ж рыбіна — твой будучы харч». Доўга Голасу давялося змушаць Хвілібуда да смеласці, пакуль, нарэшце, ён не звыкся з вадою і не перастаў яе баяцца. Яшчэ даўжэй баяўся ён рыбы. Ніяк не адважваўся падысці да яе, нават калі яна нерухома стаяла ў вадзе, ужо не кажучы пра тое, каб паспрабаваць лавіць рукамі. І ўсё ж, змушаны пасля лавіць, ніяк не мог прылаўчыцца да гэтай работы — рукі былі нібыта дзіравыя, і ў іх нічога, апрача вады, не трапляла, нічога не затрымлівалася. І нават калі Голас паклаў яму ў далоні халодную і слізкую рыбіну, ён грэбліва, з жахам выкінуў яе зноў у раку.

Аднак жыццё прысіліла да ўсяго: ён пасябраваў з вадою і навучыўся лавіць рыбу!

Калі Хвілібуд, моцна заціснуўшы між далонямі тугую і пругкую рыбіну, якая білася і ў руках, упершыню выйшаў з ёю на бераг, Голас нават пахваліў яго: маўляў, малайчына, ты хутка ўсё будзеш умець рабіць сам.

А Хвілібуд, гледзячы, як цішэла, спакайнела, вяла ў руках злоўленая рыбіна, нібыта адкрываў для сябе нешта вельмі і вельмі важнае, і да яго паволі даходзіла, што паміж вось гэтаю рыбінаю і тым, што настойліва ные галодны жывот, ёсць нейкая непрыкметная на першую ўвагу, але такая неадольная сувязь.

Вось так, у клопатах і надзеях, праходзіла яго жыццё. Ён пазнаваў пахі, гукі, колеры, вучыўся шукаць сабе ежу і абараняцца ад небяспекі, і ад гэтага спакайнеў душою.

Заняты ўсім гэтым, Хвілібуд забыўся на Вока — нават і не заўважаў, што яно, як і раней, сочыць за ім.

Міналі секунды — не бачыў яго, праходзілі стагоддзі — не прыкмячаў сонца.

І раптам заўважыў, што Вока знаходзіцца не там, дзе ён убачыў яго ўпершыню. Дык што — яно не стаіць на месцы? Яно таксама ідзе? Значыць, яно таксама жывое!

Але чаму Вока ідзе ўсё ніжэй і ніжэй? Чаму спускаецца з неба? Можа, і яно хоча сысці на зямлю?

Гэтае адкрыццё пасяліла ў яго, здавалася б, спакойнай душы нейкую новую невыразную трывогу. Зараз ён з жахам чакаў, што ж будзе далей: куды ідзе Вока і навошта?

Сонца ўжо было над самым небасхілам, і зараз яно амаль не грэла — Хвілібуду рабілася ўсё халадней і халадней.

Раскрыўшы ад здзіўлення рот, вачыма, поўнымі цікаўнасці і жаху адначасова, Хвілібуд сачыў за сонцам, якое набліжалася да небасхілу. Чалавек усё чакаў, калі ж яно ўрэшце ступіць на зямлю?

Але на зямлю Вока не ступіла.

Спачатку маленькі яго краёк слізгануў за лінію небасхілу, пасля ўвачавідкі Вока ўсё меншала і меншала — нібыта хто зверху паспешліва тапіў яго ў нейкую пустату, што была за зямлёю. Калі апошні промень сонца, спалохана бліснуўшы напаследак у вочы, схаваўся за небакраем і стала зусім цёмна, з Хвілібудавых грудзей само сабою вырвалася хрыплае, роспачнае і безабароннае:

— А-а-ааа!

Той жа момант захваляваліся дрэвы, прашумеў ветрык, холад і чорная апраметная цемра адразу, здаецца, наліплі на яго бездапаможнае цела.

Хвілібуд увесь дрыжаў, але было невядома, дрыжыць ён ад страху ці ад холаду.

Адчай агарнуў яго. Памерла Вока, з якім ён ужо звыкся і з якім яму было так светла, цёпла і спакойна.

Цемра агарнула яго, ды такая беспрасветная — хоць ты вока выкалі. Упоцемку, натыкаючыся на ўсё, што траплялася пад рукі і ногі, ён пачаў кідацца ва ўсе бакі.

Думкі, цяжкія і роспачныя, не рассейвалі адчай, а, наадварот, узмацнялі яго.

Вока знікла назаўсёды, ці вернецца яно зноў?

Хто паможа яму і хто зачэпліць хоць якую надзею?

Нехта ж павінен яму памагчы!

Дрэва! І ў цемрадзі, навобмацак ён кінуўся шукаць дрэва — яно, канечне ж, паможа чалавеку! Шырока расставіўшы рукі, доўга бегаў, нібы з завязанымі вачыма лавіў дрэва, пакуль, нарэшце, не стукнуўся ў яго лбом. Хвілібуд абняў ствол, павярнуўся тварам туды, дзе знікла сонца, і зашаптаў:

— Дрэва, вярні мне Вока!

Але дрэва маўчала — не варушыўся ніводзін лісток. І сонца таксама не ўзыходзіла.

Чалавек пабег да ракі, укленчыў перад ёю — зноў жа тварам на захад:

— Рака, гукні назад Вока!

Але і рака маўчала: не булькацела вада, не шчоўкала рыба — мусіць, і вада, і рыба ў гэты час ужо спалі.

Тады ён кінуўся да каменя, з цяжкасцю знайшоў яго, разбудзіў і з надзеяй абняў абедзвюма рукамі яшчэ цёплыя бакі:

— Камень, ускаці зноў на неба Вока!

Аднак і камень маўчаў — камні ж увогуле тады яшчэ не гаварылі.

Камень быў цёплы, і Хвілібуд, сагрэўшыся ля яго, заснуў. Прачнуўся ён ад страшэннага холаду: камень за гэты час зусім астыў і ўжо не грэў, а марозіў чалавека.

Усё яшчэ стаяла апраметная цемра, усё яшчэ даймаў люты холад.

Вярнуўся адчай, і Хвілібуд замітусіўся яшчэ мацней — шукаў, каму б пакланіцца зноў, каб вярнуць на неба сонца.

Цяпер ужо ён дрыжаў болей ад холаду, чым ад страху. Холад скаваў усё цела, яно скарчанела, папруцянелі рукі і ногі, і яму здавалася, што канае.

Калі не стала сіл не толькі бегаць, але і хадзіць, ён упаў, дзе стаяў, на зямлю — зноў жа галавою на захад — намацаў перад сабой нейкі парастак і няўцямна пачаў біць яму паклоны. Цела зусім здранцвела, яно не слухалася яго і, здаецца, ужо не адчувала холаду: які холад яно будзе адчуваць, калі само — той жа холад!

Хвілібуд сабраў апошнія сілы і, нібы паміраючы, закрычаў:

— Божа, памажы!

І ў гэты час за спіною ў яго нешта бліснула. Яшчэ не верачы сабе, чалавек паляжаў крыху ціха, а тады, нядаўна амаль мёртвы, жвава перакруціўся на жываце ў той бок, адкуль бліснуў першы праменьчык, і радасна закрычаў, як памаліўся:

— Дзякуй табе, Божа!

Ён шукаў Вока спераду, а яно знайшлося ззаду.

Ён не ведаў яшчэ, што заходзіць сонца зараз на захадзе, а ўзыходзіць на ўсходзе.

Менавіта на ўсходзе разгаралася неба, і на яго павольна, але настойліва ўскочвалася Вока.

— Дзякуй, Божа, за Вока! — паўтарыў Хвілібуд і ў замілаванні пяшчотна пагладзіў далонямі парастак.

А што, хіба гэта дрэнна, калі сонца — наш бог? Калі дрэва — бог, калі камень — бог, калі рака — бог, калі парастак — бог? Калі крыніца — бог? Калі ўсё, што каля нас і ў нас саміх,— таксама нашы багі?

Не трэба лезці ў душу ім, багам і богаўкам, спасцігаць іх таямніцы, бо спасціжэнне — заўсёды разбурэнне. Няхай яны жывуць усюды не разбураныя! І дзякуй ім за гэта!

Дзякуй за ўсё і Ярылу, богу сонца, і Жыве, багіні жыцця, і Стрыбогу, богу вятроў, і Цёці, багіні ўрадлівасці, і Лёлі, багіні кахання, і Жыжалю, богу агню, і нават Зюзю, богу холаду, і нашаму галоўнаму богу — Белабогу, і ўсім іншым спрадвечным багам і бажніцам!

Якая іншая яшчэ рэлігія, скажыце, трэба нам, беларусам?!

А гэтая, як мы ўжо ведаем, выратавала Хвілібуда — першага, так хочацца прыдумаць, ва ўсім свеце беларуса, які з гэтым узыходам сонца пайшоў на новае тысячагоддзе.

І зноў спрасаваўся час: дні ішлі за секунды, гады ішлі за хвіліны, стагоддзі здаваліся ўсяго толькі гадзінамі...

І ўвесь гэты час Хвілібуд маліўся парастку, які, як яму здавалася, выратаваў і вярнуў яму сонца.



# ПЕРАВЕРНУТЫ

Вярнуўся Бяляй дадому дужа позна, недзе апоўначы.

Вазіў на льнозавод трасту, а там такія чэргі, такія парадкі, што каб троху не паварушыўся сам, то хутчэй за ўсё давялося б неразгружанаму і начаваць у кабіне.

Спыніў перад сваімі варотамі машыну, зірнуў на вокны — яны былі цёмныя: значыць, жонка і дзеці ўжо спалі.

Звычайна, калі прыязджаў позна, Агнежка, захінуўшыся ў штонебудзь, выходзіла на ганак, каб сустрэць яго, але сёння ён такой ласкі ад яе не чакаў: раніцою яны не вельмі каб сур'ёзна, але ўсё ж крыху пасварыліся, і жонка, канечне ж, не выйдзе, прынцыпова зробіць выгляд, што спіць.

Яму таксама не хацелася вылазіць [redacted] машыны і ісці дадому — уяўляў, як сонная Агнежка пачне нехаця адмыкаць замкі, адсоўваць запоры, здымаць крукі, [redacted] потым, зрабіўшы ўсё гэта, абыякава кінуўшы: «Вячэра на стале», незадаволена пойдзе ў спальню.

І яшчэ яму чамусьці здавалася, што сёння нешта абавязкова павінна здарыцца, і ён чакаў гэтага з трывогаю і нецярпеннем — хацелася, каб яно, калі мае адбыцца, адбылося як мага хутчэй.

Такое з ім здаралася і раней, а таму ні жуду, ні адчаю, якія міжволі сквалі яго ў першы раз, зараз ужо не было. Былі цікавасць і напружанасць, былі неспакой і чаканне.

Пасля цяжкой дарогі яго хіліла ў сон, але Бяляй разумеў, што не толькі дарога з'яўляецца прычынаю яго санлівасці. Паклаў галаву на рукі, што ўсё яшчэ былі на рулі, і пачаў прыслухоўвацца, як яно набліжаецца.

Усё цела яго трымцела, хвалявалася, вібрыравала, яму было балюча і прыемна, да горла падкочвалася млосць, ён адчуў, што траціць прытомнасць і некуды правальваецца. Добра, што ў самы апошні час паспеў яшчэ рукою адчыніць дзверцы кабіны, з якой ужо на ўсе чатыры лапы мякка выскачыў воўк.

Воўк тут жа ля кабіны атросся, нібыта ён доўга быў пад дажджом, пакруціў ва ўсе бакі галавою, наставіўшы вушы, панюхаў паветра і павалі, асабліва не спяшаючыся, пабег загуменнямі ў бок недалёкага лесу.

Сваю гайню ён сустрэў на самым узлеску: ваўкі якраз ішлі на паляванне. Ціха і спакойна далучыўся да іх, ды і яны, здаецца, не звярнулі на гэта ніякай увагі — ну, далучыўся дык і далучыўся, хай сабе бяжыць.

Ваўкі якраз спяшаліся ў бок вёскі. Бяляй усё стараўся бегчы не з падветранага боку — амаль суткі правёўшы ў кабіне, ведаў, што пахне бензінам, і асцерагаўся, каб ваўкі не ўнюхалі гэты пах.

Пачаўся нудны восеньскі дождж. Ён імжэў на мокрую ўжо шэрсць, але ваўкам гэта, здаецца, падабалася: яны інстынктыўна адчувалі, што ў такую глухую поўнач, у такі шапатлівы дождж людзям дужа добра спіцца.

Ён бег між ваўкамі — як свой сярод сваіх — і думаў, на чый падворак заявіцца сёння гэтая ваўчыная гайня?

Гайня завярнула да ягоных хлявоў.

Важак ужо на Бяляевай пожні спыніўся, падняў галаву, уважліва, пільна ўгледзеўся ў машыну, якая стаяла каля хаты, насцярожана ўслухаўся ў начную цішыню і, нічога падазронага не пачуўшы — нідзе нішто не бразгала, нідзе ніхто не гаманіў,— супакоіўся, апусціў галаву і патрусіў да хлява, дзе былі авечкі,— быццам ён ведаў, быццам яму ўжо нехта сказаў, што яны менавіта там.

За ім пабеглі і ўсе астатнія.

Бяляй падсвядома, яшчэ па чалавечай звычцы, кінуўся важаку напярэймы — трэба ж абараняць сваё дабро,— але той так ашчэрыўся, што ваўкалак завіляў хвастом і саступіў з дарогі.

Ваўкі падышлі да сцяны з глухога, тыльнага боку, зноў услухаліся і агледзеліся, а затым дружна ўзяліся падкопвацца пад бёрны.

Пачуўшы іх дух, заварушыліся, забегалі па хляве авечкі.

Бяляй быў у роспачы, што ён сам, на сваім падворку не можа нічым памагчы сваёй жа скаціне.

Убачыўшы, што ваўкі вельмі ж ужо шчыра пярэднімі лапамі выграбаюць зямлю з-пад сцяны, ён абабег свае хлявы, пращчаміўся праз згароду і пачаў знарок шумна, за ўсё чапляючыся, каб нарабіць грукату, бегаць па двары,— а раптам прачнецца жонка, выйдзе з хаты і дапаможа яму ратаваць авечак.

Ён нават станавіўся лапамі на сцяну і зазіраў у акно, нават узбягаў на ганак і шкробся, грукаўся ў сенечныя дзверы, але Агнежка так і не выйшла.

Тады ён зноў пабег да гайні, спадзеючыся, што, можа, хоць там яму ўдасца нешта выратаваць.

Ваўкі ўжо даволі-такі глыбока падкапаліся пад сцяну. Яны лёгка руйнавалі тое, што яму, гаспадару, здавалася вечным і непрыступным.

Гэтым хлеўчуком для авечак ён займаўся зусім нядаўна. Пабудаваў сабе новую лазеньку, а са старой зрабіў вось гэты катух для авечак.

Жонка, калі ён толькі збіраўся складаць будову па-новаму, прасіла зрабіць пад яе моцны цэментны падмурак, каб не падкапаліся ваўкі, і ён толькі адмахнуўся:

— Кінь ты! Якія ў нас ваўкі?! А калі хочаш, я для іх нешта іншае прыдумаю.

Бяляй выкапаў тады траншэю паўз адкрытую навонкі сцяну, накідаў туды камянёў, наўтыкаў вострых калоў, наламаў калючага дроту, наставіў дошчачак з панабіванымі ў іх цвікамі — і гэта рабіў на ўсякі выпадак, бо ваўкоў, ён ведаў, у іх лясах ужо ніхто даўно не сустракаў.

І зараз сам, на свае вочы бачыў, як лёгка паддаюцца ваўчынай настойлівасці яго ўмацаванні: ваўкі выграбалі каменне, выкідалі калючы дрот, і толькі калі калолі лапы цвікамі ў дошчачках, незадаволена, але ціха скуголілі — баяліся, каб не пабудзіць усю вёску.

Зрэшты, і дошчачкі з цвікамі неўзабаве асцярожна выграбаліся з падкопу.

Калі пралаз ужо быў гатовы, у яго, пластаючыся да самай зямлі, выгінаючыся пад ніжнім бервяном, палезлі першыя смелякі.

У хлеўчуку шум і валтузня павялічыліся. Авечкі, чуючы ваўкоў зусім блізка, асуджана мітусіліся, відаць, натыкаючыся адна на адну.

І вось тут і ім апанавала звычайнае пачуццё ваўчынай эйфарыі — ён і сам стрымгалоў кінуўся ў нару, каб як найхутчэй улезці ў свой жа хлеў і далучыцца да агульнага — нядаўна яшчэ чужога яму — азарту.

Ваўкі па ўсім хляве, з кута ў кут, ганялі авечак. Адна авечка міжволі трапілася яму пад лапы, і ён, здаецца, адразу ж, не задумваючыся, задушыў яе насмерць.

Зараз Бяляй быў такі ж, як і ўсе. Яму нават здавалася, што ўсё гэта адбываецца не з ім, што тут сапраўды разбойнічае, лютуе воўк, які ніколі не быў чалавекам. Бяляй разам з усімі ганяў па хляве сваіх авечак, пакуль не стала зусім ціха — відаць, не засталося ў катуху ніводнай жывой душы.

Па сваёй ваўчынай завядзёнцы, якой няўхільна пільнавалася гайня, кожны, хто што злавіў, задушыў, той і павінен несці набытак да логава. Спакойна, не шчэмячыся асабліва, яны, разабраўшы выпарэзаных авечак, вылезлі з хлява праз той жа самы пралаз. Выцягнуў і ён сваю ахвяру — праўда, здаецца, яму трапілася чужая: яна была цяжэйшая і яшчэ, мусіць, жывая, бо трапяталася і час ад часу ўздрыгвала.

Паўскідалі авечак на спіны і зноў жа, не спяшаючыся, патрухалі, парупіліся да лесу.

Ускінуў і ён сваю і, яшчэ ўзбуджаны ад палявання, разам з усімі шыбаваў з вёскі — авечка і праўда была жывая, бо яна колькі разоў спрабавала ссунуцца са спіны.

Ягоная авечка, хоць і прыдушаная, хацела ўратавацца! Яна была, відаць, не з даверлівых і цікаўных. А як дураць іх ваўкі, выкарыстоўваючы гэтыя авечыя слабасці! Ён сам, яшчэ чалавекам, бачыў, як падманваў аднаго разу воўк цэлы статак дурніц. Улез у нейкую яміну, а тады галаву высуне, пакажацца і зноў схаваецца, высуне — і схаваецца. Глядзелі авечкі, галовы пазадраўшы, на гэта

дзіва, глядзелі, а тады ўсім статкам — выбірай любую! — і пайшлі ваўку ў лапы — цікава было паглядзець, што гэта там такое матляецца...

Недзе па дарозе ваўчыная эйфарыя ў яго пачала праходзіць. Ён міжволі, сам таго не чакаючы, па-чалавечы задумаўся: дык гэта ж я нясу сваю авечку ў лес ваўкам! Сам! На сваёй спіне! Трымаю яе сваімі ж зубамі і баюся, каб яна не звалілася!

Глупства нейкае!

Бяляй, як зацкаваны, азірнуўся па баках, крыху адстаў ад гайні, зваліў авечку пад куст — у надзеі, што прыйдзе потым, забярэ яе чалавекам, і ўлегцы дагнаў ваўкоў. І ў той жа час да яго падбег Важак, балюча схапіў клыкамі за шыю — ён адчуваў: да крыві,— Бяляй ведаў, за што, і таму, не супраціўляючыся, вярнуўся да авечкі, узваліў яе зноў на спіну і пацёгся да астатніх. Зараз ужо Важак пільна сачыў за ім — два цвічкі-вокі калюча, не міргаючы, увесь час глядзелі ў яго бок.

І калі ў лесе ваўкі смачна піравалі, аб'ядаючыся авечкамі, сам ён нічога не еў. Сядзеў убаку на хвасце і, выставіўшы наперад лапы, толькі абыякава назіраў, як бязлітасныя клыкі прагна разрываюць на кавалкі тое, што яшчэ нядаўна было ягонаю скацежаю.

Яму ж чамусьці вось зараз, гэтую хвіліну, заманулася ў вёску, захацелася паглядзець на свой зруйнаваны хлеў, і ён, бачачы, што ўсе заняты ежаю — нават Важак не сачыў за ім — і на яго знікненне ніхто не зверне ніякай увагі, паволі, нюхаючы зямлю, пабег з лесу.

Дарога аж да самага дому пахла авечкамі і ваўкамі. Прыбегшы на сваю пожню, ён, як і Важак, агледзеўся, услухаўся, правёў насцярожаным позіркам па машыне — ці няма ля яе каго? — і толькі пасля гэтага патрухаў да падкопу. Чамусьці здавалася, што ваўкі падушылі не ўсіх авечак, што хоць адно якое ягнятка дзе-небудзь зашылася, захавалася, зберагіося і засталося жывое. Каб убачыць гэта на свае вочы, ён нецярпліва палез у пралаз.

Але на гэты раз падкоп здаўся зусім вузкім — галава ў яго ўвайшла, а плечы не пралазілі. Колькі ён ні пластаваўся, колькі ні выгінаўся, улезці ў хлеў ніяк не ўдавалася.

Бяляй выцягнуў з нары галаву і падняўся на ногі. Памацаў рукамі плечы і зразумеў, чаму не пралез у падкоп.

Ён зноў ператварыўся ў чалавека.

Абтросся ад зямлі, памацаў шыю: яна саднела — ці то ён садраў яе вось зараз, калі стараўся пралезці ў хлеў, ці то гэтая рана асталася ад клыкоў Важака...

Падышоў да машыны. Дзверцы ўсё яшчэ былі расчыненыя. Ён, моцна хляпнуўшы, зачыніў іх. І тут жа, як усё роўна яна чакала гэтага груку, выбегла на ганак жонка.

— Дзе гэта ты ходзіш?

— А што здарылася?

— Паглядзі вунь у хляве, што здарылася. Ваўкі ўсіх тваіх авечак павыцягвалі!

Ён паглядзеў — хлеў быў адамкнёны: значыць, яна ўжо бегала туды і ўсё бачыла.

Агнежка галасіла.

— Ды ўсіх-усіх падушылі, ірады. Нават ягнятак.

— А чаму ж ты не выскачыла?

— Я чула, што авечкі нешта тупацяць і хвалююцца, але думала, гэта ты ў хляве што робіш. І ў сенцы нехта шкробся, а я зноў жа чакала, што гэта ты клямку шукаеш,— яна задумалася, відаць, успамінаючы ўсё, што было перад гэтым.— А ведаеш, і ў акно, здаецца, нейкі сабака глядзеў — пэўна, гэта воўк і быў...

Жонка раптам як асеклася ўсё роўна і падазрона прынюхалася.

— Слухай, а ты ў хляве з ваўкамі часам не быў? — спалохана спыталася яна.— Ты ж дужа нейкаю псінаю пахнеш...

Пры гэтых словах ён непрыемна скалануўся — аж зімна стала скуры: а можа, яна ўсё ведае?!

Але пераадолеў свой спалох, узяў сябе ў рукі і як можна спакайней сказаў:

— Выдумляеш ты абы-што...

— Не, не выдумляю. Ты і праўда пахнеш ваўкамі і авечкамі.

— Кінь, Агнежка, супакойся. Ты проста злякнулася, дык табе зараз усё ваўкамі пахне.

Яна крыху паспакайнела.

— Дык жа ягнятак шкада...

— Канечне, шкада. Але ж толькі шкадаваннем авечкам не паможаш. Новых завядзём.

— Дык яны ж, крывапіўцы, і новых выцягнуць.

— Не бойся. Зараз мы ўжо так умацуемся, што не выцягнуць,— і сам сабе падумаў, што цяпер ён ужо ведае, як абараніцца ад ваўкоў.

Жонка падышла да яго бліжэй, паклала галаву на плячо, прыхінулася. Убачыла, хоць ён і затуляўся, ранку на шыі, ласкава дакранулася да яе далонню:

— А што гэта ў цябе за кроў водзека?

— Мусіць, дзверцамі машыны садраў. Ідзі, Агнежка, спаць.

— І ты хадзі.

— Зараз і я прыйду.

Успомніў, што на льнозаводзе купіў дзецям цукерак, вярнуўся да машыны, забраў іх і вельмі павольна пайшоў услед за жонкаю.

Ад гэтага часу ён пачаў ужо думаць, як адпомсціць ваўкам, якія гэтак зняважылі і абразілі яго: прывялі чалавека на свой падворак і ў сваім жа хляве змусілі душыць сваіх жа авечак...

Толькі не ведаў, калі гэта лепей зрабіць. Цяпер, як ён стаў чалавекам, ці тады, калі зноў перавернецца ваўком.



# ЛЕТА З МЯТЛУШКАЙ

Яна з'явілася тут зусім нечакана.

Але сказаць так — крыху пакрывіць душою: ён увесь час думаў пра яе і, канечне ж, чакаў гэтай сустрэчы. Больш таго, толькі ён сам ведае, колькі давялося прыкласці намаганняў, каб усё вось гэтакім чынам і сталася.

А сталася яно так, як ён і хацеў.

Яна, святочная і даверлівая, радасна лятала каля яго, пырхала перад самым тварам — ён нават лавіў лёгенькі, прыемны павеў ветрыку ад яе лёту,— дакраналася крыламі да вуснаў, і ад гэтага дотыку яму было казытліва-ўцешна, а калі і не дакраналася — касец усё роўна адчуваў, якая яна ўся аксамітна-пяшчотная.

Чатыры яе крылы купаліся ў ранішнім сонцы, яшчэ не стомленыя пакуль што промні шчодра падалі на шматкалёрныя строі, ад чаго ўся яна рабілася яшчэ ярчэйшаю, пералівалася і ззяла, нібыта вясёлка: стракатыя, барвяныя палосы трымцелі самі па сабе, паступова пераходзячы ў вялікія і яркія плямы на прыканцах: ярка-блакітныя — уверсе, аранжавыя, як полымя,— унізе. Па іх яшчэ, як маланкі, жыхалі чорныя зігзагі, а з ніжніх крыльцаў уважліва глядзелі на ўсё нібыта сапраўдныя, нібыта жывыя вочы.

Яна, звычайная беларуская мятлушка, была чамусьці падобна на паўднёваамерыканскую Німфаліду, якая раптам ахвяравала такімі звыклымі, душнымі і вільготнымі, тропікамі, каб нацешыцца нашымі халаднаватымі, зацененымі кустамі, падлужжамі ды сенажацямі, і зараз, не ведаючы ці не верачы, што яны радыяцыйныя, насалодна крыляла над імі, радуючыся сонцу і лету.

Яна вілася каля яго, і яму гэта было прыемна: ён разумеў, што мятлушка таксама радуецца сустрэчы і яе ўзрушаны танец крыл, канечне ж, прысвечаны толькі яму.

Ён клікаў яе доўга і цярпліва,— нават загадваў: «Прыляці!», і яна прыляцела — і таму зараз не сумняваўся, што кружыць каля яго менавіта яна, яго каханая.

Так сталася, што лета на доўгі час іх разлучыла: яна з мужам паехала на поўдзень, ён з жонкаю — на поўнач.

Бо ён быў з поўначы Беларусі, яна — з поўдня. Таму ён дражніў і лашчыў каханую Азіяй, яна яго — Нордам.

Ён паехаў, яна паехала. Ён касіў, яна сена варушыла. Ён касіў тут, яна варушыла сена там, але ім здавалася, што яны працуюць поплеч: ён косіць для яе, яна варушыць для яго.

Бо яна часта з'яўлялася тут мятлушкай — калі ён клікаў яе. Але нават калі і не клікаў, прылятала сама.

Яна пырхала вакол яго, такая прыгожая, зграбная і элегантная, што яму не хацелася верыць, было нават балюча ўспамінаць, што мятлушкі адносяцца да атрада насякомых,— якія ж тут да д'ябла насякомыя, калі такая незямная прыгажосць! Хаця, а чаму насякомае не можа быць прыгожым? Німфаліда то падлятала зусім блізка, у лёце, не складаючы крыл, трапятліва садзілася яму на вусны, на валасы, на плечы, то адляталася далёка-далёка — ён ужо ледзь пазнаваў яе між красак і іншых мятлушак,— і звабліва лётала там, удалечыні, нібыта і яго клікала туды.

Ён лашчыў яе вачыма, гаварыў ёй пяшчотныя словы, бо яна і напраўду здавалася яму самаю прыгожаю з усіх соцень тысяч відаў мятлушак, што існуюць на зямлі, уголас захапляўся ёю і, бачачы, як трымцяць ад шчасця яе крылцы, адчуваў, што яна яго разумее,— мятлушкі, каб вы ведалі, усё чуюць, хоць самі не выдаюць ніводнага гуку.

Калі ў чарговы раз яна, памітусіўшыся каля касца, зноў паляцела, нібы вабячы за сабою ўдалеч, ён паклаў на пракос касу і пайшоў за ёю. Німфаліда махала крыламі ўсё хутчэй і хутчэй, адляталася ўсё далей і далей, і яму, каб дагнаць яе, давялося пабегчы. Разагнаўшыся, ён і не заўважыў, калі, нібыта самалёт ад узлётнай паласы, адарваўся ад зямлі і лёгка, як усё роўна штодзень рабіў гэта, паляцеў над лугам: толькі што бег, а ўжо ляціць.

Уражаны, ён глядзеў на траву і краскі, што праплывалі пад ім,— зверху яны выглядалі зусім не так, як на зямлі,— і не мог стрымаць сваё хваляванне: ён ляціць!

Вусікі, выстаўленыя далёка наперад, на канцы якіх, мусіць, і былі цяпер ягоныя вочы, давалі магчымасць зірнуць на сябе як бы зверху: падымеш іх, паварушыш,— і ўсё відаць.

І ён убачыў самога сябе — вялікага матыля з моцнымі крыламі. Магчыма, гэтая думка пра моц узнікала ад таго, што на пярэдніх, цёмна-карычневых крылах, нібы намаляваныя кім, кідаліся ў вочы яшчэ адны — ярка-чырвоныя, зграбныя, усе скіраваныя на імклівы лёт. Гэтыя, другія крылы, былі падобныя на птушыныя, і таму яму здавалася, што ён зараз і птушка, і матыль адразу і мае не чатыры, а ўсе восем крылаў.

Дзіўна, ён любаваўся сабою, асабліва пасля таго, як, разгледзеўшыся, заўважыў, што нагадвае Птушкакрыла з Новай Гвінеі — матыля, здымак якога ўбачыў калісьці ў нейкай каляровай кніжцы і які яму спадабаўся менавіта размахам і магутнасцю крыл.

Адсюль, мусіць, і ў самога ўзнікла адчуванне сілы і дужасці.

Аднак махалі яго крылы гэтак жа, як і ва ўсіх матылёў і мятлушак на свеце,— ціха, невагома, далікатна.

Вывучаючы свой новы стан, разглядаючы, нібы староннi, самога

сябе збоку, дзівячыся траве, якая раптам асталася далёка пад ім, ён і не заўважыў, дзе згубіў каханую.

А як асачыць яе, зноў знайсціся і з'яднацца, калі прастора так бязмежна расшырылася, а самі яны — гэтак зменшыліся?!

Німфаліда сама падляцела да яго, і яны, абое, узрадаваўшыся дотыку, нібы злучаныя ім, залуналі побач — крыло да крыла. Птушкакрыл, як і трэба сапраўднаму мужчыну, адразу ўвесь клопат пра мятлушку ўзяў на сябе, і тая, удзячная і задаволеная, паслухмяна ляцела туды, куды ён яе вёў.

Яны ляцелі над самай травою, і тое, што раней здавалася суцэльнай белай кіпенню, зараз раз'ядналася на асобныя чатырохпялёсткавыя кветкі — пялёсткі былі буйныя і непрыгожыя. Нават маленькія беленькія зорачкі ў траве, якія заўсёды радавалі яго вока, парабіліся вялікімі і зараз выглядалі несамавіта — як парэпаныя чалавечыя рукі. Ужо не кажучы пра фіялетава-малінавыя пялёсткі журавельніку: па іх, як маршчакі, спрэс ішлі глыбокія баразны, і самі яны былі ўсе дзіравыя — як добра, што чалавечыя вочы не бачаць гэтых дзірак! Пачынаў зацвітаць лён, і мятлушкі віталіся як не з кожнаю белаю кветкаю, што зрэдзь дзе засвяцілася на зялёным лоне.

На адну з іх яму захацелася прысесці, і яна захісталася і сагнулася нават пад ім, амаль невагомым. Птушкакрыл гайдаўся на кветцы, уверсе крыляла сяброўка, а ён, здзіўлены і ўражаны, назіраў, як нешта робіцца з часам — побач ківалася другая ляніна, якая ўжо адцвіла, і матыль увачавідкі бачыў, як большае і расце каробачка, а ў ёй проста на вачах спеюць зярняты...

Ён паказваў каханай тыя мясціны, якімі ўсё лета любаваўся сам.

Спачатку завабіў да крыніцы, з якой, натаміўшыся, любіў піць чыстую, халодную — аж зубы заходзяцца — ваду. І мятлушка ўпэўнена, лёгка і звычна крыляла над крыніцаю, нібыта ведала яе даўно, а яму было страшнавата — вось так, зверху, ён бачыў сваю крыніцу ўпершыню, і таму яна, напраўду маленькая, здавалася адсюль вялікаю-вялікаю — быццам возера.

Да таго ж адсюль і яна выдавала не такою прыгожаю — выпіралі ўсе заганы і хібы. Крыніца была нават замучонаю — мусіць, у яе ўскочыла люгашка і папоўзала, пакешкалася там на дне — і ён, каб зменшыць непрыемнае ўражанне, узлятаў усё вышэй і вышэй.

Мятлушка ж, наадварот, падлятала да самай вады і тут жа, не замачыўшы нават крыл, узлятала ўгору, вілася ля яго, нібыта хацела зрабіць яму прыемнае — глядзі, маўляў, як мне падабаецца тваё дзіва.

Над крыніцамі звычайна растуць вербы, а над гэтаю стаяла бярозка з белаю-белаю, як снег, карою. Роўная, станістая, сіметрычная, з неправдападобна правільнаю формаю, зараз яна здалася яму крыху іншаю — і сукі нязграбныя, і кара брудная,— і ён хутчэй паклікаў мятлушку да вялікага куста званкоў, які рос непадалёку.

Ага, менавіта да куста, бо званкі часцей за ўсё стаяць у траве па адным, па два, а тут з аднаго кораня буяў цэлы букет, можа, на

сотню кветак. І раней, калі ён ішоў да крыніцы, яшчэ здалёку кідалася ў вочы блакітная пляма ў траве, а зараз яна зрабілася вялікім, нязгледным воблакам, якое, сінеючы, як неба, засланіла сабою ўсё на свеце.

Кожную раніцу, ідучы і з парожнім, і з поўным, ён паказваў ёй, хоць яна і была далёка адсюль, гэтыя званкі. Такое стала ўжо нейкай завядзёнкаю, нейкім рытуалам, і калі часам не ўдавалася прычасціцца кветкамі, увесь дзень яму было сумна і нечага не хапала.

Яны крылялі зараз над гэтым воблакам, садзіліся на яго, заляталі ў самі званкі, нібыта збіраліся наведацца ў кожны з іх, і тады перад імі ўзнікалі вялізныя, як грамафонныя раструбы, ёмістасці, дзе было парожне, гулка і халаднавата. Пералятаючы на новую кветку, яны сустракаліся крыламі, і ад гэтага ўзнікала нейкае трапятліва-невыразнае пачуццё, нейкае чаканне...

Раптам ля крыніцы забразгаталі вёдры, і ён, азірнуўшыся, убачыў: жонка, мусіць, не знайшоўшы яго на пракосах, прыйшла па ваду сама. З ёю былі і ягоныя дзеці — хлопчык і дзяўчынка. Жонка адразу заўважыла матылёў — мусіць, яны былі самыя яркія тут — і закрычала:

— Дзеці, зірніце, якія прыгожыя мятлушкі вуньдзека над званкамі лятаюць!

І малыя, асцярожна, каб не спалохаць, крадучыся на пальчыках па траве, трымаючы напагатоў сачкі, пачалі падыходзіць да іх. Птушкакрыл зірнуў на Німфаліду і зразумеў, што яна, заюшаная ў кветках, не бачыць небяспекі. Ён падляцеў да яе і пакуль абудзіў, прывёў у прытомнасць — мятлушка была нібы ў якой прастрацыі і, здаецца, не помніла сябе,— ім давялося ўзлятаць з-пад самых дзяціных сачкоў — ён ледзь выпіхнуў каханую з-пад абадка. Узбуджаныя, яны не паляцелі па-над травою, а ўзняліся высока над лугам.

Дзеці, перажываючы, што прамахнуліся, што не злавілі матылёў, стаялі цяпер пад імі і, задраўшы ўгору галовы, махалі сачкамі — усё спрабуючы дастаць да іх. Але дастаць было зараз немагчыма — яны ўзвіналіся ўсё вышэй і вышэй, і ўсё меншалі і меншалі званкі, крыніца, бярозка, яго жонка і дзеці.

Мятлушкі ўзнімаліся да таго часу, пакуль не адчулі, нарэшце, што на вышыні памацнеў вярховы вецер і ён зносіць іх зусім у другі бок — далей і ад хаты, і ад крыніцы. Яны спусціліся крыху ніжэй, дзе не было ветру, і паволі паляцелі на свой луг, да свежых пракосаў.

Ляцелі над садам, дзе ўвачавідкі большалі і даспявалі яблыкі.

Ляцелі над стагамі, якія ён паспеў паставіць ужо.

Ляцелі над кустоўем, у якім зараз, зверху, ён бачыў сям-там птушыныя гнёзды, а ў іх — птушанят, што,чакаючы матак з кормам, павыстаўлялі ў неба разяўленыя дзюбкі.

Віліся над няскошанаю травою, іх крылы то дакраналіся адно да аднаго, то разляталіся ў розныя бакі, каб неўзабаве зноў з'яднацца, іх танец быў такі выразны і нецярплівы, і ім абаім было так хораша і шчасліва думаць пра тое, што вось-вось павінна будзе здарыцца...

Ён ведаў, што гэтая прывідная радасць ненадоўга, яна, як і сама мятлушка, неўзабаве знікне, растане ў прыродзе, і таму Птушкакрыл спяшаўся нацешыцца і ёю, каханаю, і іхнім сумесным палётам, і сваёю невагомасцю — такою прыемнаю побач з яе невагомасцю...

Унізе, пад імі, было аж жоўта ад святаянніку — ён гэтак цвіў тут, што амаль поўнасцю засланяў сабою зялёную траву, ад кветак так пахла мёдам і нечым яшчэ, зваблівым, нечаканым і таямнічым, што яны, не згаворваючыся, нецярпліва і паспешліва ўпалі ў гэты жоўты цуд. Увесь луг ім не патрэбен быў — хапіла і адной кветкі.

Кветка іх аб'яднала. Яны ўтачылі ў яе паміж песцікаў і тычынак, што, вялікія і тоўстыя, стаялі вакол галоў, нібыта слупы, свае хабаткі-смактуны, тыя дашукаліся нектару, хабаткі сустрэліся ў красцы, ніжэй пялёсткаў, прыціснуліся адно да аднаго, і ён аж затрымцеў ад нейкай незразумелай асалоды, ад нейкага незвычайнага пачуцця. Яму было вельмі прыемна, нектар, здавалася, пераліваўся з хабатка ў хабаток, гэта хвалявала, узрушала, распальвала, і таму, быццам ад пацалунка, млява і светла кружылася галава.

Тое ж самае, мусіць, адчувала і яна, бо мятлушкі неўзабаве, гэтак жа нецярпліва, як і ўпалі на святаяннік, зноў жа не згаворваючыся, успырхнулі з краскі і, не разлучаючыся, пачалі падымацца ўсё вышэй і вышэй.

Падымаліся яны хутка, нібы спяшаліся куды — ён нават адчуваў, як гэты імклівы ўзлёт халодзіць яшчэ не высахлы ад нектару хабаток.

Там, у вышыні, яны з'ядналіся зусім: з дзвюх кропак стала адна. І калі б хто-небудзь убачыў гэтую кропку з зямлі, ніколі б не паверыў, што ў ёй трапечуць дзве мятлушкі — настолькі блізка закаханыя былі зараз адно да аднаго.

А на самым дне блакіту паспешліва трапяталі, біліся аб неба матыліныя крылы, аж пакуль у нейкі момант не абвялі, нібы ветразі, якія згубілі вецер, і проста так ужо, лена і стомлена, амаль не варушачыся, дзеля прыліку толькі абапіраючыся на паветра, паволі падалі туды, адкуль толькі што так імкліва ўзляцелі.

Зараз ужо нічога іх не цікавіла і нічога для іх не існавала...

На луг, вярнуўшыся ад крыніцы, прыбеглі дзеці, і мятлушкі, абыякавыя і сцішаныя, амаль са складзенымі крыламі, як мёртвыя, падалі якраз у падстаўленыя імі сачкі.

Нейкі час ён нічога не помніў і нічога не разумеў.

Ачуўся ўжо на зямлі: стаіць пасярод святаянніку, а дзеці ўзбуджана цягаюць, тармосяць яго за сарочку:

— Тата, тата, тут жа во з неба толькі што падалі дзве мятлушкі!

— Тата, тата, ты таксама хацеў іх злавіць?

— Тата, тата, а дзе яны падзяваліся? Падалі, і няма...

Ён няўцямна, невыразна і неахвотна адказваў на дзяціныя пытанні, а сам няпэўна, безуважна, як той грак, круціў ва ўсе бакі галавою — нібы і на самой справе хацеў убачыць, дзе ж падзеліся мятлушкі...

І так было ўсё лета.

Колькі ж разоў яны вось гэтак падымаліся ў неба і падалі потым зняможана на зямлю!

І яшчэ былі пісьмы. Праўда, лістоў на выяву не было, былі толькі словы-думкі, словы-разважанні, якія ён, здаецца, счытваў адразу з яе памяці.

«Дзякуй, дзякуй, дзякуй за свята, за добры мой настрой! — летуценіла каханая, і ён адчуваў, якая яна зараз шчырая і цнатлівая.— Дзякуй за тое, што ты мяне кахаеш, дзякуй за тое, што я цябе кахаю! І няхай так будзе вечна. Я шчаслівая, я любімая. Я кахаю, мяне кахаюць — што ў жыцці можа быць яшчэ радасней і жаданей?! Добрай раніцы табе! Я такая ўсё ласкавая і поўная пяшчоты. Я цябе кахаю! Ты мой родны, мой адзіны. Пацалуй, абдымі. Я так засумавала па табе!»

Іншым разам яна задумвалася:

«Мне не спіцца. Апошнім часам мне няма калі думаць. Стамляюся. Мозг становіцца тупы. Сёння я таксама стомленая. Толькі па-іншаму. Адчуванне такое, што я іду над безданню па тонкай кладцы. Таму, канечне ж, не засну.

У нас ёсць многа пра што пагаварыць. Мы ж не пачынаем гэтых размоў. А трэба.

Тваё жыццё. Маё жыццё.

Твая сям'я. Мая сям'я.

Наша жыццё.

Сёння я скажу табе ўсё, што думаю пра гэта.

Як ні дзіўна, але я згодна з тымі, хто лічыць, што, калі ёсць каханне, трэба, каб была і сям'я. А калі без сям'і, то гэта ўжо не каханне, ■ распуста.

Аднак мы з табою людзі разумныя: ты — таму, што сапраўды разумны і прадбачлівы, я — таму, што кахаю цябе. Ты ведаеш, што сям'я — гэта канец кахання. Я ведаю, што сям'я — працяг кахання. Ты не ўяўляеш, якое шчасце наліваць суп галоднаму мужчыну і засцілаць яму ложак. Толькі калі гэтага мужчыну ты кахаеш.

А ты кажаш, што каханне трэба красці...

Канечне, можна ўкрасці каханне, можна, таячыся, нарадзіць нашага сына. І няхай яго выхоўвае чужы бацька. А ці разумееш ты, што чужы бацька тады народзіцца ў маіх вачах сам. А заадно родны бацька змізарнее.

Чуеш, я берагу не толькі сябе.

Я берагу цябе!»

А тады зноў шчымлівыя-шчымлівыя словы, ад якіх нават у яго, мужчыны, расеюць вочы:

«Я выйшла адна на луг, каб пабыць з табою. Не крыўдуй, што выцягнула і цябе на прагулку. Канечне ж, ідзе дождж. Ты ж ведаеш, што я люблю дождж. Чуеш, як ён прыемна лопае па капюшоне? Не чапай, хай ляжыць твой парасон. Не прамокнеш. Вось так нацягні капюшон. Добра? Ну вось бачыш...

Так добра ісці і маўчаць. І думаць. І думкі такія ж манатонныя, як шум дажджу. Палюбі дождж, як ты любіш зімою снег і мяцеліцу!

У сонечнае надвор'е добра ўсім... А ў дождж — толькі некаторым... Ціхі сняжок таксама любяць многія. Дождж жа трэба разумець.

Я не даю табе працаваць. Я не ведала, што так будзе. Раней улічвала, што табе трэба працаваць, а зараз станаўлюся ўсё большай і большай эгаісткаю. І нават вось зараз выцягнула цябе ў дождж, таму што самой прыемна ісці і маўчаць побач з табою.

Жанчына пакутуе, калі яна расчаравалася ў самым галоўным — у сям'і і ў каханні. Бо жанчына заўсёды жыве, і гэта правільна, і гэта нармальна, толькі гэтым. Усё астатняе — справа мужчын. І гэта таксама нармальна. Бо жанчына перастае любіць мужчыну, калі ён заняты адным каханнем. І хаця яна раўнуе яго да Справы, гэтая рэўнасць (не магу падабраць слова) узвышае і жывіць яе Каханне.

Ты думаеш, мы можам некалі ўзненавідзець адно аднаго? Ніколі! Я не ведаю такога пачуцця — нянавісць! Мая бабуля кажа, што ненавідзець — грэх. А бабуля зараз (больш, чым раней, калі я сама была разумненькаю) для мяне вялікі аўтарытэт.

Табе не холадна? А мне чамусьці стала сцюдзёна. У цябе такія цёплыя губы. Вожык ты мой калючы... Не кажы толькі слоў, якія — няпраўда. Я баюся не верыць табе. Для мяне гэта будзе смерць...

Калючая шчака — самая ласкавая на свеце.

Абветраныя губы — самыя пяшчотныя і жаданыя...

Божа мой, колькі званочкаў! Аж звініць усё, нягледзячы на дождж. Яны паапускалі мокрыя галоўкі, каб не налілося вады ўсярэдзіну, каб не адсырэў голас. Чуеш, як звіняць? Я рада, што ты чуеш. Давай нарвём іх і паставім у збанок. Хай звіняць у нашай хаце, якой у нас няма.

А колькі святаянніку. Праўда, на дажджы ён зусім не пахне і не такі прывабны. Я ж ведаю, што ты любіш яго ўсякім. Імкнуся палюбіць яго і я, гэтак жа, як і ты.

А вось мой сімвал — ясень. І сімвал майго поўдня. Сімвал жа тваёй поўначы — елка. Бачыш, якія мы розныя, якія ў нас розныя сімвалы. Твае лясы — яловыя, цёмныя. А мае — ясеневыя, светлыя. Я люблю прыязджаць да свайго Ясеня ўвосень. Тады, калі ён стаіць светлы-светлы, як сонечны дзень. Нават уночы, нават цёмначы...

Але я хачу любіць і тваю елку!

Хадзем дадому. Там утульна і цёпла. Дзеці ўжо спяць. Я павярнуся на бачок, абдыму цябе і моцна-моцна засну. Прашапчы мне калыханку. І пацалуй. І скажы, што кахаеш...

Дзе ты зараз? І чым у гэты час займаешся?

Давай будзем шчаслівымі!

Бесклапотнымі.

Наперадзе бясконцае жыццё.

І я цябе кахаю».

А потым — пранізлівае, як крык:

«Хто я?

Я жанчына, якая аднойчы разам з табою ўбачыла адзін і той жа міраж. Дарога ў пустыні цяжкая. Міраж ратуе мозг. Мозг ратуе цела. І ідзеш, ідзеш да міража. А пустыня бясконцая...

Люблю, люблю, люблю!

А ты ведаеш, як прачнуцца ўночы і адчуць рукою сценку канапы?

Люблю, люблю, люблю!

А ты ведаеш дзікунства і гордасць маёй рэўнасці?

Люблю, люблю, люблю!

А ты ведаеш, як невыносна думаць, што ў нас няма будучыні і ніколі не будзе нашага сына?

Ох, як балюча-балюча-балючанька...

Я не магу так! Чуеш, не магу...

Безвыходнасць — гэта імгненне. Жыццё — гэта вечнасць. Я заўсёды любіла жыццё і раніцу. Дзе ты, раніца?!

Каб ты ведаў, як мне зараз цяжанька і як трэба, каб ты выцер мне слёзы...

А быць бы мне жанчынаю сучаснай і моцнай. І кіраваць бы сабой, як захочацца. Хочаш — працуй, хочаш — весяліся, хочаш ні пра што не думаць — калі ласка, не думай.

Твар у жанчыны, якая многа думае, становіцца шэры, характар — невыносны, старасць — заўчаснай.

Зрабі мой твар вясёлым і свежым.

Характар — лагодным.

Старасць — прагані.

Любі мяне, горды мужчына. Абдымі. Скажы: «Усё лухта».

Мне нельга заставацца адной!

Дрэнна мне ў жыцці, горды мужчына.

Няўтульна і няўпэўнена мне ў жыцці, горды мужчына.

Адзінока і непрыкаяна мне ў жыцці, горды мужчына.

Горна і скрушліва мне.

Ці думаў ты хоць раз пра гэта, горды мужчына?

Мне блага, мне кепска, мне дрэнна.

Сядзь каля мяне, пасядзі. Але ведай: мяне нельга супакойваць і суцішаць словамі, якімі ты супакойваеш і суцяшаеш іншых. Проста пабудзь побач. Мне нельга быць адной.

Чуеш, я не баюся ночы. Я баюся жыцця!»

Вось так: усё лета яе не было з ім і ўсё лета яна была побач.

Сёння каханая павінна прыехаць, і яны, канечне ж, сустрэнуцца.

З раніцы паспрабаваў касіць, але ўжо, зразумела, не касілася. Прайшоўшы пракосы са два, ён старанна выцер травою касу — ведаў, што расстаецца з ёю надоўга, а можа, і назаўсёды,— вярнуўся ў двор і павесіў касу пад страху. Пераапрануўся ў чыстае і, кінуўшы жонцы: «Мне трэба з'ездзіць у Рай» (так ён называў свой невялікі райцэнтр), пайшоў на лясны аўтобусны прыпынак.

Думаў, што як толькі ўбачыць каханую, адразу ж кінецца да яе, сцісне ў абдымках і будзе цалаваць, цалаваць, цалаваць, не зважаючы ні на кога — няхай увесь свет глядзіць і зайздросціць, які ён шчаслівы, што сустрэў яе! А як заўважыў ля возера, дзе яны яшчэ загадзя дамовіліся спаткацца, зніякавеў, засаромеўся, разгубіўся, як хлапчук,— мусіць, ён за лета прызвычаіўся да мятлушкі, а да зямной жанчыны трэба было прывыкаць наноў.

Разгублена стаяў на сцежцы і ніяк не мог скрануцца з месца.

Яна сама, лёгкая і летняя, у тоненькай белай сукенцы, якая ўся прасвечвалася на сонцы, падбегла да яго:

— Добрай раніцы, мой Ясень!

— Добрай раніцы, мая Мятлушка! — зашэрхлымі вуснамі адказаў ён, цнатліва ўзяў каханую за пальчыкі і стаяў моўчкі — любаваўся ёю. Яго вочы прывыкалі да яе вачэй, яго рукі прывыкалі да яе рук, яго дыханне прывыкала да яе дыхання...

Яшчэ ў Мінску, да ад'езду ў розныя вёскі, яны дамовіліся сустрэцца тут, у Раі, ля возера, каб канчаткова вырашыць свой лёс — гэтае раздваенне чым далей, тым здавалася невыносней, хацелася ўжо нейкай пэўнасці, спакою і яму самому.

Калі ёсць каханне — трэба, каб была і сям'я...

Яны знойдуць, вымілуюць сваю сям'ю, пабудуюць кааператыўную кватэру, народзяць свайго сына, якога таксама назавуць цудоўным даўнебеларускім імем — Ясень, і будуць яго выхоўваць самі.

Адсюль вось так, улегцы, пакінуўшы ўсё сваім сем'ям, паедуць яны ў сталіцу, каб на чыстым месцы пачынаць новае жыццё.

Гэта было зманліва, але і трывожна: жыло дзве сям'і, а стане раптам тры. Якою будзе новая, невядомая,— трэцяя?

Яны хадзілі ля возера, жартавалі і смяяліся, але гэтае запытанне бачыў ён і ў яе вачах: якой мусіць нарадзіцца іхняя сям'я?

І ўсё ж, вочы ўспомнілі вочы, ■ рукі — рукі. Яна прытулілася да яго шчакою, яго вусны самі знайшлі ямачку ля куточкаў яе вуснаў, і ўсё знікла — і трывогі, і хваляванні, і недавер: яны сталі тымі ж, як і да гэтага лета,— роднымі, жаданымі, сваімі...

Недзе ўзнікла была думка зноў скінуцца матылямі, каб адчуць ні з чым не зраўнаную насалоду ад лёту, але яна адразу ж здалася такою наіўнаю, дзяцінаю і непатрэбнаю — зараз ім было хораша хадзіць людзьмі.

Узяўшыся за рукі, закаханыя блукалі вакол возера і гаварылі, гаварылі, гаварылі і ніяк не маглі нагаварыцца. Ім было светла, уцешна і шчасліва, і яны гэтага не хавалі — весяліліся, забаўляліся, бегалі, даганялі адно аднаго.

Ішоў час, а яны не бачылі часу.

Вакол віравала жыццё, а яны не заўважалі яго. Нібыта былі, як раней, у небе, а не на зямлі.

І толькі адзін выпадак змусіў іх зноў спусціцца з нябёс, вярнуў да рэчаіснасці і крыху прыцьмеў радасць.

Вялікі бухматы чмель, які доўга, з непрыемна-цяжкім гудам кружыўся каля іх, нечакана кінуўся ўбок і на поўным лёце ўдарыў джалам у самае, мусіць, небяспечнае, смяртэльнае месца бяскрыўдную мятлушку, што каля сцяжынкі ціхамірна сядзела на красцы і заспакоена, не баючыся нікога і нічога, варушыла крылцамі. Ён з нецярпеннем вампіра накінуўся на яе, непрытомную, а можа, ужо і нежывую. Яны разумелі, што трэба як найхутчэй прагнаць драпежніка, але самі, як зачараваныя, як паралізаваныя, адно глядзелі, як ён есць, скочвае ў камячок бялку, каб потым карміць ім сваіх

лічынак, усё тое жывое, што яшчэ нядаўна было прыгожай, рухавою мятлушкай. І толькі калі ўпалі ў траву адкушаныя крылы — такія лішнія і такія непатрэбныя зараз — яны скалануліся, як ад холаду: гэта ж і ім пагражала вось такая небяспека, калі матылямі бескла-потна і заюшана крылялі над пракосамі і нечапанай травою...

Пасля гэтага закаханыя доўга і задумліва маўчалі — аж пакуль на ўзлеску не трапіўся мурашнік, запаволенае, няспешнае жыццё якога крыху супакоіла іх і амаль вярнула ранейшы настрой.

Мурашкі ў поўнай цішыні займаліся сваім адвечным клопатам — хто цягнуў у мурашнікігліцу, хто — нейкую казявачку, хто пера-хоўваў белае яечка, хто спакойна і заклапочана аглядаў сваю ха-ту — нібыта латаў яе, каб уратавацца там ад любога дажджу.

Яны глядзелі на мурашнік, спрабавалі знайсці ў клопатах мура-шоў нейкі большы сэнс, чым само жыццё, і паволі спакайнелі самі, забываючыся на свае турботы.

Паўсядзённыя клопаты — гэта і ёсць жыццё?

А хіба няма ў мурашоў душы, таго, што мы называем пачуццём, ад якога пачынаецца ўсё — радасць, шчасце, каханне?

І сэнс існавання на зямлі, і радасць — толькі ў працы?

Не, чалавеку гэта не падыходзіць! Яму мала адной працы. Ён большы за мураша на цэлую душу. Чалавеку трэба ўсё, што астаец-ца па-за працаю!

І яны зноў ірвалі кветкі, плялі вянкі, смяяліся. І былі шчаслівыя ў нечапанай траве.

— Слухай, а тут жа непадалёку ляснік жыве,— раптам успомніў ён.— Мажэй — мой аднакласнік. Давай зойдзем да яго, пазнаёмім-ся. Вясёлы чалавек! І жонка такая ж. А як яны дружна жывуць!

Хата лесніка стаяла не ў вёсцы, а крыху наводшыбе. Месца было высокае, святліца — новая, з ёмкага смалістага лесу, акон настаўля-на многа, сонца весялілася ў іх ці не ўвесь дзень, і таму здавалася, што сядзіба рада кожнаму, хто праходзіць каля яе.

Яны весела і гаманліва, шумна і бесклапотна адчынілі дзверы ў сенцы, дзверы ў хату і жартаўліва прывіталіся:

— Прымай, шчаслівая і шчодрая хата, нязваных гасцей!

Насустрач ім з непрыбранага ложка падняўся заспаны, нечасаны чалавек з чырвонымі вачыма, абцягнуў, разглядзеў спераду за-шмальцаваную байкавую сарочку, прыгледзеўся, пазнаў аднакласні-ка і сказаў:

— А, гэта ты, Ясень. Праходзь, праходзь.

Яна нічога не магла зразумець: вось гэты чалавек з чырвонымі вачыма і бруднымі, злямчанымі валасамі і ёсць той самы вясёлы ляснік, з якім збіраўся яе пазнаёміць каханы?

— А я толькі во ляжу і думаю, з кім бы гэта за зялёнае святло выпіць, а тут і цябе нячысцік прынёс.

І тут жа нехта не дужа выразным голасам запытаўся:

— Бутэльку прынёс? Бутэльку прынёс?

Ясень азірнуўся, абвёў хату вачыма — нікога, апрача іх, тут не было.

— Прынёс, прынёс,— супакоіў ляснік таго, хто пытаўся.
— Давай вып'ем! Давай вып'ем! — узрадаваўся невідомы.
Ясень зноў азірнуўся, ніякавата пераглянуўся з Мятлушкай — от дзіва, дык дзіва...
Мажэй, убачыўшы, што госці захваляваліся, усміхнуўся:
— Не звяртайце на яго ўвагі — гэта Кік.
— Хто, хто? — перапытаў Ясень.
— Ды папугай мой,— абыякава патлумачыў ляснік.
І тады яны напраўду ўбачылі клетку, якая вісела каля кухоннага стала, а ў ёй зялёнага папугая.
Ляснік выйшаў у сенцы, і неўзабаве на стале з'явілася па-свойску заткнутая газетаю пляшка, кавалак нейкага цёмнага мяса, салёныя баравічкі.
Як толькі Мажэй дастаў са шкафчыка чаркі і паставіў іх на стол, з клеткі шумна вылецеў папугай і ўзрадавана забегаў па стале:
— Давай вып'ем! Давай вып'ем! — як звар'яцелы, крычаў ён.
— Глядзі ты, у цябе і папугай гаворыць?
— У мяне ўсё гаворыць,— не без гордасці адказаў ляснік.— Вось мы ў таго-сяго спытаемся зараз, чаго не хапае ў нас на стале.
Ён зняў крышку з каструлі, перавярнуў яе, абыякава кінуў на стол. І тая, пагойдваючыся, з боку на бок перакочваючыся на дужцы, за якую яе здымаюць, напраўду загаварыла.
— Ну, дык што яна гаворыць? — хітравата спытаўся ляснік.
— Ла-сось, ла-сось,— няўпэўнена адказаў Ясень.
— От, гэтыя гарадскія! Дзе я вам вазьму таго ласося? Крышка ведае, што ласося ў мяне няма, таму і не патрабуе. Яна просіць: «Са-ла, са-ла». Чуеш?
Ясень прыслухаўся лепей: і праўда, крышка выразна гаварыла:
— Са-ла, са-ла...
Ляснік зноў выйшаў у сенцы, унёс у хату ладны кус сала, нарэзаў яго скрылікамі.
— Давай вып'ем! Давай вып'ем! — усё насіўся па стале папугай.
Ён хапаў у дзюбу відэльцы, лыжкі і скідваў са стала. Падбягаў да шклянак, браў іх дзюбаю за абадкі і перакульваў на заплямлены, увесь у крошках, абрус. А затым імчаўся да бутэлькі і раз'юшана трос ля яе галавою — нібыта сварыўся, што яму не наліваюць.
Мажэй спакойна глядзеў на выбрыкі папугая, не злаваўся і не праганяў яго са стала — відаць, прывык да гэтага...
Ён зноў пападымаў чаркі, паставіў іх, наліў гарэлкі, прапанаваў:
— Гэта самагонка на бярозавіку. Далікатэс! Лепей вашых ласосяў. Так што — будзьце здаровы!
Сам жа сваю чарку браць не спяшаўся — з яе якраз адпіваў папугай. Ён мачыў дзюбу ў гарэльцы, затым высока задзіраў галаву і, спяшаючыся, глытаў кроплі, якія скочваліся ў рот. Ляснік дачакаўся, калі папугай адышоўся, узняў чарку, чокнуўся з імі, сказаў:
— Ну, давайце, за зялёнае святло!
І выпіў усё да дна.
Ясень адпіў са сваёй толькі палавіну, але ўсё роўна адразу ж

сп'янеў: гарэлка, хоць і пілася мякка, была моцная, а ён сам — галодны.

— Закусвайце,— папрасіў гаспадар.— Во гэта каўбаса з ласяціны, а гэта — мядзведзіна. Так што частуйцеся.

Яму даўно хацелася паспрабаваць мядзведзіны, але зараз ён не мог яе есці: мяса пахла нечым дзікім і непрыемным, і ўжо толькі ад адной думкі, што тое, што зараз на талерцы калісьці было дзівакаватым таптуном, яно расло ў роце і яго хацелася хутчэй выплюнуць. І ўсё ж ён настойліва змушаў сябе жаваць цёмна-бурыя скрылікі, бо такія далікатэсы здараюцца на стале, канечне ж, не кожны дзень.

Папугай, абнашчыўшыся, мітусіўся па стале яшчэ болей нахабна. Ясень глядзеў на яго, і яму часам здавалася, што яны з гаспадаром мяняюцца месцамі: вось толькі што на крэсле сядзеў Мажэй, а ўжо там сядзіць папугай; вось толькі што на стале бегаў папугай, а ўжо Мажэй мітусіцца паміж талерак і відэльцаў, перакульвае чаркі і высмоктвае з іх кроплі, што засталіся...

— Слухай, а чаму гэта ты гаспадыню хаваеш? — спытаўся, нібы зараз толькі ўспомніўшы пра Мажэеву жонку, Ясень.— Кліч яе сюды.

— Навошта? Хіба нам і без яе дрэнна? Адна жанчына за сталом сядзіць, і хопіць. Так сказаць, для разводу,— усміхнуўся ён, паказаўшы свае жоўтыя, пракураныя зубы.

Пачуўшы слова «развод», Мятлушка аж здрыганулася — яно нібы ўдарыла яе.

— Не, я сур'ёзна пытаюся: дзе твая жонка?

— Дзе, дзе,— незадаволена пачаў бубнець ляснік, а затым, нібыта гэта госць ва ўсім вінаваты, ашчэрыўся на яго: — Ссучылася твая жонка!

Ясень адразу стаў цвярозы — як і не піў нічога. А Мажэй цяжка падняўся з-за стала, пайшоў у кут, дзе стаяла нейкая невялікая скрыначка. Дастаў ключы і калі пачаў адчыняць яе,— Ясень зразумеў, што гэта не скрыначка, а самы сапраўдны жалезны сейф. І пакуль ляснік адмыкаў дзверцы за дзверцамі — колькі ж іх там было?! — Ясень спрабаваў здагадацца, што ж аднакласнік хавае ў такім сакрэце? Сейф быў амаль парожні — ляснік дастаў адтуль усяго толькі невялікі лісток паперы. Вяртаючыся да стала, задумліва расказваў:

— Набыў я неяк у лясніцтве пуцёўкі і паслаў яе з дзецьмі на поўдзень, на курорт. Пабылі яны там, вярнуліся — дзеці загарэлыя, яна задаволеная, шчаслівая. Быццам бы ўсё нармальна. А затым вось гэтае пісьмо. У рыдыкюльчыку яе знайшоў. Адбірала назад, ледзь рукі не павыварочвала... Не аддаў...

Папугай усё яшчэ бегаў па стале, усё крычаў: «Давай вып'ем! Давай вып'ем!», хапаў з рук хлеб, дзяўбаў, што падабалася, з талерак, але на яго зараз ніхто не звяртаў увагі.

— Дык вось паслухайце, што пісаў ёй гэты спакуснік: «Ларыска-кіска! Я кахаю цябе і ўсё ўспамінаю, як нам было хораша з табою, калі спалі ўжо дзеці...»

Ляснік чытаў пісьмо, не заглядваючы ў паперку, і яны зразумелі, што Мажэй ведае яго на памяць.

— Хопіць! — перапыніў раптам аднакласніка Ясень.— Як табе не сорамна чытаць такія лісты! Чужыя пісьмы. А ты яшчэ ўвесь гэты бруд беражэш за сямю замкамі — як самую вялікую каштоўнасць. Спецыяльна для гэтага сейф купіў...

— Дык гэта ж ого які доказ! — злаваўся ляснік, не разумеючы, у чым яго абвінавачваюць.

— Вар'ят! Ну і вар'ят! Зараз жа спалі пісьмо! Выкінь сейф! — крычаў Ясень.

— Сам ты вар'ят! — гнеўна адказваў яму Мажэй.

— Давай вып'ем! Давай вып'ем! — нібы спрабуючы памірыць іх, гарлапаніў папугай.

— Давай вып'ем! — Ясень паўтарыў словы нязвычнага сабутэльніка і наліў самагонкі ў чаркі.

У імгненне вока папугай ужо быў каля ягонай пасудзіны — мусіць, ён заўсёды адпівае ў тых, хто налівае.

Цяпер ужо лесніка пачала распытваць Мятлушка, якая сядзела да гэтага ціха, маўкліва,— не сказала за ўвесь час ніводнага слова.

— Дык вы развяліся?

— Канечне, развёўся. Навошта яна мне такая,— якая «такая» ён не дагаварыў, але ўсе зразумелі, што ляснік хацеў сказаць.

— А той... спакуснік яе ўзяў? — дапытвалася Мятлушка.

— І таму такая не трэба.

— А дзе ваша жонка зараз?

— У бальніцы.

— А што з ёй?

— У яе рак. Ёй выразалі грудзі...

— Божа мой! — усклікнула Мятлушка і зноў замоўкла.

— Не будзеце чытаць? — праз нейкі час спытаўся Мажэй і пашоргаў перад імі пісьмом.

— Не! — у адзін голас адказалі яны.

— Як сабе хочаце. А мне чамусьці здавалася, што вам будзе цікава,— расчаравана сказаў ён і, склаўшы паперыну, нехаця пайшоў да сейфа.

Пакуль ляснік бразгатаў там ключамі, лопаў дзверцамі, замыкаючы іх адна за адною, папугай скідваў са стала відэльцы і ўсё крычаў:

— Давай вып'ем! Давай вып'ем!

Калі гаспадар вярнуўся да гасцей, Мятлушка наліла ў чаркі мужчын самагонкі, капнула крыху сабе і прапанавала Мажэю:

— Давайце вып'ем за вашу жонку. За яе здароўе.

— Што-о-о?! — аж пабялеўшы, зароў ляснік.— Я за гэту... за гэту...— словы душылі яго, і ён ніяк не мог выштурхнуць іх з сябе,— за гэту сучку яшчэ і піць буду?!

Мятлушка зірнула на яго, як на дужа хворага чалавека — не, такі нічога і нікому не даруе. І ўсё ж спакойным, ціхім, зычлівым голасам сказала:

— Вы тут яшчэ пасядзіце, пагаманіце, а я пабягу. А то ж мой прыйдзе з касьбы, есці захоча, а я яму нічога не згатавала...

— Я цябе правяду,— нясмела прапанаваў Ясень.

— Не трэба,— адмовілася яна.— Тут жа недалёка да аўтобуснай — сама дайду.

Мужчыны пасядзелі крыху адны, выпілі яшчэ па чарцы. Мажэй зноў хацеў завесці размову пра здраду жонкі, без жанчыны пачаў лаяць яе з апошніх слоў — божа мой, во якое балючае яно, адзінства любові і нянавісці! — але Ясень спыніў яго і сам пачаў развітвацца...

Зараз ён быў перакананы, што Мятлушка ніколі не прыляціць на яго пракосы.

Ясень выйшаў з хаты і пайшоў напрамкі, не разбіраючы — куды вочы глядзяць.

Была ўжо восень.

Дрэвы стаялі амаль што голыя — зрэдзь дзе гарэла апошняе жоўтае лісце.

Ён ішоў наўпрост, па нейкіх лугах і палях, па нейкіх узрэччах і пералесках, і нічога не бачыў і нічога не чуў.

Вецер чапляўся да яго, і з ім на пару яму лягчэй было ісці.

Заходзіла сонца, і ўжо халодныя промні амаль паралельна падалі на заражоную зямлю.

Ён ішоў, не выбіраючы шляху, і раптам, нечакана нават для самога сябе, спыніўся. Яшчэ не ведаючы, што перапыніла яго цяжкія думкі і не лягчэйшую ад іх хаду, Ясень зірнуў наперад і аж зажмурыўся ад светлаты.

І чорныя, узараныя ўжо на зіму палі перад ім, і цёмна-зялёныя, пакошаныя лугі, кусты, платы і дарогі, кожная травінка і кожны парастак — усё, здаецца, да самага сонца было пакрыта срэбнымі павучынкамі. Промні высвечвалі іх, яны іскрыліся, асабліва зіхацелі на чорнай зямлі, і таму здавалася, што гэта ніякія не павучынкі, а карункі самай тонкай і ўмелай работы.

Павучкі ляцелі якраз у той бок, куды ішоў і ён.

За імі цягнуліся даўгія павучынкі, якія не давалі падарожнікам заўчасна ўпасці на зямлю, і павучкі, трымаючыся за іх, амаль не вяслуючы, плаўна кудысьці плылі і плылі.

Ён спыніўся каля аднаго з іх, спытаўся:

— Куды яны ляцяць?

— Не ведаю.

— А ты куды?

— Куды і ўсе,— тужліва прызнаўся павучок.

Ясень прыладзіўся да гэтага павучынага выраю, выпусціў даўгую-даўгую павучынку і сам, дробненькі, несамавіты, амаль з макавае зерне, ледзь-ледзь махаючы маленечкімі празрыстымі крылцамі, якія тут жа з'явіліся ў яго па баках, як роўны між роўных, паляцеў разам з імі, бо і ён таксама не ведаў, куды яму зараз трэба ляцець.



# ТЫЯ, ШТО ІДУЦЬ

Людзі ішлі неяк нязвычна — быццам плылі ў вадзе ці, наадварот, рухаліся ў беспаветранай прасторы, у бязважкасці. Яны асцярожна, як сляпыя, ставілі на зямлю ногі, кіраваліся па дарозе няспешна, абачліва, выстаўляючы перад сабою рукі, сустракаліся імі, дакраналіся далонямі, пальцамі, разыходзіліся, каб неўзабаве зноў сустрэцца, толькі ўжо з іншымі далонямі і іншымі пальцамі.

Ішлі павольна, не спяшаючыся, але, нягледзячы на гэта, рух іхні быў вельмі ўпэўнены і пераканаваны.

Ён таксама выставіў перад сабою руку, і нібыта і сам нічога не бачыць, нібыта і сам шукае чужой далоні, пайшоў да іх у натоўп, пачаў гэтак жа, як і яны, мацаць перад сабою паветра. Але дзіва — ягоная рука ніяк не магла сустрэцца ні з якою іншаю: тыя далікатна абыходзілі яе, абміналі, ухіляліся ад дотыку, і яму нават здавалася, што нейкая невядомая сіла настойліва распіхвае, адштурхоўвае іх у розныя бакі. Самі людзі таксама рухаліся вельмі лёгка, суладна і акуратна — ні з кім ён не сутыкнуўся, ніхто не наступіў на ногі: у такім натоўпе людзі не заміналі яму, і ён ішоў, нібыта ў пустаце, нібыта быў адзін на ўсёй гэтай тлумнай дарозе.

Нечакана апынуўся побач з сівым, аж белым ад сівіны дзедам, спрэс зарослым валасамі — яго пышныя вусы незаўважна пераходзілі ў густую бараду, якая звісала як не да самых каленяў. Гэты Барадзень, вельмі падобны на Белабога, быў моцны, дужы, і па ўсім відаць, не зважаючы на свае гады, хутчэй за ўсё на здароўе не скардзіўся. Белыя, пушыстыя валасы, якія аточвалі яго галаву, свяціліся і праменілі, нібы німб, асвятляючы натхнёны твар старога.

Чужому ў натоўпе падалося, што Белабог шукае менавіта ягоную руку. Той ласкава, нібы вывучаючы нешта, гладзіў каля яе паветра, пакуль незнаёмы сам не падсунуў яму, нарэшце, сваю далонь.

Рука старога даверліва адгукнулася на дотык, узрадавалася сустрэчы, неяк з надзеяю сціснула яму пальцы, і яны абодва дружна пайшлі поплеч — як усё роўна век-векам ведалі адзін аднаго.

Рука таксама, як і сам Барадзень, была моцная, верная, надзейная, яна, здавалася, струменіла, аддаючы яму, нейкае спакойнае і той жа час неўтаймаванае святло.

Ісці са старым было лёгка, упэўнена і радасна,— нібыта ён кожнага, хто быў побач, зараджаў сваёй таямнічай энергіяй.

Незнаёмы доўга любаваўся яго мудрым, адухоўленым тварам, а калі захацеў убачыць раптам вочы старога,— жахнуўся: той быў сляпы! Шчыльна заплюснутыя павекі, калі глядзець толькі на іх, змушалі думаць, што Барадзень спіць.

З цікавасцю разглядаючы і іншых з натоўпу, тых, хто быў бліжэй, Незнаёмы спачатку ўзрадаваўся, што ва ўсіх іх блішчаць блакітныя вочы, і тут жа засмуціўся — вочы, як шкляныя гляздзелі, не міргаючы, і, канечне ж, таксама былі невідушчыя.

Дык вось чаму так нязвычна ідуць гэтыя людзі!

Трымаючы за руку Незнаёмага, лёгка знаходзячы дарогу ў такім шчыльным і цесным натоўпе, Белабог без асаблівых намаганняў вёў яго між сваімі. За свайго хутчэй за ўсё прымаў стары Незнаёмага і толькі, мусіць, дзівіўся, што чалавек паводзіць сябе крыху дзіўнавата, не так, як усе яны.

Сляпы вёў відушчага! Быццам бы якраз ён усё бачыў, а не той, хто меў чыстыя і жывыя вочы.

Відушчы, баючыся, каб не раскрылася яго таямніца, прыкідваўся, што ён такі ж, як і ўсе, і стараўся ўсё рабіць так, як рабілі іншыя — і ішоў, нібы ў вадзе, і нагамі абмацваў сцежку, і выстаўляў рукі наперад. Але ж ён бачыў! Бачыў і дарогу перад сабою, і кожную ямінку, якую трэба абыходзіць, і кожны каменьчык на ёй. Яму самому карцела весці старога, каб прасцей абмінаць перашкоды, лепш знаходзіць прасветы між людзей, але ён стрымліваў сябе — не хацеў яшчэ больш абуджаць падазрэнне, бо думаў, што яны і так адчуваюць ягоны падман.

А калі раптам Незнаёмы, добра бачачы дарогу, усё ж хацеў быў памагчы Белабогу абмінуць яміну са свайго боку, рука старога незадаволена тарганулася і настойліва павяла яго ў іншы бок — яны абышлі перашкоду менавіта так, як было зручней і як хацелася сляпому.

Па дарозе ім трапіўся вялікі, магутны, векавечны дуб — стары, нібы знарок, вёў чалавека якраз на яго. І калі ўжо дрэва было зусім блізка, калі здавалася, што вось-вось стукнешся лбом у яго шурпатую кару, Незнаёмы інстынктыўна страпянуўся, адхінуў галаву і хацеў саступіць убок. Барадзень тут жа ўмела, зноў па-свойму, абышоў дуб і абвёў каля яго Незнаёмага, але пасля гэтага ягоная рука аслабла і зрабілася крыху абыякавай: Белабог, мусіць, здагадаўся, што той, хто ідзе побач, не іхні — ён усё бачыць!

Незнаёмы адчуваў, што з рукі старога, які пэўна быў у племя за Валадара, стукаецца штосьці ў яго руку, што Белабог пасылае яму гэткім чынам нейкія сігналы, падобныя на словы, нешта гаворыць, але што — не ведаў і таму не мог нічога адказаць. Ён проста, каб усё ж паказаць, што сёе-тое разумее, каб хоць неяк азвацца на размову, злёгку пацiснуў Валадарову руку. Аднак гэтым і зусім выдаў сябе — такое, мусіць, было дужа прымітыўным для рукі, якая гаворыць, і Незнаёмы адразу ж адчуў, як пачужэла шурпатая далонь старога.

Пасля гэтага зразумеў, што людзі, якія ідуць у гурце, не толькі сляпыя, але яшчэ і нямыя — яны гавораць між сабою адно пры дапамозе рук.

Шчырая і даверлівая зусім нядаўна рука Валадара зараз усё чужэла і чужэла,— ён ужо нават адчуваў яе непрыязнасць — пакуль, нарэшце, зусім не саслізгнула з ягоных пальцаў: Белабог, каб не замінаць, саступіў крыху ўбок, а затым адзін пайшоў, як паплыў, наперад.

— Вазьміце і мяне з сабою! — забыўшыся, што ён тут не адзін, што вакол яго людзі, у роспачы закрычаў адрынуты ўслед Валадару, але той не звярнуў аніякай увагі на гэты крык — як ішоў, так і пайшоў далей.

І ніхто з усяго племя нават не павярнуў галавы на голас, які раскаціўся па ўсім наваколлі і вярнуўся рэхам, ніхто не зірнуў у яго бок, ніхто нічога не адказаў яму — усе, занятыя сваім клопатам, абыякава паплылі наперад, абмінуўшы яго з усіх бакоў і вышалушыўшы з гурту, як штосьці чужое і непатрэбнае.

І тады Незнаёмы зразумеў, што яны ў дадатак да ўсяго яшчэ і глухія.

Ён стаяў адзін на дарозе і незразумела — ці то зацікаўлена, ці то здзіўлена — глядзеў, як усё далей і далей адыходзяцца ад яго людзі...

Гэты натоўп ён убачыў выпадкова. Закінуўшы за спіну плячак, крочыў у іншы бок, на сваю дачу, калі наперадзе заўважыў спачатку вялікі пыл, а пасля і людзей, якія ішлі насустрач яму па дарозе.

Грамада была бязмежная, яму здалося, што яна растопча яго, калі не збочыць, і ён саступіў убок, на траву.

Яны ішлі каля яго вельмі доўга.

Упэўнена, хоць і запаволена, ступалі ў дарожны пыл ногі, варушыліся, то з'ядноўваючыся, то раз'ядноўваючыся, рукі, праплывалі спакойныя і, здавалася, нежыццёвыя — ніводная жылка не зварухнецца! — твары.

І што было асабліва нечакана, дзіўна,— хоць пыл, у якім ішла грамада, вісеў густы і цёмны, стаяў непранікліваю сцяною, самі людзі заставаліся незапыленыя: іхнія твары і апраткі здзіўлялі сваёй белізною, чысцінёю і свежасцю: пыл, аказваецца, не прыставаў да іх!

Над імі лятаці самалёты, каля іх жыхалі грузавыя і легкавыя машыны, смуродна фыркалі матацыклы, ехалі на конях і веласіпедах паязджане, а яны не бачылі і не чулі гэтага: усе былі заняты дарогаю, ішлі павольна і спакойна, абыякія да ўсяго, што адбываецца па-за імі,— не абураліся і не захапляліся нічым. І гэтае чужое жыццё таксама, як і пыл, не прыставала да іх — яны жылі нібы ў нейкім іншым вымярэнні.

Ён тады яшчэ не ведаў, што людзі, якія ішлі паўз яго,— не бачаць. Гэта пасля Незнаёмы здзівіўся такому жахліваму адкрыццю: усе яны сляпыя.

А яшчэ пазней зразумеў: яны і нямыя.

І ўрэшце здагадаўся: яны і глухія.

Але ж куды людзі ідуць — чаго хочуць і чаго так настойліва дамагаюцца дарогаю?

Здалося нават, што гэта ідзе нейкі цэлы народ — зняўся з даўно наседжанага месца і ўлегцы, нічога не ўзяўшы з сабою, пайшоў у свет.

Яму тады ж захацелася як мага хутчэй утачыцца ў гэты нязнаны народ, прыкінуцца сваім ці напраўду прыжыцца ў ім, пайсці поплеч, калі не да канца, то хоць бы прапыліць разам колькі дарог і пераскрыжаванняў, каб даведацца, куды і навошта яны ідуць?

Тады ён і выставіў наперад рукі, рашуча ступіў у незнаёмы натоўп і, паправіўшы плячак за спіною, пайшоў з гуртам, хоць гэта і было яму не па дарозе.

А зараз вось той самы натоўп вышалушыў прыблуду, як штосьці непатрэбнае, абмінуў і далей пайшоў ужо сам сабою, без яго.

Незнаёмы бачыў, як Белабог, пагладзіўшы, памаліўшы, нібы экстрасенс, паветра перад сабою — лінія зямлі і лінія неба, лінія жыцця і лінія смерці, лінія цела і лінія душы — лёгка знайшоў руку хлапчука, што бегаў побач, і яны, малы і стары, пайшлі разам, быццам самыя даўнія сябры. Гэтае яднанне рук — канечне ж, яны гаварылі між сабою, канечне ж, стары, карыстаючыся выпадкам, спрабаваў перадаць малому тое, што ведае сам, навучыць яго мудрасці жыцця,— злавала Незнаёмага, і яму было зайздросна і крыўдна, што Барадзень не прыняў ягонай рукі, аддаўшы перавагу нейкаму падшыванцу.

Ён яшчэ крыху пастаяў, падумаў. Дык што, яго адрынулі, і ён так нічога і не даведаецца? Дык што, ён так і пойдзе сваёю дарогаю, на дачу, быццам і не было ў яго гэтай нечаканай сустрэчы? А раптам тут, у дзіўным, неверагодным натоўпе, хаваецца нейкая невядомая яму ісціна, дзеля якой варта жыць і варта ахвяраваць усім астатнім? А што, калі гэтая сустрэча важней за ўсё на свеце?! Якая мэта вяла яго па дарозе толькі што, перад сустрэчай з гэтымі людзьмі? Проста чалавек спяшаўся на сваю дачу, каб паліць агуркі — доўга не было дажджу, і ён трывожыўся, што пасохне агурочнік. Божа мой, якая гэта дробязь! У параўнанні вось з такім рухам, у якім ён адчуваў сілу, веліч, таямніцу і нешта яшчэ большае, пра што можна было толькі здагадвацца.

Ён махнуў рукою — бог з ім, з агурочнікам: няхай сохне! — паварушыў лапаткамі, зручней укладаючы на спіне плячак, і пайшоў у другі бок ад дачы — даганяць таямнічы натоўп.

Грамада адышлася яшчэ не дужа далёка, таму зрабіць гэта было зусім няцяжка.

Дагнаўшы, Незнаёмы паспрабаваў быў зноў неяк увайсці з людзьмі ў кантакт і, ужо ведаючы, што без рук гэта немагчыма, што рукі тут — самае галоўнае, яны — і вочы, і вушы, і голас гэтых вандроўнікаў, пачаў набліжаць да іх свае далоні, але тыя, як і перад гэтым, не заўважалі ні яго самога, ні ягоных памкненняў — нібыта нікога ля іх не было. Праўда, дзяўчаты і маладыя жанчыны, якім ён таксама асцярожна спрабаваў падсунуць рукі, непрыемна шарахалі-

ся, як ад нечага брыдкага, халоднага ці мокрага, адсланялі свае далікатныя далонькі і самі спяшаліся хутчэй адысціся куды-небудзь убок.

Зразумеўшы, што гэтыя людзі не прымуць яго у свой гурт, ён перастаў дамагацца іхняй увагі і пачаў уважліва разглядаць, вывучаць натоўп. Ужо ведаючы, што яны не бачаць, не чуюць і не гавораць, рабіў гэта спакойна і адкрыта, не таячыся і не баючыся нікога.

Чым лепш пазнаваў гурт, тым больш разумеў, які гэта моцны народ, што кінуў свае звыклыя вёскі і гарады і вырашыў ісці нешта шукаць.

Народ гэты, на думку Незнаёмага, належаў да племя хлебаробаў. Мужчыны ўсе плячыстыя, дужыя, цягавітыя, з цяжкімі, жылістымі ад працы рукамі — канечне ж, за сяброў ім заўсёды былі ці то сякера, ці то каса, ці то плуг. Жанчыны — прыгожыя, зграбныя, вабныя, але спрацаваныя: і жаць яны, вядома, умеюць, і ткаць, і шыць, і палоць, і кароў даіць... І, безумоўна,— дзяцей раджаць: вунь колькі іх топчацца, таўчэцца пад нагамі ў племя і колькі ў матак на руках! А дзяўчаты! Прыгажуні! Іх хоць куды — хочаш на выстаўку, хочаш на конкурс прыгажосці пасылай, а хочаш — проста працы аддай: лён палоць ці сена варушыць. Усюды яны будуць прыгожыя, усюды ад іх не адвядзеш вачэй. Каралевы зямлі! Доўгія льняныя валасы і блакітныя-блакітныя, як роднае неба, вочы. І самі — такія ўжо беларусенькія! А дзеткі? І жвавенькія, і дапытлівенькія, і разумненькія. Толькі нейкі не дзіцячы, дужа дарослы сум у вачанятах стаіць — ці то ад пастаяннай дарогі, ці то, можа, ад якой іншай бяды.

Ён углядаўся ў кожнага чалавека і бачыў, што гэта ідзе сапраўдны, праўдзівы народ. Сярод яго не было калек і вырадкаў, не было, здаецца, і прайдзісветаў — ці то яны не пайшлі разам з іншымі, ці то па дарозе адышліся, зламаліся, зніклі.

Тут ішлі толькі гожыя і чыстыя душою вандроўнікі. Ішлі людзі розных прафесій: цеслі і трактарысты, муляры і касцы, настаўнікі і даяркі, інжынеры і мастакі, гарманісты і печнікі, спявачкі і цялятніцы, пчаляры і бондары, міністры і конюхі... Ён пазнаваў іхнія прафесіі па нейкім нязначным узмаху рукі, па кіўку галавою, па звычным характэрным руху, па паставе ці нават па паходцы. Гэта і праўда была дзяржава — спыняйся ў любым месцы, сяліся, будуйся, і яна адразу пачынае жыць і працаваць.

Сонца ўжо заходзіла. Адсюль, з пылу, узнятага столькімі нагамі, яно бачылася невыразна — нібы ў шчыльным засціле. Людзей не цікавіла, відаць, і гэта, бо яны ішлі спакойна, не зважаючы на блізкі вечар. Вось што значыць нічога не бачыць — калі б бачылі, ужо даўно б захваляваліся: а ці паспеем да вечара дайсці? Дзівак! А куды дайсці? Навошта спяшацца, калі яны ўвесь час ідуць?

Чакай, чакай, а можа, сам рух і ёсць іх жыццё, а канчатковы вынік — нішто? Не, не можа такога быць — сэнс любой вандроўкі якраз у завяршэнні: куды і з чым ты прыйдзеш?

Калі сонца зайшло, людзі, нібы па якой камандзе, збочылі з дарогі. Усе, хто дзе спыніўся, там і асунуліся на зямлю.

Ноч умомант — так раптоўна бывае гэта толькі на поўдні, а не ў нас, на поўначы,— упала на зямлю і адразу ж прыціснула сабою ўсё, што апынулася пад ёю. Стала зусім цёмна. Праз якую хвіліну ўжо нічога нельга было разабраць, адрозніць, дзе зямля, а дзе неба, дзе трава, а дзе людзі, якія ўлегліся на ёй начаваць.

Прачнуўся ён ад яркага сляпучага сонца. Яно біла проста ў вочы, і таму яму не хацелася адплюшчваць іх — ведаў, як балюча будзе зрэнкам. Доўга ляжаў не варушачыся, прыслухоўваючыся, успамінаючы дзіўнаваты ўчарашні дзень, дзіўнаватую грамаду, утомную дарогу, і яму здалося, што ўсё гэта ён бачыў у сне...

Навокал было ціха-ціха. Цішыня насцярожвала: столькі людзей спіць побач, аднак не чуваць ніводнага руху, ніводнага ўздыху, ніводнага шораху.

Таму, калі ў траве, ля самага вуха нечакана загуў чмель, ён аж здрыгануўся — такім прарэзлівым і гулкім здаўся ў цішыні гэты гуд: нібыта шум аўтамабіля, які вось-вось наедзе на цябе.

Ускочыў на ногі і, адвярнуўшыся ад сонца, расплюшчыў вочы. І неймаверна здзівіўся: каля яго нікога не было. Яшчэ не выпрасталася прымятая, улежаная трава, але людзей навокала не відаць. Яны падняліся і пайшлі, пэўна, да сонца — іх лежбішчы нават паспела прыцерушыць ранішняя раса.

Сярод поля і лугу ён стаяў адзін. Грамада і зараз абышла яго, абцякла, пакінула, выціснуўшы з сябе, як нешта чужароднае.

Чалавек азірнуўся. Дзіўна, учора ўвечары ён, стомлены, не заўважыў, што спыніліся яны начаваць каля нейкай вялікай вёскі. Вёска стаяла дыхтоўная, новая, нават крыху яшчэ не дабудаваная: у асобных вокнах не ставала шыбаў, дзе-нідзе не былі зашыты франтоны, не дароблены ганкі, веснічкі. Але вёска выглядала гатоваю — у яе можна было хоць сёння засяляцца і жыць. Праўда, дзівіла толькі тое, што нідзе не відаць ніводнага чалавека — ці то вёска сама па сабе і нараджалася ўжо такою мёртваю, нежылою, ці то яе пазней пакінулі людзі, якім яна чымсьці не спадабалася.

Ён яшчэ пастаяў, падумаў над гэтаю неспадзяванкаю, а тады ўзняў з зямлі плячак, дзе былі сякія-такія дачныя прычындалы,— ён уночы ляжаў пад галавою — і зноў пайшоў даганяць грамаду.

На дарозе, хоць па ёй і прайшло столькі людзей, не асталося ніякіх слядоў. Але Незнаёмы і без слядоў ведаў, у які бок падаліся вандроўнікі — яму як усё роўна нехта невідомы падказваў, як і куды трэба кіравацца.

Грамаду ён дагнаў, калі яна, выйшаўшы з лесу, абгінала вялікае, топкае і дрыгвяністае, балота. Уяўляецца, як бы павінна была хлюпаць і цвякчэць твань пад столькімі нагамі, але ён, колькі ні ўслухоўваўся, нічога не чуў,— людзі ішлі ў поўнай цішыні, бясшумна пераскоквалі з купіны на купіну, без аніводнага гуку выцягвалі з багны ногі.

Усіх дзяцей, каб яны не паправальваліся ў прорвы, пабралі на

рукі — і мужчыны, і жанчыны: ніводзін карапуз зараз не круціўся пад нагамі. Яны тузаліся на руках, мусіць, прасіліся далоўкі, спрабавалі злезці самі, але бацькі трымалі іх моцна — ніхто пакуль што не думаў нават ссаджваць дзяцей на зямлю. А да гэтага ж малечы няўтомна бегалі па траве і дарожным пыле, насіліся, як і ўсе дзеці на свеце — толькі бязгучна — паміж дарослымі.

Мужчыны лагодна і ласкава апекаваліся жанчынамі, далікатна падавалі ім рукі, пераносілі з купіны на купіну, памагалі абысці небяспечныя, макрэйшыя імшарыны. Праўда, Незнаёмы паспеў заўважыць, што мужчыны і тут такія ж, як і ўсюды: яны завіхаюцца каля маладых і прыгожых жанчын, там збіраецца шмат — цэлы рой рук, і ўсе яны — сама ўвага і тактоўнасць, а каля старэйшых — амаль нікога няма, і ім самім даводзіцца скакаць праз багну. Калі ўпадзе касынка ў маладой — усе мужчыны хутчэй кідаюцца дапамагчы прыгажуні, а хусцінку старой ніхто і не думае падымаць, каб зноў ускінуць яе на плечы. Успомніў жонку, якая асталася ў тым жыцці. Як яна ненавідзіць усіх мужчын! «Іхняя канстытуцыя, кажа, прымітыўная, яна не цікавая зусім і ніяк не можа зраўняцца з нашай, жаночай».

А самі жанчыны? Іхнія далонькі, іхнія пальчыкі, канечне ж, ахвотней і жаданей цягнуцца да тых, хто ім падабаецца, каму яны сімпатызуюць. І тут іншы мужчына стаіць, стаіць, высоўвае, высоўвае наперад рукі, спадзеючыся, што якая козачка скокне да яго ў абдымкі, а яны не проста бачаць тое — усё да прыгажэйшых ды паглядных далонькі свае працягваюць. Стаіць такі, стаіць, а тады махне рукою і пойдзе, унурыўшыся, пераносіць праз твань якуюнебудзь старую ці непрыгожую.

Можа, і праўда ў мужчын нешта нейкае з канстытуцыяй?!

Незнаёмаму вельмі ж хацелася, каб і яго прынялі ў грамадзе за свайго. Ён таксама высоўваў наперад рукі, але ніхто зноў жа не дакрануўся да іх, ніхто ні з дзяўчат, ні са старых нават не зірнуў у той бок. Яго прысутнасці, здаецца, не заўважалі, яны існавалі нібы ў розных светах і вымярэннях, і ён ужо сам сабе згадзіўся з думкаю, што ім ніколі не паразумецца, як, скажам, не паразумецца воблаку і матацыклу. Хто б з такіх што ні гаварыў, іншы ніколі не зразумее: усё ў іх рознае, і нідзе нішто нават не перакрыжоўваецца.

Балота, якое трапілася на шляху грамадзе, было ёй за надзвычайнае становішча, дзе найлепей праяўляліся асаблівасці людзей і дзе іх вельмі добра было назіраць.

Незнаёмы зусім асмялеў. Ён, ведаючы, што людзі нічога не бачаць і не чуюць, смела хадзіў між імі, гучна смяяўся, гаварыў, пасвойму тлумачыў іхнія паводзіны і нават самаўпэўнена падказваў, што і як ім лепей рабіць. Гэта было дзіўна, недарэчна і смешна: ён гаворыць адно, а людзі робяць зусім іншае, не зважаючы на яго падказкі. Ад свае бездапаможнасці, ад немагчымасці што-небудзь змяніць ці паправіць у гэтай грамадзе, ён злаваўся яшчэ болей, а таму крычаў прарэзлівей і адчайней.

Калі ж выйшлі з балота на цупкую, утрамбаваную машынамі дарогу, людзі зноў паспакайнелі, пассаджвалі з рук дзяцей і ішлі зараз зноў як у нейкім несапраўдным, запаволеным сне.

Разам з імі паспакайнеў і ён сам.

Дасюль яму здавалася, што племя, між якога ён ішоў, усё на адзін твар — гэтак жа, як на першы погляд на адзін твар выглядае кожны народ: што ні аблічча — той жа самы чалавек.

А вось гэтае блуканне па балоце дапамагло яму ўбачыць у грамадзе прыгожых і непрыгожых, тонкіх і тоўстых, задумлівых і расьмяяных, спакойных і рухавых, пераканацца, якія яны ўсе розныя і непаўторныя.

Незнаёмы вылучыў нават самую прыгожую жанчыну, гэтакую Міс Грамада, і хутчэй за ўсё не памыліўся. Каля яе заўсёды ласкава і далікатна кружылася, як у танцы, мноства рук, а яму было чамусьці боязна, каб і яе, як, да прыкладу, нашых каралеў прыгажосці, не зняважылі якой-небудзь непрыстойнасцю.

Прыгажуня ж залётнікаў не баялася. Яна з усімі была вельмі роўнаю і нікому не аддавала перавагі.

За час блукання па балоце Незнаёмы заўважыў і зразумеў, хто каму сімпатызуе, хто каго любіць, хто каго раўнуе і хто каго пабойваецца. Адчуў, што ў некаторых рэўнасць была адчайнай і выклікала нават шал. Вядома, тут, у дарозе, адзінаю, мусіць, прычынаю звадаў і злосці магла быць толькі жанчына.

Людзі нічога з сабою не неслі — ні ў руках, ні на плячах,— а таму галоўным скарбам, з-за якога пачыналіся ўсе разлады і непаразуменні, было, мусіць, каханне.

Зразумела, даўней, яшчэ да таго, як яны падняліся і пайшлі, у іх, канечне ж, былі і свае сваркі па іншых прычынах, і свае нелады, калатнеча — скажам, з-за зямлі, з-за каровы, з-за хаты. Але ж у дарозе сёе-тое загаілася, сёе-тое зусім забылася, бо, як ён зразумеў, у іх зараз з'явіўся самы, пэўна, галоўны і самы важны клопат — ісці.

У дарозе час яму не доўжыўся, не бавіўся.

Ён разглядаў людзей, між якімі ішоў, спрабуючы здагадацца, як хто жыў да гэтага паходу, чым займаўся, чым рупіўся; імкнуўся падзяліць, расчляніць натоўп на сем'і, на маладых і сталых, на мудрых і не зусім, на працавітых і ляных. Ніяк не мог разабрацца з дзецьмі — чые яны, хто іхнія маткі: уся малышня аднолькава ліпла да ўсіх жанчын, а тыя, кожная, як роднага, як свайго, лашчылі і песцілі ўсіх вісусаў.

У гэтым народзе, як звычайна бывае ў кожным мудрым і векавечным народзе, усе мужчыны былі мужныя і строгія, усе жанчыны — ласкавыя і пяшчотныя.

У цікавых назіраннях за незнаёмым народам выпадковы чалавек і не заўважыў, як мінуўся дзень. Колькі яны прайшлі, у які бок кіраваліся, ён не ведае і не помніць — спадарожны ішоў, нібы ў сне, сам рух для яго быў механічны — ён толькі перастаўляў ногі, і ўсё. Затое якая прастора была думаць, супастаўляць, разважаць!

І толькі тады, калі зайшло сонца і грамада, збочыўшы з дарогі,

пачала атайбоўвацца на ноч. Выпадковы адчуў, як стаміўся. Вельмі хацелася спаць, аднак ён рабіў усё, каб не заснуць,— карцела пабачыць, як гэтыя людзі кладуцца і як яны потым раніцою ўстаюць: ці гэта ў іх атрымліваецца само сабою, інстынктыўна, ці, можа, нехта ўсё ж дае які знак альбо кліч. Але як, якім чынам можна даць той кліч, калі людзі не бачаць, не чуюць і не гавораць?!

Як можна, не бачачы, не гаворачы і не чуючы, згаварыцца, устаць усім адначасова і адначасова пайсці?

Таму ён трымаўся, як мог, адганяў санлівасць і, усё пазяхаючы, спрабаваў разглядзець у пракаветнай цемры, што робяць людзі, як яны засынаюць. Але ўбачыць гэта было немагчыма: цемра была непранікальная.

Мусіць, ад таго, што ён так пільна, напружваючыся, углядаўся ў яе, змагаўся са сном, яму яшчэ болей хацелася спаць. Выпадковы і сам не заўважыў, калі і як праваліўся ў гэтую вязкую чарнату і знік.

Прачнуўся ён зноў жа ад нейкага святла — як усё роўна хто павярушыў яго. Было ціха-ціха. Падумаў, што і на гэты раз усё праспаў — пэўна, сонца ўжо ўзышло, а ён, як і перад гэтым, адзін ляжыць сярод лугу, у роснай, а таму і халаднаватай, траве. Аднак святло было не вельмі яркае, і гэта яго дзівіла. Ён паволі адплюшчыў вочы і здзівіўся яшчэ болей.

Усё наваколле было заліта матавым, нібыта месячным, святлом — здалося нават, што над лесам вісіць поўня. Святло струменіла, яно было спакойнае, няяркае, як прывіднае ўсё роўна, але ў ім усё дужа выразна бачылася.

На полі працавалі людзі. Тыя, з якімі ён ішоў. Поле было шырокае, і на ім хапала месца ўсім. Адны на сытых і дагледжаных конях аралі, уздымаючы аблогу, другія скарадзілі, трэція сеялі. Ён прыглядаўся ў надзеі ўбачыць дзе-небудзь які трактар, аўтамашыну ці сеялку, але нічога з гэтых прылад цывілізацыі на полі не было відаць. Людзі сеялі старым, даўнавечным спосабам, відаць, забыўшыся, што над светам ужо даўно шуміць такі позні, аж дваццаты, век.

Канечне, гэта быў народ, з якім ён ішоў і які хацеў зразумець. Спакойна, не спяшаючыся, але з ахвотаю людзі рабілі кожны сваю працу: сёй-той, каго ён ужо ведаў у твар, шмаргаў лейцамі, падварушваючы коней, якія і так не засыналі ў баразне; іншыя, моцныя і цярплівыя, неслі на плячах, узяўшыся за хахлы, цяжкія мяхі з зернем — неслі да сявалак; а самыя вопытныя, набіраючы поўныя жмені зерня, з радасцю аддавалі яго зямлі.

Сярод сейбітаў, канечне ж, вылучаўся Белабог; і постава яго змушала, абавязвала быць Галоўным Сейбітам, і жмені ў яго былі большыя, і зерне ляцела далей і клалася раўней — Прыгажуня, якая ляшыла яму, ледзь паспявала за спорнаю і размашыстаю хадою Валадара.

І ўсё гэта тым больш здавалася няпраўдзівым, што на полі не чуваць было ніводнага гуку, ніводнага крыку, ніводнага шораху.

Хоць бы хто на каня ўзлаваўся ды «нокнуў» як след, хоць бы якая пуга ляснула ці вылаяўся хто, хоць бы хто кракнануў, скідваючы з плячэй цяжкі мяшок. Не, навокал было ціха-ціха, і ад гэтай цішыні аж ламіла ў вушах. Калі Выпадковы заплюшчваў вочы, каб праверыць сябе, яму здавалася, што ўсю гэтую сяўбу ён проста прыдумаў,— не можа ж і напраўду працаваць столькі людзей, нічым не азваўшыся, нічым не выдаўшы сябе. Але як толькі адплюшчваў вочы зноў, відзежа паўтаралася і змушала паверыць у сваю праўдзівасць: працуюць! І поле асветлена, і людзі працуюць!

Ці не гэтая цішыня зусім неспадзявана зноў зморыла яго на сон. Ён не паспеў заўважыць, калі заснуў — як усё роўна нехта закрыў яму павекі і сілаю не даваў іх расплюшчваць, пакуль не супакоіцца.

Прачнуўся, як заўсёды, адзін. Навокала зноў жа было ціха-ціха.

І тое, што ён бачыў уночы, здалося яму такою лухтою, такою выдумкаю, што аж самому зрабілася няёмка за сваё блюзнерства. Прыдумаў: сяўба! Выдумаў: коні, сейбіты! Ды ўсё гэта табе самае большае магло толькі прысніцца. Якая ніва, якая сяўба? Вар'ят!

Выпадковы хуценька падхапіўся на ногі і аглядзеўся вакол сябе.

Была позняя раніца. Сонца ярчэла высока ў небе.

Ён стаяў пасярод палетка. Усё бяскрайняе поле, якое за адзін раз нельга згледзець вокам, было ўзарана, засеяна і праскароджана. Дзе-нідзе відаць яшчэ былі лехі — пучкі саломы, якія торкала ў зямлю Прыгажуня, каб Барадзень не сеяў у другі раз па сеяным, засталіся і пасля бараны.

Лапік жа, дзе ён спаў, абышлі. Абаралі і абскарадзілі з усіх бакоў. Быццам на гэтым месцы расло дрэва ці ляжаў камень, якому ніяк нельга было даць рады.

Значыць, і на гэты раз яго адрынулі і пакінулі аднаго пасярод незнаёмага, невядома навошта засеянага поля. Ён крыху пазлаваў на грамаду, пашкадаваў, што яны з ім абыходзяцца так нязветліва, а тады паправіў загадзя ўскінуты на спіну плячак і пайшоў па сеяным у толькі аднаму яму вядомы бок — даганяць незразумелы народ.

Раптам побач з ім нехта выразна загаварыў. Спытаўся:

— А навошта яны сеюць?

— Мусіць, думаюць неўзабаве вярнуцца сюды,— не гледзячы, адказаў ён незнаёмаму.

— І што, яны спадзяюцца, вярнуўшыся, сабраць тут ураджай? Але калі нехта апярэдзіць іх?

— То і на здароўе. Ён жа і сам, пэўна, нешта недзе пасеяў. Падзеліцца.

— А іншай ты прычыны не бачыш?

— Пакуль што не. Хаця...

— Вось і мне часам здаецца, што яны гэта робяць адно для таго, каб не забыцца на сваё ўмельства, сваё майстэрства. Каб не развучыцца араць і сеяць. Столькі ж ідуць...

Незнаёмы, відаць, глыбока задумаўшыся, памаўчаў, а тады раптам нічога ні з якага спытаўся:

— А ты хто будзеш гэтаму народу?

Выпадковы ад нечаканасці аж спыніўся і, ужо шукаючы адказу на гэтае раптоўнае пытанне, зразумеў, што нікога побач з ім няма: і пытаецца, і адказвае на пытанні адзін і той жа чалавек — ён сам.

— Вар'ят! Вар'ят! — злосна вылаяў ён самога сябе.— То ж трэба — сам з сабою ўжо размаўляць пачынаю.

Хоць крыху і няёмячыся, што робіць такое, у злосці сплюнуў на чыстае, далікатна пасеянае і абскароджанае поле і пайшоў шпарчэй — калі ён цяпер дагоніць грамаду?!

Але дагнаў ён людзей яшчэ задоўга да абеду — ці то сам ішоў дужа шпарка, ці то яны падняліся і пайшлі пазней, чым ён думаў.

Выпадковы адразу ж увайшоў у густы пыл, узняты столькімі нагамі, увайшоў дужа смела, бо ўжо ведаў, што гэты пыл не прыстае і да яго таксама — колькі ўжо ідзе, а зусім не запылены ні сам, ні адзенне. Калі б такое было ў нейкім іншым, нармальным жыцці, адчувае, як бы ўжо рыпеў ён на зубах, як бы слязіліся ад яго запарушаныя вочы, як бы калоліся, нібы асцюкі, пад сарочкаю незлічоныя пылінкі. А так ён ішоў у самым пыле і не адчуваў яго.

Гэтак жа, як не адчуваў і не бачыў нічога, што адбывалася навакол. Як толькі ўступаў у гурт, усё для яго знікала, усё раствараліся ў цішыні, а на самога насоўвалася вялікае, нібыта хмара, маўчанне, ад якога аж закладала вушы — у гэтай хмары, нібы ў вакууме, ужо не чуваць было ніводнага слова, ніводнага гуку, ніводнага шораху. Нават дрэвы там, дзе ішла грамада, здавалася, не шумелі, а калі і варушылі лістамі, то не чутна і не праўдзіва.

Шамацеў і не шамацеў вецер, булькатала і не булькатала рака, спявалі і не спявалі птушкі.

Навокал, канечне ж, абмінаючы гэты нескончоны гурт, злуючыся і лаючыся на перашкоды, на тое скопішча людзей, ехалі машыны і калёсы, але ён, як і ўсе іншыя ў натоўпе, не бачыў гэтага.

Навокал працавалі ў палях, гаманілі і перагаворваліся, плакалі і спявалі людзі, але Выпадковы не чуў іх. Усё гэта абыходзіла яго, быццам тое жыццё па-за грамадою і вось гэты настойлівы рух нідзе не сутыкаліся і былі размежаваны ў часе і прасторы.

А грамада была абыякавая і да яго. Колькі ён ні імкнуўся выдаць сябе, рассакрэціць сваю прысутнасць, даць людзям зразумець, што ён усё ж, нягледзячы на іх няўвагу і абыякавасць, ідзе з імі, яны не зважалі на гэта і вялі сябе так, быццам побач нікога няма — праходзілі каля чалавека, як каля нейкай невідзімкі ці як каля пустога месца.

Вось і зараз ён паспрабаваў павадзіць між людзьмі рукою, але ніводная далонь не адгукнулася яму, не заўважыла яго. Паспрабаваў загаварыць да бліжэйшых — знарок голасна і выразна,— але ніхто ні рухам, ні поглядам не паказаў, не выдаў, што яго пачулі і зразумелі: безуважныя да чужака вандроўнікі зацята, маўкліва ішлі наперад.

І тады ён адчуў, як стаміла гэтае маўчанне, як яму захацелася з кім-небудзь пагаварыць — абы з кім, абы толькі бачыць, што цябе

разумеюць, і чуць, як табе адказваюць, адклікаючыся на кожнае тваё слова. Жыць сярод маўчання, ісці сярод маўчання, маўчаць самому і ў адказ чуць тое самае маўчанне — гэта невыносна цяжка і недарэчна.

І ён раптам, нібыта не ідзе, а стаіць недзе за трыбунаю, загаварыў. Загаварыў гучна, выразна і з пафасам:

— Людзі! Я ведаю, што вы чуеце мяне, бачыце мяне, адчуваеце мяне. І толькі прыкідваецеся, што я тут лішні, чужы, выпадковы вам, і робіце выгляд, што не заўважаеце мяне. Проста вы не хочаце прыхадня пусціць да сябе ў душу, не хочаце, каб я зразумеў вас. Але ж мушу вас запэўніць, а можа, і засмуціць, што я і ў душу вашу залезу, і зразумею сэнс вашага руху і вашага жыцця. І калі яны мудрыя, я застануся з вамі назаўсёды — каб памагаць вам. Стану вашым слыхам, зрокам і словам. Я здагадваюся, што я ваш і некалі выпадкова не пайшоў з вамі, бо не паверыў вам, і астаўся відушчым...

Скончыў і пільна агледзеў усіх, што ішлі побач,— а раптам хто і напраўду слухае яго і выдасць хоць бы нейкай дробяззю сваю цікаўнасць?

Аднак усе як ішлі, так ішлі і далей — абыякавыя да ягоных слоў і прызнанняў: вольна, як і да гэтага, бегалі ля ног дарослых дзеці, узнёслыя і шчаслівыя, ведаючы сабе цану, з годнасцю плылі жанчыны, мудра і засяроджана тупалі між імі задумлівыя мужчыны. І нікому не было аніякай справы ні да ягонай усхваляванай прамовы, ні да яго самога.

Ён пераконваўся яшчэ раз, што яны і напраўду глухія, сляпыя і нямыя!

Побач з Выпадковым у натоўпе аказалася Прыгажуня — яна ішла абыякавая да яго, як і ўсе іншыя.

Дзяўчына вельмі падабалася яму, і ён, ведаючы, што ніхто гэтага не бачыць, не саромеючыся, шукаў яе ў натоўпе і потым доўга і ўважліва разглядаў, любаваўся ёю, лашчыў вачыма ўсё, што можа толькі захапляць у жанчыне мужчыну.

Часам яму нават здавалася, што ідзе ён з гэтым народам менавіта з-за Прыгажуні...

Выпадковы, убачыўшы, што іхнія рукі былі зараз амаль што побач, напружыўся, сабраў усю сваю волю і хацеў узяць яе пальчыкі ў далонь. Але рука, як і раней, нібыта натыкнулася на нейкую загадкавую перашкоду. Больш таго, якаясьці невядомая сіла адштурхоўвала яе з такою настойлівасцю, што Выпадковы, паспрабаваўшы пераадолець яе, зразумеў, што зрабіць гэта немагчыма, перастаў тузацца, рыўком, ледзь не стаптаўшы малога, які трапіўся пад ногі, адскочыў убок, далей ад Прыгажуні, і ўжо да самага вечара сцішана ішоў у натоўпе — раззлаваны, незадаволены і маўклівы, як і ўсе.

Заснуў ён адразу і моцна. На гэты раз у яго не было ніякага жадання падглядаць, як людзі кладуцца спаць.

Але сярод ночы яго нібы разбудзіў хто. Здаецца, што ён нават

выразна пачуў, як нехта загадаў яму: «Уставай!» і, правёўшы далонню па вейках, дакрануўся да пляча.

Адплюшчыў вочы і здзівіўся — каля яго нікога не было. І яшчэ больш здзівіўся, што ўжо зусім выспаўся — стомы ён не адчуваў, быў бадзёры і свежы.

Над наваколлем, як і мінулую ноч, вісела ўсё тая ж дзіўнаватая поўня. Святло ад яе зноў жа ішло прывіднае і матавае, нібы ў пахмурны дзень, яно струменіла, пераліваласся, было, здаецца, рухомае.

Адчуўшы ва ўсім целе сілу і энергію, ён пругка, адным рыўком ускочыў на ногі.

І адразу ж, нібыта запушчанае ім самім, усё заварушылася, захадзіла, зашастала. Шоргалі пілы, грукалі сякеры, ляскалі малаткі, вішчэла цыркулярка, хадзілі людзі — хто насіў дошкі, хто цясаў бёрны, хто заразаў вуглы, што імшыў хаты, хто ўстаўляў рамы, хто ставіў кроквы, хто складаў печы, а хто ўжо і спрабаваў паліць у іх,— каб праверыць, ці добрая атрымалася цяга.

Яму і напраўду здавалася, што ён сам уключае і выключае гэты рух: заплюшчыш вочы — робіцца ціха, адплюшчыш — зноў усё пачынае варушыцца, рухацца, хадзіць. Але ж Выпадковы разумеў, што думаць гэтак зусім наіўна — людзі, канечне ж, працавалі тут і да таго, як ён прачнуўся: бачыш, колькі хат паспелі панаставіць яны за гэты час!

Успомніў, як аднойчы прачнуўся ля новай вёскі, якой увечары, калі клаўся спаць з грамадою, не бачыў. Дык вось якая гэта была вёска! Яе, як і гэтую, сённяшнюю, людзі, з якімі ён ішоў, пабудавалі талакою за адну ноч!

І тут жа, нібы падахвочаны кімсьці, Выпадковы рашуча пайшоў у гурт будаўнікоў, якія рупіліся на будоўлі.

Насіў з жылістымі мужчынамі дошкі, памагаў цеслям выбіраць шпары, заразаць вуглы, падымаць бёрны на зрубы, ставіў з Барадзенем кроквы, прыбіваў латы да іх і нават, убачыўшы, як Прыгажуня ў новай печы спрабуе распаліць агонь, назбіраў сухіх, смаловых стружак, унёс у хату і высыпаў іх перад дзяўчынаю. Тады яму здалося, што рукі іхнія нібыта дакрануліся між сабою, але ён і сам не паверыў у гэта — канечне ж, прыдумаў тое, чаго жадаў.

А вось з рукамі Барадзеня яго рукі і напраўду сустрэліся — калі вяршылі страху. Белабогава далонь напачатку здрыганулася, а затым на нейкі момант прыціхла на чужых пальцах. Валадар, мусіць, здзівіўся — як гэта, выпадковы чалавек, якога яны адрынулі, усё яшчэ тут? Рукі спакойна паляжалі крыху, памаўчалі, як падумалі, а затым саслізгнулі на дранку: зноў узяліся за працу — нібыта нічога не здарылася, нібыта нічога яны і не зразумелі, і не заўважылі.

Людзі працавалі зладжана, вельмі дакладна рабілі любую работу, і яму ўжо не верылася, што яны не бачаць, не чуюць і не гавораць.

Ён сачыў за суладнаю працаю дойлідаў і рабіў любую работу, якая траплялася пад руку,— дзіва, усё ў яго таксама атрымлівалася — а сам думаў, думаў, думаў, спрабуючы хоць нешта зразумець.

Навошта і праўда яны рубяць дамы, ставяць гэтую вёску. Навошта выштукоўваюць хлявы, свірны, каморы, клеці, лазні, калодзежы? Для каго? Для сябе? Каб, вярнуўшыся ў гэтыя мясціны, ім калісьці не толькі было што есці — пасеялі ж ужо! — але было дзе і жыць?

Аднак калі тое будзе? Калі яны вернуцца? У хатах хутчэй за ўсё за гэты час парастуць бярозкі і таполі, яны праб'юць, уздымуць на сабе не толькі падлогу, але і столь і зашумяць над стрэхамі і камінамі, з якіх ніколі не ішоў дым, сваімі густымі кронамі.

Тады навошта гэта работа? Можа, і праўда — каб не страціць умельства? Але калі яно зноў-такі знадобіцца, тое ўмельства? Некалі? Гэта ж так доўга чакаць! Няхай сабе! Аднак калі ёсць «некалі», трэба каб было ўсё, што па часе спатрэбіцца яму.

Выпадковаму здавалася, што гэты народ запланаваны на будучыню. Быццам зараз у яго няма жыцця, а ён працуе і жыве толькі на заўтрашні дзень — як усё роўна продкі ахвяравалі сабою дзеля нашчадкаў.

Але ж недарэчна і нават жудасна пакідаць новую вёску, у якой ніхто ніколі не жыў, і ісці бог ведае куды і чорт ведае навошта. Пакідаць вось гэтыя дыхтоўныя хаты, у якіх бы толькі жыць ды радавацца...

Куды ісці? Навошта ісці?

Усё тое, што наперадзе, калі чалавек ідзе, абавязкова астанецца ззаду.

Дык што, тады, выходзіць, зусім не трэба нікуды ісці?

Хто яго ведае! А раптам тое, што страціў ззаду, знойдзеш якраз наперадзе...

Ён зноў задумаўся пра рух, пра сэнс гэтага руху, у якім жадаў разабрацца, але тут нечакана пагасла святло, як усё роўна нехта выключыў электрычнасць, знікла поўня, зніклі падобныя на паўночнае ззянне сполахі, стала цёмна-цёмна, апраметная цемра пакрыла непранікліваю чарнатою ўжо гатовую вёску, закончаныя хаты і саміх будаўнікоў, якія хутчэй за ўсё тут жа апускаліся на зямлю альбо засыналі там, дзе працавалі. Яго цемра заспела на ганачку ля пабудаванай, як кажуць, пад ключ, хаты, і ён, дзе стаяў, апусціўся на прыступкі, адчуў нейчую спіну, прыхінуўся да яе і так заснуў — нібыта і сам міжволі адключыўся, забыўшыся, у чым толькі што хацеў разбірацца, што шукаць.

Гэтую раніцу ён прачнуўся ад нейкага лёгкага, ледзь улоўнага дотыку нейчай далоні да ягонай рукі. Адплюшчыў вочы і, здзіўлены, убачыў, што каля яго нікога няма. Але побач акуратненька, па парадку, нібы па чарзе прачыналіся і падымаліся іншыя людзі — як усё роўна іх таксама нехта будзіў.

Той, невідомы дзяжурны, быў вельмі ўважлівы і дакладны — ён імкнуўся пабудзіць усіх, не абмінуўшы нікога: ні тых, што, сонныя, сядзелі на лішніх, не скарыстаных бёрнах, ні тых, што соладка спалі на стружках, ні тых, што начавалі ў хатах, паклаўшы галовы на новыя, пахкія ад свежай смалы, сталы і падаконнікі.

Спадарожны зразумеў, што пабудца, якога не бачна, хутчэй за ўсё ў грамадзе за гадзіннік, і ў яго абавязкі ўваходзіць не пакінуць ніводнага не папярэджанага, што яны пайшлі ўжо,— дык вось як племя дружна здымалася з месца і таямніча для Выпадковага зніка-ла: чужая рука для невідомага не існавала, і ён абмінаў яе.

Вандроўніку нават здалося, што робіць усё гэта сам Белабог, скідваючыся на той час невідомым,— здаецца, спадарожны пазнаў ягоную руку.

Ён лёгка ўскочыў на ногі — нібыта і не было для яго начной працы, начной будоўлі.

Грамада пачала ўжо свой рух. Тыя, што ўсталі раней, паспелі крыху адысціся ад пабудаванай уночы вёскі, а тыя, каго пабудзілі толькі што, хуценька прахопліваліся і, яшчэ сонныя, спяшаліся дагнаць гурт.

Наперадзе ўжо ішлі Белабог з Прыгажуняю, яны нібы вялі за сабою ўсіх, і Спадарожны, крыху зайздросцячы і раўнуючы, усё ж захапляўся імі. Зацікаўлена сочачы за Ім і Ёю,назіраючы за тым, як прыгожа яны ідуць, як даверліва размаўляюць іхнія рукі, ён міжволі думаў, што, мусіць, сімваламі гэтага народа і гэтай хады з'яўляюцца менавіта Мудрасць і Прыгажосць.

Яму самому ішлося лёгка, а думалася яшчэ лягчэй — галава была чыстая і кожная цікавая думка імгненна, шчодра раскрывала-ся, як набухлы пялёсткамі бутон.

Зараз ужо шмат якія рукі размаўлялі і з ім. Яны дакраналіся да далоняў, да пальцаў, да тыльнага боку рукі, якім звычайна выці-раюць пот з ілба, і нешта гаварылі, гаварылі, гаварылі... Ён злаваўся, бо ўсё яшчэ не разумеў мовы рук, а тыя супакойвалі, цярпліва, па некалькі разоў стараліся яму нешта растлумачыць. Мусіць, імкнулі-ся выспаведацца, расказаць, хто яны такія, адкуль, куды і, галоўнае, навошта ідуць, але Спадарожны не лавіў гэтага. Разбіраў толькі некаторыя незразумелыя, дзіўныя словы, кшталту «ладатрус», «ра-дыяцыя», «зомбі», але яны былі для яго пустыя і зусім нічога не значылі. Спадарожны, хоць і не разумеў гэтых слоў, адчуваў, што яны непростыя, абразлівыя, і таму тое, што стаяла за імі, здавалася яшчэ больш страшным, нават злавесным.

Адно толькі ён ведаў пэўна: там, дзе жыў гэты народ, здарылася нейкая жудасная бяда, нейкая жахлівая катастрофа, якая змусіла людзей пакінуць свае хаты і пайсці.

Пасля сумеснай начной працы яго, мусіць, прызналі за свайго і, нягледзячы на тое, што ён не разумеў іхняй мовы, падбадзёрвалі — маўляў, нічога, не перажывай вельмі, хутка навучышся.

Нават Белабог, які калісьці грэбліва адкінуў ягоную руку, зараз сам шукаў яе.

Неяк надвечар, калі сонца ўжо стаяла на самым небасхіле, Спадарожны заўважыў, што Барадзень, які ўвесь гэты час быў уперадзе руху, паволі слізгаючы па руках супляменнікаў, ідзе ў канец натоўпу — нібы шукае каго. І ўжо толькі тады, калі той быў зусім блізка, Спадарожны зразумеў, што шукае ён менавіта яго.

І праўда, калі Валадар дакрануўся да ягонай рукі, пазнаў яе, ён вельмі ўзрадаваўся і штосьці доўга гаварыў — Спадарожны адчуваў, як нейкія незразумелыя эмацыянальныя сігналы калоліся ў далонь, як нейкая цеплыня запаланяла ўсю руку і ўсё цела — нібы ад дотыку экстрасенса.

І хоць ён нічога не зразумеў з таго, што гаварылі яму Валадаровы рукі, усё ж адчуваў, што Белабог задаволены размоваю. Яшчэ пабыўшы крыху каля Спадарожнага, ён зноў годна накіраваўся наперад, лёгка і вольна размінаючыся з людзьмі, ні з кім з іх не сутыкаючыся, усіх абыходзячы.

Гэтак жа лёгка знайшоў у натоўпе Прыгажуню, і тая даверліва сустрэла ягоную руку. Яны ішлі поплеч і пра нешта доўга і эмацыянальна гаварылі.

Спадарожны злавіў сябе на думцы, што гэта яму непрыемна, што ён раўнуе яе, гневаецца на яе, і раздражнёна адвярнуўся. Разглядаў іншых людзей, вывучаў іншых жанчын і мужчын, змушаў сябе непрымусна думаць таксама пра нешта іншае, стараўся не глядзець у іхні бок, але бачыў толькі іх, цікавіўся толькі імі.

Дзіўна ён кахаў яе! Кахаў гэты прывід, гэтую відму!

Калі Спадарожны, на хвіліну адвёўшы позірк, зноў зірнуў туды, дзе яны ішлі, ён не паверыў сваім вачам: Барадзень ішоў адзін! Пачаў вачыма шукаць яе, але Прыгажуні нідзе не было відаць. Ён захваляваўся, нецярпліва, выцягваючы шыю, круціў галавою, каб, нарэшце, убачыць яе, але ўсё дарэмна: Прыгажуня як скрозь зямлю правалілася.

І калі ўжо Спадарожны зусім страціў надзею адшукаць яе ў натоўпе, нейчая пяшчотная далонька даверліва ўторкнулася ў яго далонь і, як напалоханае птушанятка, сцішылася ў ёй.

Нават не паварочваючы галавы, ён ведаў, што гэта была Яна.

Прыгажуня ўсім целам прыціснулася да яго. Ён павярнуў яе твар да сябе і зірнуў ёй у вочы. І здрыгануўся: яму здалося, што вочы былі жывыя, яны, ці чуеце, бачылі! Але разглядзець іх уважлівей Спадарожны не паспеў: апошні, нейкі дужа яркі прамень закотнага сонца ўкалоўся яму ў зрэнкі і адразу пагас, знік, той жа час стала цёмна-цёмна — і зараз як усё роўна нехта выключыў святло...

Цела яе было гарачае, а вусны — халодныя.

Ён грэў іх усё настойлівей і настойлівей і адчуваў, як яны ўвачавідкі цяплеюць, робяцца такімі ж гарачымі, як і цела,— неўзабаве ўжо ягоныя вусны былі халаднейшыя і самі грэліся аб дзявочыя.

У яго было толькі дзве рукі, яму ж самому здавалася, што іх сотні, але і соцень не хапала — хацелася мець яшчэ болей. Не памятае, як і калі ўсё на свеце знікла, а сам ён нібы праваліўся ў якое прадонне — памятае толькі, што падаць яму было радасна, прыемна, насалодна і крышачку боязна...

Назаўтра Прыгажуня ішла, як заўсёды. Гаварыла рукамі з усімі, падыходзіла да Белабога, і яны, нібы нічога і не здарылася, дружна і ласкава некаторы час крочылі побач, зацікаўлена, як і раней, размаўлялі.

Падыходзіла яна і да Спадарожнага, ласкава дакраналася да яго рук, нешта гаварыла яму, але ён, хоць і прабыў з ёю ўсю ноч, не зразумеў ніводнага слова.

Ішоў — сярод такой грамады і ў такой адзіноце! — і ўсё разважаў, думаў пра тое, што ўчора адбылося.

Чаму Валадар прыслаў да незнаёмага чалавека Прыгажуню? Чаму яна, да гэтага абыходзячы, грэбліва абмінаючы яго руку, падышла сама і сама ўторкнула ў далонь свае пальчыкі? Чаму?

Яны з Белабогам адчулі, што пачуццё Спадарожнага шчырае і моцнае, што жаданні яго светлыя і цнатлівыя? І вырашылі не абражаць каханне, не здзекавацца з яго? У яе таксама нешта нейкае нарадзілася да Выпадковага ці яна проста выканала загад мудраца? Ды і ўвогуле навошта Валадар ахвяраваў Прыгажуняю?

Чакай, чакай... А можа, тут нейкі іншы клопат? А можа, і ім самім захацелася пачуць, убачыць, загаварыць? А што ты думаеш! Белабог жа, канечне, разабраўся і зразумеў, што Спадарожны бачыць, чуе і гаворыць... І якая надзея з'яўляецца ў грамады — хай хоць, можа, дзеці шчаслівейшыя будуць... Хаця, хто яго ведае, ці шчасцем усё гэта скончыцца? А што, калі дзеці, якія ўбачаць, пачуюць і загавораць, пачнуць саромецца сваіх бацькоў, а то і смяяцца з іх? І замест таго, каб умацаваць грамаду, разбураць яе?

— І ўвогуле, куды яны ўсе ідуць? — роспачна і нечакана для самога сябе закрычаў Спадарожны і здзівіўся, калі нехта вельмі выразна адразу ж адказаў яму:

— А хіба ты не бачыш — куды? Яны ідуць наперад.

Выпадковы агледзеўся па баках, але нічога падазронага не заўважыў: нікога чужога побач не было, а свае, звыклыя ўжо спадарожнікі, як заўсёды, ішлі задумлівыя, маўклівыя.

Аднак жа нейчы голас ён і напраўду чуў! Хто ён і дзе хаваецца? Яму спадабалася, што нехта загаварыў з ім, і ён спытаўся зноў:

— А што яны шукаюць?

— Сябе.

— А навошта сеюць збожжа і рубяць хаты?

— Магчыма, яны вернуцца...

— Дык ты ж казаў, што ідуць толькі наперад.

— А хіба нельга, ідучы наперад, вяртацца назад? А можа, яны ідуць па крузе, падымаючыся па спіралі ўсё вышэй і вышэй.

— Раз у сто год вяртаючыся на свае сляды?

— А што ты гарэзуеш? Канечне, вяртаючыся. Праз сто ці, можа, праз дзвесце гадоў. А ты ведаеш, што і ты ўжо ішоў з імі.

— Ну, гэта ты мне кінь. Ні з кім я ніколі не ішоў.

— Ішоў. Проста забыўся. Успомні. І ў хаце, якую яны некалі пабудавалі, жыў.

— Я ў бацькавай хаце жыў.

— А бацьку хто зруб паставіў? Яны!

— Глупства!

— Можа, скажаш, глупства і тое, што прайшло ўжо сто гадоў, як ты і гэты раз ідзеш з імі?

— Сто гадоў?!

— І вы вярнуліся ў тыя мясціны, дзе ты сустрэў іх і адкуль пайшоў. Глядзі ж, нявернік!

Спадарожны зразумеў, што ён зноў гаворыць сам з сабою, але ўсё ж азірнуўся.

Нібы з нейкага засцілу, з пылу і смугі пастунова выплывала знаёмая дарога, абрысы яе рабіліся ўсё больш і больш выразнымі.

Дарога гэтая вяла на яго дачу. Значыць, грамада вярнула Спадарожнага якраз туды, дзе і забрала.

Вунь ужо на лузе хтосьці стаіць з аброццю — сочыць каня. Вунь нехта вяртаецца з лесу, з ягад, трымаючы ў руках поўнае вядро аж сініх дурніц. Вунь нейкі гаспадар косіць траву.

Наперадзе, на дарозе, прыгледзеўшыся, ён ўбачыў чалавека з пехцяром за плячыма, які, не спяшаючыся, ішоў адзін. Вернуты прыгледзеўся, пазнаў у чалавеку суседа па дачы, які быў, як заўсёды, у тым самым спартыўным касцюме,— тут час, мусіць, спыніўся — міжволі ступіў на цупкую сцяжынку і пайшоў даганяць яго...

— Здароў быў! — яшчэ з-за спіны павітаўся ён.— На дачу тэпаеш?

— Ага,— сусед павярнуўся на яго словы, узрадаваўся, кіўнуў галавою і пайшоў яшчэ павольней.— А дзе гэта ты столькі прападаў. Я ж цябе даўно нешта не бачыў.

— Гарэлку піў. Разумееш, запой,— зманіў Вернуты і нават не пачырванеў ад сораму, што маніць: а хіба можна каму ўсур'ёз растлумачыць, дзе ён быў?!

Было ціха, свяціла ранішняе сонца, спявалі птушкі.

— А ты бачыў, тут толькі што нейкі натоўп людзей праходзіў? — спытаўся Вернуты.

— Ты і сёння, відаць, яшчэ, галубок, не адаспаўся. Які натоўп, якія людзі?! Адзін я, акі перст, на гэтай дарозе. А цяпер во ўдвух будзем...

Вернуты зразумеў, што сусед не бачыў грамады, якая прывяла вандроўніка дадому.

Яму было прыемна чуць гэтую балбатню звычайнага чалавека, прыемна гаварыць і разумець, што цябе чуюць і заўсёды могуць адгукнуцца на твае пытанні, прыемна было пытацца самому і адказваць суседу. Толькі зараз ён адчуў, як засумаваў па звыклых чалавечых адносінах, па слову, якое і гаворыцца, і чуецца. Засумаваў па размове.

— Ну расказвай хутчэй, што тут у нас?

— А нічога асаблівага. Усё як было, так і ёсць.

— І нічога за мой запой не здарылася?

— Здаецца, не. Хаця... Вунь у мяне ўжо трускалкі чырванець пачынаюць. А памідораў будзе сёлета! Усе кусты ў яблыках.

— А бульбу не капаеш яшчэ?

— Не. Памацаў пад адным кустом — дробная пакуль. Але хутка ўжо можна будзе і ласавацца скараспелкаю.

— А маю дачу ніхто не разбурыў, не спаліў?

— Не, здаецца, стаіць. Толькі хтосьці як разварочваўся ля тваё хаты на машыне, дык на граду з цыбуляю ўз'ехаў.

— Бог з ёй, з той цыбуляю. Перажывём.

— Глядзі ты, які абыякавы да сваіх градаў. А вунь Апанасік з Міхалкаю нават пабіліся. Міхалка таксама колам пярэднім нейкую морквіну прымяў, дык Апанасік як наскочыў на яго... Цэлага паўдня парожнімі вёдрамі біліся. Адзін — бух! А тады другі — бух! Во звон стаяў на ўвесь дачны пасёлак — невядома толькі, што гэта так звінела: ці то вёдры, ці то, можа, галовы.

Вандроўнік засмяяўся — і гэтая балбатня яму была даспадобы. Раней, калі выпадала ісці на дачу разам з суседам, ён рабіў усё, каб астацца на дарозе аднаму,— чалавек быў дужа гаваркі, і кожны, хто праходзіў з ім хоць кіламетр, клаўся на дачы з тупым галаўным болем ад бесперастанных размоў.

Зараз яму ўсё гэта падабалася, і ён сам распытваў суседа:

— Ну, а як нашы футбалісты? Выйграюць?

— Дзе там! І апошнюю гульню збаёдалі. Вахлакі! Казлы! Ні нападзення, ні абароны няма...

Зноў вярнуліся да сваіх дач.

— Слухай,— загаварыў сусед,— шкада, што цябе не было: тут добры гной прадавалі. Я сабе купіў.

— А што ты сёння на дачы рабіць збіраешся?

— Ведаеш, хачу згарбузаваць адну інтымную прыбудоўку. Камянёў назбіраў. А то ўсё да суседзяў прашуся. Надакучыла ўжо.

Незаўважна яны прыйшлі да дачы — дарога зусім не здоўжылася, і галава надзіва зусім не забалела: была свежая і ясная.

Калі ён убачыў свой зялёны лапік у чатыры соткі, сваю цесненькую хацінку, збітую з пашаляваных дошак, зашчымела ад хвалявання сэрца, перасела ў роце: ён так даўно тут не быў, а ўсё без яго цвіло і буяла.

Хоць прайшло ўжо столькі часу, агурочнік крыху пажоўкнуў, але не завяў: усё роўна быў крамяны і ядраны.

Вандроўнік яшчэ крыху пастаяў, палюбаваўся градамі, а пасля ўзяў вядро, набраў вады і паставіў на сонцы — няхай грэецца, бо халоднаю вадою агуркі паліваць нельга: загінуць.

Паправіў граду, якую прымяла машына, прапалоў клубніцы, падвязаў памідоры.

Пасля паліў агуркі. Фізічна адчуваў, як прагна ўбірае ваду зямля, як радуецца ёй агурочнік. Потым узяў шланг, адзеў яго на кранік і паліў усе грады.

А што далей?

І раптам зразумеў, што тут ужо яму зрабілася сумна і нецікава.

Сусед на сваім падворку грукаў дошкамі, а ён не знаходзіў сабе месца: Вандроўнік быў ужо сапсаваны, непрыдатны для ціхай і спакойнай дачнай мітусні.

Зараз ён суміўся па грамадзе, па яе маўчанні, па яе руху. Перад вачыма, як жывая, стаяла Прыгажуня, і яму нясцерпна хацелася да каханай. Вандроўнік яскрава ўяўляў, як зараз упэўнена і лёгка

наперадзе грамады ідзе Белабог, і яму таксама рупіла яго ўбачыць — выгляд і розум Валадара напаўнялі спакоем і ціхамірнасцю кожнага, хто крочыў побач з ім. Ён смуткаваў і без іншых твараў, якія прымільгаліся і запомніліся яму ў дарозе і без якіх тут Вандроўніку ўсё чагосьці не хапала.

Асабліва ён тужыў па руках — даверлівы дотык гэтых людзей здымаў стому, на цэлы дзень зараджаў моцнаю жыццёваю энергіяй. І яшчэ яму чамусьці здавалася, што вось зараз ён ужо абавязкова зразумее гаворку чужых рук і навучыцца свае адгукацца ім.

Божа мой, якія дробязі тут усур'ёз хвалююць людзей: «прывезлі гноню», «стаптаў граду», «прайгралі футбалісты»... Ну добра, выйграюць гэтыя няшчасныя футбалісты. А далей што?

Там, у грамадзе, ён адчуваў дарогу і вялікую ідэю, вялікую прагу велічы і жыцця. Хоць ён і не разумеў пакуль што гэтай ідэі, але здагадваўся, што яна праўдзівая і мудрая.

Ён абавязкова павінен яе зразумець!

Пасядзеў на ганачку, паглядзеў на грады, якія, палітыя, акрыялі і зазелянелі, устаў, са смакам напіўся з крана, ускінуў зноў за спіну плячак і пайшоў прэч са свайго падворка.

— Куды ты? — здзівіўся сусед па дачы.— А я думаў, што ты мне паможаш гмах узводзіць.

— Няма часу,— махнуў ён рукою і пайшоў яшчэ шпарчэй — даганяць грамаду.

Там быў разумны Белабог.

Там была Прыгажуня.

Там, хутчэй за ўсё, рос ужо і яго сын — можа, вось зараз ён ідзе якраз поплеч з Валадаром.

І яшчэ ён міжволі адчуваў, што там неўзабаве яму даверацць нешта вельмі важнае і сур'ёзнае — магчыма, нават у бліжэйшую сяўбу яго зробяць Галоўным Сейбітам.

Зараз Падарожніку здавалася, што ён абраны, нават асуджаны кімсьці на гэты рух і на гэтую вандроўку.

